# Алесь Бажко

## *Выбраныя творы*

## Паэмы
## Вершы



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## ПОКЛІЧ ТАЛЕНТУ

Лёс пісьменніка — яго творы. Ад многіх абставін залежыць ён, але ёсць і залежнасць ад сутнасці таленту, ад яго ўнутранай прыроды, якую трэба спасцігнуць самому пісьменніку, якая вызначае яго поспех. Спачатку А. Бажко звярнуў на сябе ўвагу як празаік, калі ён надрукаваў у выдавецтве «Беларусь» аповесць «Перад вераснем». У празаіках А. Бажко, аднак, не замацаваўся: за аповесцю ён надрукаваў паэму «Карвіга пакідае хутар» (1961). У 1963 годзе з'явілася, праўда, новая аповесць пісьменніка — «Позняе вонрыва», але ўслед за ёю зноў паэма — «Татры» (1964). Паэмы сталі прыкметнай з'явай, але аўтара, як гэта сёння відаць, яны яўна не здавальнялі. І вось перад намі ў новым, дапрацаваным варыянце абедзве яго паэмы, якія сталі, на мой погляд, цікавай і прыкметнай з'явай у сучаснай беларускай паэзіі.

Паэтычны дар А. Бажко наогул можна назваць прыроджана эпічным. Гушчыня фарбаў, няспешны мазок, спакойная ўраўнаважанасць апавядальнай інтанацыі — вось адметныя рысы стылю паэта. Яму ўласціва надзвычайнае пачуццё народнага слова, ён дасканала валодае каларытнай прастамоўнай фразеалогіяй, народна-сінтаксічнымі канструкцыямі. Можна казаць і пра майстэрства паэта ў дыялогах, маналогах, пра даволі глыбокае пранікненне ў псіхалогію герояў. Ва ўсім гэтым сіла Бажко-эпіка.

Паэмы А. Бажко вельмі розныя і па мастацкай структуры, і па жыццёваму матэрыялу, у іх адлюстраванаму. Асаблівасці эпічнага даравання, пра якія казалася вышэй, у поўнай меры праявіліся ў першай паэме «Карвіга пакідае хутар» — больш апавядальнай, бытавой і псіхалагічнай, чым другая. Гэты твор пра гады калектывізацыі ў былой Заходняй Беларусі, пра цяжкасці перабудовы сялянскай свядомасці на новым гістарычным этапе, пра адкрытую і тайную класавую барацьбу ў заходнебеларускай вёсцы

першых пасляваенных гадоў. Нельга сказаць, што аўтар імкнуўся ў паэме вырашыць канкрэтныя сацыяльныя праблемы калгаснага будаўніцтва ў вёсцы. Ён не ставіў перад сабой і задачы ацэньваць мінулае з пазіцый сучасных маральных і філасофскіх крытэрыяў. Ён па-мастацку асвойваў з'явы мінулага перш за ўсё як эпік-летапісец.

Вызначаючы жанр паэмы, В. Р. Бялінскі ў свой час пісаў, што яна «ідэалізаваны паказ такой гістарычнай падзеі, у якой прымаў удзел увесь народ, якая зліта з рэлігійным, маральным і палітычным існаваннем народа і якая мела моцны ўплыў на лёсы народаў» (паняцце «ідэалізаваны» тут ужываецца ў сэнсе натхнёнасці ідэалам, а зусім не як ідэалізацыя ў паказе народнага жыцця). Менавіта ў адпаведнасці з патрабаваннямі эпічнага жанру ў паэме «Карвіга пакідае хутар» аўтар дабіваецца відавочнага выяўлення жыццёвых калізій, і агульна, рэзка, нават гратэскна вырысоўваюцца тут фігуры дзеючых асоб, напрыклад, ксяндза альбо кулака Квапеня, ды і гэтакага традыцыйнага дзеда-ўсёведа, як Амброж. «Ідэальны» ва ўсім асноўны станоўчы герой паэмы — старшыня калгаса Язэп. Але галоўным у паэме стаў не ён, галоўным стаў Карвіга — хутаранін, чалавек нялёгкага лёсу, былы партызанскі сувязны, які пасля вайны апынуўся разам з бандытамі, з ворагамі Савецкай улады, яўнымі і тайнымі, такімі, як брыгадзір Збыш і Квапень. Праз складаныя, цяжкія ростані праходзіць Карвіга, перш чым прымае новае жыццё.

Паказваючы гэтыя ростані, паэт адначасова імкнецца паказаць характар героя знутры, ствараючы псіхалагічна пераканаўчы вобраз, ён як бы сумяшчае традыцыйнае адлюстраванне падзей і расказ пра душэўную драму чалавека, пра яго асабісты, прыватны лёс. Трэба сказаць, што гэты другі план паэмы ўдаўся аўтару больш. Паэма ўспрымаецца не як абагульненае эпічнае палатно, а хутчэй як гісторыя жыцця хутараніна. Аднак і пры гэтакім звужэнні тэмы паэма «Карвіга пакідае хутар» застаецца цікавай старонкай, якая расказвае пра адзін з памятных этапаў у жыцці беларускага народа.

Своеасаблівасць другой паэмы А. Бажко, «Татры», перш за ўсё ў яе блізкасці да традыцыйнага гераічнага эпасу, да народных гістарычных песень. Яна, як і першая паэма, уражвае гістарычнай дакладнасцю дэталяў, маляўнічасцю мовы, якая нясе на сабе адбітак своеасаблівасці гісторыі, побыту і звычаяў суседняга народа. Дзеянне паэмы ў асноўным разгортваецца не на Беларусі, у цэнтры паэмы — герой славацкага народнага эпасу Яношык. Яго сабратам па барацьбе паказаны беларус палешук Карыба. Лёс усяго бунтарскага роду Карыбаў: дзеда каваля Нікодзіма, яго сына Петруся і ўнука Івана — апяваецца паэтам. Менавіта апяваецца,

як у сярэдневяковых гераічных сагах, і таму стыль паэмы распеўны, у ёй шмат мелодый народных песень, беларускіх і славацкіх, шмат песенна-народнай вобразнасці, сімволікі, параўнанняў, у вялікай ступені ўласцівых славянскаму эпасу наогул. У беларусаў, як вядома, гераічнага эпасу не было. Менавіта таму і з'яўляецца спроба А. Бажко асвоіць гэтую традыцыю ў блізкіх да беларускай літаратур цікавай. Тым больш яна цікавая, што звязана зваротам да агульнага гістарычнага мінулага двух славянскіх народаў — беларусаў і славакаў.

Пафас паэмы «Татры», як і першай паэмы А. Бажко, шырэй за іх непасрэдны змест. Ён у выкрыцці каталіцкай царквы як рэакцыйнай сілы, якая прыслугоўвала і феадальным вярхам, і нядаўнім магнатам і панам, якія рабавалі гэтую зямлю, гэты народ, які так і не зведаў у мінулым шчаслівай долі. Адзін з іх, ксёндз, як мы памятаем, выкрываўся як ідэйны натхніцель варожых Савецкай уладзе сіл. Яшчэ мацней выпісаны вобраз прэлата ў «Татрах» — каварнага, лютага, усюдыіснага, заклятага ворага народнага свабодалюбства.

Падзеі ў паэме «Татры» разгортваюцца востра, і асабліва моцнае ўражанне пакідае яе першая частка, дзе расказваецца пра гісторыю мужнення Яношыка і Петруся Карыбы — будучых братоў па зброі. Зноў хочацца сказаць: густа, маляўніча, з песеннаэпічным размахам вядзе расказ паэт-рапсод.

Большай дэталізацыі служаць і новыя ўстаўкі, якія ўнесены ў сённяшнюю рэдакцыю паэмы. І ўсё ж такі, думаецца, што яшчэ і цяпер не ўсё ў ёй даведзена да канца. Паэт, як у якім-небудзь сучасным вершы, пэўны аб'ём зместу прапануе чытачу дадумаць самому. Гэта, вядома, не ў традыцыях эпічнага жанру. Напрыклад, найдраматычнейшая сітуацыя: сын Петруся Карыбы Іван быў захоплены магнатам Капіцай і выхаваны ў духу нянавісці да халопаў. І вось сустрэча бацькі і сына на полі бою. Іван абараняе замак ненавіснага бацьку пана. Бацька паднімае на сына шаблю. Але што ў гэты момант адбываецца ў яго душы? Паэт дае адзіны радок: «На твары — пакута і скупыя слёзы».

Адчуваецца, што залішняя прыхільнасць да народна-паэтычнай паэтыкі, якая звязвае мінулае з сённяшнім днём, гучыць ненатуральна. Публіцыстыка тут чужародная, яна разбурае жанравае адзінства.

Паэма Алеся Бажко — цікавая спроба эпічнага асваення гістарычнай тэмы на розных этапах народнага жыцця.

Калі першыя паэмы паэта — абедзве — сталі як бы двума радзімымі яго знакамі: першая — эпічнасці яго таланту, другая — гістарызму яго паэтычнага мышлення, то гэта ніяк не абазначала ўсе творчыя магчымасці паэта. Больш таго, з-за першых паэмаў

амаль не прагледжваецца моцны лірычны дар паэта, пра які выразна засведчаць у гэтай кнізе роздумныя, журботлівыя — заўсёды з мужнай салдацкай і партызанскай інтанацыяй вершы. У ёй з-за тых жа паэмаў цалкам не бачыцца і яго публіцыстычны тэмперамент эпіка, блізкі да здзеклівай сатыры і да гумару традыцыйна народнага. І што гэта так, сведчаць у кнізе паэмы «Блакітныя вербы» і «Лясныя крушні», якімі паэт таксама ўнёс свой асобны ўклад у беларускую паэзію нашага часу.

Такім чынам, творы ў кнізе «Паэмы і вершы» Алеся Бажко сёння ў сваёй абсяжнай панараме — гэта не што іншае, як шматграннае палатно народнага жыцця перш за ўсё былой Заходняй Беларусі, як і ўвогуле ўсхваляванае паэтычнае слова аб сваім часе і роднай зямлі, якое заўсёды несумненна будзе мецць свайго прыхільнага чытача.

*Алег Лойка*

# ТАТРЫ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Пачакай, не спяшайся, таварыш.
Адпачнём тут з дарогі, як дома.
У Нясутычах быў я калісьці
Скрыпачом і падпаскам вядомым:
Граў нязграбна, а з пугай за трох
Завіхаўся ля панскага статка.
Бык Пілсудскі і той ад мяне,
Равучы, уцякаў без аглядкі.
Парабкі жартавалі: — Ігнась,
Ты б яшчэ і да пана дабраўся...
Але маці пярэчыла: «Цыц! —
І пра божую кару гула ўсё.—
Лепш,— казала,— пільнуйся кароў.
Нам і так у фальварку не рады.
А пан Езус на вуха тугі,
Калі парабак просіць спагады.
Ля распяцця яго за сялом
Быў павешаны дзед майго дзеда.
І не тут ён, а ў замку служыў,
Але шчасця ніколі не ведаў...
Дзе той замак, пытаеш? Звячэў.
Толькі мёртвы палац ды капліца
Яшчэ муляюць вочы людзям
У маёнтку старога Капіцы».
— Што ж,— казаў я,— святыня згніе.
А палац...
Маці хмурыла бровы:
— Не дурыся! Пара выганяць
На скарбовую пашу каровы...

А зімою да позняй пары
Пры лучыне мы ў хаце сядзелі.
Я на прыпеку бульбу варыў,
Маці прала і прала кудзелю.
Толькі раз, прыгарнуўшы мяне,
Уздыхнула з палёгкай, шчасліва:
— Ноччу бацька да нас зазірне
З карабінам, як пан ці мысліва[1].
Але ты не скачы перад ім.
Бацька строгі і стомлены дужа.
Мы з табой ля сяней пастаім,
Каб яго не злавілі з аружжам...

Потым зноў загудзеў калаўрот —
Маці торапка прала кудзелю.
Дзе ж той бацька? Каторы ўжо год
Мы з надзеяй на сцежку глядзелі,
Што пятляла паўз наш хутарок
Ад сяла да сяла, як жабрачка.
Можа, ён не заходзіў знарок?
Мо загруз у балоце на Гачках?
Ёсць такое урочышча ў нас,
За вярсту ад былое граніцы.
Я там з пугай бадзяўся не раз,
«Варшавянку» спяваў на зарніцы,
Думаў — бацька, пачуўшы мой спеў,
Адгукнецца прыглушаным свістам.
Ды вакол толькі вецер трымцеў
Сітняком у бязлюддзі імглістым...

А на хутары, злезшы з каня,
Пан нахабна дапытваўся ў маці:
— Хто мне качак з-пад носа ганяў?
Штраф за сына, васпані, заплаціш!
Чорт сядзіць і ў тваім мужыку.
Хоча жыць — хай не лазіць па лесе.
Я ўжо сніў, што яго на суку
Мой ляснік, як сабаку, павесіў...
— Сам ты пёс! — Маці брала тапор
І паказвала пану вароты: —
Я... Наш род пачынаецца з гор,
Дык пільнуйся, шаноўны, балота!

---

[1] Мысліва — паляўнічы *(польск.)*.

Горы... Скуль жа ім выплысці ўраз
На бяскрайняй палескай раўніне?
А мы, грэшныя, ў змрочны той час
Па татранскіх тужылі вяршынях.
Недарма там наш продак Пятрусь
Парадніўся з гейтманам [1] гуцулаў.
Я хачу, каб уся Беларусь
Аб іх колішняй дружбе пачула.

1

Прынясла славаку падгалянка сына.
Не хапала сыну крылаў сакаліных,
Крылаў сакаліных, крылаў для палёту;
Лазіў за атарай у дзіравых ботах
Па родных Карпатах з голямі на кручах,
Кленучы каменне і быльнёг калючы...
Недзе там і спаў ён пад адкрытым небам.
Пастуху нямнога той выгоды трэба:
Падрамаў хвілінку на авечай шкуры,
Потым зноў ля статка тоўкся, злы, пануры,
А на кручах з ветрам тузаўся заўзята.
Можа, пазайздросціў хлопец арлянятам.
Не было ратунку.
                                    Толькі снег падталы
Зіхацеў на сонцы, асядлаўшы скалы...
Эх, каб мог ён горы распіхнуць рукамі,
Не жылі б сяляне ў пана жабракамі.
Да апошняй ніткі абабраў ён вёску,
Нават луг парэзаў, злыдзень, на палоскі,
Каб садраць з прыгонных большыя аброкі,
Называлі пана Д'яблам Аднавокім.
Замак яго ўпёрся вежамі ў аблокі
І грымеў мастамі на ўсю Верхавіну.
Не адзін пастух там без віны загінуў.
Толькі хітры Ільчык — скамарох з Ліптова,
Зух брахаць на ляшскай і мадзьярскай мовах,
Падкупіўшы стражу, ладзіў з Аднавокім.
Пан яму дукаты запіхаў за шчокі
І канаў ад смеху, калі праз хвіліну
Войт ці ксёндз выплёўваў іх на мешкавіну,
У якой ля печы румзалі шчаняты.

---

[1] Гейтман — атаман *(славацк.)*.

— А-а, дык вось чым вашы трыбухі напхаты.
Падбяры! — Пан кульбай падпіхаў святошу.—
Гэта не аплаткі, ваша чэсць, а грошы.
Без іх не далёка сунешся ў Карпаты,
Калі ў кожнай вёсцы ёсць такія хваты.
Аднаго не ўцямлю: хто маніў у Празе,
Быццам мае хлопы з дыбаў не вылазяць?
Ільчык — хлоп, а вырас на няжатым хлебе,
Ён вайго не ўступіць нават і на небе.

Ксёндз, маўклівы, ціхі, не пярэчыў пану,
Ён і гаварыць з ім толькі ў святы мог,
Але раз не змоўчаў, на дукаты глянуў
(Ільчык непрыкметна юркнуў за парог)
І сказаў паныла, як на пахаванні:
— Хіба гэта грошы? Гэта смецце, пане.
Не спытаўшы круля, Ільчык іх чаканіў
І мяняў, нягоднік, на вашы дукаты...
Гіне род шляхецкі, нехта ўкраў гарматы.
Я пайду...
— Не тшымам,— пан падняўся з лавы.—
Ўсе вы тут... Дзе сотнік? Скончаны забавы!
Ільчык галавою за падман адкажа.

. . . . . . . . . . . . . . .

Замак... Дзесяць вежаў, і на кожнай стража
Пільна віжавала за прыгонным людам.
Не драмаў і сотнік.
Хітры Ільчык цудам
Вырваўся на волю з Д'яблавай цвярдыні.
І хоць ён стаіўся да пары ў яскіні [1],
Ўсе паны трымалі свае грошы ў скрынях.
Ксёндз замкнуў капліцу і паплёўся ў горы.
Там ён з мужыкамі вёў перагаворы,
Думаў, шчыра скажуць пра свае намеры.
— Не старайся, ойча, бо турнём за дзверы,—
Асадзіў святошу паляшук Нікодым.—
Лоб разбі — маліся! А мы сваім ходам
Трапім, куды трэба адпраўляць малебны.—
Захадзілі плечы пад кашуляй зрэбнай.
Ксёндз збялеў: «Нікодым жартаваць не будзе.
На Палессі голад, можа, еў кару дзе,

[1] **Яскіня** — пячора *(славацк.)*.

А зірнеш... О божа! — Ён пачухаў карак.
Паляшук па сіле не ўступаў райтарам,
Што ламалі ў замку на субоях [1] скабы.—
Дзе ж той войт? Дзе шляхта? Не паны, а бабы!
Дасца князю ў знакі гэты хлоп з Палесся.
І мяне тут кметы на суку павесяць,
Каб не замінаў ім. А паны, халера,
Толькі п'юць і зубы на чужое шчэраць.
Свет для іх сышоўся на дукатах клінам...»
— А ў мяне ёсць, хлопцы, лепшая навіна,—
Выхваляўся Ільчык, склікаўшы ватагу.—
Страх глядзець на замак, а я піў там брагу.
І яшчэ піць буду. Чуеце, камрады?
— Чуем. Ты ўжо, Ільчык, быў на крок ад здрады.
Пад хвастом у цюцькі пашукай камрадаў.

Край вячыстых смрэкаў [2], скал і вадаспадаў,
Рубам лёг ты шляхце папярок дарогі.
А пастух, як быццам адзіноце рады,
Абжываў у Татрах дзікія аблогі.
Вырас ён за лета. Сермячок убогі
Выгараў на сонцы і ў плячах раздаўся.
Ільчык, стрэўшы хлопца, за жывот хапаўся:
— Мой табе паклончык, атаман ягнячы!
Вушы ёсць? Паслухай, мо ксяндза тут бачыў?
Не? Дык будзь здаровы! Стрэнемся ў даліне...

Змерклася. На скалах заірдзеўся іней
І пагас без сонца у цямне і сцюжы.
А пастух, як прывід, за атарай кружыць.

Земан [3] тоўк малога, называў галганам.
— Гэй, малы! — крычаў ён, едучы палянай.—
Скуль ты ёсць? З Трахова?
М-так... І маеш боты?!
Прэч да беглых хлопаў! Гэта іх работа.
Мала мы вас, хамаў, секлі бізунамі...
О, і світка, бачу, ў цябе з галунамі!
Прозвішча?
— Яношык...

---

[1] Субой — паядынак *(славацк.)*.
[2] Смрэк — елка *(славацк.)*.
[3] Земан — пан *(славацк.)*.

— Гэтак і запішам:
Трахоўскай галоце чорт дзяцей калыша.
Балазе ў Ліптове ёсць для вас цямніца:
Хто аб волі марыць,
Той мне чужаніца.
Зразумеў?
Яношык уцякаў дахаты:
— Не пайду да пана. Ён і так багаты...
— І не йдзі,— шаптала падгалянка сыну.—
Па пярцу на шчасце гусі табе скінуць,
Пастухі з Падгалля прынясуць трамбіту,
Сёстры выткуць пояс, чыстым срэбрам шыты.
Бацька дасць валашку, каб па ўсёй даліне
Пракаціўся гоман аб ягоным сыне,
Што да столі вырас у сялянскай хаце.
І тады...
— Што, мама, што?..
Маўчала маці.
А пан звіў вяроўку для яе дзіцяці
І трамбітай, кажуць, мераў варце порах,
Каб жывым малога не пускала ў горы...

2

А над рэчкай Пінай ў змрочным Капіцове
Рос другі хлапчына. Пан яго на споведзь
Выганяў з чварака: — Не ляпуйся, хаме! —
Тоўкся небарака ў панскім замку зрання.
— Смерд! — крычала пані.— Дармаед!
Прыблуда!
Дай хутчэй ружанец, я маліцца буду.—
А каб слухаў, біла, потым шкадавала:
— Супакойся, дурань! Слуг у нас нямала.
Але ты, Пятруська... не хлоп, а спакуса.
Чаго бровы хмурыш? Чакаеш прымусу?
Не чакай. Слухмяным мусіш быць, юнача,
Бацька твой Нікодым з лесу не прыскача.

Бачыш, колькі ў замку збройнага народу?
Пан з каня не злазіць. З ім і мне ў паходах
Давялося трохі наглытацца пылу...
Ды ідзі ўжо, хопіць, бо мне свет нямілы.
Прыбяры ў гасцінай, слухайся загаду.
Мусіць, без лазіны тут не будзе ладу...

Ад лазін ды дзяжак і да смерці блізка.
Як чарот у слоту, гнуўся хлопец нізка.
— Пацярпі, нам горай,— уздыхала маці.—
Ты хоць еў учора, а мы ў голай хаце
І кары ўжо рады, сохнучы без хлеба.
Вось які парадак! А жыць неяк трэба.
Помніш, як твой бацька гаварыў сялянам:
«Мужыкі! Хоць шляхта волі не дала нам,—
Звон праб'е! Карыцца і стагнаць не раю...»
А чыя, спытайся, была хата з краю?
Нават наш дзесятнік ваяваў з панамі.
Эх, сынок! Павер мне, чалавек не камень...

Гэтага хапала, каб суцішыць сына.
Пан яго за ўдаласць хваліў: — Малайчына!
Я, прызнацца, рады, што жывеш у страху.
А бацьку за здраду зловім — і на плаху!
Срэбны пас дастанеш, калі скажаш шчыра,
Дзе ён атаманіць. Ты ж у замку вырас.
А яго ў канюшні гадавала маці;
Змалку быў паслушны, вырас — бунтам
плаціць.
З ланцугом на шыі вырваўся з цямніцы.
Вольніцы казацкай захацеў, дурніца,—
З усяго Палесся назбіраў сярмяжак,
Б'е паноў няшчадна і маёнткі пляжыць.
Зрэшты... Ён, здаецца, збег на Сеч пацішу.
Пас мне застаецца, а ты будзеш мніхам.
З крыжам ды ў сутане не збярэш ватагі.
— Я ўтаплюся, пане...
— Цыц! Бо выб'ю звягі!

3

Біты і гаротны быў і той хлапчына,
Што ў славацкіх Татрах рос на палапінах.
Петруся Капіца муштраваў заўзята,
А Яношык з пашы трапіў да прэлата.
А прэлатам, кажуць, быў той ксёндз з Ліптова,
Што на мёд і грошы нюх меў адмысловы.
«Оро эт ляборо [1],— мармытаў вялебны,—
Нам твой востры розум і твой спрыт патрэбны.

[1] Оро эт ляборо — маліся і працуй *(лацінск.)*.

Вернешся ў Трахова святаром, кахане...»
Ды прэлатаў вучань марыў аб паўстанні.
Марыў па-хлапечы. І крыві баяўся,
Думаў, біць магнатаў трэба спакваля ўсё.
«Я ж святар, о Езу. Не збіцца б з дарогі».
Пан яго ў свой замак браў, як вол на рогі,
Потым клікнуў стражу і прагнаў з касцёла.
Цішыня стаяла мёртвая наўкола,
Калі хлопец скінуў сам з сябе сутану
І сказаў, што больш ён не прыслужнік пану.
Пастухі з Падгалля не прыйшлі ў Трахова.
Дык Яношык з гора сам зламаў аковы...
Земан з польскім крулем меў аб іх размову.
Той якраз праездам загуляў у горах;
Уявіў, што Польшча ад мора да мора,
Сам не спіць і слугам не дае спакою.
Мусіць, і памрэ ён у чужых пакоях
Ля Днястра ці, скажам, у нізоўях Лабы.
Даканаюць трутня гульбішчы і бабы.
Земан ледзь прабіўся да яго з паклонам.
Змардаваны, сумны, ў жупане зялёным
Круль драмаў, прылёгшы ў ботах на пярыне,
Потым сеў, паслухаў земана хвіліну
І сказаў, як быццам падарыў манету:
— Супакойся, васпан. Пададуць карэту —
Паляваць паедзем разам у Карпаты.
А памкнешся здрадзіць, як шчанё, за гнаты [1]
Ў першай афіцыне на круку павешу!
Ты ёсць князь?
— Даруйце, родам не пацешу.
Бацька мой быў простым цівуном...
— О Езу!..
Цівуны братацца да мяне ўжо лезуць,
А народ не хоча прызнаваць за круля.
Ўсё жыццё ваюю. Зад ужо намуляў
У сядле, як турак ці які татарын.
Не, я строгім буду! Дамагайся кары
На сваіх прыгонных, мосці кавалежа.
Будуць агрызацца — як авец, парэжам!
Хто ў іх тут галоўны?
— Хлоп адзін з Трахова.
Малады, ды ранні і, як тур, здаровы.

---

[1] **Гнаты** — косці, рабрыны *(польск.)*.

Ён бы вас умомант згрыбчыў на манежы.
— Што? Я сам такому галаву адрэжу!
«Рэжу, рэжу, рэжу»,— загрымела рэха
Ў звонкіх нішах замка.
Земану уцеха:
Тут яго, здаецца, прынялі за пана.
— Рэжце, я не супраць,— кляўся ён тырану,
А ў самога пысак быў ад страху шэры.
Круль яго аблашчыў, але ці паверыў?
Балазе хоць ката не гукнуў у замак.
Дрэнны выбраў земан для сябе напрамак.
Польскі трон хістаўся пад напорам знаці,
А яе не турак, дык швед калашмаціў.
І ўсе разам, злыдні, дралі лыка з чэрні.
Хто ж яе суцішыць, хто назад паверне,
Калі ў страшным гневе рушыць на палацы?
Земана ўжо нехта спадцішка памацаў
Сукаватай палкай, бо гарбіну чэша;
Коні ёсць, а ў Польшчу дабіраўся пеша.
Неспакойна ў горах. Дух вакол збуйніцкі.
Там яшчэ жывая памяць аб Хмяльніцкім.
Земан быў падлеткам, калі гэты рыцар
Дыктаваў законы сёлам і сталіцам.
А цяпер палескі атаман Нікодым
Не дае спакою польскім ваяводам.
Праз яго і ў Татрах вольніца дужэла.
Земан і сканае пад яе прыцэлам,
Калі круль падмогі не прышле ў Трахова,
Ды той не ў гуморы. Земан выпадкова
Глянуў на падворак і замёр ад жаху:
Там ужо камусьці рыхтавалі плаху.
— Трусіш, пан? — У круля заблішчалі вочы.—
Значыць, ты шпіёніць ў маё панства збочыў? —
Ён устаў, паклікаў з пачакальні пажа:
— Спусціш псоў і выхад земану пакажаш.
Ён памрэ ў пакутах, калі на світанні
Не прыедзе ў замак з хлопам на аркане.

4

Земан не вярнуўся. Для яго, нарэшце,
Не замкнуты дзверы і ў мадзьярскім Пешце.
Круль удзячны богу, што пазбыўся чэха.
Да яго ад хана пасланец прыехаў

І прэлат з Ліптова завітаў з паклонам.
Гэты быў у круля прысяжным шпіёнам.
Гаварылі ціха, быццам нешта ўкралі.
— Ў горах, ваша светласць, і тут, на Падгаллі,
Нам на кожным кроку трызняцца казакі...
— Э, мае райтары з шапкамі набакір
Разнясуць іх, ойча, на сваіх рапірах!
Польшча ў дзікай чэрні не папросіць міру.
— Веру, ваша светласць, мы цяпер у сіле,
Але тут казакі нават шведаў білі.
Люд гэты рашучы і надзвычай смелы.
— Што ж айцец мне раіць?
— Я душой і целам
Ваш слуга... з дазволу папы і сінода.
Атаманаў трэба пасварыць з народам,
Растаптаць іх славу ў Рэчы Паспалітай.
І ўсё, ваша светласць, будзе шыта-крыта.
Спознімся — бог бачыць, давядзецца туга...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пнецца заваламі дзед нямоглы з пугай.
Дзе каго сустрэне — шапку зніме, стогне:
— А бадай іх ліха, а бадаї іх вогнік!
Казакі дашчэнту вёску абабралі...

Дзед упрочкі едзе з роднага Падгалля.
Людзі на дарогу хлеб яму выносяць.
Але дзед нічога для сябе не просіць.
— Ешце,— кажа,— самі, я па горла сыты.
А за грошы даў бы... скрутак аксаміту.
— Аксаміт... Адкуль ён у старога дзеда? —
Шэпчуцца сяляне па трахоўскіх схэдах [1].—
Мусіць, ён ад шляхты з гэтаю прынадай.
— От, стары балбоча, а вы слухаць рады,—
Журыць іх Яношык голасам пявучым.—
Лепш давайце варту выставім на кручах...
Ведаў ён: мадзьяры шнырають па хатах.
Земан свой маёнтак не адпісваў брату,
А прадаў камусьці з будапешцкай знаці.
Можа, ён на гэтым і не многа страціў,
Але помсціць будзе мужыкам да скону.
Дзеда стрэўшы, ахнуў, збегаў па ікону:

[1] Схэды — урочышчы.

— Блаславі нас, ойча!..— Але той ні слова.
Значыць, перабежчык з дзеда адмысловы.
Ён і на мадзьяраў не звярнуў увагі,
Толькі запытаўся, колькі вёрст да Прагі
І чаму ў Трахове не відаць нікога.
Прыпужнулі — ў горы инецца пералогам,
У руках рыдлёўка і пакунак нейкі.
Плакаў дзед — прыпухлі сінія павекі.
На твары пакута, гнеў і страх звярыны.
О, яму баяцца ёсць цяпер прычына.
— Будзем браць?
— Не трэба. Гэта звер кусучы,—
Зноў пачуўся голас, малады, пявучы.—
Мы яго накрыем ў цікавейшым месцы,
Калі сам зямелькі ў горах не наесца.
Ясна?
На паляне зноў стаіць заціша.
Толькі вецер сосны ды быльнёг калыша.
Дзед сышоў з дарогі, закапаў пакунак.
Грошы там — адзіны для яго ратунак.
Земан даў прамашку, рана выдаў дзеда.

. . . . . . . . . . . . . . .

У крулеўскім замку зноў ідзе бяседа.
Там ужо Капіца шэпчацца з прэлатам:
— Хто мы ёсць? — пытаю.—
Дурні! Курапаты!
Мужыкі тут, ойча, хітрыя, як чэрці.
Вам яны спакойна не дадуць памерці.
І мяне ўжо поруць з пушчы, як мядзведзя...
— Дзе наш круль?
— У Троках. І назад не едзе.
— Глупства, пан, гародзіш! Бог нас не пакіне.
Ад тваёй гаворкі кроў у жылах стыне.—
Зноў зірнуў вялебны на Капіцу грозна.
— Бачыць бог: памрэш ты у малітвах слёзных.
Паскуліў тут трохі згарача, дый годзе.
І не важся крулю, баязлівец, шкодзіць,
Бо згарыш у пекле на сабачым сале.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ледзь жывы дадому ехаў пан з Падгалля.

5

Прыляцелі гусі з выраю на ранні.
Петрусю уцеха. У ражок барані
Затрубіў і прагна вухам ловіць рэха.
Без дазволу пана ён у лес паехаў,
Думаў, стрэне бацьку ля ракі на лузе.
— Я табе награю. Прэч адсюль, лабузе!
Ну!
Пятрусь сумеўся: рана ўстала пані.
А яму карцела выбегчы за шанец.
Там з цямна сяляне корпаліся ў полі.
І яго Алеся, што расла ў няволі,
Памагала татку адрабляць аброкі.
Можа, што сказала б. Петруся ж у Трокі
Пан забраць мяркуе да паслуг на лета.
І пані ўжо енчыць: — Лезь ка мне ў карэту...—
Хто ж ёй запярэчыць? Рад не рад, а мусіш.
Трохі ранавата прыляцелі гусі...

6

На дзядзінцы коннік спешыўся ля пана:
— Вестка ёсць: у вёсках бунт падрыхтаваны.
Ваш каваль... Прабачце, на ганку кабеты.
— Гавары, хай чуюць: зловім прайдзісвета
І на кол пасадзім. Не, павесім хама.
Дзе ж мой люд? Па конях!..
Зарыпела брама:
Дворня — хто ў кальчузе, а хто і ў камзоле —
З шаблямі нагола рынулася ў поле.
Але дзе той коннік, што прынёс навіну?
Знік? У лес памкнуўся? —
Ў імя ойца й сына! —
Пан збялеў, рукою засланяе вочы:
Хто ж гэта з сякерай да яго падскочыў?
— Стой! — Капіца з'ехаў, як мяшок, з кабылы,
Зняў мушкет, ды стрэліць не хапіла сілы.
Страх адолеў пана: спераду і ззаду
Нехта сек кальчугі, выў ад болю, падаў,
Потым зноў грымела на райтарах бляха.
— О пся крэў! — Капіца пасінеў ад жаху.
Атаман з дубінай падышоў да пана.
— Пазнаеш?

— Злітуйся на хрыстовы раны.
Ты ж мой хлоп, Нікодым. Тваё месца — кузня.
Хто закінуў службу — у даўгах загрузне.
Я...
— Маўчы і слухай, што скажу, пачвара!
Вас б'ючы, заўсёды аб палёгцы марым.
— Прагнеш, значыць, волі?
— Так. І назаўсёды!
— Што ж, за крок ад смерці не пытаюць броду.
Бедны ты, Нікодым, чалавек...
— Мажліва.
Бедны, гэта праўда, але не труслівы.
Хамута не ўздзенеш. Дый пара не тая.
Я ў цябе й пра сына яшчэ запытаю,—
Бліснуўшы вачыма, прабасіў Нікодым.—
З-за мяне ты хлопцу не даваў праходу.
Маеш розум — з мірам адпусці дахаты.
Петруся не купіш, пане, за дукаты...
Змеркласся.
Капіца — дзе ў сядле, дзе пеша —
Рад не рад, а ў замак без аглядкі чэша.

7

— Не будзе нам шчасця,— калоціцца пані.—
На нашых харомах паблякне ўвесь глянец,
Ніхто не захоча гібець у пустэльні.
І чэлядзь ад нас паўцякае у ельнік.
Няўжо ты, каханы, не бачыш нічога.
Адны мы...
— А шляхта?
— Пабойся ты бога!
Зямля здзірванела, ляжыць пералогам,
Усіх не накорміш.
— Павысім аброкі...
— Не трэба. Ўсё роўна памрэш адзінокі...

Капіца устаў, зачыніў аканіцы,
І зноў цішыня залягла у святліцы,
Чуваць, як аб дах нешта грукае глуха.
— Цівун там сядзіць і трасецца, псяюха.
А варту нябось не змяніў ля палаца...

. . . . . . . . . . . . . . .

Пятрусь цівуна у канюшні намацаў:
— Вылазь на святло!
Той сагнуўся, скавыча:
— Адстань ад мяне. Чуў, што кажа ляснічы?
Твой бацька... Маўчу...
— Ты адчыніш мне дзверы?
— Яны ж на замку...
— Памахаеш сякерай!

8

Дзе ж сяло? Дзе хата? Дзе старая маці?
І карчма згарэла ля скарбовай гаці.
А ў нядзелю... Позна! Не было нядзелі.
Не ў карчме казакі, а ў кустах сядзелі.
Шляхта іх за рэчку з вёскі адцясніла.
Петрык з тропу збіўся ля глухіх развілак.
Не паспеў ён ноччу бацьку папярэдзіць,
Што прэлат з Падгалля ў Капіцова едзе
Суд чыніць над кожным, хто парушыў веру
І перад ксяндзамі зачыняе дзверы.
Пан яго баіцца, як чумы, і кажа,
Што, спаймаўшы ў лесе, на агні падсмажыць.
Ён жа перад крулем і святым сінодам
Ачарніў, прынізіў пана ваяводу.
А цяпер, напэўна, абтрасе, як грушу,
Калі хто самога ў пушчы не задушыць.
Задушылі б — нельга. Бог караў галоту.
Святара вартуе цэлы полк пяхоты.
«Водзам» гэтай банды быў стары ваяка.
Не было спакою ад яго славакам,
І русіны плачуць у сваіх хацінах.
— Кожны хлоп прыгонны для мяне — скаціна,—
Гаварыў ён летась у Карпатах пану.
«Добра, калі бацьку я ў сяле застану»,—
Петрык у дуброве скрыўся ад пагоні.
А куды ж цяпер ён скакуна пагоніць?
Хто даў меч хлапчыну і пановы латы?
Праўда, панцыр троху хлопцу цеснаваты,
А пра меч мяркуюць па гатунку сталі.
Гайдукі рапіры, шаблі ў ход пускалі,
Ды Пятрусь, падняўшы на дыбкі гнядога,
Лушчыў, як арэхі, шляхецкую погань.
Лушчыў, бо ў Капіцы смерць яго чакала.

Петрык чуў, як пані гайдукам гукала:
— Зачыняйце браму, я застрэлю хама...—
Хай цяпер зачыняць.
Без крукоў і клямак
З пецель тая брама ў пропасць паляцела.
Петрык замарыўся, але сэрца пела.
Ды ў каго спытацца, дзе стары з дружынай?
Без пары даспела, смяглаю ажынай
Ападае лета, і ў кусты на багне
Попелам і чадам ад сялібы цягне.
Толькі дуб за рэчкай уцалеў на ўзлессі...
Конь храпе, нагамі гразь на грэблі месіць.
— Тпру! — Пятрусь прыгнуўся, выцірае вочы.
Шмат разоў ён чуў тут песні, смех дзявочы,
Памагаў Алесі выбіваць палотны.
Лёс яе таксама быў цяжкі, гаротны,
Але і ў нястачы расцвіла дзяўчына.
Нават пан дзівіўся: — А ты малайчына.—
І забраў у замак ткаць яму дзяругі.
А цяпер, напэўна, не шкадуе пугі,
Каб услед за хлопцам не ўцякла з няволі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Пан Капіца пысу пры лучыне голіць.
Свечкі пакаёўка беражэ для пані:
Пяты дзень у ложку і не скора ўстане.
А каваль Нікодым... Білі ж у падвале.
Можа, дзе жывога ў яму закапалі?
Трапіў у засаду атаман з налёту,
А паны ўжо рады, што маюць работу...
— Божа,— трызніць пані, сашчапіўшы рукі,—
Грэх даруй старому і пазбаў ад мукі.

Побач нехта ў чорным ціха ёй гаворыць:
— Круль граніцы нашы ад мора да мора
Пашыраць мяркуе. А ты што, Гэлена?
На нагах і ў ложку — сырамяць, палена...
Молішся за хлопа і дрыжыш ад страху.
Хіба мала зброі у багатых ляхаў?
Э-э... Прабач, васпані, чорт мяне паблытаў.
Бачыць бог: я злосны і па горла сыты
Дзёрзкасцю прыгоннай беларускай чэрні.
Будзь ягнём і слухай: я пайду вячэрню
Адслужу ў капліцы ды скажу салдатам,

Каб не называлі тут мяне прэлатам.
Лепш няхай жартуюць, кпяць з мяне паціху.
А што больш патрэбна звычайнаму мніху?
Я, мажліва, нават жабраваць паеду.
Але ты аб гэтым свайму... дамаседу
Пасля маёй смерці толькі ўсё раскажаш.
— Пачакайце, ойча. Мне адна пакража
Стрэмкаю засела ў галаве.
— Маліся,
Пан пры мне за панцыр пакаёўку высек.
Ты ж яму сказала, што Алеся ўчора
Чысціла ў збраёўні панцыр той і шпоры.
А цяпер...
— Што, ойча?
— Не крычы, васпані!
Я ж казаў: і муж твой — кеп, курдзюк бараві,
Трэба вашу пуню абкурыць кадзілам.
Дзеўка ж там у сене сына нарадзіла;
Нараклі Іванам і чакаем смерці...
Пан забыўся пуню на засоў заперці.
Ноч. Алеся з сынам ціха паднялася,
Выйшла на падворак — толькі б не пачулі...
Лепш памерці ў лесе ад шалёнай кулі,
Чым скарыцца пану і яго наймітам.
Ды ў дзяўчыны цела да крыві пабіта
І ў грудзях ад болю ўсё гарыць, клякоча.
Катаў не расчуліш хараством дзявочым.
І слязой не праймеш.
— Пан тады людзіна,
Калі мёртвым знімуць на шляху з асіны,—
Гаварыў Алесі шмат разоў Нікодым,
А пан чуў і трэсся перад ім заўсёды.
Хто ж цяпер магната прыпужне пятлёю?
Атаман — забіты. Зноў Капіца лоем
Абрасце, уссеўшы мужыкам на карак.
Нездарма ж усім ён пагражае карай.
— Дзе ж Пятрусь? Дзе людзі?
Хто суцішыць звера?
Хіба мы жывёла?.. Ёсць цярпенню мера...
Ёсць! — Алеся з дзіцем лезе пад вароты.
Абадрала рукі. Кроў з пяском і потам
Аб траву абцерла і пайшла наперад
Паўз палац, паўз варту — у світанак шэры.
Недзе ж там, за грэбляй, у бары — сяляне.

Паміж іх Алесю шукаць ён не стане.
Пан яшчэ з пасцелі не паспеў падняцца,
А яна ўжо з дзіцем на знаёмай кладцы.
Крый вас бог сягоння трапіць ёй на вочы!..

9

Шмат гадоў над Пінай млын стары грукоча.
Летам ён пустуе. Панасюк Мікола
Па загаду пана быў там мукамолам.
Быў і нават нешта засыпаў у жорны.
— Гэты кмет да смерці будзе мне пакорны,—
Гаварыў Капіца за сталом прэлату.—
Толькі да людзей ён трохі звераваты.
Я ж кажу, працуе чалавек слухмяна.
— М-так... А хто сягоння тут валяўся п'яны?
Прасачы, каго ён корміць тваім хлебам.
— Нас, мяне з табою! І мясцовы плебан
Пра яго заўсёды гаварыў з пашанай.
— Ну, дык ён быў дурань і ашукваў пана.
Мельнік твой, Капіца, шкоднік па натуры.
Ён мяне дубінай ад млына патурыў.
А чаму? — Вялебны сеў бліжэй да пана.—
Там Пятрусь. Не верыш? Запытай служанак.
Іх твая Гэлена пасылала ў звяды.
Тут кароне нашай здрадзіць кожны рады...
Пан устаў, пастукаў кулаком у грудзі:
— Пра Гэлену, ойча, гаварыць не будзем!
За яе плячыма — процьма кавалераў,
Але я пакуль што ёй сардэчна веру,
Нават калі бачу, што ілжэ...
— О неба!
Мусіць, мне спачатку памаліцца трэба,
Перш чым зразумею, хто ты ёсць, Капіца...
Зноў жа і Гэлена хітрая лісіца,
Калі пан дагэтуль ўсё на жарты зводзіць.
Лепш пастаў сакрэты у сваім гародзе.
Шчылін там багата. Нават парадзіха
Недзе ўжо ад пана вымкнулася ціха...
— Хай.— Капіца вяла апусціўся ў крэсла.—
Мо хаваць малога на цвінтар панесла.
А шкада. Заложнік быў бы ў нас ад чэрні.
Уявіце, ойча, дум бунтарных зерне
Камень прабівае і расце паўсюдна.

— Пашкадуй прысутных!
Слухаць пана нудна.
Заўтра зноў аблаву у бары наладзім,
Пусцім пеўня ў вёскі, і чэрнь макам сядзе!
А пакуль...— вялебны выцягнуў кантычку
І прыціх.
Гэлена ў новых чаравічках
З крыкам уляцела у пакой да мужа:
— Млын гарыць! Крыві там цэлая калюжа.
Петруся забілі.
— Чым?
— Млынар вам скажа.
— Слаўны хлоп! Ён рукі мне навек развяжа.—
Пан абняў прэлата і разгладзіў вусы:—
Чокнемся? Не ўсе ж тут вахлакі і трусы.
Панасюк — наш збаўца. Ад яго дубіны
Вораг наш закляты у млыне загінуў.
Звёўся род Карыбаў, ойча, канчаткова!
. . . . . . . . . . . . . . . .
А Пятрусь тым часам збочыў у дуброву.
Панасюк Мікола ахкаў ад здзіўлення:
— Кропля ў кроплю бацька! От, Пятрусь, здарэнне.
Паламаў мне косці, як мядзведзь, а за шчо?
Бо я піў гарэлку ў Капіцове нашча...
Не магу без чаркі. Бацька твой не ўстане.
А цябе тут шляхта можа заарканіць...
— Патрымай гнядога!
— Хай ён здохне, хлопча!
Гэты конь, як жабу, ў гразь мяне затопча.
Хто ж тады Капіцу напытлюе жыта?
Я тут нарадзіўся і памру наймітам.
— Не памрэш, ты хітры. Маці мне казала...
— Пачакай, не трэба... Мне, брат, самапалам
Прабіваць дарогу ў край ваш давялося.
Быў я вольным птахам. А цяпер з палосся
Не магу, Пятруська, вылезці на сонца.
Пастарэў я дужа. А ў хаце аконца
Як кату пралезці. Вось табе і воля!
Хітраваў, каб выжыць. А памру на голях.

Балазе ў Карпаты шлях пралёг лясамі.
Будзем мы панамі свайго лёсу самі.
І не злуй. Так трэба. Бацька твой, саколік,
І арлом і вужам здабываў нам долю...

Змеркласея. Два кметы аднаго магната
Рознымі шляхамі з-пад ялін калматых
Рушылі наперад з думкай аб расплаце.
Іх сябры чакалі ледзь не ў кожнай хаце.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Год ішоў за годам. Пасівелі сосны.
Гнуліся ад пражы ў паляшанак кросны.
Дзень пры дні Алеся пану кужаль ткала.
А сама скрозь слёзы ціха напявала:
— Ой, даўно, даўно
Я ў мамы была.
Ды ўжо тая дарожанька
Чабром зарасла,
Чабром зарасла,
Лісцём заплесла,
Чырвонаю калінаю
Паабвісла...

Колькі ж тых калін на яе шляху?
Засланіў палац родную страху.
У прадзільні — змрок, свечкай гасне ноч.
А дзяўчына тчэ, не змыкае воч.
— Я чабор парву,
Лісцё падбяру,
Чырвоную каліну
Набак адхілю...
— Мільч! — лютуе пан.— Без яды памрэш.
Кожная брыда горла тут дзярэ! —
Хоць бы хто яго прыдушыў калі.
На варштат налёг — ледзь не разваліў.
— Хто з табою спіць?.. Гавары, юла!
Я хачу, каб ты з цівуном жыла.
— У мяне ёсць муж...
— А пярсцёнак дзе?
Ты б са мной жыла, каб памаладзеў?..
На, цалуй руку, бо згарыць твой двор.
Гайдукі ў мяне — хлопцы на падбор.
Эй, цівун!
— Я тут.

— Наламі прутоў.
— Не за страх служу. Я на ўсё гатоў.
Лазнячок у нас гнуткі, акарэў;
Кожны прут з яе дзесяць скур здзярэ,—
Загугніў найміт і адбіў паклон.
Не дае жыцця паляшанцы ён.
А Пятра няма. Хоць ты ў рэчку скоч.
На дварэ ўжо дзень, а на сэрцы ноч.
— Не чакай мяне,
Мама, з раніцы.
Прытамілася
На гулянейцы...
Не чакай мяне
Й надвячоркамі,
Ўспамінай мяне
Слязьмі горкімі.
Пагляджу на шлях —
Ямы ды крыжы.
І з панамі жыць
Сэрца не ляжыць...
— Ляжа... Мы прымусім. Налягай на кросны.—
Пан ссівеў, сагнуўся і, як хмара, злосны
Цікаваў праз вокны на раку. Там кметы
Выбіралі рыбу з венцяроў і сетак.
Піна іх карміла летам і зімою,
А Капіца вохкаў, пагражаў турмою.
Рыбай пан задобрыць мерыўся прэлата.
Той жа перад богам слова за магната
Абяцаў закінуць у новым касцёле,
Быў там нейкі пробашч, ды яго спаролі
Мужыкі з амбону, каб не кляў нікога.
А прэлат без сведак размаўляе з богам.
Хітры, значыць, шэльма!
Хітры і дасужы,
Зноў прыпёрся ў пушчу, па сялібах кружыць.
Ля Нясутыч плакаў, як дзіцё, святоша;
Потым зняў сутану, падкасаў калошы
І палез па кладцы у равок па гускі.
— Божа, як то пахне! А люд беларускі
Сушыць іх на ежу і кляне магнатаў.
Нездарма ж Капіца, нібы з крыжа зняты,
Сочыць за галотай праз акно з паддашша.
Езу, будзь ласкавы, збаў крулёўства наша
Ад такой, прабач мне, палахлівай знаці.

У цябе ж анёлы. Загадай страляць ім.
Бачыш, о! — Па кладцы ў святочным убранні
Прабегла Алеся.
— Пачакай, васпані! Ты куды?
— Ў мястэчка. Там казакі, ойча...
— Што?! — Прэлат затросся.—
Сплюнь у зелле тройчы!
Ты ж ізноў служанка. І твой сын, кабета,
Пад наглядам нашым сыты і адзеты.
Не сын, а прыманка для прыгожых дзевак,
А пры ім і ты ў нас будзеш, як крулева.
Прэч назад! Ты чуеш?.. О, пся крэў, тут яма! —
Нацянькі без кветак бег прэлат у замак.

2

Ноч. Туман.
За Пінай ля агню — нарада.
Атаман злуецца: — Пахне, хлопцы, здрадай.
Лес вакол, балоты, а на грэблі — стража.
Праз каго, пытаю, мы касцьмі паляжам?
Хто данёс Капіцу пра мае намеры?
— Не хвалюйся, Петрык. Мы ў абход аерам
Прашмыгнём на конях у яго цвярдыню,—
Загулі казакі.— Паню-гаспадыню
Паказычам трохі, каб не сумавала...
— Ціха! Не да жартаў. Шляхта валіць валам
Пад сцягі Капіцы з усяго Палесся,
А ў мяне тут жонка, наймічка Алеся,
З сынам асталася ў панскай паняверцы.
Без пары загінуць, чуе маё сэрца.
Я... Даруйце, хлопцы. Ў кожнага — згрызота.
Да мяне тут бацька пры Хмяльніцкім лётаў —
Паднімаў прыгонных супраць шляхты, сокал.
Ўсё тады спявала і гуло навокал.
А за намі, друзі, толькі лес ды поле...
Хто з вас быў у горах на Кралавай голі?
Там наш брат Яношык з навакольных сёлаў
Рапарты прымае ад сваіх саколаў.
Чым жа мы на лёсе мужыкоў заважым?
Тым, што шляхце плечы на шляху пакажам?
Гэта горш, чым нават трапіць у няволю.
К чорту! Хто, пытаю, пабываў на голі?
— Пабрацім твой, Петрык, Панасюк Мікола.

— Дык чаго ты сёння такі невясёлы?
Заўтра зноў паедзеш ад мяне ў Карпаты.
Праз цябе і я тут невысока лятаў... Збі агонь!
— Навошта?
— Іскра каб не ўпала.
Побач — лес... Па конях! Рыхтуй самапалы...

3

Згніў той зруб, дзе Карыбу забралі
Ад малых, сярод ночы ў кашулі.
І пра сына яго на Палессі
Людзі доўга нічога не чулі.
Можа, з бацькам на кол пасадзілі
Небараку ля Чортавай гаці,
Толькі восці яго ды сярмяга
Уцалелі ў Алесінай хаце.
А Капіца у замку з прэлатам
Піў тады і дрыжаў, як асіна.
— Гром і пекла! Клянуся палацам,
Лёс звядзе нас з Карыбавым сынам.
Хто, скажыце, шапнуў яму ўпотай
Пра мой суд і пакуты старога?
Мужыкі! А прэлат што мне скажа?
— Трэба ўзяць ад Алесі малога,
Пакажы сваю добрасць прыгонным.
Заадно і заложнік тут будзе.
Мо Пятрусь пабаіцца нам шкодзіць.
Мы спаймаем яго і асудзім.

4

Хадзілі дзве долі па Кралавай голі
Ў глыбокай задуме.
Адна з іх з Палесся — пан бацьку павесіў,
Злавіўшы ля пуні.
А жонку райтары ў бары па выгарах
Цягалі за косы...
— Прабач, галубіца, падчашы Капіца
Гуляў нашым лёсам.
Не будзе спагады вяльможнаму гаду,
Хай моліцца богу!
Пятрусь — ён у горы ўцёк ад пагоні! —
Сядлае гнядога;

Гнеў даў яму крылы, каб смерць не скасіла
На ўзлёце арліным.
А доля другая высока крыляе
З Карыбавым сынам.
Пасекшы ахову, Яношык з Трахова
Зламаў яму краты...
За ўдаласць і сілу палескі асілак
Назваў яго братам;
Пятрусь без падману услед за гейтманам
Памкнуўся на волю.
Хоць шляхта страляла, ды ноч іх схавала
На Кралавай голі.
Уся Верхавіна іх кліч сакаліны
Пачула на ранні.
Два цёмныя кметы знайшлі сваю мэту
Ў няроўным змаганні
З драпежнаю знаццю...
Воз грошай патраціў
Мадзьярскі вяльможа —
Палац свой з катоўняй і нават вартоўню
Абнёс агароджай
З пяску і камення.
Аб гэтым здарэнні
Ўсе кметы пачулі.
Князь выслаў дазоры і ўпотай апоры
Шукае ў Стамбуле...
Мінуўшы дуброву, Пятрусь ля Трахова
Чакаў пабраціма:
На золку — атака, а ён, небарака,
Праходзячы міма,
Хістаўся ад стомы. Паранены з дому
Вярнуўся Яношык.
Сеў побач: — У горах лютуюць дазоры.
А ранак харошы.—
Ён скінуў кашулю: — Мадзьярская куля
Засела ў пахвіне...

Пятрусь ледзь не плача: — І лоб твой гарачы —
Дарэмна загінеш.
Дзе ж хлопцы, гейтмане? Ў сяле на гулянні?
Віншую з пачынам!
А земаны, браце, тут часу не трацяць.
Ёсць, значыць, прычына...
Не шэнціць нам нешта. А князь з Будапешта

Вярнуўся ў гуморы.
Давай, брат, пра вашы палеткі і пашы
З людзьмі пагаворым.
У нас іх нямашака, ўсе ў каталашках
На панскіх харчах мы сядзелі.
А сёння тут з вамі хлеб цвёрды, як камень,
Каторы гадок ужо дзелім.
— Злуеш.
— Я баюся, што век Беларусі
Свабоднай не ўбачу.
Глянь, колькі прастору. І ўсюды, брат, горы.
А лёс наш лядачы.
Ў разбежку ваюем. Вярнуцца хачу я
Ў бары векавыя.
— З чым? — буркнуў Яношык.— На ўсё трэба
грошы.
— Вазьму Каламыю.
Купцоў там багата. Адтуль і дахаты
Праломім дарогу.
Народ нам паможа.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Трашчыць агароджа
Ля замка старога
Над соннаю Пінай. Цівун, як асіна,
Трасецца на вежы:
— Сцямнела, а кметы на лузе дагэтуль
Мо пана ўжо рэжуць.
Эй, хто там?..— За валам казак з самапалам
Прыціх у ламаччы.
Тутэйшы, здаецца, бо кпліва смяецца:
— А я цябе бачу.
Маліся, цівунка! Дзе сын мой і жонка?
Ты чуеш, пракляты!..
Няўжо гэта Петрык? З якім яго ветрам
Прынесла дахаты?
Пан кляўся: райтары на грузкім імшары
Спаймаюць халопа,
Ды хлоп гэты, мусіць, і ў пекле б не струсіў.
І служка галопам
На сытай кабыле па сотніка скача,
Падняўшы трывогу,
Пятрусь, неўгамонны, склікае прыгонных
Сабе на падмогу.

5

Прыгожыя ранкі над Пінай улетку!
Спыніўся б Пятрусь, паглядзеў на палеткі,
Крануў бы рукою густое калоссе.
Ды нават яно не шуміць, а галосіць.
А мо гэта сосны, упёршыся ў хмары,
Шапталі яму: «Сцеражыся райтараў...»
За рэчкай — пажар. Аблажыўшы сялібу,
Капіца злавіць намагаўся Карыбу.
Цівун з бізуном забягаў да Алесі:
— Кажы, дзе Пятрусь, бо... сыночка павесім.
Пятрусь жа ніколі не бачыў Івана,
Дык зробім яму падарунак ад пана...
— Не каркай тут крукам! — пачулася ззаду.—
Алеся, пастой каля хаты ў прысадах.
Райтараў прыкмеціш — пастукай у дзверы.
Жывым я не выпушчу гэтага звера.
Замнога крыві на ягоным сумленні...
— Пятрусь? — Ў цівуна затрасліся калені.—
Цябе ж гэта во... Я не выдам нікога.
І жыць тут не буду...
— Якая ж ты погань!
Не, я не памру праз такога на дыбе.
Ты б жыў, ды цяпер у палескай сялібе
Зацішку для вас, дармаедаў, не будзе...

У замку трывога. Райтары ў запрудзе
Знайшлі цівуна, як выкошвалі зелле.
— Праклянцце! Пятрусь і мяне б тут застрэліў.
А вы...— Пан Капіца стары, але дужы,
Наймітам сваім пагражае аружжам: —
Дзе хлоп, што ў Нясутычах бачыў Карыбу?
Забраў невады і паплёўся па рыбу?
Лухта! Гэтай казкай пацешце прэлата.
Той хлоп... Ён знайшоў цікавейшы занятак.
Сам д'ябал тут быў у рыбацкім убранні.
Усе мужыкі загулі пра паўстанне,
Пачнецца разня — апусцеюць чваракі...
Мне брыдка за вас перад шляхтай, хлапакі,
Пятрусь толькі пальцам кіўне — і сяляне
Усіх пераб'юць нас на гэтай паляне.
А замак... Вылазьце з вады, дармаеды!
Я помсціць, я вешаць галоту паеду...

Ніщто, нават ноч, не спыніла Капіцу;
І ўпоцемках бачыць, як воўк ці лісіца.
Аблазіў ён лес і ля кожнай сцяжыны
Па шаблі з канём у засадзе пакінуў.
— Хвалю за рашучасць і добрыя справы.
Палессе — фарпост каталіцкай дзяржавы,—
Мармыча прэлат, выглядаючы з куста.—
Пан чуе?
— Чаму ж. Тут набожных не густа.
Твой голас для нас — дарагая знаходка...
— Жартуеш?
— Але. І прамою наводкай
З гарматы страляць па ксяндзах загадаю!
Фарпост... А каму тут найбольш пападае?
Не крыж, а намордпік галоце патрэбны.
Інакш... і па вас тут адслужаць малебны.
Пакінь хоць райтарам маім чаравікі...
— Схізматык ты ёсць і нахабнік вялікі! —
Надзьмуўся прэлат і палез у зацішак
(Ён потым данос на магната напіша).
Капіца ж пры ім, апусціўшы забрала,
Заснуў у сядле са сваім самапалам.
Заснуў і... праспаў Петруся, недарэка.
А ў пушчы нялёгка знайсці чалавека.

6

Ноч. Імжыць халодны сеянец. Райтары,
Ля агню пасеўшы, моўчкі бульбу вараць,
Балазе ў Капіцы шмат яе на полі.
Не было рыдлёўкі — шабляй напаролі...
Пан жа ля цяпельца сушыць нагавіцы.
Сам не спіць і людзям спаць не дасць Капіца;
Меч паклаў на світку, што знайшоў ля Піны.
Хто ж яе й навошта ў трыснягу пакінуў?
Дзіўны край — Палессе. Нават тут, за валам
Ноч ад пана тайну нейкую хавала.
Ён ужо не верыць і сваёй кабеце.
Гэта ж і ля світкі пан сляды прыкмеціў
Ад яе бархотак на тонкім абцасе.
— Трэба, мусіць, пажа добра аддубасіць.
Ён...— Капіца ботам падчапіў знаходку.—
Не, для Янка гэты сермячок кароткі.
А прэлату будзе ў самы раз, халера.

М-так... А я тут мокну на дажджы, цяцера.
Потым баль пачнецца,
не, не баль, а трызна.
Мёртвых закапаюць, а жывым айчызна
Вуснамі вялебных прайдзісветаў скажа:
«Бачыць бог, мы, слугі свентэго алтажа,
Молімся за круля і маёнткі вашы...»
А прыгонных пеклам да таго настрашаць,
Што...— Капіца сплюнуў: — Выбач мне, Езусе,
Мусіць, твае слугі з д'яблам у хаўрусе.
Мужыкі... Вось ліха, дзе ж мая ахова?!.

. . . . . . . . . . . . . . . .

З трох бакоў казакі бралі Капіцова.
Дзень сустрэлі штурмам панскага палаца.
— Азвярэў Карыба. Знішчаць нас, а за цо? —
Пані — ёй Капіца загадаў схавацца —
Уставала з ложка разоў, можа, дваццаць,
Плакала і гнеўна дакарала мужа: —
Трус! Слімак нікчэмны!
Дзе ж тваё аружжа?
Я сама адпомшчу за наш род галоце!..
— Чым? Сваім ружанцам?
Падумай аб цноце,—
Выдыхнуў Капіца, скінуўшы кальчугу.—
Нам... Не злуй, каханне. Глова ходзіць кругам:
Мужыкі ад брамы разагналі варту.
Бачыць бог, райтарам не хапае гарту
Адбіваць атакі ачмурэлай чэрні.
Мусіць, мы ў пакутах стрэнем звон вячэрні.
Толькі паж твой Янак выкаціў гармату
І сячэ прыгонных, як д'ябал, заўзята.
Не пускай Алесі да яго з гасцінай...
— Янак — мой збавіцель.
— Значыць, ёсць прычына
Адпісаць на хлопца ўсё наша багацце...
Не, Пятрусь з маленства марыў аб расплаце,
І сынок, падросшы, уцячэ к сялянам.
Хлоп не быў ніколі і не будзе панам!
Дай мушкет...
— Не трэба. Пачакай да ночы.
Ты, мілы, відушчы, і паж мае вочы.
Прамахнешся — ў шчэпкі разнясе святліцу.
Лепш аддай мне грошы ды... лезь на званіцу.

Янак ля гарматы пачарнеў ад сажы.
— А-а...— Пятрусь хлапчыну
здаляка заўважыў.—
Не страляй! — Ён шаблю выхапіў і з ходу
Асядлаў гармату.— Пашкадуй народу,
Чортаў хвост! Паганец! Ну...
— Ад хама чую! —
— Дык памрэш! Ў абдымкі к вам не палячу я.
На тым свеце будзеш адбіваць паклоны.
Колькі вас, наймітаў? Сто?
А нас — мільёны! —
Загрымеў Карыба, глянуўшы на сына.—
Ты б на маім месцы скінуў палавіну?
Эх, Іван, бяскрылы вырас ты ў няволі.
А твой дзед Нікодым за лепшую долю
Ваяваў з панамі да апошняй кулі.
Пра яго ўсе людзі на Палессі чулі.
Толькі ты, няшчасны, як гладыш на тыне,
Сам сабою звоніш, пакуль хто не скіне...
— Я — гладыш? — У пажа памутнелі вочы.—
Смерд мне тут вашывы галаву марочыць!
Злазь, кажу, з гарматы, бунтаўшчык! — Ён з
шабляй
Кінуўся да бацькі і... рукі, як граблі,
Распасцёр, павісшы на халоднай сталі...

Атамана хлопцы ля ракі здагналі.
Ехаў прэч ад замка праз туман, у лозы.
На твары — пакута і скупыя слёзы.

7

І ў Татрах не птакі, а хлопы-худакі
Употай на Кралавай голі
Аб шчэбень і спражкі вастрылі валашкі.
Яношык прыгонных ачоліў —
Мадзьярскаму князю, свайму «гаспадзіну»,
Адпосцяць яны за няволю.
У князя ахова, і сам ён здаровы:
Мячом рассякае калоду.
А спіць у кальчузе. Ля замка ж на лузе
Сабралася процьма народу.
Пакажацца сонца, і ўся Верхавіна
Пакліча на суд ваяводу.

Ёсць мера цярпенню.
Славак на калені
Не стане, пазбаўлены волі:
Як сокал у клетцы,
трапечацца,
б'ецца —
Спагады ў чужынцаў не моліць.
Яношыка білі, ды смерць ён асіліў,
І цёмная ноч з перунамі
Дала яму крылы.
А маці пашыла
Навырост каптан з галунамі.
Цяпер і галодны не пойдзе ён з родных
Вяршыняў мірыцца з панамі.
Рашучы і строгі, апоўнач на ногі
Падняў упацёмках дружыну:
— Чакайце сігналу. За Горнаўскім валам
Начуе багаты купчына.
З Палесся прыехаў. Пяцькою і мёдам
Гандлюе цішком у далінах
І весткі, пракляты, пра нашага брата
Для польскіх магнатаў збірае.
І князь наш, сабака, прадаўся палякам!
— Ну, што ж, гэта песня старая...
Ля вогнішча — камень. Сяляне рукамі
Яго прыкацілі з паляны
І сілу прабуюць. Яношык жартуе:
— Заморкі! Скразняк калашманы!
На гэтым тачыле маланкі вастрылі
Ўпацёмках свае ятаганы.
Хай горы вартуе. Ў пару залатую
Сустрэнемся тут на бяседу.
Я першы з даліны на злёт сакаліны
Да вас, пабрацімы, прыеду.
Знімайце дазоры. І самі глядзіце,
Каб тут не пакінулі следу.
Купец той, здаецца, з аховаю прэцца,
Бо коннікаў шмат на дарозе.
Няхай пагарцуюць. Мо тут заначуе
Ў густой зеляніне на возе.
Жывым не прачнецца. Ёсць сокалы нашы
Ужо і ў ягоным абозе...

8

Прэлат саграшыў: без ружанца на ранні
Устаў ён сягоння маліцца з паслання.
Дзядоўнік і мох замянілі пярыну.
Айцец назаўсёды Палессе пакінуў,
Жыве ля Днястра на зацішнай паляне,
Ссівелы, худы, у дзіравай сутане.
Ля копанкі — крыж без распяцця драўляны.
Затое на вудзе Хрыстос алавяны
Вісіць паслухмяна заместа грузіла.
Прэлат азвярэў: — У-у, нячыстая сіла!..—
Сарваўся шчупак, з-за якога вялебны
Прамок на дажджы, прапусціўшы малебны.
Цяпер ён і з панам братацца не стане.
Капіца, казаў, крывасмок, ашуканец.
А замак ягоны — гняздоўе распусты...
З такім не падзеліш апошняе лусты.
Нічога няма ў панскім сэрцы святога.
Няхай мужыкі спадзяюцца на бога
І зносяць у лес медзякі на святыню.
Тады і ад кулі ніхто не загіне,
Уцёкшы ад пана на Сеч ці ў Карпаты.
Усе перад богам цяпер вінаваты.
Прэлат распрануўся і ладзіць сняданне.
А побач Іван на ягонай сутане
Ляжыць ля агню — набіраецца сілы.
Алеся ў будан лахманоў нанасіла
І моўчкі сядзіць у траве каля сына.
А дома ж яна гаварыла мужчынам:
— Атруты б яму, каб не ганьбіў нікога.—
Праз сына яна учарнела, нябога,
Капіца зламаў, абяскрыліў Івана.
За здраду Радзіме юнак пакараны...
А можа, Пятрусь быў залішне гарачы?
Прэлат жа гудзе:
— А мужык твой лядачы.
Маліся, дачка, і не плач без патрэбы.
Не вернецца ён. Ты не верыш? О неба!
Пятрусь твой памрэ без прычасця ў палоне.
— Няпраўда! Ён быў тут, мой сокал, сягоння.
Забраць нас кудысьці адгэтуль мяркуе.
— А я? Мусіць, муж твой пятлю мне рыхтуе.
Маўчыш? Перасела бліжэй да Івана?

Магу прысягнуць на ягоныя раны,
Што я перад вамі, як тое ягнятка...
— Вы, ойча, заўсёды гаворыце гладка.
— Амін. Я маўчу. Ты здурнела, васпані.
І муж табе зоркі з нябёс не дастане.
Убачыш — скажы, хай паноў не чапае.
Капіца дужэйшы. Ён золата мае...
Прачнуўся Іван невясёлы, пануры.
Зірнеш — не жылец, адны косці ды скура,
А вочы гарачь, і прэлату здаецца,
Што ён, гэты хлопец, ізноў з кімсьці б'ецца.
А некалі ж быў паслухмяны, набожны...
— Не спіцца? Малісяᅵ — прэлат асцярожна
Адсунуўся ўбок і ўтаропіўся ў хмары.
Іван будзе сам ля агню кашаварыць.
Не хоча, дзівак, каб гаіліся раны.
Пашнырыўшы ў кайстры, маркотны, заспаны,
Ён кпліва глядзіць на прэлатавы лекі.
Айцец не пярэчыць — заплюшчыў павекі,
Ўздыхнуў і храпе, як завознік, ля пажа.
А той ужо нешта скаромнае смажыць
І смачна жуе, выцягаючы з рынкі.
Алеся яму размачыла скарынкі.
— Пад'еш... ды хутчэй адзявай свае лагы.
— Навошта?
— Цалейшы заедзеш дахаты.
Ты ж кляўся, што бацьку адпомсціш старому.
— А ты?
— Я — жабрачка, няма ў мяне дому.
— Дык сціхні! — Іван адвярнуўся, сярдуе.
Асунуўся змрок на траву маладую,
Падкраўшыся з гор непрыкметна і ціха.
— Не шастай галлём, нібы тая ласіха! —
Заенчыў прэлат, перамогшы дрымоту.—
Івану пажыць у дастатку ахвота.
Я сам паміру яго з панам Капіцам.
Навошта ж гібець і карміць тут блашчыцы?
А ты? Дзе ж ён дзеўся? Паслухай, васпані!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грыміць нечы бас ля Днястра на кургане:
— На ко-о-нях, браты! Пераправа гатова.
Сіл хопіць — сустрэнем зару ля Трахова...

9

Едуць хлопцы лугам,
Едуць хлопцы борам,
Зацягнулі б песню —
Бой пачнецца скора,
Бой цяжкі, гарачы,
Па-казацку дзёрзкі.
Цесна ў Татрах панству
І купцам заморскім.
Колькі тых казакаў
Завітала ў горы,
А іх гучна славяць
І Попрад і Горынь.
Толькі Ваг пятляе
Ў скалах за Ліптовам,
Быццам з Аднавокім
Падпісаў умову.
Князь — ён пасварыўся
Са славацкай знаццю —
Перавёз у Прагу
Ўсё сваё багацце.
Ён цяпер рыхтуе
Гайдукоў да бою.
А ганец ягоны
З меднаю трубою
Па глухіх сцяжынах
На Палессе скача...

Панасюк Мікола
Дачакаўся ўдачы.
Ён ганца абчысціў
У карчме дазвання
І стаіць, як прывід,
З шабляй на кургане.
Міма едуць хлопцы,
Чорныя ад пылу.
Панасюк жартуе:
— Цэ ж та сама сіла,
Ад якое шляхта
Перайшла на лекі.
Што ні хлоп, то процьма
Зла і небяспекі...
Ён і сам не ўломак,

Хоць усохся трохі,
І язык, як джала,
Ў гэтага прайдохі.
Ільчык, кажуць, браўся
Абламаць Міколу
І... прачнуўся ў панскай
Сабакарні голы.
Толькі лапці побач
На круку віселі,
А штаны і зброю
Як цяляты з'елі.
Сам на рэдкасць хітры,
Але справядлівы,
Не хацеў Мікола
Дагаджаць пачціва
Адстаўному блазну
Князя-забіякі;
Даўся ён нядаўна
І Капіцу ў знакі.
Пан пазнаў Міколу,
Але збіўся з тропу
І ад страху ў поле
Паскакаў галопам.
Следам — пані ў чорным
Уцякла з палаца...
А Мікола ў замку
Ўсе вуглы абмацаў,
Разагнаўшы дворню,
Каб не замінала.
У гасцінай нехта
Шабляю няўдала
Спрабаваў адбіцца
Ад яго валашкі.
— Згінь! — гукнуў Мікола.—
Мой абушак цяжкі...—
А цяпер жартуе:
— Перапіў я трохі.
Пані ж частавала...
А вы, скамарохі,
Нават не зірнулі
У той бок, дзе брама.
Пан махнуў у поле.
А прэлат пад храмам
У яго грабніцы

Скавытаў ад страху.
Эх, Пятрусь!.. Вазьмі, брат,
Маю апранаху
Ды наймайся пасвіць
Дзе-небудзь жывёлу.
Хто ты ёсць?
Мурашка!..
— Не блазнуй, Мікола.
Нас, такіх мурашак,
На зямлі мільёны,
Ды адразу нельга
Вырвацца з прыгону,
Нават калі будзем
Мець свае гарматы...
— Дык чаго ж мы, дурні,
Перліся ў Карпаты!
Тут,— Мікола шапкай
Паказаў на горы,—
Не паны, дык туркі
Голадам заморыць.
— Што ж, і гэта можа
Здарыцца, Мікола.
Але ж і славакі
Не дрэмлюць у сёлах.
Злазь з каня, хай людзі
Адпачнуць з дарогі,
Бо дамоў вярнуцца
Суджана нямногім...

### 10

Вось-вось навальніца.
Кулік ці мо вецер
За грэбляй упоцемках плача.
А ластаўкі з гнёздаў сваіх падняліся;
Няўжо тых маланак не бачаць,
Што неба, як бляху,
Сякуць на кавалкі?
Сякуць, ды не спаляць!
А ластаўкам трэба
Малых прывучыць да палёту,
Бо іх па дарозе на поўдзень
чакаюць
Яшчэ ці такія грымоты.

Прэлат блаславіў іх.
Ён нават па-свойму
Зайздросціць птушынаму племю.
Ды бог паскупіўся,
Не даў яму крылаў —
Смыляць мазалі на каленях...
А горы наўкола
Аж стогнуць ад грому,
Упёршыся шапкамі ў хмары.
Прэлат азірнуўся,
Шукае начлегу
На голым, як бубен, выгары,—
Баіцца абвалаў...
А можа, пранюхаў,
Што ў Татрах паўстанцаў багата
І князева войска
За Ваг адступіла,
У пасечаных шлемах і латах.
Дарэмна вялебны
Сачыў за Карыбам
І кляў яго ўсюды заўзята.
Не хочуць славацкія
Кметы змагацца
За рай каталіцкі ў Карпатах!..
Не велькая радасць
Хавацца ад чэрні,
Махнуўшы на божыя справы.
Да польскага круля
Прэлат паваloкся
Шукаць на Карыбу управы.

11

Закружыліся бярозкі,
Тры маленькія бярозкі
На паляне.
Да бярозак тых і клёны
Па расе ў брылях зялёных
Заспяшаліся з дубровы
На гулянне.
А Іван праз луг маланкай
На сваім кані ў напрамку
Лесу скача,
Устрывожаны, рашучы;

Раптам спешыўся — на кручы
З-пад рукі глядзіць. Дзе ж людзі?
От задача!
Ні душы вакол. А ноччу
На пастой сюды не збочыш —
Зловяць кметы...
— Стоп, гняды! — Іван сярдуе.—
Мусіць, смерць сваю знайду я,
Размінуўшыся з сябрамі
Ў лесе гэтым.
Бацька скажа:
«Эх, Іване,
Зноў ты сэрца мне параніў.
Здай аружжа!..»
Што ж рабіць? Пакінуць горы?
Не! — Іван сцяжынку торыць
Да вяршынь — паны там кметаў
Не акружаць.
З ног саб'ецца князеў пошук.
Паж ад бацькі чуў: Яношык
Зноў спайманы.
А зямля гудзе. Сяляне
Ў бой ідуць, як на гулянне.
І Іван адпомсціць шляхце
За гейтмана.
Маці плакала:
— Няшчасны,
Праз каго я свечкай гасну
На чужыне?
Не чапай паноў. Ты ж... хворы.
— Добра,— паж каня прышпорыў.—
Але перш хачу іх бачыць...
На асіне.
Дзе ж яна, асіна тая?

. . . . . . . . . . .

Пан Капіца ліст чытае
Пра сваіх няўдзячных кметаў
Ад прэлата.
Сам прэлат яшчэ ў дарозе.
Ногі, злыдзень, адмарозіў,
Пасучы цішком на голях
Грэшны статак.
«Трэба,— просіць ён,— сялянам

Аб'явіць, што спакваля нам
Нельга збавіць іх ад ціску
І нястачы.
Хай пільнуюцца касцёлаў.
Езус вунь таксама голы,
А цярпіць, бо і ў пакутах
Святасць бачыць.—
А ў канцы пісьма — заўвага: —
Мусіць, я касцьмі тут лягу
Праз такіх, як ты, скарэднікаў,
Васпане.
Прысылай кажух і грошы.
Снег паляны запарошыў —
Чэрнь з нары мяне, як сусліка,
Дастане...»
Пан скрывіўся: — Хітры клеха,
Хвацка з суслікам пад'ехаў,
Але... мне яго паслугі
Не патрэбны.
Туркі вольніцу разбілі.
І Пятрусь мо дзе ў магіле.
Хай пасе касулі ў горах
Наш вялебны...

12

Зялёны палетак,
Зялёныя клёны,
І вечар зялёны,
А песня не спета.
Сарваў яе вецер
З карэлага сучча
І гоніць у свет
Па далінах і кручах.
За песняй і людзі
Плятуцца кудысьці.
Шасціць пад нагамі
Пажоўклае лісце.
Вясной яго сонца
Абрыне ў патокі.
Заплешчацца песня
У скалах высокіх
Ды з новаю сілай
Памкнецца ў даліны —

Бліжэй да сяліб
І чашчоб салаўіных.
Там жыць ёй і жыць
У разводдзі зялёным,
Калышучы звонкія
Раніцы ў кронах:
Ды сёння ў трахоўскіх
Чашчобах і падзях
Паны з гайдукамі
Сядзяць у засадзе.
Карыбу спаймаць
Загадаў ваявода.
Ды хто саўладае
З бунтарным народам?
Два коннікі ў світках
Праехалі міма.
Паны правялі іх
Да вёскі вачыма.
Там князевы служкі
Таўкуцца ў гасподзе.
Хто ў рукі ім даўся —
Назад не выходзіў.
А коннікі выйшлі
І з месца, як чэрці,
Рвануліся ў горы —
Далей каб ад смерці!
Карчмар пачакаў —
І да князя, як злодзей:
— Карыба пасек
Вашых слуг у гасподзе.
— А дзе гайдукі?
— Іх таксама пабілі.
— Скажы трубачам,
Каб трывогу трубілі...

## 13

Пан Капіца зноў нязграбна
На тапчан прылёг і стогне:
— А бадай вас, бабы, вогнік!
Ноччу плакала ў пасцелі,
А цяпер...
— Мялі, Ямеля,—
Пані выбегла на ганак,

Потым зноў прыйшла да пана.—
Не сярдуй.
Вось ліст ад круля.
Ён мяне да слёз расчуліў.
— Пакажы!
— Баішся здрады?
Пачакай, я побач сяду.
Ты ж сляпы, што крот, кахане.
А кароль на паляванне
Запрашае нас у Трокі...
— Ашалеў! Парог высокі
Для мяне ў яго палацах.—
Пан устаў, жывот памацаў:—
Час палуднаваць. А з Трокаў
І да плахі недалёка...
Надакучыў я сялянам,
Шляхту выражуць, і аман.
Але ты маўчы, кабета.
Ў караля хапае клетак
І для вас, падонкі Евы.
А ў мяне ты ёсць крулева.
Маеш замак свой і світу.
— Янку мне вярні...
— Вось ліха!
Ён, напэўна, ўжо забіты.
Я к табе прыстаўлю мніха,
Што прыплёўся к нам з Трахова.
Ён табе на розных мовах
Пра збавенне душ раскажа.
Там ён,— пан кіўнуў на дзверы.—
Мо падслухаў нас, халера...
Гэты клеха з імем бога
На агні б мяне падсмажыў,
Каб дачуўся, колькі кметаў
Уцякло ад нас у горы.
Зрэшты, мы яшчэ аб гэтым
З ім без сведак пагаворым.

Пані зыркнула на мужа:
За паўста яму, а дужы.
Ад такога цяжка збегчы.
Дворню выстраіць і крэкча:
— Што вы чулі пра Карыбу?
Маўчыцё? Прыгон не цётка.

І не думайце пра волю,
Нарадзіўшыся ў калодках...

А на вежу ўзлезшы, енчыць:
— Зноў гарадь вакол асады!..
Саграшыў я з мужыкамі,
І сам чорт не дасць ім рады.

## 14

Чорт у змове з богам выстругаў манаха.
Доўгі, як жардзіна, ён ужо на плаху
Да гейтмана прэцца са святым распяццем.
— Скуль ты тут узяўся, вялебны прэлаце? —
Дзівяцца вайскоўцы з князевай дружыны.
— Гэ! — прэлат смяецца.—
Я на падстрыжанах
У князёўны вашай хросным татам буду.
А пакуль сардэчна памагаю суддзям
Выганяць гардыню з гэтага апрышка.—
Ён пралез наперад і падскочыў крышку,
Каб зірнуць з натоўпу шляхты на гейтмана.—
Дзёрзкі смерд. І выгляд мае велікана.
Бачыць бог, ён слухаць не хацеў пра споведзь.
Хай суддзя спытае, з кім ён быў у змове.
Пастухі, мяркую, не сядзяць на месцы.
Толькі лірнік нейкі па нашай абвестцы
Прыцягнуўся сёння на гэту расправу.
— Вы б яго забралі, ойча, у Варшаву.
Круль ваш, кажуць, любіць з кметамі дурыцца.
— Ён цяпер у Троках. Але дзён праз трыццаць
Пасланец ягоны тут са скрыптам будзе.
На Палессі ж пана аднаго ў запрудзе
Нехта з вашых кметаў утапіў на спаса.
Трэба іх...
— Панове! — гаркнуў сэндзя басам.—
Не марнуйце часу у пустых размовах.
Перад вамі гейтман Яношык з Трахова,
Наша смерць... даруйце, атаман галоты.
Парадзела шляхта ад яго налётаў.
Быў ён тут, нягоднік, крулем без кароны
Гэтых гор скалістых і дуброў зялёных.
Сведкі ёсць. Яношык за разбой адкажа.
Мы яму сягоння тут язык развяжам.

— О-о!..— Прэлат зашыўся у натоўп.—
Не трэба.
Збуйнік гэты вырас пад славацкім небам.
Ён таго... над намі у душы рагоча...

А суддзя тым часам на памост ускочыў,
Адпіхнуў манаха і... назад падаўся:
— Я... Прашу прабачыць. Кроў ужо сышла ўся
З гэтага славака, а глядзіць ён зверам...
Уставай! Падпішаш пры людзях паперу.
Князь табе, гейтмане, прапануе службу.
Рэгіментам будзеш кіраваць. Хай дружба
І зацішак вечны паміж намі будзе...
— Прэч! —
Яношык сэндзю штурхануў у грудзі.
На памосце глуха зарыпелі дылі.—
Я б табе, сабака, карак тут намыліў,
Ды ланцуг астрожны не дае размаху...
Кліч з ратушы ката, хай рыхтуе плаху.
Ну!..—
Ў натоўпе зычна заспявала лера.
Гейтман азірнуўся. Твар, ад болю шэры,
Пасвятлеў на момант.— Не хвалюйся, дружа,
Я да вас у горы не вярнуся вужам...
Смерць панам! — Яношык скочыў на калоду:—
Слухай, мосці сэндзя, і вы, ваяводы!
Каб былі пры мне валашка,
Востры меч і самапалы,
Каб была пры мне дружына
Юнакоў-хлапцоў удалых,
Ўскалыхнуў бы я Карпаты,
Бор дрымотны, паланіны,
Іскры высек бы са скалаў
Ўзмахам крылаў сакаліных.
— Ты памрэш!..
— Ад мёртвых чую.
Не забудзьцеся, што ў горах
Ваша смерць, паны, начуе.
Маўчыцё? Пажыць ахвота?
А я чую ўжо грымоты
І пагібель вашу бачу.
Мне зямля тут будзе пухам,
А па вас асіны плачуць...
Не выкручвай рук, паганец! —

Кінуў ён з пагардай кату.
І заціх... Ляжыць асілак,
Рагацінаю падцягы.
Кат падняў над ім сякеру,
Азіраецца: — Дзе ж суддзі?..
— Слухай наш прысуд, Яношык,
На круку матляцца будзеш.
Ёсць на гэта скрыпт ад папы
І кароннага гетмана
Ты ўжо трапіў чорту ў лапы
І цяпер яму аддадзены...
Затрашчаў памост. Яношык
Адпіхнуў суддзю нагамі:
— Крумкачы!..
— Маўчы, схізматык!..
— К д'яблу... з вашымі... багамі...

Твар ягоны зноў ад болю
Пабялеў, скрывіўся, стыне.
А ў вачах — агонь і слёзы...
Дзе ж сябры? Няўжо ў даліне
Каля кожнай вёскі варта?
Не, яны ўжо не паспелі б.
— Кат,— гугніць суддзя упарта,—
Пачынай!..
— Павіс...
— Нічога.
Пад дзевятую рабрыну
Падчапі круком, і з богам...

## 15

— Гэй, браты-славяне!
Налівайце чаркі
Ды падкіньце крыху
На кастрышча дроў.
Ад віна старога
Весялей на сэрцы.
Вып'ем, каб у жылах
Не астыла кроў.
Хай калышуць букі
Нашу славу ў горах.
Памянём гетмана
Песняй на зары.

Не любіў ён змрочных
Думак, пабрацімы,
І пра смерць ніколі
Нам не гаварыў.
Кожным сваім словам
Ён будзіў надзею.
Вып'ем, каб нікому
Свет не апастыў,
Ды ў паход.
— Нас мала,
А вакол — мадзьяры,
Прападзём,— Іванка
Шабляй сек кусты.
— Ціха. Табе, хлопча,
І пятроўка — свята,
Калі хто гарэлкі
Чарку паднясе.
Нельга жыць без веры
У людзей, шаноўны.
Кеп ты ці ад брагі
Раптам акасеў?
І наконт мадзьяраў
Менш тут распінайся.
Нам паны-магнаты
Не даюць жыцця,
Іх кароль на плаху
Пасылае кметаў,
Але нашай песні
Крылаў не адцяў.
Жыць ёй тут вякамі
Ў непрыступных скалах.
Прыйдзе час, і людзі
Вынясуць яе
З поцемкаў на волю.
Можа, й нас ў народзе
Нехта тады словам
Добрым памяне.

16

Не летапісец я, аднак
Хачу сказаць патомкам:
Не ўсё я вычарпаў да дна
З крыніц жыцця ў катомку.

Мажліва, нават і расказ
Мой не зусім дакладны.
Адно бясспрэчна: дзеля вас
Я сам пабыў у Кладне,
Усё Трахова абхадзіў,
Заціснутае ў стромах,
Адзін, як месяц-маладзік,
Блукаў па сцежках грому.
А як там звоняць у карчах
Крыніцы каля вёсак!
Яны, як раны ад мяча
На спінах маларосак,
Якім няймелася ўцячы
З прыгонных сёл у горы,
Кранеш — душа наўзрыд крычыць,
Не прызнае пакоры;
Без іх і рэчак не было б,
Журчаць у вечным руху.
А час, нібыта ім на зло,
Падняўшы завіруху,
Змятае вёскі, гарады
Спакон вякоў у Лету
Ды зноў скрозь полымя і дым
Шыбуе да прасвету.
А на каго ён працаваў,
Той і вяршыў уладу,
Калі варыла галава
Ды ля крыніц на паплавах
Страх поўзаў па асадах.
Інакш панам-уладарам
Было б і ў замках цесна.
І папскі «мніх» на смех курам
Таптаўся б ля іх крэслаў.
«Чэрнь» добра ведала цану
Яго «святых казанняў»,
Ды страх людскую гаману
Давёў да пакаянняў.
Каб хоць у дыбах, але жыць,
Каб не памерці голым,
Народ маліўся на крыжы,
Панукваўся ў касцёлы.
Але і ў засені святынь,
Як гаварыў мой прадзед,
Ніхто з мясцовай «цемнаты»

Карыбаўцам не здрадзіў.
«Мніх» феадалаў нацкаваў
На нашых з вамі продкаў
Ды зноў падолы цалаваў
Разбэшчаным какоткам,
Або з пянькою на таргі
Спяшаўся ў тыя сёлы,
Дзе «чэрнь» збівала ланцугі
З «палескіх навасёлаў».
Так называлі беглякоў
З бунтарнай Белай Русі.
На хрыбтавіне тых вякоў
І мы ліпелі, мусіць...

17

Жыве легенда пра арла,
Падбітага стралою.
Да ног ён ворагу не ўпаў,
А ўзвіўся над гарою,
Адчуўшы рану пад крылом
І боль глухі, пякучы;
Акінуў позіркам скалу
З пустым гняздом на кручы
І знік у хмарах, каб зірнуць
Яшчэ хоць раз на голі.
Застыг ён, горды, на ляту,
Бо прагнуў жыць на волі...
Так і Карыба паміраў.
Падстрэлены з мушкета,
Ён сцяг свой сыну перадаў
Ды з песняй недапетай
У Піну рынуўся з канём.
І конь яго гарачы
Па дну палескае ракі
На ўсход да сонца скача.
Гул ад ягоных капытоў
Я чуў у непагоду
І бачыў грыву скакуна
На быстраку ля броду.
Гняды там іскры высякаў
З каменных глыб нагамі,
І ноч у Піне зорны шлях
Раўняла з берагамі.

А той, хто сеткаю цяпер
Там вылавіць падкову,
Пачуе гоман, што да нас
Даносіцца з Трахова,
Дзе людзі новае жыццё
Ўзялі ўжо на парукі.
Па схілах радасна шумяць
Цяпер у Татрах букі...

*1964*

# КАРВІГА ПАКІДАЕ ХУТАР

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...
Я. Колас

Налібокі! Налібокі!
Бор стаіць густы, высокі,
Бор заснежаны, калматы.
У бары у гэтым бацька
Елку мне на скрыпку сватаў.
Потым, выпрагшы Гнядога,
Уздыхаў:
— Карчоў тут многа,
А жывога лесу мала.
Дык навошта, каб спыталі,
Той ляснічы з самапалам?
Граб ад нас паплыў за мора,
Дуб купцы на мэблю мораць,
Рэжуць — цешацца: як сажа!
Дрэва ж, чорнае ад гневу,
Пад смычок спяваць не ляжа.
Асталася нам яліна:
Пан-купец яе пакінуў.
Пень, маўляў, сыры, лядачы.
Але ты пастой, паслухай,
Як яна пяе і плача!
Струмант будзеш мець дзівосны.
. . . . . . . . . . . . . . .
«Хто ты ёсць? — з надрывам, злосна
Шляхцюкі мне ў твар крычалі.—
Пшэстань, хаме, граць!»
А гэта
Ў Налібоках елкі гралі.
Нам яны і сёння граюць,
Каб жылі не ў «хатах з краю»,

Як нячысцікі ў балоце,
А ў людскім кругавароце...
Хіба дрэвам скажаш: досыць?
Па расе халоднай босы
Бег я ў лес хавацца з дому.
Слухаў там шчыглоў, з ігліцы
Будаваў палацы гномам,
Каб былі ў цяпле заўсёды.
Потым ласаваўся мёдам
У паромшчыка Амброжа.
Кожны, хто хадзіў паўз рэчку,
За ягонай агароджай
Мог тады знайсці прытулак.
Чалавек лагодны, чулы,
Ён мяне журыў, як сына,
Напаткаўшы ля прычала
Або ў пушчы пад ялінай:
— Ты куды? Ў бары — засада!
І граніца ж, хлопча, радам.
Не паспееш скокнуць нават,
Як паны цябе спаймаюць
І пацягнуць на заставу.—
А цяпер Амброж жартуе: —
Дзе ж ты быў? Заставу тую
Ў неба мы дымком пусцілі.
Зараз там лясок падняўся,
Маладьі, у самай сіле,
К сонцу цягнецца ля рэчкі.

. . . . . . . . . . . .

Хто ў бары збіраў парэчкі
Або, седзячы на кручы,
З лесарубамі на сплаве
Ля агню сушыў анучы,
Той ахвотна зойдзе ў хату,
Дзе ад новых сцен да латаў,
Як бурштын, зіхціць жывіца.
Колькі звону баравога,
Колькі радасці ў святліцах
Землякоў маіх сягоння!..
А ў бары стальныя коні
След пакінулі глыбокі —
Ў кожнай лунцы па ялінцы...
Налібокі! Налібокі!

1

Прынёс Язэп з вайны баян
У рэчмяшку паношаным,
У хату кожную зайшоў,
Як госць чаканы, прошаны.
Ён расказаў пра Сталінград
І братні край — Балгарыю,
Як там аднойчы пад баян
Узвод салдат «запарыў» ён,
Каб да Берліна і дамоў
Дарогі не забыліся —
Дзе на кані, дзе пад канём,
Дзе на заморскім «вілісе».
Абы, як кажуць, сухары
Ў дарозе не заплеснелі
Ды каб вярнуўся ў добры час
Салдат дадому з песняю.
А дома хвацкі баяніст —
Як рыба ў ранішняй вадзе;
Ледзь пыл з дарогі атрасе,
Глядзіш — на двор сусед ідзе,
За ім — другі. І ўсё сяло
Ля хаты ўжо збіраецца:
Гвардзейца хоча паглядзець
І запытаць, як маецца.
А пры абставінах такіх
І чарка — рэч не лішняя.
І перакур не грэх зрабіць
На мурагу пад вішнямі.
Калі вакол шумяць сады
Ды калі хата цэлая,
Тады і радасць у людзей,
Як летам вішня спелая.
Па чарцы зробяць, пра жыццё —
Дзе шыецца, дзе порацца —
Дзядзькі з героем-земляком
Уволю нагаворацца.
А пад канец за ўсіх салдат
І вёскі беларускія
Як тупнуць разам гапака,
«Лявоніху» ці рускага —
Гул аж да Прыпяці ідзе,
За Сож жытамі сцелецца,

І ўся савецкая зямля
Спявае і вяселіцца.

Язэп вярнуўся у Рабкі,
Дзе што ні крок, то лужыны.
Ля крайняй хаты дзед сядзеў,
Як пень глухі, прастуджаны.
Ён цяжка дыхаў і стагнаў,
Успёршыся на мыліцу.
«Паромшчык,— ледзь пазнаў Язэп,
Пачухаўшы патыліцу:—
Аброс шчацінай, пастарэў.
Прытым, напэўна, хворы.
Цікава, што тут пра яго
Калгаснікі гавораць?»
Язэп заходзіў на румок
З пуцёўкаю райкома.
А дзед тым часам занямог.
Сядзіць, маркотны, дома,
Прымкнуўшы браму. І дачка
За свірнам у расадніку
Капала нешта і кляла
Якогасьці асадніка,
Напэўна, мужа. Ён жыве
З Амброжам у разладзе
І ёй, Адары, пагражаў,
Што на ланцуг пасадзіць.
А сёння выбіў ім акно...
Дзед, пэўна, сну не ведае;
Язэпа ўбачыўшы, ажыў:
— Яшчэ мы і не снедалі...
Ды зноў панурыўся. Відаць,
Узважваў слова кожнае.
Раён далёка, а ў Рабках
Сяляне асцярожныя...
Ў блакаду карнікі не раз
Спаліць іх намагаліся.
Пасля аднекуль, як гракі,
Бандыты пазляталіся.
Праз іх (Язэп нядаўна чуў
У пушчы ад прахожага)
Ксёндз ад касцёла адлучыў
Паромшчыка Амброжага.
Стары нікога не чапаў,

Жыў ціха, без палітыкі,
Ды ўсё ж Амброжага у рай
Анёлы не ўзялі б такім,
Бо ён, вярнуўшыся з ракі,
Сказаў людзям, не тоячы:
— Бяда навісла над сялом —
Вярнуўся войт надоечы.
Збірае хеўру. У вайну
Служыў фашыстам, гадзіна.
І Квапень, зяць мой, ачмурэў —
Жыве па-воўчы,
крадзеным.
Набраўся, значыць, ад вайтоў
Ахвоткі на калгаснае...
На бераг вылезлі з кустоў,
Мяне пад ногі пляснулі,
За горла душаць: «Дзе паром?»
Паплыў, — кажу, — шаноўныя.
Рака ў нас, бачыце, як звер,
І беражкі няроўныя...
А сам за кульбу — ды ў сяло.
А каб на вас, праклятыя!
У іншай вёсцы кожны з іх
Сядзеў бы ўжо за кратамі...
— Дзед праўду кажа! — загулі
У тон старому людзі.
Ды ў гэты момант спадцішка
Схапіў яго за грудзі
Самусь Карвіга хутарскі,
Што ў князя быў гароднікам:
— Я, гэта во... Маўчы, Амброж,
Не будзь, шаноўны, зводнікам.
Сам хутка сядзеш за паром —
Пасек без нашай згоды,
Дык адшчапенцам і памрэш,
Крактун сівабароды.
Пры чым тут войт?..— І гэта ўсё?—
Спытаў Амброж з дакорам.—
Ты б нас і з д'яблам памірыў,
Ды на галоўку хворы.
Па справах бачна — не жывеш,
А пераводзіш ежу.
Я ўжо нацешыўся з папоў,
Няхай іх воўк парэжа.

Шукай дурнейшых за сябе
Пры свечках у плебаніі...

Баяцца дзеда, як агню,
Ксёндз-пробашч і кампанія.
Вось едзе Квапень, дзедаў зяць,
Гультай і горкі п'яніца;
Нідзе не робіць, абібок,
А спіць да позняй раніцы.
Ён прыпазніўся на імшу
І за шчаку трымаецца:
— Дзе ж пахмяліцца? Зуб шчыміць,
Гуркамі адрыгаецца...—
А фурман (Квапень з тых персон,
Што ні на крок без фурмана)
Ля вёскі спешыўся, крычыць:
— Глянь, васпан, колькі турманаў!
На кожнай хаце — галубы...
— А ў хатах што? Нястача.
Я так мяркую: па Рабках
Бізун шляхецкі плача.—
Сказаўшы гэта, Квапень сеў
Спіною да Гнядога:—
Ты, Франк, тэго...
                Не марудзь,
Тут камуністаў многа.
Мой цесць таксама...
                Дзед прыціх
На прызбе перад хатаю,
Лягла на мыліцу рука,
Цяжкая, вузлаватая:
— Бог даў мне зяця... Ты ў касцёл?
Маўчыш? — Ён кпліва жмурыцца:—
Па збруі, пане мой, відаць,
Хто тут арол, хто курыца...
Папраў сядзёлку ды кіруй
У брод, што за капліцаю.
Хто ў сорак год святкуе фэст,
Дык і памрэ дурніцаю!..
  На возе шэпчуцца: — Бяда,
Ён больш, чым трэба, ведае...
— Вунь,— кажа фурман,— хутарок.
Там сустракаўся з дзедам я,
Чакалі з поля Самуся.

Дзед з ім за праўду сварыцца.
Мы жабравалі, а ў таго
Хлеб недзе ў спратах парыцца.
Самусь... Ого. Ён, гэты смоўж,
Нажыў палац на голадзе.
Я б узарваў яго гняздо,
Каб мог разжыцца толу дзе.

Язэп (ён з дзедам дацямна
Курыў у палісадніку)
Пераканаўся, што Самусь
Хоць і не быў ён здраднікам,
Але ад страху ўжо не раз
Маліўся на асаднікаў.
Няўжо ён верыць, што паны
Навек заселі ў пушчы?
Здурнеў, не выстаяў, дзівак,
А быў, як дуб, трывушчы.
Куды ж падацца? Што рабіць?
Дарожку пакручастую
Карвіга выбраў. А Язэп
З яго дачкою Настаю
Дружыў калісьці. Ды цяпер
Не жыць і ім у згодзе.
Бэз асыпаецца ў палын
Ў Карвігавым гародзе...
Рабкоўцы ведаюць ужо,
Дзе хлеб Карвігаў парыцца.
Аднойчы дзед збіраў грыбы
За грэбляю ля старыцы.
Былога войта ён тады
Праз хмызнякі убачыў
За крок ад сцежкі, з галавой
Схаванага ў ламаччы.
І раптам, кажа, памярцвеў,
Адчуў сябе мурашкаю:
Войт быў з вінтоўкай. Дый рука
У яго, напэўна, цяжкая,
Бо на каленях перад ім
Карвіга ныў з біклагаю.
Стаяў і енчыў: — На, смакчы!..
Я, пане, з гэтай брагаю
Ледзь не наскочыў у бары
На аднаго знаёмага.

Рашучы гэты чалавек,
Хоць роду невядомага,
Калгасам будзе кіраваць.
Скуль ён? Мясцовы, пане.
Я за вярсту яго пазнаў.
Да шапкі не дастанеш —
Такі высокі. І ў плячах —
Сажонка з добрым гакам.
Я б, пане, сілы не знайшоў
На гэтага ваяку.
Ён, гэта во... Пакінь ружжо!
Ці нам з усімі біцца?
Вам, кажуць, новая вайна,
А мне зацішак сніцца.
Я, можа, толькі з-за дачкі
Пакуль што не ў калгасе...
Каб хоць малога не было.
Скруцілася Настася!
Язэп...
На войтавых губах
Застыў смяшок злавесны:
— Віншую! Будзеш з ім вісець,
Мякша, аўсянік прэсны!
Па мордзе бачу — страх цябе
Памірыць з мужыкамі.
Ты мог Язэпа задушыць
Уласнымі рукамі...
— Вядома,— згорбіўся Самусь,—
Я б мог... Ды ён, халера,
Зайшоў, на сына паглядзеў
І нават не вячэраў.
Вы ж на паромшчыка якраз
У тую ноч напалі...
Войт адхіснуўся: — Хто напаў?
Мы хутар твой падпалім!..
За што, пытаеш? За язык,
Калі распусціш дужа...

Між двух агнёў Самусь жыве.
А ногі ўжо не служаць,
Дык налягае на пяршак;
Сам, праўда, больш гавее,
Затое войту дагадзіў.
І пробашч:акасее,

Калі панадзіўся хадзіць
Паўз хутар у капліцу...
Праз іх і Квапень Самусю
Не сват, а чужаніца.
Так дзед мяркуе. І Язэп
Пераканаўся ў гэтым.
Калгасам страшаць Самуся
Бандыты-прайдзісветы.
Пілі на сёмуху ў Збыша,
Што кіраваў брыгадаю.
Войт, налізаўшыся, драмаў,
А пробашч слухаў радыё
І торкаў Квапеня пад бок:
— Пан чуе? Там... за Эльбаю —
Рай для католікаў. А тут...
Самусь — і той са стрэльбаю
Прыбег жытамі да мяне,
Трасецца, носам чмыхае:
«Страляйце самі... Не магу.
Зжывуць са свету, ліха ім.
Паромшчык высачыў мяне,
Я гіну, ў яму падаю...»
А да вайны тут і Самусь
Цвіў, казыраў асадаю...
Дарэчы, з кім яго дачка
Настася мілавалася?
З Язэпам, кажаш?
М-так. А Збыш?
Яму пасагу мала ўсё?
Бог пакарае, пане, вас.
Збыш на багацце моліцца.
Ты п'еш замнога. А Язэп
Грыміць на ўсю ваколіцу.
Самусь, казалі, перад ім
Да ног травою сцелецца.
Спіхне Настасю жабраку
І сам яшчэ ажэніцца...
Слабы католік ён. Раскіс,
Пашкадаваў бязбожніка...
— З Язэпам я пагавару
Без сведак, асцярожненька,—
Надзьмуўся Квапень.— Толькі вы
Дастаньце, ойча... пораху.
Ксёндз зняў навушнікі: — Маўчы!

Ты звар'яцеў. У норах ён,
Што за Рабкамі ў сасняку...
Бог бачыць, тут міліцыя
Да рук прыбрала б спадцішка
І нас, і амуніцыю...

2

Высока ў небе — жаўрукі,
А на балоце кулікі
Жыруюць, скачуць ля вады...
З Рабкоў на луг не шмат хады.
Язэп, прысеўшы у цяньку,
Зняў боты: «Можа, не ўцяку,
Мо ходу ўжо няма назад,
Дык нехта знойдзе гэты клад...»
Не, ён не хоча паміраць.
Заб'юць? Павесяць? Напляваць!
Ён зноў абуўся. «Дзе ж баян?
Пайду ў Замошша да сялян,
Няхай падсобяць у бядзе».
Язэп устаў. Далей ідзе.
Звіняць у хмарах жаўрукі,
І на балоце кулікі
Жыруюць, скачуць ля вады...
Смялей, Язэп, прыбаў хады!
Амброж паплыў ужо туды
У новай лодцы з вецярком.
А ты забыўся на райком,
Які паслаў цябе ў сяло...
Мо скажаш, часу не было
Пагаварыць вам пра калгас?
Ў Рабках — трывога, сеяць час.
Навошта ж бандзе патураць?
Самусь і той пачаў араць.
Адчуў палёгку чалавек.
Сон не самкнуў яго павек,
Калі за рэчкай у бары
Гулі задорна трактары,
Дзён пяць без продыху запар
Плугамі рэжучы папар.
Войт, кажа, зверам зараве
Ад гулу гэтага ў траве;
Ён і не вылезе з яе,

Калі вакол усё пяе
Й пераліваецца ў красе...
Самусь да Франака падсеў:
— Злуеш?.. Дарэмна. Ты ж мой зяць.
Ару, бо нельга не араць.
Чуў, што галёкае народ?
Выносся ў пушчу, абармот!
Я не хачу, каб кожны хам
Чапляўся тут з-за войта к нам...
Зяць стогне: — Можна ашалець,—
Карвігу цяжка зразумець.
Ў яго натуры — сто натур.
А зяць, насунуўшы каптур,
Нос дагары, як пан, дзярэ:—
Халера вас не пабярэ.
Тут недалёка й да бяды...
Хутчэй, Язэп, прыбаў хады!
...Шасціць, калышацца быльнёг.
Прыўстаў Язэп, не чуе ног.
З ім ноччу Квапень гаварыў.
Сядзелі перад хатаю.
— Зайдзі да пробашча...
— Чаго?
— Любіў цябе, як брата, ён.
— Вам, Квапень, цесна тут?
— Жартуй.
Мы людзі чалавечныя.
Крануць — з накладам адплачу
Тваім сябрам зарэчным я...
— Маім сябрам? — Язэп устаў,
Бялявы твар ягоны
Ад гневу раптам пацямнеў: —
За чаркай самагону
Вы дагаджалі ім, а тут...
Што ж, ваша, Квапень, справа.
Мы закладаем новы лад
І пераможам!
— Брава! —
Падтакнуў Квапень і спытаў,
Прыкрыўшы рот далоняю: —
Выходзіць — шляхту мужыкі
Ў барані рог загоняць.
Перабірайся да мяне.
Адсюль... бліжэй да Насці.

— А што мне Наста?
— От сказаў!
Шляхцянка, ўмее прасці.
Сама, як парабак, арэ,
А клін у іх шырокі.
Вось дзе апора. І парог
У Самуся высокі.
Мой фурман Франак... Я маўчу.
З ім Наста... развядзецца.
Мы ж не чакалі, брат, цябе,
Цяпер гульнём, здаецца.
Каб войт дазволіў, дык і Збыш
Сядзеў бы ціха, можа...
— Маўчы лепш! — зазлаваў Язэп.—
Збыш — ліхадзей!
— А божа,
Кінь ты, Язэпка, жартаваць...
— Тады рыхтуйце брагу.
Аднак маё не прападзе.
Касцьмі, як кажуць, лягу,
А не забудуся на тых,
Хто заадно з ваўкамі.
Павук касцельны нас душыў
Збышовымі рукамі.
Знайшлі Настасі жаніха,
Рабкоўцам — брыгадзіра!
Да ніткі вёску абабраў
Вам, гадам, на мундзіры.
Цяпер прыкінуўся дурным:
— Вы па мяне?.. Браточкі,
Што я, забіў каго? Ёсць бруд,
Дык не вылажу з бочкі.
Вунь і мачалка на цвіку...
Клянуся богам: хамы
Бандыта меліся злавіць,
Ды зблыталі напрамак...
— Пара мне,— Квапень пазяхнуў.—
Збыш — войтава турбота.
А ты, Язэпка, менш брашы,
Калі пажыць ахвота...

Пахла грыбамі, бярозавым сокам...
Ёсць у Язэпа сябры ў Налібоках!
Торыў ён смела паўз дрэвы сцяжыну.

Падалі ў мох касцянiка, ажына...
Дзе ж той лужок? Дзе вярба
пакручастая?
Не, не хацеў сустракацца ён з Настаю.
Сумным было б пад вярбой іх спатканне.
Квапень пасунуўся ў лес на змярканні...

А да вайны без Язэпа на танцах
Насты ніхто у Замошшы не бачыў.
Дома, на ціхай пасажнай дзялянцы,
Ўпотай яна і цяпер па ім плача.
Быў ён, прынёс падарунак для сына.
Сыну б Язэп і баян свой пакінуў;
Мог ён і сам перабрацца на хутар,
Ўсё б ён аддаў за Настасіны вочы —
Парабкам быць у Карвігі не хоча...
Выпіў бы лепей, здаецца, атруты.
Крочыў хлапец у Замошша дарогаю,
Плакаў баян над начнымі разлогамі.
Плакаў і пеў пра сваё, запаветнае...
. . . . . . . . . . . . . . .
Рэчка. Прычал. У трысці,
ледзь прыкметная,
Лодка кагосьці качае на плёсе.
Пошум трывожны ялінаў і сосен.

3

Прыгажуняй была Самусёва дачушка.
Ксёндз і той гаварыў ёй аднойчы на вушка:
— Не заседзішся ты, калі будзеш маліцца.
Потым, кажуць, пачаў так старанна галіцца,
Што блішчаў, як гладыш паліваны на тыне,
Твар азызлы яго.
— Пробашч слова закіне,
Дык аддам я дачку за багатага пана,—
Выхваляўся Карвіга, выносіў на ганак
Зэдлік, збан малака ці вішнёвага соку.
Ксёндз насіў галаву, як жарэбчык, высока.
Перад брамай хрысціўся ды голасам строгім
Супакойваў Жучка, каб не цапнуў за ногі:
— Брысь у будку!.. Самусь, заступіся, шаноўны.
З добрай весткай іду, а... гасцінец няроўны.
— Калі ласка. Прашу...

Ксёндз узлазіў на ганак:
— Хто тут быў да мяне?
Фурман Квапенеў, Франак?
Слаўны гэта хлапец
І каталік сумленны.
— Калі шляхціц, то так...
— Ты не верыш? Дарэмна,—
Ксёндз знімаў капялюш,
Ставіў кульбу ля печы.—
Мусіць, ты дзікуном
І памрэш,
чалавеча.
О, і ў хаце каўзель!..
Насця ў клуб падалася?
Я пайду да Збыша...
— Гэты смоўж у калгасе
Нахапаўся дабра
Ды ўжо моліцца богу,
Каб з раёна ў Рабкі
Не прыслалі нікога,—
Гнуўся крукам Самусь,
Наліваючы брагу.—
Я праз Насцю, відаць,
У бальніцу залягу:
Круціць носам, брыда,
Упіраецца, плача...
У мяне ж тут Язэп
Адно лета батрачыў.
І малы ад яго...
— Не журыся, каханы,—
Пробашч з кульбаю зноў
Падаваўся на ганак
І глядзеў з-пад рукі
На калгасныя гоні.—
Што ты скажаш, Самусь,
Калі Квапень сягоння
Пасядзіць у цябе
На гарышчы да ночы?
А не Квапень, дык войт...
— Га? — Самусь аж падскочыў.—
У мяне ж, гэта во...
Частаваць яго нечым.
Хай у лесе сядзіць.
— Дык бывай, чалавеча...

Пачарнелі дубы, сад Карвігаў зарос.
Франак нeяк да дня збіў палын у пракос.
Цесць, майструючы плот, крэкча, зносіць ламачча.
Толькі Насці ніхто на падворку не бачыў.
Пэўна, недзе сядзіць ужо ў бацькавай хаце,
Баючыся дыхнуць... Каб жыла яе маці
Ды сама менш чаўпла на Язэпа, дурніца,
Жала б сёння яна у калгасе пшаніцу.

Эх, Язэп! Дзе ж ты быў, дзе бадзяўся на спаса?
Ці не Квапень цябе затрымаў тады часам?
Ксёндз (Язэп жа ў Рабках замінаў яму дужа)
Пастараўся, каб Франак быў Насціным мужам.
У касцёл не пайшла, дык прымусілі ў хаце
Крыж святы цалаваць. Потым п'яная сваццяя
Завяла «маладых» на гарышча ў салому:
— Шляхта ў хаце. І ксёндз разваліўся, як дома...

Але пробашч уцёк, каб не стрэцца з галотай.
Ў лес пабег. А чаго? Пачаліся грымоты.
Хітры, значыць, як ліс. І рашучы, напэўна,
Калі Насці шаптаў:

— Супакойся, крулеўна!
Вам Язэп не раўня... Бог паслаў табе пана.
Будзеш з Франакам тут мілавацца — і аман!
— У-у, нягоднік! — Самусь замахаў кулакамі.—
Зрэшты... Чорт вас бяры! Маё сэрца не камень.
Я... Вось ліха, сляза! — Ён палез у кішэню.—
Ведай нашых, Язэп! Можа, з куляй ажэнім...
Ты ад нас, гэта во... не дажджэшся спагады.
Франак тут навядзе адпаведны парадак...

І навёў, бо Самусь сам не свой, небарака.
На вяселлі ён пеў, а сягоння заплакаў —
Франак-зяць павыкідваў у хлеў яго рэчы
І самога спароў, узлаваўшыся, з печы:
— Будзеш шкодзіць людзям — спалю хутар,
і баста!
Адзічэем мы тут.
— Ах ты, злодзей вушасты!
Хутар, кажаш, спалю... і спаліў бы, халера,
Каб я спаў без ружжа і зяцям такім верыў.
Выбірайся адсюль!..
— Памаўчалі б вы, тата!

— А-а, і ты на мяне? А чыя гэта хата?
Ну? — стары на дачку замахнуўся, ды Франак
Выгнаў цесця свайго са святліцы на ганак.

4

Вечар. Гулянне. А Наста ў Амброжа
Сохне, падпёршы плячом агароджу.
Сёння паромшчык панам не патрэбны.
Пробашч па дзедавай хаце «малебны»
Ўпотай ужо адслужыў, бо згарэла...
А комін тарчыць, і расаднік той цэлы.
Дзед не здаецца: навесіў вароты.
Свіран накрыў, абсадзіў жываплотам.
Дзед перабраўся ў Замошша часова.
Коні пасе. «Будзем,— кажа,— здаровы,
Зноў прыплыву ладкаваць пераправу».
Ёсць у яго і да Квапеня справа.
Квапень дачку яго выгнаў, Адару,—
Помсціць, «усклаў» на паромшчыка «кару»...
— Мо памагчы вам? — пытае Настася.
— Э-э... Ты ж ад нас, пане мой, адраклася,—
Буркнуў Амброж і, насупіўшы бровы,
Лапіць каптан.— Я стары, нездаровы,
То... пільнуйся ксяндза. Ён хваліўся, пачвара,
Што знайшоў і табе адпаведную пару...
Я б такога ксяндза у цямніцу запякаў.
Праз яго я нажыў сабе зяця-ваяку.
Мне Адары шкада. Думаў — будзе палёгка.—
Дзед Амброж уздыхнуў і з праклёнам завохкаў: —
Квапень будзе яшчэ горка плакаць за гэта.
Ветрам, юда, падшыў на дарогу шчыблеты.
Зразумела, бадай?

Наста ціха шапнула:
— Зразумела. Чаму ж, Квапень —
Добрая скула,—
І зашылася ў хмель, што чапляўся па тыне...
Квапень пробашча стрыг ў будане пры лучыне.
— Порах, ойча, сыры...
— Супакойся, каханы.
Я ад сотак з цябе браць за порах не стану...
Дзе ж той злыдзень Язэп? Збег у прочкі?
Не веру,
Ты насупраць яго дурань, васпан, цяцера.

Прочкаў зараз няма ў бальшавіцкай краіне
Для такіх, як Язэп. Ён нідзе не загіне,
Калі, васпан, яго не папросіш з калгаса.
Ды глядзі, каб пра нас не дачуліся часам.
Ад Рабкоў у раён — два прывалы ў сталоўках.
Там паромшчык хадзіў. Ён не мае вінтоўкі,
Але дужы і злы на мяне ён, васпане.
Нам бы моцных такіх. Без падтрымкі паўстання
Не раздзьмухаеш тут, бо... Злітуйся, шаноўны!
Што ты робіш? Астрыг, як авечку, няроўна,—
Ксёндз зірнуў у вядро, што стаяла на лаве: —
О, і вуха задзеў!..
— Зараз, ойча, падправім,—
Квапень скінуў пінжак.
— Не турбуйся! Навошта?
Мне ў капліцу пара. А ты зойдзеш на «пошту».
Не ў калгас, а туды,—
ксёндз кіўнуў на балота.—
Толькі стрэльбу вазьмі і гумовыя боты.
Вестак добрых няма трэці месяц ад войта.
Чуеш? — Квапень маўчаў.— Мо, васпане,
ці свой ты?
Мо... Ад бога,сынок, не схаваеш намераў,
Дзе ты лодку падзеў, што стаяла ў аеры?
І вясла там няма. А рака разлілася...
Будзеш, мусіць, і ты завіхацца ў калгасе.
Мо пацягнуць яшчэ да Язэпа ў праўленне.
Кайся, васпан! Вайна — вось дзе наша збавенне.
— Дзеці, ойча, ў мяне, жонка... Каяцца трэба.
Бог напусціць вайну,
ды не дасць яна хлеба.
У калгаснікаў вунь збожжа свіран паўпюткі.
А я... ойца стрыгу, сам аблезлы, галюткі!
Але... я не Самусь. Маё слова — святыня.
Пойдзе з дымам калгас або самі загінем!..—
Квапень вывеў ксяндза, пагасіўшы агарак:
— А чаўнок, ойца, тэго... прыбрала Адара.

5

Квапень знік.
Амброжа абступілі ўнукі.
Той яму пад ногі, той к яму на рукі:
— Раскажы нам, дзеду, яшчэ тую казку

Пра Шэрага Воўка і казу Алмазку...
Дзед насупіў бровы: — Не да казак, дзеці.
Ліха завялося нейкае на свеце.
Беглі б вы дадому.
— Тата ў прочках, дзеду...
— І няхай. Ёсць маці. А я ў млын паеду...

За ракою дзеда напаткала Насця:
— Вы да нас?
— За гонар буду мець, за шчасце,
Калі бацька дома. Хоць пабачу пана.
Што ён — з глузду з'ехаў або, скажам, п'яны?
Хоць бы раз на сонца паказаўся з хаты.
— Хворы ён...
— Якое, мусіць, піў багата!
І зяцёк мой, Квапень, захварэў таксама...
А ты, бачу, плачаш? Выбегла на ганак,
Прыгадала нешта ды клянеш Адару?
— Што вы! Хіба можна? Я аб іншым мару...
Жыць вам у дастатку.
— То-та ж. Але Франка
Мы ў калгас не пусцім. Праз яго, шляхцянка,
Я не спаў вясною, ўсё снаваў па хаце.
Хто яму, пытаю, за падпалы плаціць?
Не, ты не адкажаш. Ты сама ў трывозе...
Я ў ксяндза спытаю. На бандыцкім возе
Ён цяпер, галубка, першы паганяты.
Глядзі, каб і вашай не спалілі хаты,
Франак твой прыкмеціць, што стаіш са мною...
— Франаку таксама жыццё дарагое...
Дзед скрывіўся: — Сціхні!
Не апраўдвай ката!
Бог адхукаў д'ябла, а той «фігля сплатаў» —
Побач з раем пекла стварыць умалёкаў.
Я хачу, каб людзі мелі тых на воку,
Што сядзяць дагэтуль недзе ў Налібоках...
— Франак вам не вораг. Ён не вінаваты.
Франак сам нядаўна пасварыўся з татам —
Раіў менш бадзяцца з Квапенем у поле...
— Так. А хто з малымі ваяваў у школе?
Хто маёй Адарцы пагражаў у клубе?
Беднякоў, дачушка, кулакі не любяць.
Франак з тваім бацькам трапілі ў балота.
Не вышэй ад жабы тут і Квапень лётаў,

Калі ўжо баіцца высунуцца з лесу.
Не, я не дарую. Я даб'юся крэсу,
Чаму ён дазволіў, каб мяне спалілі.
Сам злаўлю паршыўца. Я ўжо страх асіліў...

6

Без мукі няма навукі.
Узяла б Настася дзіцянё на рукі,
Вынесла б за браму — бліжэй да калгаса.
Сумна ёй і страшна ў роднай хаце часам,
Ды Франак заўсёды хмурыцца, сярдуе:
— Хай,— бурчыць,— малога
Язэп пашкадуе.—
Папракнеш — за шапку ды цішком у поле.
Хоча жыць асобна — хто ж яго няволіць?
Ёй, Настасі, бацька ў бядзе дапаможа.
А Язэп тым часам і загінуць можа...
Дзе ж той войт праклятьі?.. Наста б не маўчала...
Язэп сваё возьме. Ён і ля прычалу,
Выскачыўшы з лодкі, Насту сваю ўбачыў,
Прыгарнуў, пытае: — Ну чаго ты плачаш?
На пінжак, накрыйся. Ды... хадзем да сына.
— Не, ты ўжо, Язэпка, для яго загінуў,—
Горача шапнула ў твар Язэпу Наста: —
Мы цябе чакалі, ўспамінаем часта.
Думалі — паможаш, калі будзе крута.
Для мяне Яноўка — яма, а не хутар...
Колькі ж можна плакаць, сохнуць у трывозе?
Праз цябе, Язэпка, мы і спім на стозе.
Ў хату не пускаюць. Там — грызня ў разгары.
— Дык перабярыся з малым да Адары...
— Ты мяркуеш — можна жыць адной, без мужа?
— Я — твой муж. А Франак — хай з ваўкамі
дружыць!
Нехта свіснуў. Наста ледзь не ўмерла:
— Божа!
Ты ў калгас?.. А вечар гэтакі прыгожы!..
Пробашча сустрэнеш — засланіся веццем.
Ён у іх галоўны. Франака прыкмеціў,
То шаптаўся з бацькам ля гумна да ночы.
Франак ужо змогся, жыць спакойна хоча,
Хоць, каб не забілі, балбатаў старому:
— Накрыем Язэпа сярод ночы дома...

— Чым? Дзіравай кепкай? Смоўж! Чарвяк
святцоны!
Колькі іх, бандытаў? Сто? А нас — мільёны!

Дождж сячэ. Карвіга, адчыніўшы хату,
Выставіў на ганак ежу куранятам,
Каб не моклі ў градах. Курэй ён шкадуе,
А дачку з маленства у страху гадуе.
Дзе ж яна сягоння? Мусіць, у Адары
Каптан цёплы шые або шаравары
Свайму хлапчаняці. Малы — заглядзенне.
І самой Настасі патрэбна адзенне.
Летась крыху прала, але бацька кажа,
Што яму на невад спатрэбіцца пража.
Невадам ён рыбу выбера ў затоне,
Калі хто дадому з рэчкі не прагоніць.
Франак там вясною завіхаўся з толам,
А цяпер баіцца, ходзіць невясёлы.
Следчы ў лес прыехаў. З Амброжам на пару
Ён ужо, напэўна, ўсе кусты абшарыў.
А каля Яноўкі ж луг, як бубен, голы.
Каб хацеў — на рэчку не сунешся з толам.

«Члапу-члап»,— Карвіга выглянуў за браму;
Каб не дождж, паплёўся б па тытунь у краму.
Свой яшчэ на градцы, як рута, зялёны.
Трэба на махорку марнаваць талоны,
А іх і на тыдзень часам не хапае.
Пай такі. Карвіга чырвонцы трымае
Ў глыбокай кішэні. Ёсць, маўляў, прычына.
От, каб замест грошай узялі аўчыны,
Што згнілі пад стогам у сырой зямліцы...
Самусь там і збожжа пагнаіў, дурніца!
У сельпо завозяць розныя тавары,
А ён, хутаранін, пра махорку марыць!..

Маладзіцы неяк дакаралі Насту:
— Лепш ты ўжо Язэпу сонейка не застуй.
Ты ў сілок улезла, як варона тая.
На дарозе вашай шмат яшчэ праталін.
Абыходзь іх, Наста...
Не ў шляхецтве шчасце.
З павуціння нельга моцных нітак спрасці.
— Хіба ж я...

— Мы чулі. Следчы быў у клубе,
То казаў, што пробашч на ўсю пушчу трубіць:
Наста справядліва бунтам захварэла.
Бачыць бог, цяпер я і душой і целам
Спачуваю гэтай маладой шляхцянцы.
Няхай сабе ходзіць з Язэпам на танцы,
Калі бацька выгнаў з хаты яе мужа
І мне дацінае, называе вужам...
— Хлусіць ён.
— Хто? Следчы?
— Не,— шапнула Наста.—
Следчы за мяне тут заступаўся часта.
А пакрыўдзіў пробашч, як было вяселле.
Святы, а такое пра калгасы меле...
Кулакі трасуцца за свае надзелы.
З імі ўжо не «панна» за сталом сядзела.
Пробашч ведаў гэта, бо шаптаў старому:
— Я ж кажу, схавайся да пары за Нёман...
Бацька скроб відэльцам на стале цырату:
— Глупства, ойча, раіш. Лепш ідзі дахаты...
...Дождж размыў сцяжыны. У бары іх многа.
Наста да Адары бегла пералогам,
Каб хутчэй, і нават ціха напявала.
А назад паўз рэчку крочыла памалу,
Перад брамай моўчкі на валун прысела,
Сумная, без хусткі, у накідцы белай,
Твар схавала ў кветкі, што нарвала ў жыце.
Дзе ж Самусь? Хаця б ён чым яе не выцяў.
Наста ж там, за рэчкай, сёння начавала
І заяву, кажуць, у суд напісала —
Хоча разлучыцца з Франакам, сарока.
Але... ксёндз з іх хаты не спускае вока.

## 7

У Замошшы — гоман: нешта робіць кожан.
— Гэ,— злуе Карвіга.— Нібы той Валожын
Або Навагрудак у мяне пад носам.—
Ён стаіць на ганку ў нагавіцах, босы,
У руках — падушка і кажушак нейкі.
Ноч не спаў — успухлі сінія павекі.
Твар з арліным носам у густой шчаціне
Ад пакут і бруду быў таксама сіні.
Выпіў многа. Пробашч прыбягаў мірыцца

І падсунуў пляшку нейкай чамярыцы;
Потым цокаў:

— Кайся! На Хрыстовы раны,
Бог цябе ад патрэс[1] забярэ, каханы,
Калі Наста пікне пра мяне хоць слова.
Праз дачку, васпане, зляціць твая глова.
І Франак таксама хай маўчыць, псяюха!
Ў імя ойца, сына і святога духа...
Я пайду задамі паўз тваім гародзе,—
Скажаш: ксёндз па трэбнік да мяне заходзіў...
— Вон! — Самусь з-пад лавы выцягнуў вяроўку:
Гэта не выпадак, калі хто ў Яноўку
Сунецца з пагрозай... Ксёндз баіцца? То-та ж.
Насцін лёс — не ваша, а мая турбота!
Ён, Самусь Карвіга, па прывычцы стогне;
Захварэў аднойчы на якісьці вогнік,
Але на палаці не палез валяцца...
Толькі пахмяляўся разоў, можа, дваццаць.
Потым страшыў кульбай верабʼёў на тыне
І шаптаў за свірнам пацеры рабіне:
— Я цябе, рабіна, гэта во... не зрэжу,
Ягад тваіх смачных не вазьму на ежу.
Толькі ты злітуйся, пашкадуй старога.
Дай яму на зубы звону баравога.
А цяпер, казалі, праклінае свата —
Хто ж, калі не Квапень, ва ўсім вінаваты?
На свой лад Карвігу навучыў маліцца,
Потым кпіў, нягоднік, з яго ля капліцы.
Дабрадзей знайшоўся! І сваяк, нібыта...
Але хай, як кажуць, будзе шыта-крыта.
— Квапень атрымае за сваё ад Франка,—
Вырашыў Карвіга, лезучы ў альтанку.—
Я,— сказаў ён Насці,— адпачну, дачушка.
Дзе малы? Ў калысцы. Сам яго загушкаў.
Тут...— Самусь надзьмуўся, зноў памацаў карак: —
М-так... Пастой, калючка! Ты была ў Адары?
І Амброж не выгнаў? Хлусіш! Не паверу.
Я дружыў з Амброжам. А цяпер ён зверам
У наш бок, напэўна, косіцца з праўлення.
Праз цябе, Настася, і Язэп Ключэня
Не дае мне ходу, дурыцца, сярдуе,
Быццам я бандытаў сапраўды шкадую...

---

[1] Ад патрэс — на той свет *(лацінск.)*.

Бачыў ён Язэпа. Сам ішоў з мяшэчкам,
А Язэп з баянам пераходзіў рэчку.
— Мне ў касцёл...— Карвіга падкасаў калошы.
— А чаму б вам, дзядзька, не зайсці ў Замошша?
З Квапенем мяне вы памірылі б, можа?
Дзіўныя вы людзі. Ганарыцца кожан.
— Гэ, а ты, Язэпе, чуў вось пра здарэнне?
Ты жартуеш толькі.— І Самусь з кішэні
Выцягнуў газету: — Подпіс твой?
— Канечна...
— З Квапенем за дружбу піць вам
небяспечна,
Калі ўсіх нас вывеў на чыстую ваду.
Брыдка паказацца на вочы народу.
А табе, мяркую, гэта во, не варта
Быць такім, прабач мне, бараном упартым.
Во! — Ён пляснуў вобзем свой мяшок.—
Тут сала!..
— Га? — Язэп здзівіўся.— Адной торбы мала...
— Больш знайду!.. Нам, бачыш, гэта во, задуха.
Мы цябе, мазурык, а ты нас не слухаў —
Выжыў з пушчы войта, бараніў галоту.
Нехта ж вунь і з Настай сустракаўся ўпотай.
Іншы зняў бы шапку...
— Дзядзька, я не Франак!
Гнуўся, біў паклоны, а цяпер не стану.—
Панурыўся хлопец і кіўнуў на боты: —
Абіваць парогаў вашых неахвота.
— Ты ж паляк!..
— Вядома. Чалавек пры гэтым,
Які, дзядзька, ясна бачыць сваю мэту.
Мэта... Войт таксама выстаўляў задачы
І як быццам нешта скрозь пацёмкі бачыў.
А Самусь не бачыць, каб на іх нудота!
Хто ж тады рабкоўцам памагаў употай,
Калі Гітлер вёску абабраў да ніткі?
Хто падсунуў міну пад тыя зеніткі,
Што стаялі ў лозках каля пераправы?
Ёсць, што і не снілі пра такія справы.
А Самусь Карвіга пры кожнай нагодзе
Па сваёй ахвоце акупантам шкодзіў.
Але хто паверыць, што Самусь таксама,
Перш чым злезці з печы, выбіраў напрамак.
Унук і той, падросшы, сабярэ манаткі

І ўцячэ, нягодны, к бацьку без агляд.кі.
— Што ж, няхай,— Карвіга зноў пачухаў карак,—
А я застануся на сваіх гектарах.
Хоць не буду сохнуць, як Амброж, без хлеба.
А больш мне, старому, нічога й не трэба.
Вось яшчэ на момант у цяньку прылягу
Ды з малым на поле дам адгэтуль цягу...

8

Лес. Рака. Пад елкай — свежая зямлянка.
Квапень, побач сеўшы, падбухторваў Франка:
— Уложыш Язэпа ды ўцякай за Эльбу...
Вось табе кантычка і новая стрэльба.
Франак пэцкаў сажай твар, узяў біклагу:
— Як пазнаюць — мёртвым ля Замошша
лягу...
Ды ці варта лезці на ражон дарэмна?
Ах ты, хітры зводнік! Баламут нікчэмны!
— Не вурчы, бо... выдам!
— Квапенька, мой любы,
Хто табе дазволіць? От як дам у зубы,—
Агрызнуўся Франак, бліснуўшы вачыма.—
Бандытам зрабілі, нягодным айчынам!..
Што яшчэ? Узняць вам над калгасам хмару?
Я — прымак. Пра хлеб я, пра палёгку марыў.
А цяпер...— Ён сціснуў кулакі.— Балота!
Чарвякі гнілыя, каб на вас грымоты!..
Язэп не забойца. Але з-за Настасі
Сам аб сцены б'ецца і мяне б дубасіў.
Я за Буг падамся...
— Падавайся, проша.
Дасць бог, на граніцы цябе укакошаць.

9

...Самусёвы ногі адышлі на сонцы.
Мазалі ён зрэзаў. Ступакі ў суконцы
Сунуў у карыта, памаўчаў і кажа:
— Носам чую — Квапень маё сала смажыў.
А казаў, што Франак, гэта во... ў дастатку;
З сямі печаў хлеб еў, дык махлюе гладка...
З рук ірве! Як ліпу, дагала абшастаў.
Зойдзе ў хату — згрыбчу пад сябе, і баста!..

Выйшла Наста. Моўчкі падала малога.
— Гэ! Падрос за лета. А маці, нябога,
Сохне, як былінка... Наста, што з табою?
Адной ў полі цяжка? Здароўе слабое?
Скажы мне, дачушка, ў чым людское шчасце?
Хто ў калгас паверыў, той не пойдзе красці.
Квапень жа звіхнуўся, ён гудзе набожна:
«Нам цяпер, Карвіга, нават красці можна...»
У каго? Навошта? Пры народнай ўладзе
Хто крадзе, той хутка і ў кутузку сядзе.
Зайшла б ты ў праўленне. Не, чакай. Не трэба.
Да зімы, мяркую, у нас хопіць хлеба.
Потым... Дай махорку!..
Дым ад папяросы
Устрывожыў пчолы, і Карвіга, босы,
У адной бялізне, выскачыў за браму.
Лямантуе ў градах сын Язэпаў: — Ма-а-ма!..

10

Амброж з дручком, у кажушку
Сядзіць пад кустам на лужку,
Што каля броду. Побач — нож.
Пільнуе некага Амброж.
Сон марыць дзеда — зняў кажух,
Памыўся ў рэчцы, капялюх
На лоб насунуў і гудзе:
— Войт не схаваецца нідзе.
І зяць мой скруціць галаву...
Пайду прылягу на траву,
Пакуль ніхто не выдаў нас.
Дзень ладны выдаўся якраз,
Дык і здрамнуць крыху не грэх.

За рэчкай, дзе ні глянь,— начлег
Для падарожніка ў бары.
Ахвота ёсць — грыбы вары
Або, прысеўшы на пяньку,
Глядзі ў агонь ці па раку...
Язэп — той з вудамі сядзеў,
Гладыш з ляшчамі у вадзе
Ледзь не пайшоў было на дно.
І паплаўка ўжо не відно —
Зноў у трывозе старшыня.

Самусь, не злазячы з каня,
Спыніўся побач, у трысці:
— Амброж... тапіцца не пусціў...
Ёсць для такіх, маўляў, астрог.
Мо скажаш, я пярэчыць мог?
Я, голуб, ездзіў да суддзі...
— Чаму ж ён вас не пасадзіў?
Не хоча пэцкацца?
— Маўчы. І так ад ганьбы не ўцячы...
— Ого! — здзівіўся старшыня.—
А хто Настасю запыняў,
Калі ірвалася да нас?
Я б вам сказаў, ды... снедаць час.
Агеньчык бачыце? Прашу...

Самусь падаўся на шашу,
Пусціў Гнядога на папас;
Баіцца ён ісці ў калгас:
Здзічэў на хутары за век.
І Збыш няпэўны чалавек;
З уцёкаў вернецца — глядзі,
Каб нож па тронкі не ўсадзіў
Паміж лапатак з-за вугла.

Язэп, падумаўшы, рашыў
Пажыць з дзяпёк у шалашы.
Збыш недзе побач. Трэсне сук —
І звер не выкруціцца з рук...
Апроч Язэпа ля ракі
Пад кожным кустам — «рыбакі».
Хто спіць, хто курыць самасад.
Ўсе талакою выйшлі з хат.
Паромшчык цешыцца: — Калгас
Яшчэ не так падружыць нас,—
І, перасеўшы да агню,
Пачаў сароміць старшыню: —
Ты, бачу, дужа падурнеў.
Хто нас, пытаюся, кране?
Збыш? Заяц мой Квапень? Чарвякі!
Мы іх не выпусцім з ракі,
Калі аблепяць наш паром.
Ідзі дадому. Будзе гром.
А я аеру накашу.
І не пярэч, сынок. Прашу...

11

Вярнуўся Квапень.— У бары —
Ні война, ні зямлянак,—
Сказаў ён стомлена ксяндзу: —
Ачысцілі паляну.

Ксёндз скочыў з ложка: — Не грашы!
Ты звар'яцеў, шаноўны?!.
Цішэй, васпане, гавары.
Занадта памяркоўны
Быў гэты... як яго... Язэп,—
Ксёндз уступіўся ў шлэбы.—
Ён вас адзін паразганяў?!.
Не раю без патрэбы
Ў Рабках аб гэтым гаварыць.
Не каркай, пане, крукам!
— Збыш, ойча, цэліўся ў яго,
Але дрыжалі рукі,—
Маркотна Квапень загугніў,
Падняўшыся з парога.—
Язэп жа нашых двух забіў
І пакалечыў многа...
Сяляне, значыць, за яго
Цяпер стаяць гарою.
А Збыш тым часам у бары
Аброс, як пень, карою.
Не стала войта, дык і ён
Ад страху сядзе макам.
Самусь падсобіць калі што?
Таксама мне ваяка!
Тфу! — Квапень сплюнуў.— Праз яго
Я выцяў Франка, дурань.
А той нас выдаў і сядзіць
З ружжом у лесе, шкура.
За Буг галюецца ўцячы...
— Цыц! — ксёндз махнуў рукою.—
Ён... сын мой. Толькі ты, мярцвяк,
Мог выдумаць такое! —
І, спахапіўшыся, шапнуў: —
Бог, Квапень, нас карае...
Ідзі здавайся... Не, пастой!
Мы Франка затрымаем.
— Навошта? Франак вас заб'е.

Ксёндз пахіснуўся: — Езу!
Стой ля парога і маўчы...

. . . . . . . . . . . . .

Апоўначы з абрэзам
Яны зайшлі да Самуся.
Той злез паволі з печы,
Сцягнуў кажушак: — Як жыву?
Хваліцца сёння нечым.
А вы што меліся сказаць?
— Адзенься, выйдзі з хаты!..
Твой зяць застрэліў старшыню,—
Ксёндз, згорблены, цыбаты,
Сказаўшы гэта, застагнаў
І засяшаўся ў сені.
Рвануў Карвіга з барады
Ссівелай поўсці жменю...

## 12

Лятуць на поўдзень журавы.
Кагаркі, вылезшы з травы,
Малых адводзяць за раку.
Дажджы халодныя сякуць
Вакол плебаніі мурог.
Ксёндз зноў калоціцца: «Мой бог!..»
Чуваць за рэчкай галасы —
Звініць каса, узмах касы.
І грузавік якісь гудзе...
Ксёндз, нібы чапля, па вадзе
Балотам чэша да Збыша.
Чуў — пад аховаю шаша,
На лузе — цёткі сцелюць лён.
Ксёндз гнеўна выціснуў праклён...
Збыш, толькі Збыш яшчэ ў бары!
Зямля пад пробашчам гарыць.
Ёсць на яго сумленні грэх.
Ксёндз ад людзей, ад сына збег...
Мо ўжо ці вернецца ў касцёл,—
Вакол, куды ні глянь — трысцё,
Куп'ё зыбучае ды лес...

. . . . . . . . . . . . .

Паклаўшы шапку на стале,
Амброж развязвае мяшок:

— Вось дзічкі. З пушчы прывалок.
Збыш, праўда, мерыўся не даць,
Але спалохаўся, брыда.
Я б збіў яго на карачы...[1]

Адара хмурыцца: — Маўчы!..
А Наста цешыцца да слёз.
Амброж ёй вестачку прынёс:
«Язэп па папраўцы ляжыць.
Устане хлопец, будзе жыць!..»

* * *

Ноч. Дарога на хутар. Самусь,
крыху п'яны,
Торкаў зяця пад бок: — П-памыліўся ты, Франак,
Што не ўцёк за мяжу. Наста высахла, плача...
— А чаго ёй?
— Маўчы, недапосак сабачы!
Лепш вяртайся назад. Не патрэбен ты дома...
— Квапень выдаў мяне.
— Гэта, зяць, невядома,—
Змрочна буркнуў стары.
Франак чуў яго крокі.
Ён за цесцем ішоў, абшарпаны, высокі.
У руках — карабін не тутэйшае маркі.
— Чуеш, нехта крычыць...
— Гэта, пэўна, кагаркі.
Факт... А Квапень ужо дацінаў мне: «Карвіга,
Эх, і ўпарты ж твой зяць, каб ён ножкамі дрыгаў!
У каго ж ён страляў?..»
— Я? Страляў? Ачмурэлі!
— Цыц! — прыкрыкнуў Самусь.— Ты страляў і
пацэліў.
— У каго?
— Вось яшчэ! У Язэпа. За Насцю.
Ды нам, Франак, не ён, а ты сонейка засціш.
Пробашч, воўк яму сват, быў якраз у Замошшы...
— Хлусіць! Хоча, каб ты не скупіўся на грошы,—
Зноў абурыўся зяць і прыбавіў хады.
— Ты к Язэпу?
— А што?

[1] Збіць на карачы — даканаць, паставіць на калені.

— Збыш папёрся туды.
— Збыш? Чаго ж ты маўчаў? Пачакай тут хвіліну!
Я паклічу людзей, калі... сам не загіну
Па дарозе ў калгас ад варожае кулі.
— О, ты, Франак, мяне ледзь да слёз не
расчуліў,—
Агрызнуўся Самусь, расхінаючы голле.—
Збыш ізноў, гэта во... тут брыгаду ачоліў.
Гэты знойдзе канцы і збрахне на судзе,
Як і дзе ты з ружжом, мой саколік, сядзеў.
Хочаш жыць — уцякай.
— А фальварак? А Насця?
Не, цяпер вы мяне не пазбавіце шчасця...

Памаўчалі. З-за хмар месяц глянуў і знік.
Паўз дубняк у Рабкі прагрымеў грузавік.
Гул данёсся адтуль — Франак з месца, як лось,
Ірвануў у кусты.
— Пабаяўся нябось? —
Засмяяўся стары. Потым ахнуў: — Прахвост!
Дзе ж ты дзеў драбавік? Кінуў, кажаш, пад мост?
Я б яшчэ пачакаў... Чуеш? Лезь у раку!..

Франак скінуў штаны: — Годзе, я не ўцяку.
Толькі б следчы хутчэй заглянуў у сяло...
— Лезь! — абурыўся цесць.— Чуеш, зноў загуло!
Значыць, людзі не спяць...
Вузкаплечы, худы,
Франак доўга тады не вылазіў з вады.
Развіднела. На луг прыляцелі шпакі,
А ён моўчкі на іх паглядзеў з-пад рукі,
Засмяяўся ды зноў, расхінуўшы аер,
Утапіўся ў дно.
— Ты ім, Франак, не вер...
— Гэтым птушкам?
— Дурны.
Іх — каршун прыбярэ.
Ты падумай пра тых, хто з нас пер'е дзярэ...
Бог забыўся пра нас, а тут, бачыш, кірмаш.
Паляцяць хутары, у тым ліку і наш...
Франак глуха ў адказ: — Адчапіся, стары,
От схавайся за пень ды цішэй гавары.
— Пухнуць вушы?
— Ага.—

Зяць палез у трысцё.—
Ты ж у пробашча быў, а слядоў не зацёр...
Кідай стрэльбу сюды. Так. Цяпер пакажы,
Што ў цябе каля ног у катомцы ляжыць?
— Гэ, а ты жартаўнік! — цесць падаўся назад.—
Ты б мяне, гэта во... Задушыць быў бы рад.
Чуў што бокам — маўчы. Пробашч нам не раўня.
Хто ты ёсць перад ім? Вош насупраць каня!
Абадранец!..
— Дык што? Можаш больш не гусці!
Пробашч маці маёй недзе тут, у трысці,
Дротам рукі звязаў і піхнуў у равок...
А мяне суцяшаў: «Бог ласкавы, сынок.
Ён не хоча, каб ты пабіраўся ў Рабках...»
— Шмат,— згадзіўся Самусь.— Але ты не крычы.
Ксёндз таксама не спіць. Ён за намі сачыў...
Адзявайся! — Самусь кінуў Франку штаны.—
Так... А дзе твой мундзір?
— З плеч садралі паны.
Адны, бачыш, рубцы ды кара на спіне...
— Хай іх, сынку, зямля, тых паноў, праглыне!
На,— цесць скінуў пінжак.— Франтам
будзеш, гундцвод.
Тут урваў, там аддаў — вось які мы народ.—
Потым строга шапнуў: — Часу, Франак,
шкада...
Пойдзем, можа, адсюль? Дома стыне яда.
Я ўжо сэрцам адчуў: будзеш жыць у мяне.
Хлопцы ж некага ўчора шукалі ў гумне...
І я ўсё б ім сказаў, ды нязручна было:
Збыш, прыбегшы, забраў іх на сход у сяло.
А яшчэ ён сказаў: «Франка зловім — гамон!
Ён не проста бандыт, а фашысцкі шпіён...»

## 13

Праўленцы лічаць, колькі хто скасіў.
І жаць пара, а на палях — зацішша...
Цяпер усе гамоняць пра сяўбу.
Ды хто ж такое ў пратакол запіша?
Пярэчыць моладзь: — Мала сто пудоў...
І дзед Амброж загарачыўся: — Мала!
Трэ,— кажа,— так падпаравіць зямлі,
Каб па сто сорак на гектар давала.

— А я кажу, не дасць,— ўзарваўся нечы бас,—
Тут не Кубань — замнога, васпан, хочаш...
— А каб цябе...— Амброж схаваў кісет
І раптам з кульбай да Збыша падскочыў:—
Прыцёгся сеяць? Дзе ж ты, сокал, быў?
«Тут не Кубань...» Віншую на пачыне.
Зноў прамахнешся. Выкінься з Рабкоў!
І стрэльбу здай, бо... самасуд учынім.

Збыш загрымеў і змоўк — сход хорам заглушыў:
— Не каркай тут... Дзед праўду кажа... Мала!
Мы можам так паднаравіць зямлі,
Каб па сто сорак на гектар давала.

## 14

А Карвіга драмаў, як заўсёды, ў куце.
Зяць, узлёгшы на стол, над блінамі пацеў.
Насця (Франак, мажліва, пакрыўдзіў яе)
Моўчкі з куфра забрала спаднічкі свае
І, аднёсшы ад хаты, схавала пад тынам.
Ах, каб выжыў Язэп ды падумаў пра сына!..
Ля ракі ў хмызняку ўпільнавалі яго.
Збыш імчаўся адтуль з дубальтоўкай бягом.
Насцю ўбачыўшы, сеў, выцер шапкаю пот:
— Бацька дома? Скажы, каб збіраўся на сход.
Там... Маўчы, калі што. У калгасе — грызня.
Я... Куды ж ты? Давай мне, васпане, каня!..
Хочаш — злуй, хочаш — не: Франка зловім —
гамон!..
Слізкі Збыш чалавек. Насця бачыла: ён
Сам ад страху дрыжаў як асінавы ліст,
Нос уткнуўшы ў каўнер. А яшчэ актывіст!
Не смяшыў бы людзей. Франак — колас пусты...
Ах, каб выжыў Язэп ды каб быў халасты!..
Ёсць, што кпілі з яго: «Наляцеў на ражно!..»
Як сказалі «памрэш», дык заплакаў ажно;
Плашч Адары аддаў: — Апраніся, жанчына,
Я, відаць, сапраўды вас надоўга пакіну...
А рамонак цвіце...— Зноў схапіўся за грудзі.—
Добра, я паляжу... Але сеяць хто будзе?..

Ноччу трызніў Язэп — клікаў Насцю, казала,
Нібы тая з яго насміхалася мала.

Як батрачыў у іх, абадраны, галодны...
Прыгадала б — адмовіўся слухаць, нягодны.
— Дрэнна робіш,— шапнуў, калі побач прысела.
Лепш падай мне каптан. Не пайду ж я у белым...
— Мог бы дома пабыць...
— Дом, Адара, не ў хаце.
Меў куток я. У ім — толькі печ ды палаці...
Больш не будзем так жыць!
— Ты хвалюешся многа...
— Злосць, Адара, бярэ. Суцяшалі нас богам
І выштурхвалі з хат да паноў у «чваракі».
Мерлі з голаду там беларусы, палякі...
А пры немцах каго тут па вёсках шукалі?
Я ж, уцёкшы з турмы, бушаваў на Падгаллі,
Каб вярнуцца дамоў, як гаворыцца, з песняй.
А яна... Неспакойнае ў нас перадвесне.
— Я... Папраў валасы, бо спадаюць на вочы...
Я хадзіла б на сплаў...
— Там хапае рабочых,—
Запярэчыў Язэп з нейкім дзіўным запалам.—
Наша справа — зямля. А яе тут нямала.
Будуць сеяць — скажы...
Я сказала б, канечна.
Ды з Язэпам цяпер гаварыць небяспечна:
Дзе Замошша, а ён, у гарачцы, вядома,
Паскідаўшы бінты, неяк вымкнуўся з дому.
Бегла следам, гукнуў: — Не хвалюйся, Адара!..—
А ў Рабках на дзядзькоў наваліўся, як хмара.
— Ты,— сказаў ён Збышу,— не хавайся за дуб.
Цесна?.. Горача тут?.. Праваліся ў зямлю!
Час не той...
Бандзюкі не растуць на камлю...
Жыў і здохнеш адзін, як чарвяк, у кары.
Хто заўчора ў спіну мне страляў? Гавары!

Збыш зашыўся ў натоўп, але цягу не даў:
— Звар'яцеў ён, браты!.. Чалавека шкада!..
— Ясна! — крыкнуў Язэп.— Заўтра склічам праўленне.
Раскудахтаўся тут... Мы цябе, адшчапенец,
Ў рэчку з хатай піхнём!..
— Супакойся, васпане.
Позна ўжо, лес вакол — пачакаем да рання...
— Хто, пытаю, страляў?

— Хто ж, супернік вашэці.
— Франак?
— То-та ж, браток, але ты не прыкмеціў.
Паўз канюшню ляском уцякаў ён на хутар.
Наконт Франака ты з участковым пагутар...

— Гэ,— здзівіўся Амброж і зірнуў на Язэпа: —
Ці не думае Збыш, што нарваўся на кепаў?
Эх ты, вырадак, гад...— Дзед адскочыў ад плота.
Даўгавязы, сутулы, ў патрэсканых ботах,
Збыш схапіўся за кол, але ў гэту хвіліну
Нехта збіў яго з ног, а дзед світку накінуў.
— Не краніся! Ляжы! — І паклікаў Адару: —
Можа, скажа, не ён па каморках тут шарыў?
О, і Квапень збялеў... Сып, дачушка, каб чулі!..
Досыць, годзе маўчаць! Ад варожае кулі
Сокал наш...— Дзед устаў, скінуў шапку: —
Клянуся,
Зяць мой Квапень і Збыш з бандзюкамі ў хаўрусе...

Франак, з'еўшы бліны, налягаў на тварог.
Самусь вохкаў: — Хутчэй!.. Пакараў мяне бог.
Кроў псуецца дарма, як ты прагна жуеш.
Я... Ды што гаварыць... З твайго поля кулеш
Ужо з'елі ў Рабках. На дажынках. А ты
З мяне лыка дзярэш і трасешся прытым...
Я б адгэтуль уцёк у лазняк ці куды.
Трэба нешта рабіць. Ты ж яшчэ малады...
Зловяць, кажаш? Не трусь, а трымайся Збыша.
Ён... Пад'еў ты ці не? Тут жа побач шаша,
Людзі ходзяць...
— Няхай,— зяць адсунуўся ў кут,—
Не за тым я прыйшоў, каб заседжвацца тут.
Справа ёсць. Да суддзі...
— Га? — Самусь пабялеў.—
Хочаш выдаць каго? Што ж, віншую! Але...
Памаліся раней. Я ўжо бачыў у сне,
Як ты, Франак, вісеў за гумном на сасне.
Для парадку кажу. Я ж табе не чужы...
— Годзе! — Франак устаў.—
Лезь на печ ды ляжы.

А Настасі сваё запяклося на сэрцы.
Як і хто будзе жыць у такой паняверцы?

Хутар бацькаў струхнеў, лебядою заплес.
Франак выдасць Збыша і пасунецца ў лес...
«Дажыліся,— стары праклінае жыццё: —
Я б адсюль, гэта во, на край свету уцёк...»
Ён сягоння сцягнуў з варыўні памяло,
Выгнаў з хаты ката, падрамаў за сталом,
Потым Насці сказаў: — Сядзь і слухай, дачка.
Знойдзе нехта пятлю на твайго мужычка.
Зловяць — рук не ламі, а найлепей скажы:
Франак — клопат не мой, ён у нас і не жыў.

Я...— стары аж прысеў.— Вон адгэтуль, брыда!
Мы... Не плач, гавару! І мне Франка шкада.
Чужаніца ты нам,— ён устаў з-за стала.—
Зноў нябось у Язэпа ў бальніцы была?
Уцякай, калі што, бо замкнецца твой круг.
Франак возьме сваё, гэта вам не пастух.
Чуеш, о! — засіпеў ён сярдзіта і сціх.
Нехта пеў, ідучы каля хутара іх:
«Выйшлі ў поле маладзіцы.
Ой, лета, ой, лета!
Не хапіла маладзіцам
На вяночкі кветак.
Ой, звязалі сноп пшаніцы,
Брыгадзіра клічуць.
Няма часу брыгадзіру —
Зранку мэндлі лічыць.
Лічыць мэндлі, лічыць копы,
На таку спыніўся:
— Рад бы з вамі на дажынкі,
Ды з падліку збіўся...»

Насця выбегла ў сад, у палын, у расу:
— Свята будзе ў Рабках: цёткі пожнік нясуць!..—
Спахапіўшыся, змоўкла, вярнулася ў хату: —
Ах, каб выжыў Язэп ды каб быў нежанаты!..

Гарачыўся ён шмат, хваляваўся за вёску,
Не хацеў, каб народ, як раней, на палосках
У нястачы гібеў. З-за Язэпа вясною
Людзі з вёскі Збыша выправаджвалі з боем,
Калі той не пускаў трактарыстаў на схэду.
Сам Язэп у той дзень быў у Кваценя з дзедам
І на хутар зайшоў:

— Трэба сеяць, Карвіга.
А ты парыш зярно...
Самусь сунуў ім хвігу:
— Я на вас не рабіў! — і замкнуўся ў адрыне.
І сягоння ён там прытаіўся за скрыняй.
Насці клопат, туга: злы, ой злы ён, ды... родны...
Павячэраў бы хоць. Не, засне ён галодны,
Калі там, за ракой, пачаліся дажынкі.
Пуста ў скрынях яго. Да апошняй асьмінкі.
Збожжа ў ямах згніло. Толькі соль асталася...
А суседзі яго абжыліся ў калгасе.
Дзед Амброж нездарма узначаліў брыгаду:
Гэты возьме сваё. Мужыкі яму рады.
Знешне дзед — хоць бяры ды астуджвай вадою.
Слова скажаш — злуе. Воўчай, кажа, хадою
Не прывык я пятляць, хоць мыляюся часта...
Але, стрэўшыся неяк на выгане з Настай,
Гаварыў, што мяркуе зайсці да Карвігі.
Папракнулі — адцяў:
—Круціць, кажаце, хвігі?
Не паверу. Самусь быў нам сябрам калісьці,
Але пробашч яго да капейкі ачысціў.
Памаглі б вы, хлапцы, заступіліся б, можа.
Хто ж яму, як не мы, у бядзе дапаможа...
Так яно ці інакш, а Карвіга аж плача.
Гараваў пры панах. Што на хутары бачыў?

### 15

Праўда за Амброжам. Тысячу гатоўкай
Вылажыў Карвіга за хутар Яноўку.
А Яноўка тая — клінок поля, хата;
Алавяны Езус на сасне распяты,
Брама, хлеў і нейкі лесаванік [1] панскі.
Тарантасік выйшаў з яго элеганцкі.
Выедзе, бывала, у касцёл Карвіга.
А калёсы хорам: «рыгу, рыгу, рыгу» —
Каб у кожнай вёсцы, па ўсёй гміне чулі,
Што Карвіга з возам дзесьці заначуе,
Ледзь не ў самым пекле, стомлены, сярдзіты,
Жонцы скажа:
— Вось што, лепш дамоў ідзі ты.

---

[1] Лесаванік — калёсы з крывулямі для перавозкі лесу.

Мне, прызнацца, трэба на румок — па восі.
Бо, дальбог, струхнелі і падмены просяць...
Крызіс, бачыш, нейкі ахапіў дзяржаву.
— Дык маўчы!
— Вось ліха, хіба я гаркавы!
Вечна ж яна словам пэцкане, як сажай!
Языкоў нам крызіс гэты не завяжа.
Хай наш войт заткнецца! Той, як з куста, трахне:
«Усё добра, людзі!.. Заработкам пахне!
Крочце ў лес за мною...» А чаго— не скажа,
Пакуль з рукава хто пляшку не пакажа.
Тады хусткай вытра нос свой вуграваты,
Захрыпіць:
«Панове, клянуся сенатам!
Спляжаць бор, дый годзе!.. Э-э, ды я жартую.
Гандляры нас з вамі ад даўгоў ратуюць».
Брэша, значыць, шэльма! Мне, па меншай меры,
Калі не ў сенаце, то ў Рабках паверыць,
Бо гандляр у лесе — пацук у каморы,
Ўсё ён ператрушчыць. Адны мухаморы
Выпнуцца на сонца ад Дзвіны да Буга...
Гандляроў, іх трэба за каўнер — і пугай,
Не, мы не даруем... Я на сплаў паеду!
Без цябе, Ядвіся. Каб ніхто не ведаў,
Чаму плытагоны з Рабкоў ці Зарэчча
Прайдзісветаў розных соснамі калечаць.
Сплаў — не пляж лячэбны з цешчамі ў палатках.
Там свае законы і свае парадкі.
Скінем пень на бераг, паддамо нагамі
І — няма нікога. А гандляр — у яме...
— Ты там быў?
— Магчліва...
— Не гняві ты бога! —
Загудзе старая на Карвігу строга.—
Пацеха, дый годзе! Век не быў на сплаве,
Не забіў нікога, а хаўтуры справіў.
Глупства выдумляе. Абібок! Дурыла!..
Я табе, Самуська, ужо гаварыла:
Пільнуй свайго носа. Рад не рад, ды трэба.
Смерць, яна ад бога. Той пасвеціць з неба
Чым-небудзь бліскучым, каб відней, хто з краю,
А яна слухмяна да рук прыбірае
Бедных і багатых. Ксёндз...— Адстань, кабета!
Між ксяндзоў таксама многа прайдзісветаў,—

Адсячэ Карвіга.— Святым усё можна...—
А сам, зняўшы шапку, уздыхне набожна: —
Прашу раз трыццаты і апошні, можа,
Збаў нас, калі можна, ад падаткаў, божа...
— Чмут! — зжахнецца жонка.— Выхрыст!
Гляк! Няўклюда!
Кіруй хоць як трэба...
— Я маліцца буду
Тут, а не ў касцёле. І злаваць не трэба.
Мне відней адгэтуль і зямля і неба.
Будуць ляцець гусі — я гукнуў ім:
«Гыля!»,
Каб паны па гнёздах шротам не пабілі;
Пастух заіграе пра свой лёс лядачы —
Заадно і я з ім ад душы паплачу;
Паліцэйскі ткнецца, а я ўбачу гада —
Хлопцам, што на сплаве, шапну пра засаду...
І шапне. Карвіга — чалавек рашучы.
Крыўда яго з часам і страляць навучыць.
— Но-о! Каштан! Падбіўся?.. Стой, папраўлю
шоры...
І мне, брат, нялёгка,— прабасіць з дакорам
У той бок, дзе жонка. Відаць, меў прычыну.
Прамяняў на ведзьму ён сваю дзяўчыну.
На пасаг пагнаўся. Потым круціў носам:
Ведзьма распанела, а ён голы, босы...
— Божа,— стогне жонка.— Толькі і карысці,
Што вузлы ад пугі аб каня пачысціць...

Самусь звядзе бровы: — Кпі, ды ведай меру!
А хто араў поле! Хто пёрся з сякерай
Ажно ў Налібокі па сасну на браму!
Я — мужык твой трэці. Двух паклала ў яму,
Трэці — сам з вусамі... Бачыш мост!
— О Езу!
Дальбог, спіхне ў рэчку... Лепш сама я злезу.
— Злазь...— Карвіга лясне пугаю аб вецце.—
Многа вас, няўдаліц гэтакіх, на свеце...—
Пасля схамянецца: — Прабач за фатыгу...
Адным словам, цяжка зразумець Карвігу
Шляхцюкам, прынамсі, бо гулі: «Бандыта!..»
Але хай, як кажуць, будзе шыта-крыта.
Ці не лепш, пачуўшы падазроны гоман,
Пастаяць у лозках, паглядзець на Нёман!

Там аднойчы жонцы ён шапнуў: — Ядвіся,
Шпарчэй сваім ходам адгэтуль каціся...
Бачыш, о! Лістоўкі... — і саскочыў з воза.—
Дурні, хто ж іх знойдзе пад лісцём у лозах!..
Э-э! — махнуў рукою.— Не мая турбота...
Но-о, Гняды!.. Пажыць, брат, пагуляць ахвота.
Зрэшцы... Тпру, нягоднік! Якое ж гулянне,
Калі секвестратар на хутар загляне!..
Ля Рабкоў Карвігу запыняў Амброжы:
— А-а, пан Рыгу-рыгу. Пачакай, а божа,
Што гэта з табою? Твар — як спалатнелы...
— Кінь! — злаваў Карвіга.— Слухаць надаела.
— Каго? Пана войта? Ты не кыш-варона,
І я, трэба думаць, таксама вучоны,
Бачу, нутром чую: прымак у трывозе,
Калі страх у брычцы па ўсёй гміне возіць.
Ці не так сказаў я, га?..
Маўчаў Карвіга.
А калёсы «рыгу, рыгу, рыгу...».
Падумаўшы, пальнуў:
— Быў я ажно ў Клецку.
Дык во нават лапці аб той воск запэцкаў,
Што з грамнічных свечак капаў на падлогу...
І наш пробашч, мусіць, зарабляе многа.
Носімся мы з воскам у касцёл, як пчолы,
Выкладаем грошы, а пан Езус голы.
— Хлусіш! Нутром чую,—
рагатаў Амброжы.—
Хто, скажы, за бога лепш адзецца можа?
— Піць, браток, не трэба...
— Па сабе мяркуеш!
Сплюнь, Самусь, у зелле прымаўку дурную.
Мо шапнеш, як выжыць, калі што вядома?
— Не сярдуй, Амброжы, мне пара дадому,—
Уздыхаў Карвіга па прывычцы ціха,—
Пражывём як-небудзь, прыкупіўшы ліха...

І пражыў, хоць доўга яшчэ вохкаць будзе.
Як паноў не стала — акрыялі людзі,
А Самусь тым часам, адчыніўшы дзверы,
Прыхваткам, як кажуць, у хаце вячэраў —
Пільнаваў, каб Наста чаго не забрала.
Сказала ж, што пойдзе. Месца тут ёй мала.
Згарача Карвіга крыкнуў і на ўнука.

А сягоння Насці ў акно пастукаў:
— Вось кавалак цукру. Паласуй малога.—
Але ў хаце, мусіць, не было нікога,
Бо сабака рваўся з ланцуга кудысьці.
Уцякла Настася. Хутар бог ачысціў.
Зашчымела сэрца ў Самуся: — Варона,
Хто ж яе прыгорне? Выйшла за шпіёна
Ды хоча, каб людзі яе шанавалі.
Лепш мы гэты хутар, як сметнік, падпалім.
Во! — ён выбіў шыбу.— Навошта мне хата?
І зямлі не трэба. Язэп, чорт лазаты,
Спакусіў, уласціў і мяне, здаецца.
Ўсё ж такі ў калгасе цікавей жывецца.
О, пяюць! — Карвіга выглянуў за браму.—
Не, я не Амброжы. Ў мяне свой напрамак.—
Ён спусціў сабаку: — Брысь, гуляй на волі!
Пасвіць мух куслівых — твая, васпан, доля...
Ў чым, пытаю, шчасце? Дзе апора наша?
Выганю я, мусіць, і каня на пашу.
А што, калі скажуць: «Дзе ты быў учора?
І Каштан твой, бацька, не цягло, а сорам.
Лепш не псуй малюнку... Вон адсюль, шаноўны!»
Язэп да чаго ўжо сціплы, памяркоўны,
А казаў на сходзе, што гэтая паша
Век была і будзе «не твая, а наша»...
Значыць, і Каштан мой людзям не патрэбны?..
Што ж рабіць, каб выжыць? Фундаваць малебны?..
Добра. Зафундую,— вырашыў Карвіга.—
Бегчы клікаць Насту — лішняя фатыга.
З-за мяне, дурніцы, мужыка адшыла
І з Язэпам б'ецца, хоць ён так ёй мілы.
Эхэ-хэ, у хаце толькі печ ды сцены.
Жук і той схаваўся ад мяне пад сена...

## 16

Калгасны дзень, гарачы дзень
Пачаўся яснай раніцай.
Ідуць, грукочуць трактары,
Ажно зямля ўгінаецца!..
А Квапень з дому — нацянькі
Ды ціхенька ў плебанію.
І ўжо сядзіць і слухае
Ксяндзоўскія казані ён

Пра сына блуднага таго,
Пра Магдалену грэшную...
Пераржагнаўшыся, жуе
Свянцоную яечню ён.
Яечак, праўда, сам прынёс
Ён з паўкапы ў плябанію,
За гонар лічыцца з ксяндзом
Вадзіць яму кампанію.
Айцец, вядома, недарма
Ля бога аціраецца.
Стары, глядзіш, а за сталом
За двух ён упраўляецца.
А Квапень горбіцца:
— Бяда...
Жыццё — пакута грэшніку.
Пшаніца, ойча, пагніла,
Зарытая ў алешніку...
Айцец жуе сабе, маўчыць,
Усмешкай толькі скаліцца,
Бо што задумана ў яго —
Ён тым тут не пахваліцца.
Недарма ж ксёндз у Рыме быў
І папу, кажуць, бачыў там.
І тут сядзеў ён недарма,
А з пэўнаю задачаю.
Начэй не спіць ён, думае,
І спаць айцу не хочацца.
Адзін на спацыр часта ён
Далёка ў лес валочыцца.
Або, як прывід, з ліхтаром
Таўчэцца у закрыстыі...
Але і там ужо няма
Ад чорных думак прыстані.
Айцец патыліцу скрабе:
Якія ж скласці пацеры,
Каб не патрапіць і яму
Ўзасвет... да божай мацеры?
Але пра гэта толькі бог
І сам ксёндз-пробашч ведае.
Ён заўтра зноў пачне свой дзень
Набожным, мірным снеданнем.
А Квапень? Квапеню — зямля!
Святую лапу чмокае:
— Вярнуць бы, ойча, мне назад

Палі мае шырокія.
Азалаціў бы я касцёл...
— Маліся!..
Квапень вохкае:
— Малюся, ойча, але што ж,
Няма нідзе палёгкі мне.
Сяджу з-за ворагаў сваіх,
Як той барсук, на хутары.
Карвігаў Франак пра мяне
Ужо са следчым гутарыў.
У ліхадзеі запісаў...
Ён і ў Замошшы, гадзіна,
Сказаў праўленцам, нібы я
Кармлю вас, ойча, крадзеным.
— М-так... А Карвіга што? Маўчыць?
Аддаў ім нашу рацыю?!
О! — ксёндз на момант анямеў.—
Цяпер і нас абмацаюць...
— Пасадзяць, значыць?
— Не грашы!
Ад чорных дум, ад блуду ўсё...
Я памалюся за цябе.
— Пра вас я не забудуся...
Айцец маўчыць. Ён з кулаком
Жыць у хаўрусе прагне.
Хто ж у бязбожнікаў ксяндзу
Сырок ці шынку сцягне?
А на бязрыб'і Квапень нат
Лічыўся рэдкай «рыбаю».
Ён да ксяндза яшчэ не раз
З вяндлінкаю прыдыбае.
Ды не памогуць ворагу
Малітвы, сны прарочыя.
Не павярнуць жыццё назад,
Як гэтага ні хоча ён.

17

— Гэй, Самусь, прачніся!
— Я не сплю, Амброжы...
— Спаў! Па мордзе бачу. А на полі збожжа
Ад дажджу чарнее. Адным словам, сокал,
Пры такім старанні ўсё згніе навокал!..
— Э-э, ізноў жартуеш, а мне не да смеху.

Дзе Язэп? У суд ён, у раён паехаў?
Будзе следства — ведай: наш пробашч —
галоўны...
Ён тут і са мною не быў памяркоўны.
Мне б цяпер...— Карвіга памаўчаў хвіліну.—
Нашто ён мне — хутар?
Вось агню падкіну,
Дык і ты не будзеш хвалявацца, братка...
— Звар'яцееў!
— Мажліва. Ёсць у мяне кладка.
А ты, бачу, вырас з гонару на сажань...
Але хто на свеце угадае, скажа:
Ці пажнеш ты тое, што сёння пасеяў?
— Хіба ты, як пробашч, варажыць умееш?
Праўду людзі кажуць — быў ды сплыў Карвіга.
Меў я тут размову з панам Рыгу-рыгу,
Што загруз па вушы на глухой асадзе.
Мо не столькі вёсцы, як сабе ты здрадзіў,—
Прабасіў Амброжы строга, па-мужыцку.—
Вечна, як парсюк той, зямлю нашу тыцкаў.
Адным словам, ведай: хутка рогі сколеш,
Бо цяпер па вёсках яшчэ шырай поле...

18

Наста схавалася ў дзеда Амброжа.
З бацькам яна не сустрэлася б, можа.
Ноччу ён зноў зачыніўся ў адрыне —
Грошы лічыў у кутку пры лучыне;
Думаў — дачка яго вернецца з вёскі,
Франак аддаў ёй свае неданоскі:
Гэта, казаў, яго лепшыя боты.
Летам абула б яшчэ на работу,
Але цяпер ў іх не зробіш ні кроку.
Холадна ўжо, да зімы недалёка.
Трэба купіць маладзіцы абноўку;
Пэўна, ідзе ўжо назад у Яноўку...
Ён жа, Самусь, не такі ўжо лядачы,
Стрэўся б са сватам ці пробашча ўбачыў —
Нехта б з іх лёг мерцвяком каля брамы.
«З хутара ім толькі ў неба напрамак»,—
Думаў Самусь, пагасіўшы лучыну.
Вёска магла, вёска мела прычыну
Выпараць з хаты Карвігу, як звера,—

Мусіць, вяскоўцы яму яшчэ вераць.
Ксёндз праклінае «усходнія крэсы».
Квапень і той, неяк вылезшы з лесу,
Прагна глядзеў спадылба на палеткі,
Цешыў малых:

— Супакойцеся, дзеткі,
Заўтра я, тэго... пушчу вас да дзеда,—
Сунуў абрэз у кастрыцу, паспедаў
І... наляцеў на Збыша у ядлоўцы.
Ноччу страляцца хацелі ў Яноўцы;
Выбег Самусь — загірчэлі:

— Падпалім!..
Сеў на каня уцякаць — адабралі.
Стогне Самусь і мармыча сярдзіта:
— Самі сабе вы зрабілі убытак.
Гэта апошняя ваша пакража.
Чорт, гэта во... вам засаду пакажа!..

## 19

— Хто там? — Амброж падышоў да прычалу,
Ладзіць паром. Паўз капліцу прагалам
Пнецца Карвіга, змакрэлы ад стомы.
Грузнуць калёсы.

На досвітку з дому
Выбраўся ён, небарака, ў дарогу.
Сам над сабою стары перамогу
Упершыню ў гэты момант святкуе.
Новы рубеж чалавек атакуе —
З лесу прасёлкам, ад плёса да плёса,
Цягне Самусь да калгаса калёсы.
Да пабачэння, Карвіга, ў Замошшы!..

Дзень над ракою лагодны, харошы.
Вечна зялёныя, вечна калючыя
Елкі шумяць над даламі і кручамі,
Кідаюць цень на выгары пясчаныя,
Варту нясуць над сівымі курганамі.
Цягнуцца ў хмары, ў маланкі пякучыя —
З новымі днямі спраўляюць заручыны...

*1961*

4 Зак. 3094

# БЛАКІТНЫЯ ВЕРБЫ

## САМАСУД

Ёсць на маёй радзіме кут,
Дзе нават вербы на шляху,
Як тыя ўдовы ад пакут,
Маўкліва сохлі спакваля.
Лес ад вятроў іх засланяў,
А пан-асаднік люта сек,
Сек, як зладзюга, уначы
І за галотаю сачыў...
Навошта? Страх яго марыў;
Пан чуў: за рэчкай, у Туры,
Начамі гаслі ліхтары
Ледзь ні ля кожнай крамы.
Пасля — трашчалі брамы
Ва ўсіх управах тых гадоў,
Што ў чэзлай засені садоў
Каля старых, як свет, прудоў
Прэзентавалі ўладу.
Пан на калені падаў —
Прасіў якогасьці хлюста
Утроіць варту на мастах,
Каб хлоп які яго ў кустах
Не прыдушыў пад стогам,
Вярнуўшыся з астрога.
Былі, што з віламі ў руках
З сяліб выходзілі на шлях
На шляхцюкоў наводзіць жах,
Бо заціскалі вёску
На вузенькіх палосках.
А самі — так рашыў сенат —

Без лішніх слоў пад гул гармат
Зямлю дзялілі акурат.
Чыю? Вядома ж, нашу!
Хоць еш іх, злыдняў, з кашай!..
Князь Радзівіл і той не раз
Карыў пілсудчыкаў за нас,
Але запал яго пагас,
Калі сам Дзядэк[1] строга
Пужнуў яго астрогам.
Данеслі ж злыдню, што ў Туры
Чэрнь і на Замкавай гары
Не раз гасіла ліхтары
І кідала пракляцці
У твар мясцовай знаці.
Мо князь не біў тады ў набат?
Мо быў паліцыі не рад,
Што ў «тлум»[2] страляла неўпапад,
Азызлая, як грыжа,
Прыпёршыся з Нясвіжа?
У Дзядка выпалі зубы,
І сам ён быў ужо слабы,
Але нястомна, чорт рабы,
Трызвоніў аб прымусе,
Загрузшы ў Белай Русі.
Дарэмна шляхта на руках
Яго выносіла на шлях,
Дзе шчыраваў той жвавы лях
З сям'і вербаваякаў.
Пілсудскі там заплакаў...
На вербах тых чырвоны сцяг
Аднойчы вылунаў з лісця.
Ён пану засланіў прасцяг
На ўвесь яго шляхецкі век.
«У, галадранцы!» — пан шалеў.
Не выпускаў сякеры з рук,
Сек ля Засецяў кожны сук.
Э-гэх! Э-гэх! — уторыў бор.
А вербы там як на падбор —
У тры абхваты кожны пень.
Пан, намахаўшыся за дзень,

---

[1] Дзядэк — некалі вельмі папулярная ў буржуазнай Польшчы мянушка Пілсудскага.
[2] Тлум — натоўп *(польск.)*.

Ад стомы горбіўся, крычаў...
А вербы зноў раслі з карча.
. . . . . . . . . . .

Пад дзікі рогат пугача
З дзіцячай роспаччу ў вачах
З-пад трупаў вылез на парог
Сын земляка майго Адась.
Пачырванела ў сенцах гразь...
Цень ад прысад на сцежку лёг,
Упóцьмах тоячы сляды
Тых, хто, заходзячы сюды,
Чыніў расправу ў тую ноч.

Пастой, чытач! У пушчу збоч.
Цяпер тут ціха, бы ў раі.
А я ў сасонніку стаю,
Чакаю нечага, маўчу...
Няўжо ніхто тады не чуў,
Як бандзюкі каля кастроў
Змывалі з рук чужую кроў?
Смерць абмінула хлапчука.
Плябан мясцовы на руках
Яго ў пусты будан занёс,
А потым кляў свой горкі лёс,
Не жыў, а тросся за жыццё.
Адась ачомаўся, уцёк.
А ксёндз хаваўся ў будане.
Ад змрочных думак пачарнеў.
Паны дзівіліся — айцец
Не пазнаваў сваіх «авец».
Ён загаворвацца пачаў
Ледзь не ля кожнага карча.

Ахвярай гвалту стаў батрак,
Хлоп непадкупны, ўпарты.
Жыў ён у бога, як жабрак,
А быў пашаны варты.
І раптам на табе — з сям'ёй
Загінуў, небарака.
Панкі, вяльможнае хам'ё,
У пушчы селі б макам,
Каб ён паспеў агораць дом
Сялянскае асветы.

Хто ён — Хрыстос ці добры гном?
Турмой пужнулі — дзе там!
«Хіба ж,— сказаў,— мы не ў турме?
Хіба жывём як людзі?
Народ ад жаху анямеў.
Далей так жыць не будзем!..»
Ксёндз на сваім вяку ў бары
Такіх нямала бачыў.
Праз іх да гэтае пары
Панам — адны няўдачы...
Прайшлі гады.
Ксёндз пастарэў,
Але мацуецца пакуль —
Як прывід, ходзіць на двары
Або працягвае руку:
«Падайце каліўца! Вайна
Касцёл раструшчыла ў Барку.
Жыццё ўзяло сваё спаўна:
Камод на паліва сяку...»
Зірнеш — святы ён чалавек,
З вянком на лысай галаве.
А пра бандытаў ні гу-гу...
Што ж, я ксяндзу дапамагу.
Жывуць яны. Адзін у нас
Каля Тура па вушы ўграз
На абшчыпаным хутарку.
Другі — на тым ужо баку.
Асеў у Рыме. Кардынал.
Святы айцец — арыгінал,
Клянецца пастве, што нідзе
Не пакідаў нас у бядзе —
Змагаўся змалку за народ,
Але зрабіў няўдалы ход:
Уцёк на Захад. А чаго?
Сябры пакінулі яго...
Хай мне даруюць святары.
Іх кардынал быў у Туры
На пабягушках у паноў,
За медзякі людскую кроў
У малітоўні прадаваў.
Яго святая галава
Была яснейшаю тады,
Чым у бязбожных мужыкоў,
Хто не вылазіў век з акоў.

«Спалілі парабка? Калі?
Я штось не чуў пра гэта.
Мы дзве вайны перажылі,
Мо хто і не арэ там,
Мо без пары аддаў жыццё.
Такі быў час, панове.
Я сам сюды ад смерці ўцёк
І рад, служу Ягове,—
Грымеў у Мюнхене святар,
Ківаючы на бога.—
Клянуся! Бачыце алтар
Ля царскага парога?
Святы сінод маіх калег
Не для таго яго свянцаў.
Каб я не вымавіў слаўца
І тут і ў Рыме праману,
Перш чым палажаць у труну.
Спалілі... Хэ... А дух жыве!
У кожнай кропельцы расы
Там, дзе сябры яго, дзе сын,
Хоць кол чашы на галаве!..
Што я, аўца, зрабіць ім мог?»

Аўца... нявінная прытым!
А хто ваенным часам
Бандыцкай куляю раты
Нам затыкаў? Хто басам
Грымеў тады на мацярок:
«А што мне вашы слёзы!»
І лез працёпам у Барок
Цягаць дзяўчат у лозы?
Хто Апанасаву дачку
Вадзіў з пятлёй на шыі:
«Хай у нямецкім кабачку
Салдатам посуд мые...»
Пасля як рэзаны крычаў:
«Заб'ю! Абрэз украла...»
І загаворвацца пачаў:
Дзяўчо да ног не ўпала,
А птушкай вымкнулася ў лес
Па трупах паліцаяў.
Пустыя пляшкі на стале
Ім за ўпакой спявалі...
Дарэмна карнікі ў Барку

Ператраслі хаціны:
Ніхто з пушчанскіх мужыкоў
Не выдаў ім дзяўчыну.
Гарэла вёска.
Лес стагнаў,
Ахоплены трывогай.
А ты ад рогату канаў
Ля кожнага парога.
«А-а, не чакалі, галубкі!
Цалуйце крыж — і конец,
Смерць назаўсёды ля ракі
Суцішыць вас сягоння...»
Але фартуна, пан святар,
Не паспрыяла катам.
Ты ж сам цягаў іх на цвінтар,
Пасля махнуў дахаты,
Каб не прыстукнуў хто калом
Ці не падцяў касою.
Не паддалося вам сяло,
Бо ўсе там мелі зброю.
Хай бог даруе званару,
Ён без яго дазволу
Узброіў нават дзетвару
І біў па вас з касцёла.
Браў ён на мушку і цябе,
Ды прамахнуўся, сокал.
Бо ты, як воўк, дварамі бег
І быў ужо далёка.
А зараз, бачыш, на сінод
Прыйшлося спасылацца.
На край наш мірны шчэрыш рот
І хочаш апраўдацца.
Ды кроў людская... Паглядзі
На свой каптур, на рукі.
Іх не адмыеш у вадзе.
Хіба што скуру злупіш.
На ласкутах яе — прысуд...
Арцём сялянам кажа:
«Гарох на рэйх маліўся тут
І пачарнеў, як сажа.
З такім нядоўга да бяды.
Куды ні глянь — яго сляды,
Яго і тых, каму служыў...»
Арцём здзяцінеў? А крыжы?

Гарох не помніць іх, чытач,
Хоць у вушах — праклёны, плач
Звіняць да гэтае пары.
«Здурнеў ён»,— шэпчуць спадары.

Не па душы яму наш лад
І мужыкі не па душы...
Год сорак пяты. Лістапад
Гасцінцы ўсе зацерушыў —
Шпурляў зіме пад ногі медзь
З карэлых дрэў каля Тура,
Пасля мароз пачаў шадзець
Назло вясне і снегірам;
Расшчабяталіся не ў час
Яны на замкавай гары...
Айцец Гарох тады не раз
Ціпком з дружкамі гаварыў.
Баяўся гоману, бо ўсцяж
Ужо крынічыла жыццё...
Пазелянеў «заступнік» наш,
Забег аднойчы да сясцёр,
Сабраў пажыткі — і трушком
Рвануў за Веснядзь да Скрыля.
А той запрог яму каня
І да сябе гукнуў:
«Ком, ком...» —
«Чаго?» — насупіўся ўцякач.
«Эх ты... Вось пуга, варушы,
Ты больш за ўсіх тут награшыў.
Падловяць — нам не прысабач
Сваіх балячак, бо каня
Я за свае табе наняў —
Магу рахунак прад'явіць...» —
«Не трэба госпада гнявіць,—
Залапатаў Гарох баском.—
Воз я пакіну за ляском,
А сам за кій — і ў белы свет...»
Хацеў таго Гарох ці не,
Падзея гэтая ў Туры
Ў царкве на замчышчы старым
Драмала ў фрэсках на сцяне.
Прабачце, фрэсак там няма,
Ёсць толькі надпісы пра тых,
Хто ў абцугах людзей трымаў.

Тручыся з крыжам ля святых.
Цяпер мы знаем, кім ён быў,
Каму і як служыў тады...
Сышло мінулае, як дым,
Паразгіналіся гарбы...
Скрыль — у трывозе: сядзе ў кут
І пачынае ўспамінаць,
Хто з бандзюкоў астаўся тут,
З кім гаварыць, каго мінаць.
У той жа год пасля каляд
Яму сказалі ў вочы: «Гад!..»
Дачуўся нехта, як «сябры»,
Загнаўшы поначы ў барак,
Спалілі хлопа-бунтара
З дзяцьмі і жонкай у бары.
А потым... Хто б падумаць мог:
Малы з агню — ды ў людзі!..

. . . . . . . . . . . . . .

Шапочуць вербы ля дарог —
Вясну над рэчкай будзяць.
А ўсё Арцём, былы званар,
Што хоць бяры ды ў манастыр;
Ён сталаваўся ў млынара,
Пакуль у лесе не прастыў.
Але хапіла і таго,
Што ён пацёрся ля млына,
Стары ў жаўнерцы без пагон
Не раз ад смеху там канаў.
Панас — так звалі млынара —
Чытаў бязбожніцкі псалтыр.
А Скрыль злаваў: «Канчаць пара!
Мой млын, панове, не тракцір...»
Арцём — Панасу: «Гэта факт,
Перастараўся ты, браток.
Мы на цябе напішам акт,
Каб знаў — ля жорнаў твой шасток».—
«Няхай,— Панас махнуў рукой.—
Было б, як кажуць, што малоць».—
«Дык годзе!» — Скрыль замкнуў пакой
І пацягнуўся на сяло.

«Не заядайся з ім, Панас,—
Шапнуў прыцішана Арцём.—

Хай лепш за дурняў лічаць нас,
Хутчэй наладзілі б жыццё».
Панас надзьмуўся: «Не вучы,
З вусамі сам, здаецца!
Скрыль ад мяне схаваў ключы,
А рук баіцца пэцкаць...»

Скрыль не баяўся. Ён знарок
Прыкідваўся рахманым.
Сяляне ўдоўж і папярок
Клялі лясного пана.
Жыў ён як быццам з мазаля,
Сам сноўдаўся за плугам,
Ды неспадзеўкі спакваля
Разбэсціўся, зладзюга,—
Ламаў бядняцкія платы,
Лез на чужыя межы,
Пасля крычаў на панятых:
«Няхай вас воўк парэжа!
Вы што, не бачыце граніц?
Мой хутар — не дзяруга.
Войт п'е ваду з маіх крыніц,
Пакуль не лясну пугай...»

І праўда, войт у саснячку
Ажно «канаў» ад смагі,
Скрыль для яго не шкадаваў
Ні закусі, ні брагі;
А чалавек ён быў круты.
Трымаў свой хутар строга,
З ім нават родныя браты,
Як пацукі пад стогам.
Жылі без сонца і прадух
У спарахнелым зрубе.
Убогі гэта быў катух,
Але грымеў, як бубен,
Паміж прысадаў на задах,
Схаваных за штыкеты,
Калі бабахалі аб дах
Даспелыя ранеты.
Скрыль падбіраў іх у картуз
І частаваў галоту:
«Каштуйцеся, бо кіну ў шлюз,
Каб не гнілі пад плотам».—

«Ты ж іх па дрэве палічыў,—
Смяяліся вяскоўцы.—
І спаў на пограбе ўначы —
Рука на дубальтоўцы».—
«Хто гэта бачыў? Апанас? —
Скрыль уздыхаў з дакорам.—
Ён жыць не можа без прыкрас,
Не парабак, а гора.
Нашто мне зброя? Я ж казаў:
Гасподзь мой сад вартуе...»
Калі хто ехаў на вазах
Паўз млын у восень тую,
Не прыпыняўся ля Скрыля —
Хутчэй дамоў спяшаўся.
Бо той быў чорны, як ралля.
Усіх куснуць стараўся,
Хоць за карэлым садам
Усё квітнела на палях
Вакол яго асады.

Палац. Дзве вулачкі, рака,
Лугі вакол без краю,
Пустыя скрыні на таках —
Такім Барок я знаю.
Мне нават дзіўна, што на сход
Ідуць сяляне ў ботах...
Пабагацеў і наш прыход.
А пробашч у турботах.
Не разагнуў яшчэ спіны
Ў касцельным сутарэнні.
Не, ён не скардзіўся, не ныў,
Ён падаў на калені
І выклікаў на страшны суд
Сваю старую памяць.
Паспадзяваўся ён на цуд
І ўласнымі рукамі
Сабе пятлю падрыхтаваў,
Не, не пятлю, а яму...
Трашчыць ад думак галава,
Баіцца тарараму!

Хадзіла цыганка, хадзіла па вёсках,
Ля кожнага ганка — худая, ў абносках —
За рублік удовам вяртала надзею:

Ад жорнаў пудовых, ад горкай кудзелі
Вяла іх у казку сваёй варажбою.
Зрабі каму ласку — не будзе адбою.
За ўдовамі, пэўна, прыбеглі б дзяўчаты:
Скажы ім, царэўнам, дзе позняцца сваты!
Не верачы, верыць хацелі б без смеху,
Што нехта аберуч нясе ім уцеху.
«Куды ж я папала?» — цыганка ім з болем,
На ўсіх не хапала шчаслівае долі.
Жылі ж у зямлянках пры дымнай лучыне.
А гора смуглянкам дзвярэй не адчыніць
У ясныя далі трывог і кахання...
Вайну прыгадалі, і сумнаю каняй
Забілася ў хмарах бясплоднае лета.
Зірнеш на выгары — ні песень, ні кветак.
А сэрцу не скажаш: «Суцішся ў пакоры!»
З пазычанай пражы вясельныя ўборы
Не раз на сябе прымяралі гарэзы.
І нехта ўжо бег на бальшак па жалеза —
Плугі майстравалі з трафеяў салдаткі.
Вясною, за гаем шукаючы кладкі,
Цыганка пра іх ад прахожага чула.
А быў гэта мніх недалужны, як шула.
Ці, можа, ён мніхам прыкідваўся толькі,
Бо лаяўся ціха — шукаў манапалькі;
Пасля спахапіўся: «Маліцеся богу!
Краіна ў агні ўся — прычасця святога
Не зведаюць людзі ў галечы і дыме,
Бо цэркваў не будзе!.. А ўсё ж маладымі
Былі і змагаліся, пэўна, за нешта».—
«А ты чым пахвалішся? Мо з Будапешта
Або з-пад Берліна вяртаешся ў славе?
Нагайкай на спінах памінкі нам справіў! —
Крычала цыганка, падбегшы да мніха.—
Лавіце падпанка! Нямала ён ліха
Наробіць яшчэ, дагаджаючы богу».
«Святы» завішчаў: «Супакойце нябогу!
Здурнела яна, сучкай вые на месяц.
З вуснаў гэтых мана
разнясецца па лесе...
Гэта ж Гэля, дачка таго злыдня, Панаса,
Што Саветаў чакаў, як мы, грэшныя, Спаса».
А праз дзень у Барку біў Арцём у набат:
«Хто жывы — за раку! Гэта я вінават.

Ходзяць розныя тут... Эх, было не было!
Меней будзе пакут,— ён ксяндза памялом
У бакоўку загнаў: — Пасядзі да зары!
Ты за гарнец пшана нас у пекле варыў.
А Скрылю памагаў. І пазычыў каня!
Дзе Гарох? Хто ілгаў, што я Гэлю ганяў,
Каб муціла ваду? Лютасць, здрада — ваш бог,
Кожны сее бяду, пакуль трупам не лёг».
Ксёндз — ні слова. Арцём паспяшаўся тады.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зарастаюць трысцём ля касцёла сляды.
Толькі ў нішах яго, як адзнаку вякоў,
Можна ўбачыць было спісы тых мужыкоў,
Што калісьці панам не давалі жыцця
Перад кожнай імшой пробашч кляў Малюця,
Даўніх продкаў яго, жонак іх і сясцёр;
Потым змогся — анучай іх прозвішчы сцёр;
А сялянам сказаў: «Час — няўмольны суддзя.
Вашы продкі і вы з цемры торылі шлях,
Ад якога цяпер больш дарог у жыццё,
Чым на небе святых. Занядбаў я касцёл.
Мне б... О, божа, прабач,—
Ксёндз хрысціўся.— Маўчу!..»
Хіба мала ён новых імён тут пачуў?
І за кожным — сяло, партызанскі атрад.
Не хапіла ў паноў ні акоў, ні гранат,
Каб суцішыць навек неўгамонны народ.
Не баяўся Малюць ні агню, ні грымот.
І яго землякі не схілялі галоў,
Хоць нялёгка ім жыць у няволі было.
Нават Гітлер і той выў ад злосці не раз,
Калі фрыцы ў свой рэйх уцякалі ад нас.

Адгрымела вайна. Хто вярнуўся жывы —
Браў касу і скубаў за ракой паплавы,
Тоўк у ступе кару, мох падмешваў у хлеб.
Толькі Скрыль у млыне на дубовым стале
Пытляванікі дзёўб, як галодны крумкач:
«Не магу я з карой... Пад'ясі — і хоць плач.
Без прывычкі не сядзеш на вашы кармы.
Паспрабую на пытлі пажыць да зімы».

Сяляне маўчалі. Няхай пажыве.
Другія ў іх думкі былі ў галаве.

Арцём падбіваў іх падацца на сплаў,
Хоць крыўда ў душы на бандыта расла.
«Без нас разбяруцца, які гэта птах,—
Бурчаў ён сярдзіта.— А мы на плытах
Да восені нешта заробім, браты».
Ля рэчкі Арцём спахапіўся, астыў:
«Чакайце! А поле? Яно ж тут адно
Спалавее без нас, як старое радно.
Хто багаты на плуг?..» Залыгалі каня.
Ксёндз на ім у вайну буракі абганяў.
Мо таму гэты конь і баяўся сялян,
Але ў плузе хадзіў, як Скрылёў Бусурман,
На якога не раз заглядаўся Арцём:
«Нам такога каня. От настала б жыццё!»

Не драмаў і Гарох, «сціплы» божы слуга.
Ён здалёк нам стагнаць з году ў год памагаў —
Ліў за Эльбай ваду на чужыя млыны,
Каб пажыць хоць з гадок у заморскім ярме,
Кляўся богам, што мы зноў чакаем вайны.
Бог ад гэтай хлусні назаўжды анямеў,
Толькі вочы яшчэ на іконах блішчаць.
Новы служка яго без нажа і плашча
Не пражыў бы і дня, каб вярнуўся дамоў.
Але мы яму ходу нідзе не дамо!
Мюнхен, Лондан, Парыж — чым не рай на зямлі
Для такіх святароў. А Гарох там скуліў:
«Я не ксёндз, а змагар. Сплю і бачу свой кут.
Колькі я за яго перанёс там пакут!
Хто нам верне той час, калі дома былі?
Без сяброў і гармат мы — пустыя нулі».
Што ж, відаць, сапраўды час — няўмольны
суддзя.
Знойдуць людзі калы на прадажных бадзяг.

## ВОДГУЛЛЕ ЧАСУ

Барок — нагодак тых сяліб,
Дзе паляўнічыя жылі
Ледзь не з Адамавых часоў,
Каб не яны, дык і лясоў
У нас, напэўна, не было б.
Што ні мужык — каменны лоб

І сілы моц, як у быка.
Даўней на гэтых мужыках
Трымаўся там прыгонны лад.
Пушчанскі князь пад іх нагляд
Свае маёнткі аддаваў,
Пакуль у лозы галава
Не паляцела з кволых плеч.
Хто пастараўся?
Князеў меч,
Машну з дукатамі, штаны
Знайшлі ў Барку яго сыны.
Старэйшы з іх — Базыль Крывы,
Як воўк, тады ад злосці выў,
Пасля павесіў каваля...
Ад думак чорны, як ралля,
Вярнуўся князь у свой шацёр.
А ноччу ўпаў у забыццё...
Каваль — прыспічыла ж яму
Чапаць вяльможную чуму —
Бяду наклікаў на Барок.
«Базыль разблытае клубок»,—
Гулі панылa мужыкі.
А князь, іх пан, каля ракі
Спраўляў хаўтуры, не, гуляў
І кляў пацiху караля.
Той не прыняў яго ганца,
Хоць быў рахманы, як аўца;
Відаць, злаваў на Базыля.
Князь пажам быў у караля,
Але маліўся на лясы
І ўцёк дамоў, сабачы сын,
У час паўстання на Русі!
Кароль па Польшчы калясіў —
Баяўся сунуцца на Ўсход.
А князь, нягоднік, абармот,
Прасіў падтрымкі ў гэты час.
Няхай бы ж сам падцiснуў пас
Ды рушыў з войскам на Барок.
Але Базыль тады знарок
Пайшоў на ўступку мужыкам —
Аддаў загад сваім «палкам»
Пакінуць бор і да пары
Заняць пазіцыі ў Туры,
Каб мець на воку ўвесь абшар

Ад Налібокаў да Панар.
Там гарачэй было тады.
Князь зводдалі чуў носам дым.
А хлопцы блыталі сляды
І прабіраліся на Січ.
Яна свяціла ім, як зніч,
Сярод пякельнае начы.
Ніхто не марыў пра спачын.
Калі ж настаў жаданы час —
Гром прыкаціўся ў панскі ляс.
Січавікі — а што ім князь —
Ля Піны ўжо мясілі гразь.
Забралі Тураў, Лунінец...
Тады з Варшавы пасланец
У Тур да князя прыскакаў.
Кароль апоры тут шукаў,
Але Базыль пачаў віляць:
«Народу мала. І страляць
Не кожны ўмее. Грымне бой —
І паляціць усё трубой...»
Ганец — стары вусаты лях
У сцёртай світцы і штанах —
Дастаў з катомкі сала, хлеб:
«Хай князь даруе. Я не кеп.
Вось падсілкуюся крыху
І вашых кметаў на шляху
У войска буду вербаваць.
Абрыдла ім тут гараваць,
З маленства моляцца на Січ.
Пан чуў — Хмяльніцкі кінуў кліч,
І ўсё Палессе ўжо ў агні.
Узбройвай шляхту, не цягні...» —
«А круль што робіць? — князь устаў.—
Клянуся ранамі Хрыста,
Я пасаджу цябе на кол!» —
«Садзі, я гол як той сакол,
Не шмат уцехі будзеш мець,—
З пагардай выдыхнуў ганец.—
Хмель апустошыў мой ларэц.
А гайдукоў загнаў у клець,
Каб не ўцяклі да караля...» —
«А ты дзе быў?» —
«Варон страляў,
А сёння, бачыш, у Туры

Перад табой стаю — судзі.
Цеш сваіх слуг і маладзіц...» —
«Дык вось ты як загаварыў! —
Зноў ашчацініўся магнат.—
А я, прызнацца, вельмі рад,
Што ў караля такі ганец.
Пачатак ясны. А канец?
Мне ўжо нічога не шкада.—
Пасля, падумаўшы, дадаў:
— Клянуся богам — ты знарок
Нам страх у замак прывалок.
Але не будзем траціць час:
Бяры каня майго, жупан
І, калі ты патомны пан,
Лепш не спыняйся на папас,
Бо хлопы вытрасуць душу,
А каралю я напішу».

Ганец апоўначы цішком
Пайшоў тады з Тура пяшком,
Жупан пакінуў у карчме,
Бо дужа клопату з ім меў.
Ён і каня, як злодзей, вёў,
Каб не палохаў салаўёў,
Што мірна спалі ў вішняках.
І, пэўна, тросся: дзе ж той шлях?
А князь — калом яму зямля! —
У пульку з пробашчам гуляў.
Стары цыган Раман Малюць,
Панасаў продак, у куце
Над панскай зброяю пацеў.
Князь не даваў яму дыхнуць,
Пытаў, ці знаў ён каваля.
Цыган маўчаў і спакваля
Пачаў прыкідвацца дурным.
Базыль — гарачы, малады,
Трымцеў над вухам, як бадыль:
«Я ж парашыць цябе магу,
Стары хамлоціна, ілгун!»
І парашыў бы, што казаць.
Князь слуг сваіх любіў караць,
Ды сам сядзеў, як на цвіках,
З набітай стрэльбай у руках.
Затое пробашч кожны дзень

Таўсцеў і гуў, як авадзень,
На двор цікуючы з-за штор:
«А маладзіцы тут нішто...»
Князь жмурыў вочы: «Я маўчу!»
Але цыган аднойчы чуў,
Як ён святошу асадзіў,
Ксёндз як п'яны тады хадзіў,
Бурчаў на слуг і, рад не рад,
Пасціў, захоўваў цэлібат[1]...
Ды нам пакуль не да яго.
Цыган, прыгнуўшыся, бягом
Махнуў з Тура па цаліку
Да налібоцкіх мужыкоў.
Сын каваля яго чакаў
У сасняку ля Апчака,
Дзе князь збіраўся паляваць,
Хоць войт — таксама добры таць! —
Не раіў лезці на ражон.
Паўстанцы там не раз ужо
Паролі шляхту з хутароў.
Збягуцца з сёл — і будзь здароў!
Аж наваколле ўсё гуло,
І вінаватых не было.
Бор ад паноў хаваў сляды.
...Цыган спыніўся: «Нікадым,
Ого-го-го...» Ды зноў з калом
Джгаў у чашчобу напралом —
Нёс хлопцу князеў ятаган,
Камзол, пістонку і пыжы
І сам сабе гукаў: «Бяжы!..»
Яшчэ ж — не быў бы то цыган —
Ён і мядзведзя прыхапіў.
А быў жа ціхі і не піў.
Князь давяраў яму. Малюць
Змала ў Туры бяздомкам рос,
Але не скардзіўся на лёс,
Жыў, бы той сокал, без турбот
І нарабіў сабе турбот
Дзе па дурноце, дзе знарок,
Пакуль не сцапалі паны
Яго ў канюшні за штаны.
Князь сам яго адтуль валок.

[1] Цэлібат — абяцанне бясшлюбнасці.

А потым — розгі, цёмны лёх.
«Ну, як ён там, яшчэ не здох?» —
Пыталі ў князя шляхцюкі.
«Няхай жыве. Мне мужыкі
Тут дакучалі і не так.
А гэты нехрысць за пятак
Да скону будзе мне служыць».
Цыган служыў. Аж пасівеў
Ля панскіх коней у хляве.
Але не выцерпеў — уцёк!
І не баіцца. Ля ракі
Закінуў торбу і кіёк,
Сеў на мядзведзя: «Лезь у брод!
Мне, брат, ужо не мала год,
Сам шлях на волю выбірай...»
...О, родны мой Барок, скажы,
Чые вакол цябе крыжы,
Хто паміраў за гэты край?
Рака заснула ў трыснягу,
Бор адступіў за Мар'ін Груд.
А наш лясны, маўклівы люд
Заўжды, як кажуць, на бягу —
Хто ў заработках, хто змала
На родных гонях, як пчала,
Да ночы ў працы кожны дзень.
Гукнеш — брывом не павядзе.
Каму цяпер у галаве
Вяртацца ў той жахлівы век!
Сябры жартуюць: «Ты ж гэнак,
Дык і пішы пра гэнакоў.
Яны ў Літве спакон вякоў
Больш налягалі на пяршак.
А шляхта...»
Годзе, у Барку
Быў і пяршак, але ў каго?
У тых, хто ўдосталь меў свайго
І на чужым нагрэў руку.
Як Скрыль, які ў сваім млыне
За панскім ладам чорта з'еў
На розных хітрыках, пасля
І пас, і млын, і шляхту кляў.
Ды мне, прызнацца, цікавей
Пісаць пра буру, сухавей,
Чым пра такога гэнака.

Мой сябра ў Вільні адшукаў
Пісьмо сялян да Базыля.
Пісаў яго адзін паляк
З мужыцкім прозвішчам — Саха.
Князь, пэўна, злосна уздыхаў,
Біў кулаком аб стол, калі
Чытаў пры свечках крэмзалі
Асілка гэтага, бо знаў:
Шырокай будзе баразна.
Саха пісаў: «Фундуй імшу,
Я гэны скрыпт крывёй пішу.
За што ты знішчыў каваля?
Успомні, хто накастыляў
Тваім пахолкам ля Панар.
Пі ад прастуды шкіпінар
І не чапляйся да людзей,
Бо зноў вам, гады, пападзе.
Клянуся богам, будзе гром!
Рэж, бі, сячы нас тапаром —
Кароль — паўстанцам не указ.
Знімай і ты з рахункаў нас.
Час набліжае твой канец:
У лесе зловім — і амбец!»
...Князь склікаў варту: «Мой загад
Вас не датычыўся, відаць.
Дык на які, скажыце, ляд
Мне вас карміць і апранаць?
Хто быў за рэчкай у сялян?
Мой новы конюх Амялян?
У лёх, паршыўца, на ваду!
Я не дарую! Хай гніе,
Калі з Сахой там піў і еў...—
«Ён хворы, княжа, пашкадуй,—
Сказаў юнак у галунах.—
Гнеў не дарадчык у бядзе.
Хто з нас у лёху не сядзеў?
Спярша людзей адольваў страх,
А потым...» — «Хопіць! Скінь мундзір.
Не падыходзіць ён табе,
Пампэш з рубцамі на гарбе...
Я не цярплю такіх задзір! —
Рвануўся князь і пабялеў:
— Ты што? З рапірай — на мяне?!
Ідзі адсюль, разбойнік, прэч!..

Эй, што за ліха! Дзе мой меч?
Мо ты падкажаш, есаул?» —
Князь зноў падбег да юнака,
Але адказу не чакаў,
Бо са двара данёсся гул:
«Казакі едуць! Караву-ул!..»
«Вазьмі мундзір!» — сказаў юнак.
«Чакай. Там — бунт. Навошта ж так... —
Князь не крычаў ужо, а ныў.—
Хіба я вораг вам, паны?
Хто хоча піць — прашу за стол.
Тарчу за ім адзін, як кол...
Эй, пакаёвы! Дай віна!..
Чаго марудзіш, сатана?» —
«Ваш пакаёвы пад сталом.
А мы вам, княжа, б'ём чалом.
Цэ я сказаў!» — гукнуў юнак.

О, гэта горды быў казак!
Такія сокалы тады
З налёту бралі гарады —
За крыўды помсцілі панам.
Князь ледзь ад страху не сканаў,
Калі з галёканнем і свістам
Усе яго кавалерысты —
Краса наёмнай стражы ў замку,
Не выбіраючы напрамку,
Скакалі ў лес за есаулам.

. . . . . . . . . . . . . . .

Непаваротлівы, як шула,
Кароль ледзь выбраўся з карэты.
«Я ненадоўга,— буркнуў князю.—
Тут у цябе, мой пане, Азія...
Але мой клопат не аб гэтым.
Вы, Радзівілы — ашуканцы...»
Базыль збялеў: «Хто вам даў права...» —
«Я меў на ўвазе Багуслава.
Яго Тракай — другая Францыя.
А нас, прабач мне, прадае.
Я там вячэры не даеў,—
З дакорам выдыхнуў кароль.—
Князь дагаджаў не мне, а шведам.
Адзін за мной цягаўся следам,

Знаў, д'ябал, водзыў і пароль».—
«Арыштавалі б прайдзісвета!» —
«Я не дурны. Запомні гэта.
Швед атрымае павышэнне
З маім загадам у кішэні:
Трымаць на воку Багуслава.
На здрадзе не здабудзе славы».—
«Амін! — сказаў Базыль панура.—
Сам у пятлю залез, прыдурак.
А вы стаміліся, папэўна?
Прашу ў палац. Ён ваш сягоння...»

. . . . . . . . . . . . . . .

«Эй, мужыкі, куды вас гоняць? —
Саха, насупіўшыся гнеўна,
З канём урэзаўся ў калону.—
Вы што, глухія?
Нас — мільёны!
А гэтых,— ён кіўнуў на стражу,—
Не набярэцца і на сажань.
Смерць іх чакае на Палессі.
Душыце гадаў — і за Веснядзь!» —
«З дарогі, хам!» — звярыным басам
Зароў вайсковец у лампасах
І... распасцёрся як цяцера.
Саха ўздыхнуў, абцёр сякеру,
Не ўпершыню яна ў рабоце.
З сякерай гэтай у пяхоце
Палескі лях служыў калісьці.
А сёння бор ад шляхты чысціць,
Увесь напружаны, рашучы.
Райтары, збіўшыся ля кручы,
Больш сонца яснага не ўгледзяць!
Цыган спусціў на іх мядзведзя.
Падняўся гвалт. Як сом у бучы,
Пад кустом біўся ваявода.
Лёс звёў яго з лясным народам
Пасля папойкі ў Радзівіла.
Чэрнь, хто чым мог, вяльможу біла.
Ён, гэты пан, ад родных гоняў
Гнаў белых русаў у няволю.
І раптам — на табе — засада!
Пан уставаў на ногі, падаў,
Прасіў спагады ў атамана.

Той на яго з пагардай глянуў
І паскакаў на пераправу.

. . . . . . . . . . .

«Рэч Паспалітая, Варшава...
А тут, шаноўныя, граніца! —
Грымеў Базыль на ўсё застолле.—
Зямлю давай сялянам, волю...
Паўстанцы нават у капліцах
Райтараў вешаюць за ногі.
Наш край на рыцараў убогі.
Клянуся гербам!» —
«Верым, пану!»
Князь спадылба зірнуў у покут:
«А, гэта ты, мой лоўчы Мокат.
Пі, еш маё! Хлусіць не стану,
Я за табой, як за сцяною.
Дзяржава наша — куча гною...»
Падняўся ксёндз: «Мы гэта чулі.
Так гаварыў Саха галоце.
Ды пашкадуй хоць, пане, круля.
Ён, нібы той гладыш на плоце,
Лавіў тады у замку рэха.
Пасля заходзіўся ад смеху:
Яму здавалася, што хлопы
З усіх сяліб ляцяць галопам
Над намі тут чыніць расправу.
Ці не пара зрабіць аблаву,
Саха якраз сягоння дома.
Мне гэта з раніцы вядома...»

## КНЯЗЕЎСКАЯ ЛАСКА

Гарэў Апчак. Саха раздзеты
Рвануўся ў поле. Але дзе там!
Дзве сотні коннікаў — сцяною.
Каб хоць была якая зброя.
І казакоў як ветрам здзьмула.
А можа...
«Слухай ты, хамула!
Вазьмі у Моката сякеру.
Я на табе свой меч праверу».—
Князь злез з каня, паправіў латы.

Саха маўчаў. Яму здалося,
Што гэта сон.
«Князь чэка, просім! —
Гулі паны.— Не псуй нам свята».—
«Не сапсуе. Даю вам слова!
Ён паядыншчык адмысловы,—
Загрукацеў, як бубен, Мокат.—
Саха! Казакі! Чуеш цокат?
Лаві тапор — ды з богам, браце!
Князь нам за ўсё цяпер заплаціць.
А вы... Назад, назад, панове,
Бо на шматкі усіх пакроім!..»

Князь скамянеў. Паляна, коні —
Усё кружылася, гудзела.
А ён адзін як на далоні
Стаяў з мячом пад нечым целам,
Сам, як мярцвяк, глухі, здранцвелы.
А потым ноч, агні ў палацы,
Ксёндз з панам богам над душою...
Кароль не дурань, мае рацыю:
Народ не дасць панам спакою,
За тых сялян, што ў бітвах палі,
Другія ў строй сягоння сталі...

Князь засланіў рукамі вочы.
Зноў ксёндз тарчыць! Чаго ён хоча?
Няўжо ён можа даць збавенне,
Мярзотнік гэты, адшчапенец?
Хай спавядае ахмістрыню.
Каб меней шарыла па скрынях.
Князь будзе жыць! Стальныя латы
Яго ад смерці ўратавалі.
А шляхту хлопы даканалі.
Базыль адзін прыпоўз дахаты.

Ёсць у архівах напамінак.
І пра Саху. Яго ля Піны
Праз год ці два паны забілі.
Цыган на ўзмыленай кабыле
Скакаў адтуль на дапамогу,
Ды не застаў, сакол, нікога —
Па Апчаку снавалі шведы.
Цыган стаіўся. Ён не ведаў,

Як гаварыць з такім народам.
Пасля цішком паўз агароды
Махнуў ляшчэўнікам у поле,
Схаваў пад стог сядло, пістолі
І павярнуў назад у вёску.
Бабулька нейкая ў абносках
Яго заклікала ў гуменца:
«Я тут жыву. Нас чужаземцы
І за людзей ужо не лічаць.
Гэр, гэр — ды ў хлеў на допыт клічуць.
Князь супраць іх — гусак у шпорах,
Хоць мы і з ім зазналі гора...» —
«А за каго яны?» —
«Не знаю.
Дарога тут, сынок, скразная.
Каму не церпіцца — той лезе,
Хто ў аксаміце, хто ў жалезе.
У наша панства нажывацца.
Саха казаў...» —
«Яго забілі».—
«А-ёй, а быў жа ў самай сіле.
Ты, мусіць, хлусіш. Не баяцца
Такія волаты уразы.
Мы б тут загінулі адразу,
Каб не было яго на свеце.
Хоць не кажы пра гэта дзецям,—
Шапнула сцішана старая.—
Бог ім і так не патурае.
Мае аж з той зімы у прочках,
Сярод начы ў адных сарочках
З агню у пушчу сiганулі...»

Цыган падзякаваў бабулі
І павярнуў назад у поле.
Дзе мужыкі? Няўжо ў няволі?
З агню ў агонь патрапіў бача.
Пасколіў дождж, а ён, панылы,
Ля стога тузаўся з кабылай —
Ніяк не мог ёй растлумачыць
Ні ядлаўчынаю, ні хлебам,
Што не стаяць, а ехаць трэба.

Затое князь не падаў духам.
Ішла вайна, а ён, псяюха,

Як вуж, выкручваўся ад смерці.
Старыя праўду гаварылі:
Паны абачлівыя, чэрці!
Не іх, а хлопаў шведы білі.
Князь Багуслаў не траціў часу —
Вёў іх паспешліва ў сталіцу.
Базыль хлеб-соллю на граніцы
Сустрэў яго, пасля сам-насам
Дыхнуў у твар ахрыплым басам:
«Я атрымаў твой ліст — здаюся...» —
«А дзе браты?» —
«На службе ў круля...» —
«О, ты, Базыль, мяне расчуліў!
Выходзіць — я з раднёю б'юся,—
Князь Багуслаў насупіў бровы.—
Дух панаваў тут нездаровы:
Трон аддалі нахабным сасам.
А я ў Літве гібеў тым часам.
Паціху шкрэбаўся, як шашаль.
Але Варшава будзе наша.
Дзень гэты, браце, не далёка.
Карл, шведскі круль, юж тэго...
Ў Троках.
Ён наш цяпер і друг і ўладца».

У Базыля апалі рукі,
Ён пажаўцеў, сагнуўся крукам.
«Гэ! — Багуслаў пачаў смяяцца.—
Табе не сорамна? О, рэты!
З мяне сарвалі б эпалеты,
Калі б заўважылі такое...
А перад жонкай у пакоях
Ты нас варонамі пакажаш».—
«Я ўжо казаў: здаюся, княжа»,—
Замармытаў Базыль панура.
Маўклівы, змрочны па натуры.
Ён зноў прыжмурыўся на шведаў.
«Як на парад, паршыўцы, едуць!» —
Падумаў з гневам і трывогай;
Пасля пачаў маліцца богу:
Адчуў нутром — не будзе ладу.
Калі яны на карак сядуць,
Карл абадраў Літву да ніткі,—
Інакш адкуль у шведаў коні?

І Багуслаў сваё спагоніць.
Як зберагчы ад іх пажыткі?
На караля надзеі мала.
Варшава больш сеймікавала,
А ваяваць...

Базыль дадому
Вярнуўся стомлены, сярдзіты.
Страх зварухнуў яго свядомасць —
Князь завітаў у лес без світы,
Сабраў сялян: «Пара мірыцца...»

І памірыліся: дзён трыццаць
Трымалі князя ў цёмным склепе;
Сам гаварыў: «Мне з вамі лепей,
Адно не вешайце, бо шведы...» —
Князь кляў захопнікаў. Ён ведаў:
Баркоўцы іх паціху білі...
Хай Мокат лес на хату піліць.
І цыгану Базыль не вораг.
Куды ж ён знік? Відаць, у горах...
А князю шорнікі патрэбны,
Хоць у Барок прыплёўся ў зрэбным.
Бяда абрынулася потым
На неўгамонную галоту.
А ў тыя дні — чаго ўжо там! —
Князь раскашэліўся на храм,
Дык талакой масцілі пляц;
Пасля адгрукалі палац,
Вартоўню з вышкамі, чварак,
Хлявы для коней і сабак,
Прагналі з лесу беглы люд,
Каб не палохаў зверыны,
Князь, як малы, ў палацы ныў,
Калі яе не бачыў тут.

Жыць у Барку не кожны мог:
Пры ўездзе ў лес — бараці рог
Вісеў на плеценым шчыце.
Увесь Барок пад ім пацеў,
Каб людзі зналі, што і як.
О, гэта быў злавесны знак!
Князь зноў дружынаю аброс
І задзіраў высока нос:

Хто пеша тут ці на кані
Шукаў употай цішыні
Або збіраўся паляваць,
Мог і касцей не пазбіраць.
Князь пад гарачую руку
Сек беглых хлопаў на таку.
Барок ад жаху халадзеў.
Ды хто ж на князя нападзе?
Хто вырве з рук ягоных бат?
Страх не вылазіў з курных хат:
Князь тут дняваў і начаваў —
Абы далей ад свецкіх спраў;
Хадзіў, як смерд, без жупана
І смехам скардзіўся панам:
«Нічога я не ўпаляваў,
Пасля таго як шведскі круль
Паразганяў маіх казуль.
Куды ён ехаў? У Нясвіж».

Князь з Карлам бачыўся ў Туры,
Пасля з пагардай гаварыў:
«Не круль, а выскачка! Галыш!
З ім нават войска не было,
Дык шапкай мёў, як памялом,
Каб прапусціў яго далей...»
Паверым князю: ён не хлус.
Карл перад ім штанамі трос,
Хоць меў багата прывілей.
І жыць стараўся весялей.
Бо не салдат, а поўны воз
Віскліваых дзевак ён прывёз,
Каб князь-католік пакрысе
Ў сваім Барку не абрусеў...
Базыль — магнат жа як-ніяк! —
Воз перакінуў, ды ў чварак
Загнаў дароных сакатух;
Пасля, накінуўшы кажух,
Да ночы сноўдаў па бары.
А быў жа, кажуць, не стары,
Любіў жанчын, папойкі, шык.
Ён і з манашкамі грашыў,
Што прыязджалі ў Барок.
Тады ж, як быццам даў зарок
Менш слухаць пана караля.

А Карл у лесе настраляў
Гару аленяў і зуброў,
Даў князю глайт на сервітут
І паскакаў у Пястаў Груд[1]
З густых наднёманскіх дуброў.
Князь падкруціў аўсяны вус:
— Я падпішу з Масквой саюз.
Хай Карл выносіцца. Вось так! —
Сеў на каня, гукнуў сабак
І напрасткі памкнуўся ў Тур,
Што, як паношаны каптур,
Чарнеў за лесам на гары.
Князь абмінуў круты абрыў
З крыклівым птаствам у кустах
І сам, як злы, драпежны птах,
З каня саскочыў ля варот:
— Г-эй там, на вежы! Дзе народ?
Хто замкавы раскідаў мост?
— Твой шлях, разбойнік, на пагост!
— Хто гэта брэша?!.
Грымнуў стрэл.
З карэлых дзічак у падбел,
Што пнуўся з гліны ля муроў,
У перасохлы князеў роў
Зацерушылася лісцё.
А князь — мо веры не дасцё —
Стаяў раз'юшаны, як знаў:
Ля ног чарнела круцізна
З яршамі дроту на круках.
Тут абарваўся князеў шлях.
Даваяваўся, крывасмок!
Народ, як падлу, завалок
Яго на кладзішча паноў.
Там князь без слуг і цівуноў
Спачыў, забіты напавал.

. . . . . . . . . . . .

Пяць веж, сцяна, магутны вал —
Нямыя сведкі тых падзей.
Я сам не раз на іх глядзеў,
Пасля пытаўся у старых,
Быў бунт ці не тады ў Туры?

---

[1] Маецца на ўвазе горад Гнезна.

Адзін дзядок гудзе, што быў
Ды ўжо на памяць ён слабы,
Не помніць ні людзей, ні дат.
От, скажа нешта неўпапад,
Пасля спахопіцца: «Хлушу!..»
А замак моўчкі на шашу
Глядзіць праломамі байніц.
Што ім людская кругаверць!
Тут ля гармат таўклася смерць
На варце панскіх таямніц.
Я нават чую звон сякер,
Хоць мужыкі без іх цяпер
Па замку бродзяць, каб спазнаць,
Як тут жыла калісьці знаць.
Каго ж баяцца?
Ля байніц —
Гняздоўі галак-дамаўніц,
Быльнёг у нішах сонных веж.
Панам было не ў галаве,
Што замак рушыцца, як сон.

Вось князеў стол на сто персон
У бузіне каля сцяны.
Калісьці ён не меў цаны
Хмяліў і цешыў шляхту,
А зараз — выцвіў, палысеў,
Але не князь, а ён нясе
Ў былой цвярдыні вахту.
«Дубовы», — кажуць знатакі.
А дуб — лясоў украса,
На ім калышуцца вякі,
Таму і сам ён часам,
У вечнасць кінуўшы пагляд,
З лясной малечай поплеч
Чарнее, нібы той салдат
Пад кулямі ў акопе.
Дуб нават голы, без лісця
Над пушчай высіцца, як сцяг,
Увесь пасечаны ў баі.
Паны ўладарылі над ім,
Як над прыгонным кметам.
На сплаў зімой і летам,
Пад галгатню варон і соў,
Цягалі волакам з лясоў.

А ён цвярдзеў панам на злосць,
З гісторыяй сам-насам
Не паддаваўся часу...

. . . . . . . . . . . . . .

Трашчыць ламачча. З бузіны
На сцежку выплылі штаны,
Пасля — сухі, смяшлівы твар,
Не твар, а косці ды загар.
— Вы паляўнічы?
— Што вы! Знік
Фах гэты цалкам. А шкада...
Хто гэта думаў, хто гадаў,
Што ўсё сплыве у небыццё.
Скажу адкрыта: Я — Арцём...
З тых, пане, хлопаў, што ў Барку
Кару на хлеб сабе таўкуць.
А з жыта гоняць першачок.
Мяркуй, які я мужычок!
Мне нават сорамна. Вось так!
З кім маю гонар?
— Я — мастак...
— Дык намалюйце наш касцёл,
Я да касцей там рукі сцёр —
Паўвека бомкаў у званы.
Эх, і пяючыя ж яны!..
— Тут ці ў Барку?
— Вядома ж, там.
Тут, пане, мотлах, духата,
А там — жывы сасновы лес,
Увесь у шышках і смале!..—
Ён азірнуўся на шашу,
Зняў драбавік.— Бывае ж так:
Не жыў, а мучыўся, як рак...
— А зараз што?
— Не рань душу!
Сабакам сена тут кашу —
Пільную гэтыя муры...
Князь, кажуць, тут казну зарыў.
— Каторы?
— Многа іх было.
Адны ім білі тут чалом
І дагаджалі з веку ў век,
Другія, мілы чалавек,

Таўклі няшчадна, хто чым мог,
І пападаліся ў астрог
Або хаваліся ў бары...
Мой дзед і той не раз дурыў,
Лес карчаваў і шляхту сек...
Жыў тут яшчэ і нейкі Квек,
Кароль бяздомных цыганоў.
На лішнім хлебе у паноў
Быў ён з дваром сваім і мог
Арандаваць у замку лёх.
Для апазіцыі, відаць...
А каб з рыдлёўкай пашукаць,
Дык мо і ён тут што зарыў
На гэтай замкавай гары,—
Арцём прысеў на валуне
І раптам зноў загаварыў:
— Дзед быў зусім ужо стары,
Але казаў, бывала, мне,
Каб перад шляхтай не дрыжаў.
Расла яна як на дражджах,
А мы гібелі ў будане...
Ты не пішы, як не кране.
Я з ім, прызнацца, саграшыў:
Са зла спаліў будан тады,
Каб дзед не нудзіўся ў Барку.
І князю, думаў, дапяку.

Дым і агонь... агонь і дым.
На снег зірнеш — мае сляды...

Дзед церабіў ссівелы чуб:
«Пазёмка будзе... Дзе ж Арцём?
Не загубіце мне дзіцё!..
Бог дасць, паставім новы зруб.—
Ён затаптаў апоркам след.—
Папросім князя, мо за так
Падкіне лесу на барак».

За так не выйшла! Панскі свет
Быў цвінтаром для мужыка.
Князь нас нахабна ашукаў,
Хоць і змякчыўся напаслед.
Зруб мы паставілі, а дзед —

Не мог інакш ён, хоць забі!
Пакуль за лес той адрабіў
Спярша ў Барку, пасля ў Стаўках,
Дык і памёр у батраках...

Арцёму ўжо за шэсцьдзесят,
Але трымаецца, сакол,
Усё ж цяпер яго наўкол,
Куды б ні кінуў свой пагляд.
Дык на які ж, скажыце, ляд
Яму маліцца на касцёл?
Хлоп гэты крылы распасцёр.
Адчуў, дзе праўда, дзе мана,
На волю вырваўся з цямна!

## НЕЧАКАНЫЯ ГОСЦІ

Наш век не лёгкі на руку.
Ён даўся ў знакі мужыку
І на паноў маркотай лёг.
Ксёндз ціха моліцца, ды бог
Маўчыць, распяты на крыжы.
А ксёндз якраз бяду нажыў,
Зрабіў такі страшэнны грэх —
Пусціў цыганку на начлег.
З малым сядзіць яна ў куце.
Ксёндз блаславіць яе хацеў,
Зняў крыж, уклепчыць папрасіў,
Ды вецер свечку пагасіў...
«Не шэнціць нам,— загуў айцец.—
Спаткнуўся ўпоцьмах, і канец!
Памрэш няхрышчанай тады.
Гады, не тыя ўжо гады...»
А на яго ж вяку не раз
Агонь і так, без ветру, гас,
Калі трапляла пад руку...

Дзядзькі глядзелі за раку
На гаманлівы «ляцкі» храм
І закіпалі: «Волю б нам...»
Ксёндз не злаваў.
Ён ва Хрысце
Ад хлопскай лаянкі тлусцеў.

Хто ж мог крануць слугу нябёс,
Які людзям збавенне нёс?
Пастух касцельнай чарады
Не знаў раўні сабе тады.
Цяпер пакутуе, відаць,
Махнуў рукой на «благадаць»,
Што бог адмераў на прыход.
Выпісваў «Праўду» кожны год,
Сачыў за космасам і нат
Крычаў Гагарыну «Віват!»,
Пасля на хлебе і вадзе
Ксёндз у плябаніі сядзеў,—
Бо кардынал пужнуў старога,
Дык і заціх, як тхор пад стогам.
Мо ён ці знойдзе сернікі,
Стары, няўхожаны такі?

Цыганка ўстала:
«Мне пара...» —
«Куды? Я сам без ліхтара
Баюся вылезці адсюль.
Тут хто дужэйшы, той і круль.
Сядзела б ціха давідна.
Ты ж тут, здаецца, не адна.
І, можа, нават з тых персон,
Што валяр'янку п'юць на сон».—
«Я, патар, тут і шнапс піла...» —
«Ты нешта блытаеш, юла.
Зірні ў касцёле на сцяну.
Чые там прозвішчы? А ты
Баішся богавых святынь.
Я сам цяпер паноў кляну,—
Адсек вялебны,— бачыць бог,
Ноч будзе тая... Мой парог
Ад вашых лапцяў пачарнеў...
Пабудзь за шырмай у цямне.
Я гляну, хто там. Мо званар,
Дык пра зацішак і не мар.
Нядобры гэта чалавек.
Нап'ецца брагі — ды ў засек.
Я праз яго жыццю не рад.
Касцёл як выгараў з каляд,
Пашчу, замольваю грахі,
А мужыкі ні з-пад страхі...

Смакчу тут лапу, як мядзведзь.
А мог бы ўжо і «Волгу» мецъ.
Арцём... О, божа, гэта ж цуд,
Што мы яшчэ жывыя тут!..» —
«Ён — людаед? От маладзец!
Пазалаці руку, айцец!..
І званару я хабар дам»,—
Ксяндзу цыганка.
«От нуда! —
Айцец паскроб спатнелы плех.—
Асу пусціў я на начлег!
Званар і так не прападзе.
Чым ён тут жыў? Тым, што ўкрадзе!..
Што прывяло цябе ў Барок?
Твой пан Гарох ад нас уцёк.
Жыві дзе хочаш — не заб'юць.
І бацька твой, Панас Малюць,
Цяпер не гнуўся б ад турбот,
А весялеў бы з году ў год...
Маўчыш?» —
«Прыспічыць — закрычу...
Пан ксёндз ужо, напэўна, чуў:
Я — варажбітка, і канец!
Лес — мая хата, мой вянец...» —
«А мне здалося...— ксёндз устаў,
Зірнуў у покут на Хрыста
І па прывычцы зноў гудзе: —
Дзе ж той Арцём? Чаму не йдзе?
Эй, хто там ёсць? Лічу да трох!
Замкнуцца я на крук не мог,
Мой дом для ўсіх — зацішны скіт...» —
«У гэтым скіце жыў бандыт! —
Пачуўся з сенцаў нечы бас.—
Жыў і прыкідваўся святым,
А мы, разявіўшы раты,
Яго тут слухалі не раз».—
«Каго я чую! Апанас?! —
Ксёндз адхіпуўся ад сцяны.—
Ах ты, разбойнік! Сын маны!
Устаў з магілы і маўчыць!
Цяпер ты вечна будзеш жыць.
Хадзі бліжэй! Я звар'яцеў...
А ты сядзі там у куце
І без дазволу не вылазь!

Тут Апанасаў сын Адась
Аднекуль вырваўся да нас.
Ну кропля ў кроплю Апанас!
А быў жа дохлы, як шчыгол,
І лез пішчом у камсамол...
Скуль бог цябе сюды прынёс?
Ты ж пад вазамі ў пушчы рос,
А потым, кажуць, недзе знік...» —
«Чаму ж не знікнуць,
свет вялік,—
Падтакнуў хлопец светару.—
Звер,
той наровіць у нару,
А я перш-наперш чалавек.
Вы, колькі дужы, цэлы век
З набожных шкуру дзераце,
А я — зямлю араць хацеў.
Зямлю! Вы чуеце, айцец?
Ды ваш касцельны гадунец,
Засецкі выхрыст Леў Гарох,
Закратаваў мяне ў астрог.
Я ж замінаў яму ў бары,
А Леў такое тут тварыў...» —
«Пабойся бога, сын мой!
Досць!
Ты ж, гэта во... цяпер мой госць,—
З дакорам выдыхнуў святар.—
Лепш ты мяне аблай, удар,
Але з Гарохам не раўняй!
Я сам сабе тут старшыня,
Лепш не даводзь мяне да слёз.
Леў і мяне за грудзі трос.
Ты ж, пэўна, чуў, ён — уніят...» —
Адась прышчурыўся:
«Ваш бог
Не раз адседжваўся ў Барку.
Мо вы былі тады ў баку
Ад спраў ягоных, ваша чэсць?» —
«Ты не мяне,
а немцаў бэсць!
Яны жылі тут на мане.
Пры іх і Леў асатанеў.
Не, ён быў добры — я хлушу...
О, божа, збаў маю душу!

Я не даносчык і не кат...
Гарох і сам ужо не рад,
Што нам не знаў тады цаны.
А я баюся гаманы...»

Ксёндз утаропіўся ў акно,
Адвёў ад хлопца вочы.
Ляжала б справа пад сукном,
Ды бор і той шапоча:
«Ніхто былога не забыў,
Ніхто, ты чуеш, патар?..»
А можа, гэта галубы
Варкуюць каля хаты?
Якая дзікасць: люты страх
І галубы...
О, божа!
Бяда загнала іх пад дах
Ці заблудзілі, можа?
Аж смех, як быццам нейкі знак
Данёсся раптам з неба...
«Адась, падай мне андарак.
Ды ўжо не злуй, не трэба,—
Ксёндз зачыніўся на замок,
Занёс ліхтар на кухню.—
Не забывайся, галубок,
Што рыба з гловы цухне.
А глова гэтая цяпер...
Ды што казаць — маліся.
І дакажы, што ты не звер.
Ёсць хэнць —
за плуг бярыся...»
Адась прышчурыўся:
«Ваш бог
Заткнуў рукамі вушы.
А я не еў, валюся з ног
І быць пакорным мушу?
Кроў маіх продкаў...» —
«Не сярдуй,
Я сам шчыпаў тут лебяду,
А зараз, бачыш, маю сад
І ем свой хлеб, як селянін».—
«А як з грашмі? Вы ж не адзін...
Але няхай. Я нават рад
Пры свечках з вамі пасядзець,—

Заўважыў з'едліва юнак.—
Скажыце шчыра, без сабак,
Хто там варушыцца ў куце?
О, вы па-свецку жывяце!
Ксёндз — і жанчына! Не — дзяўчо!
Ну што ж, прывабнае плячо...
Мо і Гарох тут?
Мы б тады...
Што з вамі, ойча?» —
«Дай вады...
Я не суддзя вам, Апанас.
Усім баліць. Такі быў час».—
«Вы гэта мне?» —
«А-а-а-а, ты ж — Адась...
Павер, і я мясіў тут гразь —
Шукаў паселішча дзядоў,
Ды шмат мінула ўжо гадоў
З тае нядобрае пары,
А мне гестапаўцы ў Туры
Далі аўсвайску [1] на пагост.
Іх шэф спіхнуў мяне пад мост
І разрадзіў свой аўтамат.
Дык я кусту любому рад,—
Ксёндз выцер скроні.
Ён адчуў,
Што пацямнела уваччу,
Але ўздыхнуў ды зноў гудзе: —
Аж смех, дрыжу, як на судзе...
А там... у покуце... Эх ты!
Забылі край наш, як латынь.
Дзяўчына гэтая, сынок,
Усім нягоднікам папрок;
З вайны шукае тут кагось.
Нагаравалася нябось.
Хай бог паможа ёй...» —
«А вы?» —
«Мне гэты клопат з галавы
Знімае сан мой з году ў год...
А Леў... а божа, от гунцвод!
Няўжо ён мог цябе прадаць?
Не, мне такога не шкада,
Няхай адказвае, брыда!

---

[1] Аўсвайс — пропуск *(нямецк.)*.

Ну, што я больш магу сказаць?» —
Ксёндз апусціўся на услон,
Яго ад холаду трасло.
І злосць падсцёбвала айца.
Гарох —
паршывая аўца!
Ды ён жа недзе ў тым баку,
Дзе віскі рэкамі цякуць...

А як Адась, чым ён жыве?
Мо ўжо зазнаўся, распанеў?
Не, ён у бацьку, камуніст
І па сваіх намерах чыст.
Але няхай ідзе ў сяло,
Пакуль дарог не замяло.
Ксёндз працягнуў хлапцу руку:
«Цалуй!
У кухні на таку
Паспіш да рання.
Гэта раз.
А па-другое — мне ўжо час
Збіраць манаткі на імшу...
Агонь я, мусіць, пагашу».—
«Няхай гарыць, я заплачу!» —
«Гэ! Я нутром ужо адчуў,
Што ты, Адаська, пры грашах.
А ў гэтай... золата ў вушах.
Ды ўсё ж панудзьцеся ў цямне.
Так будзе лепш і вам і мне...»

## АПОШНЯЯ СПРОБА

Час не пытае, хто ты,
Чаму жывеш нязкладна.
Спярша падніме, потым
У крук сагне уладна
І строга нагадае
Пра кожны твой учынак...
Ледзь чутна ападае
Пажоўклы ліст з асінак,
Што абляпілі кручу
Ў Туры каля атэля.
Заняўся надвячорак:

Ці ўсё зрабіць паспею?
Адась — дакор бандытам.
І мне, прызнацца, дзіўна,
Што Скрыль яшчэ адкрыта
Красуецца, як грыўна.
Музейны звоп камусьці,
Напэўна, цешыў вушы.
А ён цішком у кусце
Свае куфры варушыць.
Згніло дабро у ямах,
Буцвее хата ў зеллі,
І сад яго таксама
Даўно ўжо чэрві з'елі.
А гаспадар, як кажуць,
На кожным скрыжаванні
Хоць бубачку, ды спляжыць
І нас, дзе можа, ганіць.
А прыпячэ — з абрэзам
На шлях апоўнач выйдзе.
Яшчэ ж не ўсіх пабіў ён,
Не ўсіх парэзаў, злыдзень...

Шуміць над Весняддзю трысцё.
Ксёндз Бенядзікт замкнуў касцёл,
Схаваў адмычку пад парог.
Ад стомы ўжо не чуў ён ног,
Але стрымаўся, не прылёг,
Бо мусіў бегчы у Барок
На свой касцельны хутарок.
Як там Адась? Спіць на таку
Ці пацягнуўся на раку?
А можа, ссунуўшы сталы,
Гуляе ў хованкі з малым?
Скрыль ад яго збяжыць, як лось.
Шукаць ён будзе тут кагось
Не пад сталамі, а ў бары.
Дарэмна ксёндз хлапца карыў...
Не, не дарэмна — бачыць бог,
Ён Адася перасцярог...
Тут дні спакойна пацякуць,
Калі Гарохавы дружкі
Ў ксяндза яго не засякуць.
Ксёндз пазнаваў іх па хадзе.
А сёння сам бачком ідзе,

За вёскай сочыць ён здалёк;
Каля ракі убавіў крок...
Сапсеў, скруціўся пан Гарох.
Ксёндз праз яго і занямог —
Звер вырас з гэтае брыды.
А ксёндз хваліў яго заўжды
І нават часам у Барок,
Як барана, сілком валок.
Даў бог такога дзецюка!
Гарох быў сынам бедняка,
Рос на нішчымніцы змала
Ў хляўку на ўскраіне сяла,
А на паноў не наракаў...
«А што паны? — Ён моршчыў лоб.—
Без іх парадку не было б.
Гнілі б, як той апалы ліст.
Тут дзе ні сунься — камуніст...»

Хварэў на пана гэты хлоп
І пад сябе, напэўна, гроб,
Бо не спяшаўся ў парабкі.
Чым не знаходка хлоп такі?
От каб далі яму надзел
Ці млын з вальцоўкай на вадзе,
Як у Мікодыма Скрыля...
Ды Леў за дзеўкамі страляў
І толькі з трэбнікам за трох
Брахаць людзям пра бога мог...

Знаў ксёндз — гадуецца ліса!
І завіляў аднойчы сам,
Ялейным голасам заныў:
«Цябе пакрыўдзілі паны?
Не? Дык рабі рашучы крок:
Мяняй рэлігію, сынок».—
«Што я — вар'ят?» —
«Ліпіш ты ледзь
І хочаш, пэўна, нешта мець.
А галава, як у папа:
Бог толькі вушы прыкляпаў,
А розум іншаму панёс...
Вышэй, вышэй, васпане, нос!
Табе паможа наш касцёл».—
«Ага! А што вы мне дасцё?..» —

«Сам пойдзеш з кайстрай у народ,
Там — твае грошы, твой прыход.
Што бог пашле, на тым і стой
Пад сцягам уніі святой!..»
У дужках скажам: ксёндз хлусіў.
Народ каменны на Русі,
І асабліва ля Тура,
Хто ленаваўся, не араў,
Той хвігі ў кайстру сабіраў.

Русь наша — Белая,
Да працы ўмелая.
А песні пела як!
Замры, касцёл!
Паны кінжаламі
Яе кінжалілі,
За песні звонкія
Ў турме тыранілі,
Таптала ботамі — і на касцёр.
Шугала полымя
Не раз пад сёламі...
Русь горка плакала;
Худая, голая
У жэбры дальнія
Шляхамі крочыла,
Ды не скарылася,
У ноч не збочыла.
І песня з песняю
Парою веснаю
Зноў сустракалася
Ў барах над Нёманам,
Дубы галлістыя
І сосны гонкія
Ім ціха ўторылі
Птушыным гоманам...

Леў быў ужо амаль дзячком,
Калі з Тура яго дручком
Маліцца выгналі ў Барок.
Святы дзяцюк тады прамок
І доўга хыраў на палку:
«Я ім, паршыўцам, дапяку!..» —
«Ты падлячыся, пі палын.
Я за цябе падскочу ў млын

І пагляджу, дзе той злы дух,
Што супраць нас пачаў тут рух.
А як завуць яго?» —
«Панас...» —
«Душа людская — цёмны ляс!
Як Скрыль яго служыць напяў?
От як звядзе з двара каня...» —
«Каня? Нашто Панасу конь?
Ён за камунію ў агонь
Працёпам лезе, гэты зух...» —
«Што ж, будзем біцца з ім удвух»,—
Ксёндз браў з паліцы капялюш
І асцярожненька, як вуж.
Віляў па кладках да Скрыля.

Скрыль для палякаў быў паляк
Для беларусаў — беларус.
І ўсім тлумачыў, што прымус —
Зло не вялікае ў жыцці.
Ён зваў пакорліва ісці
З душою сытага крата.
Гарох і той зарагатаў,
Калі дачуўся ад людзей,
Што Скрыль не моліцца нідзе:
Ён, шапку зняўшы, на стагі
Свае маліўся на палях.

«Пан ёсць сапраўдны рускі лях,—
Казаў яму не раз айцец.—
З такім не грэх і пад вянец.
Магу быць сватам...»
Скрыль маўчаў.
Або сярдзіта сек з пляча:
«Адстаньце, ойча!
Я — манах,
Хоць і хаджу яшчэ ў штанах,
Абшытых хромам для красы...»
Ксёндз пераходзіў на басы:
«Жартуеш, пане мой? Ну што ж,
Глядзі, каб часам без калош
Не драпануў адсюль у лес...»
А ў той нядобры дзень шапнуў:
«Каму ты млын свой адамкнуў?!.
Хлоп да мяне адзін прылез,

Увесь калоціцца: «Заб'юць!..»
А хто заб'е? Панас Малюць».—
«А хлоп той хто? Мо Леў Гарох,
Дык я тут, ойча, прыбярог
Вядро памыяў для яго...» —
«Цямніш ты, смерд! Пасля бягом
Памкнешся ў поле па братоў,
Ды я, прызнацца, не гатоў
Быць у прахвостаў панятым...
Лепш супакойся, пан, на тым,
Што зараз маем, і амін!»

Дамоў ксёндз ехаў на кані
Ў Скрылёвай барме з барсука,
Мех спелых груш з сабою вёз.
А Скрыль, расчулены да слёз,
На млынара свайго гукаў:
«Крапеш Гароха — задушу!..»
Млынар маўчаў. Яго душу
Гарох нягоднікам прадаў.
І сам прадаўся. А шкада,
Таксама ж быў не вельмі пан,
Перш чым прыняў духоўны сан...

Пан ксёндз даўно не маладзён.
Відаць, міне нямала дзён,
Пакуль ён выцісне з сябе,
Чаму Гарох за Эльбу збег
Не пры панах, а ў тыя дні,
Калі бальшак ужо дудніў
Каля асадніцкіх кватэр
Ад недабітых тых «пантэр»...
...Ксёндз уздыхнуў, паслабіў пас.
Прайшлі гады, але Панас
Не хутка выйдзе з галавы.
От злодзей! З кожным быў на «вы»,
Але не гнуўся, не юліў,
Хоць сам казаў — грахі былі...
«А мы...— ксёндз плюнуў.— Так і ёсць,
Заела нас дурная злосць...» —
«Вы загніліся з галавы!» —
Крычаў тады млынар панам.
І не баяўся ж, сатана!..
Скрыль тут касіў з ім паплавы

І на хаду бурчаў пад нос:
«Шырэй, шырэй бяры пракос!..» —
«Вазьму! — Панас мянціў касу.—
Калі ў касцёл не занясуць.
Карчоў тут процьма, а харчы —
Хоць лезь пад воз і гвалт крычы».—
«Чаго ж крычаць? — адвільваў Скрыль.—
Ты лепш пятлю сабе намыль...
Паходзіш з лыжкай ля гаршка
І падрасцеш на паўвяршка,
Калі не будзеш да яды
Сланяцца з брэднем ля вады».—
«Там больш яды і розных траў...» —
«А мне здалося — маладзіц.
Яны ўсё лета без спадніц
Таўкуцца гуртам ля куста,—
Удакладняў сярдзіта Скрыль.—
Я ўжо не рад, што ты бабыль.
Жаніся. Хопіць з-за кабет
У рэчку лазіць па абед».—
«Мне Ната варыць...» —
«Дык глядзі.
Каб бруха ёй не нахадзіў».

Панас — задзірысты ж, сакол,—
Нясхільны быў на «кампраміс».
А Скрыль выкручваўся, як ліс,
Уткнуўшы нос у частакол.
Не ўсё ён знаў пра Малюця,
Блукаў за ім без мэты.
Панас шляхі яму адцяў
Да шмат якіх сакрэтаў.
А быў бязмозглы, як бязмен.—
Так гаварылі ў лесе.
Паны не любяць перамен.
А ён праз кожны месяц
Мяняў кірунак у сваіх
Незразумелых планах.
Скрыль называў блазенствам іх,
А хлопа — шарлатанам,
Пакуль аднойчы не заспеў
З лістоўкамі ў дуброве.
Панас чытаў іх нараспеў
На беларускай мове.

Каму? Завознікам з млына.
І хоць бы хто ўтрапёны
Гукнуў, што гэта грэх, мана,—
Маўчалі, пустагоны!
Скрыль сем кучомак налічыў —
Карцела ж чалавеку! —
Ды ўсе паспелі уцячы,
Адчуўшы небяспеку.
На сцежцы толькі Апанас
Спыніўся на хвіліну:
«Шпіёніш?..» —
«Я не выдам вас»,—
Скрыль выламаў лазіну,
Пасля шпурнуў яе ў кусты
І закрычаў у гневе:
— Вар'яты! Свет вам апастыў!
А я, таўкач, ніц не вем,
Не знаю, значыцца. Вось так!» —
Ён павярнуў на хутар.
Блішчасты, гладкі, як пятак,
Увесь заця̄ўся люта...

Стаяла ціш — хоць закрычы!
У лозах нудзілі драчы,
Аплакваючы лета.
Панас, пазбыўшыся трывог,
Касіў за трох з ахвоты.
Скрыль не адстаў — разбіў мурог,
Абуў пад возам боты
І ў жоўтых брыджах, як паніч,
Па лузе гойсаў на кані,
Касцоў прыспешваў. Быў разон:
Рук не хапала на сезон —
Травіў цялятамі канцы
Аж недзе там, у едлаўцы,
Што чах на ўзгорках ля Тура.
А колькі поля Скрыль араў!
Ён тут паціху, як павук,
Увесь абшар прыбраў да рук:
Дзе за гатоўку, дзе за так,
Як апякун або прымак.
Касцы тады амаль штодня
Гулі на хлопскай мове:
«Бог дасць, і ўся яго радня

Аперыцца, панове.
Пілсудскі — кол яму пад бок! —
Даў бандзюкам патолю...»
А Скрыль як быццам бы знарок
Сваю паганіў долю:
«Пан войт рукі мне не падаў,
А вы: «Патолі многа».
Мне вас, гаротнікаў, шкада.
Лепш з берага крутога...» —
Ён азіраўся на раку,
Крывіўся, чмыхаў носам.
Казалі ж, снілася граку
Насеянае проса...
...Ксёндз утаропіўся на млын.
Скрыль там ужо адзін жыве,
А дом — па вокны у траве,
І сам ён шэры, як палын...
Жыццё размыла берагі,
Скрыль сам раздаў свае маргі.
«Каму?» — спыталі б «бедака».
Сястры, бліжэйшым сваякам.
І апранаўся ж абы-як,
Нібыта ён і не кулак.
От, жыў над рэчкай селянін,
Хоць на таргі яго гані:
Нікога пальцам не кране.

«О, Скрыль парадаваў мяне!..» —
Ксёндз паглядзеў на свой убор.
Касцёл, канечне, не сабор.
Тут, грэх узяўшы на душу,
Служыў, бы ў лапцях, ён імшу.
Бог не пакрыўдзіўся б. Чаго?
Ўсе прыбядняліся кругом,
Калі пачаўся новы лад.
Ксёндз і пра ўцёкі думаў нат.
Аднак, прабачце, ён — святар,
Пастух распуджаных атар.
З вайны, як схімнік,
рад не рад,
Снаваў вакол сялянскіх хат.
Ксёндз сам сабе ужо не люб.
Каму патрэбны ён стары?
Хто з ім сур'ёзна гаварыў?

У кожнай вёсцы — школа, клуб,
У хатах радыё трашчыць...
І Скрыль,
як прывід, у плашчы
Ля хлопаў трэцца дзень і ноч.
Ксёндз пазбягаў ягоных воч.
Ён і сягоння пойдзе ўброд,
Каб не натрапіць на яго
Каля млына або ў Стаўках.
Скрыль і з абрэзам у руках
Не раз выходзіў на шашу,
Ды бог збярог яго душу...
Крапеш — злуецца: «Слухай, ты!
Я быў апорай беднаты.
А зараз, бачыш, брыгадзір.
Менш, братка,
Слухайся задзір...»
Зноў, значыць, вырулі́ў з млына
Ў абшытых скураю штанах
«Інтэрас» свой цішком рабіць.
Усіх абгопіць, чорт рабы!..
Не, млын забралі ў камбінат,
Дык Скрыль цяпер і жорнам рад.
Было б, як кажуць, што малоць.
Ксёндз гаварыў яму:
«Не шкодзь.
Ці варта нам дражніць гусей?
Дзе трэба зло —
дабро пасей!..
Ты гэта мусіш зразумець,
Інакш звякуеш у турме...»
Скрыля праняў халодны пот:
Ксёндз Бенядзікт не першы год
Нахабна кроў яму псуе.
Ці не здурнеў ён пад канец?
Няпэўны ў бога пасланец.
Ксёндз сам пазіцыі здае
І пад Скрыля, баўдзель рабы,
Гатоў ужо кліны падбіць.

...Вось-вось абед.
Плябан сядзіць
На пенчуку каля ракі
І ўсё яшчэ на млын глядзіць.

Скрыль, пэўна, дома, бо гракі
Крычаць — турнуў іх, баламут.
Ксёндз іх не бачыць.
Ён прастыў,
Пакуль змываў у рэчцы бруд,
Па плех схаваўшыся ў кусты.
Аж брыдка ўспомніць: ад Скрыля
Ён драпаў з рэчкі на румок.
А сёння зранку след мыляў,
Да пупа ў Веснядзі намок,
Але нікуды не бяжыць,
Бо колькі б ён ні джгаў бягом —
З вачэй спадаюць міражы
З утульным скітам для яго...
Арцём... Арцём яшчэ жывы.
Ён на ксяндза як гляне —
Хай дождж ідзе, хай гром грыміць —
Ксёндз тут жа, на паляне,
Пачне паклоны адбіваць,
Спашлецца на Езуса.
Хто ж, як не Езус, дапамог
У горы беларусам?
Свая дзяржава, свой урад,
Свае заводы нават...
Ксёндз пераменам гэтым рад,
Хоць для яго Варшава
Мілей за ціхі хутарок
У беларускім лесе.
І не дарэмна ж ксёндз прамок,
Цікуючы за Веснядзь...

Арцём сівы падкруціць вус,
Прыжмурыцца і скажа:
«А хто казаў, што Беларусь —
Край бедны, нехлямяжы?
Ксёндз, пэўна, слухаў Ватыкан?..» —
«Я ўжо глухі, Арцёмка».—
«Ну што ж, не буду дакараць.
Ляжачых біць няёмка...»
Арцёму больш за шэсцьдзесят,
Але як дуб здаровы.
Такіх не зломіш, не сагнеш,
Не выжывеш з дубровы...

## ГОРКІЯ ТРАВЫ

Лятуць на поўдзень журавы,
Мінаюць вёскі, гарады.
Пажоўк на сцежках баравых
Чабор, адчуўшы халады.
А ў кузнях — гоман.
Край лясны
Не паддаецца сцюжы,
І журавы аж да вясны
Па ім у прочках тужаць...

Быў і ў Гароха свой парог,
Сваё гняздо з надзелам,
Ды вока прагнае яго
У іншы бок глядзела.
Але прыстаў яго канёк,
Ледзь-ледзь жывы за Эльбай.
Там азвярэлы уніят
Не пойдзе ў бор са стрэльбай.
А ў Налібоках ён хадзіў
І пнуўся ў дэмакраты.
Адыдзе з хлопцамі ў цянёк
Пад дубам ці ля хаты,
Прыгнецца і балбоча:
«За мной, здаецца, сочаць.
Адчулі, гады, што ў Туры
Ёсць змагары таксама.
Хто лезе ўгору, хто з гары.
А я, прызнацца, прама
Туды, дзе сонца не пячэ
І квецені багата...
Вось вам аўсвайсы — і хутчэй
Змывайцеся дахаты.
Аблава будзе. Вам не страх?
І я не вельмі трушу —
Перасяджу бяду ў кустах
Ды зноў на службу рушу.
Але навошта, спадары,
Дарэмна гінуць без пары?
Хто гэтым... рукі звяжа,
Калі касцьмі тут ляжам?»
Хлапцы маўчалі: іх зямляк
Любіў рабіць намёкі.

Ён спачуваў ім. Але як?
Бы той сваяк далёкі:
Адных да ніткі абіраў
І падбіваў на здраду.
Другіх, сустрэўшы ля Тура,
Вёў прама на засаду.

«Далёка пойдзе гэты хват,—
Гулі, сабраўшыся ля хат,
Прыціхлыя туране.—
Павесіць мала draня...» —
«Ну-ну, не трэба так, паны,
Такім ксяндзам няма цаны.
Зірніце, колькі фрыцаў
Каля яго капліцы!..» —
«Там не капліца. Крыж знялі.
Затое дзевак прывялі,
Такіх... у самай сіле».—
«А колькі іх пабілі...» —
«Вы, мусіць, п'яныя, панове.
Хто мае час — прашу на споведзь,—
Ксёндз Бенядзікт з каменным тварам
Сігаў на модлы тратуарам.
Ён забіраў з сабой набожных:
— Хіба брахаць такое можна?..»

Былі баі. Быў Сталінград.
Як жыць? Скрылю — загадкі!..
Гарох выкручваўся, як гад,
Кляў новыя парадкі,
Аднак за фрыцаў — як гара,
Стаяў «сухі» і п'яны,
Хоць кожны тыдзень набіваў
Тугія чамаданы.
Ён разапсеў-такі ушчэнт.
Да ўсіх чапляўся: «Айн мамэнт!
Прашу, каханенькі, ва ўправу...»
Там пачыналася расправа —
Леў «выціскаў» з няшчасных факты
Пісаў на іх даносы, акты;
Куш аддаваў на шнапс і дзевак,
А дзевак — з ходу ў Калдычэва.
А Калдычэва — лагер смерці,
Адтуль не вернуцца ўжо — верць.

Ксёндз гэта ведаў. Ён аднойчы
Свяцціў вартоўні ў Калдычэве
І бачыў, як адзін малойчык
Сек Малюцеву Гэлю ў гневе.
Ксёндз спрабаваў суцішыць звера,
Але ў адказ пачуў праклёны
І з тварам белым, як папера,
Схаваўся ціха за іконы.
Два паліцаі іх трымалі.
Без шапак. Шэрыя ад злосці.
Яны ксяндза не папракалі,
І ён маўчаў, як на пагосце.
За крок ад іх стаяў Гарох,
Саскочыўшы з машыны.
Але ксяндзу ён не памог,
А вылаяў чын чынам.
«Чаго ты лезеш не ў сваё? —
Цадзіў ён ненавісна.—
Мы тут пасад сабе куём.
Высокі, непахісны.
Ідзі дадому!..» —
«А дзяўчо?
Яна ж памрэ ў няволі».—
«Хай тут пад розгамі з плачам
Чакае лепшай долі.
Так, патар, трэба. Новы лад
Трымаецца на сіле.
А кулі гэткіх дзеўчанят
Нас напавал касілі.
Ты разумееш?..»
Ксёндз прыціх,
Хоць не прывык карыцца.
Тут ён ад прынцыпаў сваіх
Не мог не адступіцца:
Гарох — яго была пара —
Каго хацеў, таго караў;
Брахаў, сабака, але меў
У немцаў паслуханне...
Ён да канца вайны грымеў
З амбону, ашуканец:
«Клянуся! Унія свой сцяг
Схіляе перад тымі,
Хто, не шкадуючы жыцця,
Спрыяе нам, Радзіме».

...А дзеўчанё — як на агні.
Леў — стражніку ў стадоле:
«У кут, у кут яе цягні!
Мне камендант дазволіў...»

...Цвінтар, пажоўклае лісцё.
Ксёндз моршчыць лоб свой медны.
Шмат хлопскіх жонак і сясцёр
Загінула бясследна.
А скуль жа гэта дзеўчанё,
З якой магілы ўстала?
Ці, можа, гэта сон, зданнё?
Ксёндз брыў дамоў памалу,
Брыў, хоць, здавалася, ўпадзе —
Так учарнеў за ранне.
Дзе ж ён свой брыль, дзе кульбу дзеў?
Аб што нагу параніў?
А-а, гэта, пэўна, асака
Ўпякла, і да відзэння!..
Ксёндз басанож па ёй блукаў,
Збіраючы адзенне.
А гэты ж, як яго, Гарох,
І ў вус не дзьме, канечне,
Ён без сандаляў і панчох
У куст не суне клешні.
Леў і за Эльбай не зачах
Пад сцягам Ватыкана:
То ён «пасол», то ён манах,
Захутаны ў сутану,
То сувязны правадыра
Прадажнай нейкай рады.
І бог яго не пакараў!..
Стары апостал здрады
Пляце даносы на братоў,
На бацьку вострыць зубы...
Ён зноў душыць людзей гатоў...
Ксёндз сеў пад нечым зрубам.
Зямля, настылая за ноч,
Пякла старыя ногі,
Бо прывучаў іх да цяпла.
Ксёндз рызыкуе многім,
Мо нават зваліцца ў пасцель.
Прыспічыла ж бадзяцца.
Ён не ўгару, а ўніз расце.

Пачаў людзей баяцца.
Начныя госці... Эх, Адась,
Ці будзе ён шчаслівы?
Хто кут яму, хто хлеба дасць?
Скрыль — чалавек зласлівы.
Ён з дакументамі ў руках
Усім заўжды дакажа.
Што гэта здраднік, сын шпіка,
І падрасце на сажань.
Няхай, хто ведае, глыбей
Капнецца ў гэтай справе.
Скрыль — «ліберал». Ён не сабе
Тады прыемнасць справіў.
Лес пацішэў без Малюця
Яшчэ тады, пры Польшчы.
А некаторым і няўцям,
Які Папас падпольшчык...
У тон Скрылю і Леў Гарох
Сказаў бы, мабыць, гэта.
Ды кроў не сыдзе, бачыць бог,
З рук гэтых прайдзісветаў.

* * *

Хто ж, каб спыталі, вінаваты?
Ксёндз богу скардзіўся на катаў,
Хадзіў прасёлкамі за Веснядзь,
Шукаў на іх управы ў лесе.
Ды не па той сцяжыне, мусіць,
Стары ісці сябе прымусіў.
Мікодым Скрыль тады з братамі
Вярнуў ксяндза назад, і аман.
«Ідзі,— сказаў,— дамоў, шаноўны.
Шлях ля Барка круты, няроўны,
Упрэшся — выправім на неба,
Самаахова ў нас што трэба!..»
Але цяпер канец прахвосту!
Адась і сілаю і ростам...
Ды каб адно, як кажуць, гэта.
Калгас асадзіць прайдзісвета.
Скрыль больш ксяндза назад не верне.
Ксёндз, нібы колас той без зерня,
Нічога даць людзям не можа,
Ды ўсё ж і ён хоць раз прыгожа

Закончыць дзень свой у бажніцы.
Адась яму не чужаніца,
Няхай жыве ў Барку з сястрою.
«Бог бачыць, іх пакуль што трое.
І гэты...—
Ксёндз пачухаў карак: —
А ўсё Гарох! От недавярак.
Таксама гадзіна, што трэба...»

. . . . . . . . . . . . .

Дамоў апоўначы ксёндз шлэбаў.
Вярнуўся стомлены, калючы,
Малы прасіў у Гэлі хлеба.
Але святар яго прыжучыў:
«Сам, як той воўк, яшчэ галодны,
А ты скуголіш тут, нягодны!—
І з гневам — на «цыганку»: —
Няхай вас гром, маланка!
О, божа, што я гавару...
Вам і Арцём паможа
Прыкончыць хітрых «змагароў»,
І будзем жыць прыгожа.
Тут, як над вырубкай якой,
Заўжды віселі хмары...»

. . . . . . . . . . . . .

Спяць ціха вербы за ракой,
Чуткія, як радары,
Да лютай сцюжы і цяпла,
Да гоману людскога...
Шчаслівы, хто з цямна праклаў
Да новых дзён дарогу!
А ксёндз з маланкай уваччу
Асунуўся на лаву.
Маўчыць Адась. І я маўчу.
Хто ж учыніў расправу?

*1973*

# ЛЯСНЫЯ КРУШНІ

АПОВЕСЦЬ

Дык вось канечны вынік мудрасці людской:
Што толькі той жыцця і волі варт.
Хто кожны дзень за іх ідзе на бой.

Гётэ, «Фаўст»
(Пераклад В. Сёмухі)

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### МЫ ЎЖО АГОНЬ АГНЁМ ГАСІЛІ...
(замест прадмовы)

Ці многа нам, зямлянам, трэба?
Было б, як кажуць, чыстым неба,
Бо ўжо аглухлі ад грымотаў...
Аб сонцы марылі мы ўпотай,
Калі на паншчыне і дома
Ў пацёмках падалі ад стомы;
Спакон вякоў ля кожнай хаты
Яно ў нас лепшы памагаты,
Таму ў народзе гаварылі:
Зямля і Сонца — нашы крылы.
Не пры лучыне ж сеяць жыта.
А хто дае людзям прыбытак?
Аднак жа ёсць яшчэ сугнеі,
Якім баліць, што ўсюды днее.
Я гавару пра тых, хто сёння
Пляце інтрыгі ў Пентагоне.
На словах гэта гуманісты,
На справе — бобікі лабістаў;
За кожнай іх «сяброўскай» фразай
Амаль на ўсіх шыротах — базы,
Хай не заўжды пад «собскім» дахам,
Затое з моцным воўчым пахам.
А колькі баз пад сцягам НАТО

У лапах гэтых супастатаў!
Кранеш — нацэльваюць ракеты...
Не ўпершыню мы бачым гэта,
Але, сустрэўшыся, гаворым:
Страх вас, папы, загнаў у норы,
Дык і сядзіце там на здрове,
Пакуль не трэснуў хто па глове!
Мы ўжо агонь агнём гасілі,
Хоць кулі шмат каго скасілі
І на палях замест аратых
Зямлю нам плужылі гарматы.
Таму не зло, а мір мы цэнім
І век не станем на калені!..

Я гэта чуў на Панямонні,
Пра мір і дзеці там гамоняць.
Ім і няўцям, што ў штольнях НАТО
Іх нават кроў на ўлік узята.
А служка натаўцаў — «Свабода»
З любых нагод і без нагоды
З халуйскім гневам, ваяўніча
На ўсіх людзей вунь як скавыча!
Эй, хто там лыбіцца на Сонца?
«Свабодзе» лепш «гуманны» стронцый
З нейтронным джынам у ракетах...
Ці хоць зірніце вось на гэта.

1

## ВОЎЧЫЯ ПАЦЕРЫ

«...Калі хто і грашыў у час апошняй вайны ў Беларутэніі, дык гэта збальшавізаваная Масквой гарадская і вясковая галота. Але пасля перамогі над гітлераўскай Нямеччынай да яе не падступішся...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«...Супрацоўнічаючы з 1941 па 1945 гг. з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, мы, беларускія буржуазныя нацыяналісты, перад усім цывілізаваным светам прадэманстравалі сваю аддана̇сць радзіме...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«...Пад гасцінным дахам «Свабоды», дзе некаторым з нас удалося атабарыцца пасля вайны, я перакана̇ўся, што НАТО — свяшчэнная каш-

тоўнасць, якую трэба аберагаць, падтрымліваць, ставіць вышэй за нацыянальны прыярытэт дзяржаў — членаў гэтага блоку...»

З «урадавых», заяў пана Стаха — Станкевіча Станіслава — былога бургамістра г. Барысава, а таксама былога рэпарцёра і літаратурнага аглядальніка «беларускага аддзела» радыёстанцыі «Свабода».

Жыццё няўмольнае — пан Стах
Сябе і ў прочках выдаў
І за адзін, як кажуць, мах
Рашыў сваю планіду:
Пад слёзны ўсхліп «Далоў прымус!»
Газетны ваявода
У «собскіх» высметках загруз
На радыё «Свабода».
Там ён радню сабе знайшоў
Сярод «бязгрэшных» янкі,
Ліў на іх млын ваду каўшом —
Чакаў валютнай манкі;
Рахунак нават свой завёў
У нейкай хітрай касе,
Ды сеў на мель — больш кухталёў,
Чым грошай, назапасіў.
Та-ак, дзядзька Сэм не Саваоф,
Яго расчуліць цяжка,
Калі, наняўшыся, за трох
Не цягнеш калымажку.
Перамяшчэнцы — так сябе
Мянуюць белбурнацы [1] —
Трымалі Стаха, каб не збег
Пад кляштар набірацца.
Усе іх «блёкі» ў тыя дні
На валаску віселі,
А пана Стаха авадні
Каля піўнушак елі...
Адтуль яму было відней,
Што робіцца ў Саветах,
Хто нам, бязбожнікам, радней
І дома, і за светам.
Дзе той Парыж ці, скажам, Рым
З субожнямі на плошчах,

---

[1] Белбурнацы — беларускія буржуазныя нацыялісты.

А Стах і там людзей дурыў,
Кланяючыся мошчам;
Аднойчы нават сам прылёг
Пад крыжам у касцёле,
Бо ўжо, відаць, валіўся з ног,
Пачаў здаваць, саколік.
Ды раптам нейкія паны
Яму сказалі строга:
«Не набівай сабе цаны
Перад абліччам бога!..»
Пан Стах прыкінуўся глухім
І нават дурнаватым,
Каб з-пад касцёльнае страхі
Не сцапалі за краты.
Хіба ён мала вохкаў, ныў,
Прасіў у бога смерці?
А ў дзядзькі Сэма хапуны
Вяртлявыя, як чэрці.
Ім не дакажаш, што чарвяк
І той палёгкі прагне,
З-пад ног паднімуць, але як?
Лепш захлынуцца ў багне
Або, зашыўшыся ў нару,
Згарэць датла ад гневу!..
Хіба пан Стах для ЦРУ
Пустая пешка, невук?
Але знаходзяцца хлюсты —
Карчук ім пад рабрыну! —
Якія рвуць пад ім масты,
Хоць лезь у дамавіну.
Шкада, што ў Мюнхене за ўсё
Плаціць гатоўкай трэба,
Пан Стах не біўся б карасём
Пад коламі іх кэба.
Сам гаварыў: «Няма дурных...» —
І злосна чухаў карак:
Баяўся лішняй гаманы,
Які з яе навара?..
Ён добра ведаў, хто ёсць хто
Ва ўсіх прэсбагнах НАТО,
Ды агалеў, не меў за што
Падмасліць тарбахватаў,—
Страх гнаў яго за акіян
У якасці ... турыста.

Каму ж ахвота з-пад кія
Шукаць другую прыстань?!
За беглякоў не шмат даюць,
І чэрнь іх судзіць строга.
Не, Стаха янкі падкуюць,
Пакажуць хлыст — ды з богам!
Таму, прызнацца, слоў шкада
На гэтага падонка.
Ды кроў людская не вада,
Аб ёй ідзе гамонка!

2

### СІЛА ЧАЛАВЕКА

Рака падмыла хату, клець,
Сарвала мост у лесе.
Бурчу спрасонку, як мядзведзь,
А сэрца просіць песень.
Вясна! На поплаве — буслы
Снуюць паміж прысадаў.
Дзед Апанас натужыў слых:
— Клякочуць! Гнёздам рады...
Чуў, колькі гора на зямлі?
Мо дзе ад жаху млелі;
Іх база — нашы Галаўлі,
Тут ім не крыкнуць: «Шнэлер!..»
У Галаўлях да хрыпаты
Дзядзькі клялі разводдзе:
Рака пазносіла платы,
Пакуль гулі на сходзе...
Але мяне цікавіў дзед
(Ледзь, кажа, злез з палацяў).
Для многіх ён аўтарытэт,
Жаданы госць у хаце.
Бадай што гэтым і жыве
Былы падпольшчык сёння.
Не на чужыне ж чалавек
Змагаўся, плужыў гоні...
За свет не бегаў. Нават Поп
Хацеў яго прывеціць,
Ды аб касяк расквасіў лоб
У дзедавай павеці.

І рассудзіць іх — не ў грака
Шпурнуць калом ці крыжам.
Поп дзень-другі перачакаў,
Ды зноў «добро им движет»...
А дзед, назло яму, і ўдзень
Спускае ваўкалака.
Так будзе лепш. Хіба ён дзе
Пёк з гэтым злыднем ракаў?
Бабулькі бацюшкам Папа
Калісьці называлі,
Цяпер — гудуць:
«Каб ён... прапаў!
Мы ў святы бога хвалім,
А наш душпастар, як прымак.
Кляне красу зямную...»
Відаць, Папа ўжо нездарма
І Шмаргуном мянуюць.
Народ над Нёманам круты
Да розных прайдзісветаў,
Дае мянушкі і святым,
І дзеда цешыць гэта.
А нагадаеш пра вайну —
Злуе, адводзіць вочы:
— Я не слабак, падковы гнуў,
Ды чорт мяне сурочыў!..
Во бачыш, колькі на твары
Тугіх вузлоў ды шрамаў?
Ляснік знайшоў мяне ў бары
У нейкіх воўчых ямах,
Ён і ў атрад мяне занёс
Употай ад фашыстаў,
Пасля ў Нізку, задраўшы нос,
Дражніў іх дзёрзкім свістам,—
Тут дзедаў твар пачаў святлець
І нават стаў прыгожы.—
Ляснік не Поп, ён у павець
Не ткнуўся б з сынам божым.
Але няхай! Ёсць у мяне
І да яго пытанне,
Бо ўжо, як лешч у чыгуне,
Хвастом забарабаніў —
Чакае страшнага суда.
Спытай, як ён калісьці,
Перш чым ступіць пад родны дах,

Лес ад фашыстаў чысціў.
Не верыш? Думаеш — дымок
Тут без агню курыцца?
Дык і не рыпайся, сынок,
Пісаць пра заграніцу.
Для нас яна — чужы загон,
Кірмаш, пустая карта!
Перш разбярыся, хто чаго
Тут, над ракою,варты.
І пачынай не з пахвальбы
(Ваш брат на гэта шустры).
Зірні за вёску — лес там быў,
А зараз, бачыш, пуста.
Хай не на дудкі ён пайшоў,
А людзям на загроды,
Аднак жаданых барышоў
Усё ж не даў народу.
Лепш падабралі б валуны
Ў старых прырэчных крушнях.
Мы летась з іх за паўцаны
Адгрукалі канюшню.
А сосны...— Дзед дастаў капшук.—
Куры, камар не ўкусіць.
Па мове чую: паляшук,
Ды рос не ў лесе, мусіць.
Сказаў бы хоць, бо мне няўцям,
Адкуль цябе прынесла.
Ты ж гэта во... як у гасцях,
А трэба думаць, Чэслаў!
Людскі азарт не знае меж —
Ўсё на будоўлі кінуць,
А наша сіла — хоць ты рэж —
І ў клёкаце буслiным.
Таму, каханенькі, пішы
Ў свой «Іглазвон» пра гэта.
Хай людзям лес і для душы
Шуміць зімой і летам.
— Дык хоць не грымніся ў кустах! —
Пачулася з-за хаты.
Дзед пазмрачнеў, як з ямы ўстаў:
— А-а, гэта ты, Агата...
Ну, што ж, я ведаў — забяжыш.
Аднак хачу спытацца,
Дакуль ты будзеш несці крыж

Па Млынаровых святцах?
Хіба арліца крумкачу
Па нашых мерках пара?
Я нават слухаць не хачу.
Хто з вас чыя ахвяра!
Ты свету белага за ім
Не бачыла ніколі.
І я... Чаго ж мы тут стаім?!
Мо зойдзеш у пакоі?
Агата, зыркнуўшы на нас,
Сарвала з плеч хусціну:
— Зайду! Ёсць справа, Апанас.
Зірні, вось ліст ад сына...
Я ўжо суняцца не магу —
Уся ў трывозе зрання.
А мой антыхрыст — ні гу-гу,
Акамянеў, паганец!
Клянуся богам — дацямна
Яго і след прастыне.
Вунь лодку выцягнуў з гумна
Ды корпаецца ў скрынях.
Пагавары ты з ім. Прашу,
Бо мне ўжо свет нялюбы.
Ну, што я сыну напішу!
Эх ты, арол бяздзюбы!

Дзед пакасіўся на мяне,
Пасля махнуў рукою:
Маўляў, Агата ўсіх кляне —
Жыццё ў яе такое.
Але, знімаючы замок,
Загарадзіў ёй сені:
— Ідзі дадому? Я — прамок.
І... агалеў, як венік.
— Не прыбядняйся, пан тут жыў...
— Жыў, але што ён бачыў?
Цень ад страхі на капяжы
Ды ў будцы хвост сабачы!..
Гэ, тут не лішнім быў і крыж,
Што каля брамы ў бэзе.
Пан уцякаў туды ад грыж
І гемаройных рэзяў.
Прыспічыць — можаш памянуць
Яго прачулым словам.

Чаго ж ката за хвост цягнуць?
Пагавары з Яговам...
Нам у цяпле не грэх было б
І памаўчаць хвіліну?
А калі я, няўдзячны хлоп,
Агню ў свой рай падкіну?
Я вам не пан! Сама ж тады
Мінала гэты хутар.
Ну, а наконт сваёй бяды
Ты з Лесніком пагутар.
— Баюся. Хату разнясе,—
Зжахнулася Агата.—
А ты... чарсцвееш пакрысе,
Шаноўны пан араты.
Хто ж тут табе расчэша поўсць
Або падасць сто грамаў?..
— Блазнуеш?! — Дзед надзьмуўся, злосць
Перакасіла шрамы.—
Бывай! Мне вушы заняло,
Няма тут вінаватых.
Твой сын за гэтым во сталом
Сядзеў у сорак пятым;
Панылы, з кайстрай на спіне
Грыз кулакі, бажыўся,
Што не па ўласнай ён віне
Ад грамады адбіўся.
Поп не спускаў з хлапца вачэй,
Пакуль мы ваявалі,
І мужанёк твой, як Кашчэй,
То мілаваў, по джаліў,
А потым — от жа размазня! —
Пускаў слязу ў касцёле:
«Хаця б руку ён не падняў
На сваякоў, саколік...»
— Дурны ён...
— Сціхні, думка ёсць!
Дзе сынаў ліст? Парвала?!
Ты б у мяне... ды ў хаце — госць.
Згінь! Дай мне жыць, завала...

Агата выбегла на двор,
Пакрыўджаная, злая,
І пабрыла праўз рэчку ў бор
Няцвёрда, як сляпая.

Дзед Апанас крыху астыў,
Развёў агонь у печы,
Але каб мог — усе кусты
Аблазіў бы за вечар.
— Пайшла. Пакрыўдзілася. Ныць
Пад кожным дрэвам будзе.
А ёй жа, брат, няма цаны,
Хоць злыя людзі гудзяць [1],—
Стары ўтаропіўся ў акно.
Твар пасвятлеў нібыта,
Але бяскроўны, як сукном
Ці кужалём абшыты.

Дзед стогне. Мусіць, гэты дзень
Вярнуў яго ў былое,
Ды ўжо разведчыкаў вядзе
Ў Агаціна сяло ён,
Вядзе без скідкі на мароз,
Глыбокі снег, вартоўні...
Сёй-той бурчыць, кляне свой лёс,
Цікуючы на поўнік.
Такою ноччу ў гарнізон
Не сунешся — адгоняць.
Ды з важнай весткай у Нізок
Агата прыйдзе сёння.
Сябрам, вядома ж, не сказаў,
Што з гэтай маладзіцай
Ён летась сувязь навязаў
Цішком каля капліцы.
Не на вячоркі з ім ідуць,—
Пасля вайны раскажа,
Хто там на млын іх ліў ваду,
Калі касцьмі не ляжа.
Не, ён, рвануўшыся з-пад куль,
Сам паліцаяў косіць,
Але... зямля яшчэ пакуль
Сяго-таго з іх носіць.
Падлесак вымахаў да хмар
З тае пары, а ў пушчы
Агацін муж, былы млынар,
Ваўкам арэхі лушчыць —
Вярнуўся з прочак ды гудзе:

[1] **Гудзіць** — дакараць, абгаворваць *(дыялектн.)*.

«Мне горб і там намялі...»
З вачэй адпусціш — абкрадзе
Або хоць пуню спаліць.
...Ліст быў кароткі і сухі:
«Жыву ў Канадзе. Петрык».
Не ліст, а кара за грахі,
Бізун з дурнога ветру...
Млынар апоўначы, як сом,
Абмацаў шчупам грады
І з карабінам пад крысом
Знік са сваёй «асады».
З ім, кажа дзед, без панятых
Цяпер не пагаворыш,
Пачне хавацца за платы,—
Змала ж на пана хворы...
Агата — зух, а праз яго
Дачасна пастарэла,
Сама не ведае, чаго
У лес хадзіла ў белым.
Рака ўляглася ў берагі,
Каля калгасных гумнаў
Падкос складаюць у стагі,
А ёй, галубе, сумна.
Няўжо ў слязах і гэты год
Гарбом на плечы ляжа?
Час не стаіць каля варот
Ні ўлегцы, ні з паклажай.
Яго ў тры столкі не сагнеш
Ніякімі лістамі —
Дапнецца, возьме свой рубеж
І адступаць не стане.
А людзі... Годзе! Бачыць бог,
Агата звад баіцца,
Але Папа і на парог
Не пусціць у святліцу.
Няхай патопчацца ў кустах
Або ў пустой святыні,
Калі па старасць злыднем стаў,
Зло ўсім паціху чыніць.
Поп благавернага яе
Не раз хваліў за сына,
Як быццам той псалмы пяе,
Загнуўшы іх асінай...
Млынар — паляк. Ён на Папа

Глядзеў з набожным страхам,
Усё з-пад рук яго хапаў,
Прыняўшы апранаху:
«Мне, едным словам, без млына...» —
«Гасподзь з табой!
Я — сыты», —
Бляск воч, шырокая спіна,
Зад, як свінцом наліты,
Поп мог прысесці і не ўстаць,
Бажылася Агата.
Ды не замкнешся ж... Тыдняў пяць
Дурыў іх, чмут пузаты. —
Шукаў зачэпкі ў свой сілок
На старасць год прынадзіць,
Каб ён у воўчай яме мок,
Калі ў астрог не сядзе...
Не поп, а шкурнік, звадыяш,
Падняўшыся на ганак,
Браў Млынара на абардаж
Дзе хітрасцю, дзе санам,
Пасля транзістар прывалок
З цыдулькаю ад сына
І... наваліўся на часнок
Са свежаю вяндлінай.
Млынар сутуліўся, змрачнеў,
Але Папу не здрадзіў,
А толькі стаў паліць кучней
Па ім з лясных упадзін...
Дзед Апанас прыкметна здаў,
Дачуўшыся пра гэта:
— Здурнеў, паршывец! От бяда,
Згарыць, памрэ кабета...
Ды каб спыталі — праз каго?
Праз склізняка, прыблуду!
Ён сына меў? Яшчэ чаго!
Лепш хай маўчыць, паскуда. —
Стары саскочыў з печы, сеў
Ды зноў падняўся з лавы. —
Што ён Агаце прынясе,
Апроч нядобрай славы?
Ты ж у мяне вясною быў
І ўсё, здаецца, бачыў.
Праз Млынара — дым як з трубы,
Бо злы ён і гарачы...

Сам, калі што, пераступлю
Дарогу гэтай дрэні!

. . . . . . . . . . . . . .

Ёсць сэнс пажыць тут...
Я ўжо «сплю»
Ў капе на прыгуменні,
А дзед з двухстволкай на плячы
Паплыў за рэчку ў краму.
Няўжо ён там сярод начы
Наробіць тарараму?
Не, дацямна прыбег назад —
Трасе мяне за ногі:
— Ты чуў? Вось гэта дзіва, брат!
Мы й чорту сколем рогі...
Дальбог, ахвота танцаваць,
Хоць меркаваў патрошкі
Сабе самому габляваць
На дамавіну дошкі.
Лепш я спалю іх ды ў калгас
Зноў наваструў сандалі,
Каб там, на Захадзе, па нас
Памінак не спраўлялі.
Мы не кароста на траве.
І па панах не тужым:
Наш просты рускі чалавек
Вакол планеты кружыць.
Ты чуеш? Кружыць, я сказаў,
А не гібее ў крушнях,
Дзе толькі дзічкі, ды лаза
І духата, бы ў сушні.
Навіне гэтай сто гадоў? —
Стары прыжмурыў вочы.—
А я пра што? Спытай удоў,
Мы не па кветках крочым,
Даўно маглі б абжыць і там,
У космасе, пустэчы,
Ды замінала свалата,
Што рада ўсё знявечыць.
Я акадэмій не канчаў,
Але дакладна знаю:
Мы і сканалі б у карчах,
Каб прэч іх не прагналі.
Ад гэтай праўды нават Поп

Не можа адхрысціцца.
Ён за паноў свой медны лоб
Біў аб вуглы ў капліцы.
А сёння ў лес ад гаманы
Паплёўся благачынны.
Чэрнь зранку б'е ва ўсе званы:
«У космасе — жанчына!..»
Каму з Папом карціць стагнаць
У богавай халупе?
Не той, брат, час. Ды што казаць,
Нас за алтын не купяць!

Стары расчуліўся. Відаць,
Ён сапраўды быў рады.
Такому можна пажадаць,
Каб духам век не падаў...
Вось ён стаіць перада мной
То хмуры, то вясёлы
З натурай шчыраю, зямной
Ляснога хлебасола.
Начамі холадна ў бары,
Расклаў агеньчык — гасне.
Прыйшлі сябры пагаварыць,
Ды хіба можна наспех?
Яны ж чорт ведае адкуль
Мех нейкіх спраў прынеслі.
Набіты імі рыдыкюль
Звапар знайшоў ля весніц.
— Зірні, мажліва, гэта твой,—
Кіўнуў ён на знаходку.—
Маўчыш? За вашаю братвой
Не ўгонішся ў апмотках.
Што ні чарнільная душа,
То шышка, задавака
Або азызлы, як пяршак,
Канцылярыст, пісака...
— Ты не заводзься! — прабасіў
Дзед Апанас лагодна.—
Вясной у засені асін
Вурчаць на бліжніх шкодна.
Наш госць пісьменнік, мы — народ,
Яго сябры, апора,
А ты на ўсіх шыпіш, як крот.
І цесць твой не ў гуморы.

Эх, і нашкодзілі ж вы нам,
Шаноўны пане Сваце!
Ты б хоць папругай Шмаргуна
Разок адкалашмаціў.
— Адкалашмачу!..
— Ну, дык сядзь
І памаўчы хвіліну,
Бо мне ўжо сківіцы баляць.
Выць воўкам ёсць прычына...
— Мы ўжо запарыліся тут,—
Сказаў Лясбік панылa.—
Сват адзваніў сваё — ды ў кут.
А нас вясна пакрыла.
Дзень прамарудзіў — і хана,
У зводках ты апошні,
Як быццам плуга не кранаў,
Жыў паўздагад такрошнім.
Таму за план свой мы дрыжым
Без пухлых цыркуляраў.
Мая душа змала ляжыць
Да гэтых во абшараў,—
Ён паказаў рукой на лес,
Што абступіў паляну.
А мне карцела пазарэз
У рыдыкюль той глянуць.

3

## ЧАРВІВЫ ПЛАСТ

Калісьці чорны, як смаляк,
Вясковы забіяка,
Сват, ажаніўшыся, размяк,
Сеў, як гавораць, макам.
Жыццё не песціла сялян,
Ды кожны штосьці мае.
А ён у вёсцы — дурнапьян.
Насельнік «хаты з краю».
Млынар і той яго вадзіў
На чарку «воўчай гары»,
Каб не хадзіў да пападдзі
Па закаморках шарыць.
Сват упіраўся: «Т-толькі там,

У пап-падзі, я — дома...
Прэч з гар-рызонта, драбната!
Што ёсць жыццё? Садома!..»
Млынар, прыгнуўшыся, сіпеў:
«Жыццё — Садома? Дудкі!
Ты, едным словам, падла, хлеў,
Намесь грака і вуткі!
Як непрыкаяны жывеш.
А цесць са скуры пнецца,
Дачку адправіў за рубеж...
Не рускі ён, здаецца.
Нам, едным словам, ёсць аб чым
Пагаварыць без сведак».
Сват спатыкаўся, кляў карчы
На галаўлёўскіх схэдах [1].
Вайна падчысціла там бор
Абапал торных сцежак,
Што беглі ў свет з лясных кантор
Ды прадзімных начлежак.
Фашысты спляжылі тады
І Галаўлі дашчэнту.
А потым — голад, халады,
Расстрэлы... Божа свенты!
Млынар сп'яна пра ўсё забыў,
А Сват — вачамі шарыў,
Кагосьці ўспомніў. Без журбы,
Бо ледзь яго не ўдарыў:
«Прэч з гар-рызонта, гавару!
Мой цесць махне кадзілам...»
Млынар, як з возам пад гару,
Зноў застагнаў: «Баўдзіла!
Не верыш мне — ідзі назад,
Я, брат, сваё адшлэбаў.
А Поп турне цябе пад зад
Да прабацькоў на неба.
Ты сам турнеш яго туды?
Брашы, ды ведай меру!..»
Млынар — няголены, худы —
Глядзеў на Свата зверам.
Так ён і Петрыка змала
Заўсёды «еў» вачамі,
Пакуль зямля не загула,

---

[1] Схэды — урочышчы *(дыялектн.)*.

Рвучыся ўвысь з карчамі.
Млынар ачомаўся тады
Ў шынку пад кучай друзу,
А сын прынёс яму вады
Ды ўсё за грудзі тузаў:
«Не паміра-ай! Бяжы адсюль
Або паддайся нашым...»
Не пабаяўся, голуб, куль.
А Сват — паскуда, шашаль.
Ён толькі з выгляду такі
Зацюканы, бязвольны.

. . . . . . . . . . . . . . .

«На кожным дрэве ёсць сукі...»
А Сват — мой сябар школьны.
Мы, растуды яго качан,
І ваявалі разам,
Дык Поп — цкаваць яго пачаў
І паламаў, зараза! —
Грымеў, падсеўшы да мяне
Каля ракі, Ляснічы.
Такі плячом як крутане,
Дык і касцей не злічыш.
Аднак пад складкамі яго
Пацёртага мундзіра
Даўно пагас «дурны агонь»
Бяздумнага задзіры.
Дзед Апанас — а ён з вайны
Без Лесніка ні кроку —
Даў мне наказ, каб меней пыў
Ды меў яго на воку.
Ляснік у курсе многіх спраў
І падсабіць гатовы —
Падкіне з лесу «горкіх траў»
На фельетон фартовы...
Святы і грэшны чалавек!
Ён, як і ўсе вяскоўцы,
Адважна, хораша жыве
Ў скарбовай [1] леснічоўцы.
Той-сёй адчуў яго руку.
Ляснік — знаў святцы, то біш:
На гэтым «цёмным» мужыку

---

[1] Скарбовая — дзяржаўная *(дыялектн.)*.

Палітыкі не зробіш.
Поп, кажуць, нават страціў сон,
Дачуўшыся ад зяця,
Хто тут не раз на свой фасон
Бандытаў калашмаціў,
А потым, клікнуўшы людзей,
Ачысціў лес ад гару,
Старыя крушні аглядзеў
За рэчкай ля кашараў.
Відаць, ён бачыў там Папа
Не ў рызе, а ў мундзіры,
Ды паўстрымаўся, не напаў —
«Пусціў» дадому з мірам.
А зяця — Сватам мы яго
За тонкі нюх празвалі —
Біў, як сабаку, ланцугом
Каля царквы ў падвале.
Яшчэ ў раёне не было
Належнага парадку,
А Сват у прымы напралом
Джгаў з лесу без аглядкі.
Ляснік — тады яшчэ юнак —
Здаў камандзіру зброю
І, прыхапіўшы свой рукзак,
Паплёўся за вайною...
Так разышліся дружбакі,
Лясныя пабрацімы.
...— Мне без яго, як без рукі,
А ўбачу — пруся міма,
Каб, растуды яго качан,
Не разарваць на часткі.—
Ляснік, падняўшыся з карча,
Дастаў з мяшка дзве пасткі.—
Яго работа!.. Нам, відаць,
Мірыцца рана́вата...
«Адсюль і трэба танцаваць,
Гаворачы пра Свата»,—
Падумаў я і паглядзеў
На Лесніка з дакорам.
Наш сябар мучыцца ў бядзе,
А ён, як госць з-за мора,
Увесь у думках пра сябе
Шнуруе па выгарах
Або касой траву скрабе

Ды звозіць у кашары.
Зімой спатрэбіцца. Зубрам.
А каля іх і козы
Пад зычны гул трубы: «Пара!» —
Пажывяцца з марозу.
Усё, што некалі было,
Даўно перагарэла.
Вунь толькі чуб, як памяло,
Яшчэ пакуль што цэлы.
— Кінь пасткі ў рэчку. Сват без нас
Адсюль іх не дастане...

Ляснік маўчыць. Ён напаказ
Не выставіць вагання.
Падумаць трэба. Не з рукі
Жыць не на ўсе закруткі,
Хто ж вінават, што ён такі
Абачлівы, нягнуткі...
Перш чым разднела тут — не Сват
На фронт ад крыўды трапіў,
А той, хто знаў, што акурат
Ён крыж трымаў у лапе.
Без гэтай цацкі Сват не мог
Адсвяткаваць свабоду,
А п'янкі — сумны эпілог
Яго грызні з народам.
Сват і памрэ, скрывіўшы рот,
Пануры, надламаны,
Калі не вырвецца з цянёт
Святога шарлатана.
Поп, абсякаючы сукі,
Знявечыў гэта «дрэва».
І сам, як злыбедзень які,
Яшчэ ўсё пыша гневам.
Бог абдзяліў яго, не даў
Даўжэйшых рук і сілы,
Каб без «сизифова труда»
Падняць фашызм з магілы.
Сват сведка — глеба хадуном
Заўжды пад ім хадзіла,
Хоць Поп, празваны Шмаргуном,
Сам раздзімаў «кадзіла»,—
Каго, бывала, адпяе,
Каму — прасвірку суне,

І калі волі не «скуе»,
Дык у душу хоць плюне.
З тае пары ён — пуль, ніштo
Ледзь не для ўсёй акругі,
Але без скрыпу нізашто
Не зробіць вам паслугі.
А Свату трэба падсабляць,
Каб не сапсеў дарэшты.
Для шмат каго ён — нелюдзь, таць,
Ды ўсе прыціхлі нешта...
Над рэчкай — хмара. Будзе дождж.
А можа, мне здалося.
Ляснік ужо з балота хвошч
У мой буданчык носіць.
Мяшок з «трафеямі» ляжыць
Каля агню на вудах.
— На, хоць руку перавяжы,
Бо шлях сюды забуду...
— Ты клікнеш Свата.
— От смала! —
Ляснік насупіў бровы.—
Не гарачыся. Дзе піла?
Лепш я пайду па дровы.
Сват не ад гора піць пачаў,
Сам зразумець павінен,
Што стаў пахолкам крумкача;
Вакол яго — пустыня,
Гніллё, жывыя мерцвякі
Ў аблезлай камяніцы
З вязьмом антэн — на маякі
Блажэннай заграніцы.
Поп на хлусні набіў руку,
Рад нават воўчай песні.
Ці не адтуль той рыдыкюль,
Што Сват знайшоў ля весніц?..
Адтуль. Прынамсі, верх не наш,
На спражках — герб, пагоня.
Дай мне яго. На абардаж
Вазьму прайдох сягоння ж.
Клянуся вудамі, мяшком,
Усім сваім дастаткам —
Поп ужо бегае трушком
Туды-сюды па кладках,—
Абы далей ад нашых спраў,

Ад клубаў, школ, калгасаў...
А потым — труцень, марнатраў,
Па хлеб палезе ў пасы [1].
— Ты скончыў?
— А-а, табе карціць
Залезці пад дзяружку...
Ну, што ж, залазь. А мне — баліць.
Пайду ў сваю старожку.

Старожка... Колькі іх у нас,
Заўжды чуткіх і сонных?
Ляснік меў рацыю — мой бас
Не чутны ля акон іх.
Мне б аглядзецца, пабываць
Яшчэ і ў Навагрудку.
Але дзядзькі на сенажаць
Брыдуць з усіх закуткаў.
Яны ўжо чулі пра мяне,
І я не лыкам шыты —
Зварыў ім кашу ў чыгуне
І сам пад'еў дасыта.
Народ тут скрытны, гаварыць
Пра ўсё пры мне не хоча.
Хоць кожны рады пакурыць
Каля агню да ночы.
І гэта ўжо не першы дзень,
Таму з паўслова знаю:
Шчаслівы той, хто ў грамадзе.
Дарога ж тут скразная,
А чалавеку трэба жыць
І ясна бачыць мэту,
Каб хто на родным капяжы
Цішком не зжыў са свету.

### 4

### АДПРАВА

На кожным дрэве ёсць сукі,
І лес ад іх не гнецца.
Без сучча толькі карчукі,
Ды... тлен з іх вонкі пнецца.

---

[1] Пaca — драўляны посуд для збажыны *(дыялектн.)*.

Як з тых звяглівых змагароў,
Што пнуцца ў нашы грады.
Клянуся гоманам бароў,
Ім толькі янкі рады!
Ці не таму такі смурод
Ад мюнхенскай «Свабоды»?
Каля стальных яе варот
Млынар чакаў пагоды;
Ён не пытаў, з чыйго «рабра»
Яе зляпілі янкі,
Хто мецэнатаў падабраў
Для гэтай гарлапанкі,
Чаму, схаваўшыся за тып
«Гуманных акцый» НАТО,
Усе ландскнехты «Liberty» [1]
Маліліся на... атам.
Млынар і сам вушамі стрыг
На кожны гук з-за Буга,
Але, не падкі да інтрыг,
Ад злосці роў бялугай...
Характар, бачыце, такі!
Пасля ківаў на сына,
Які яго, як на штыкі,
Ў абдымкі злыдням кінуў.
Знайшоўся ж нейкі «дабрадзей»,
Нагнаў на хлопца страху,
А сам за шапку — і далей
Павандраваў на захад...
О, гэта быў трывожны час
Для памагатых янкі!
Млынар і ў профіль, і анфас
Сох на вачах ахранкі.
Ніхто не браўся наўздагад
Ягонай дзягай «гладзіць»
Цвет недабіткаў розных рад,
Заквашаных на здрадзе.
Піў, кажуць, многа і не знаў,
Каму ён мусіў верыць,
Касіўся з ранку да цямна
На белбурнацаў зверам:
Свет клінам сходзіўся ў яго
На «выскачках» з галоты,

[1] Liberty — свабода *(англ.)*.

І воўчы штаб іх — Пентагон —
Ён называў балотам.
«Мы зробім цёмную табе!» —
Гулі перамяшчэнцы.
Млынар маўчаў або ў журбе
Сіпеў ім праз акенца:
«Не злуйце! Я пажартаваў.
Каму ў брэхбункер — проша.
Тут, едным словам, і трава
Надпанкам сон палошыць,—
Снуюць у шлэбах [1] без падкоў,
Рукой прыкрыўшы рыла...»

Млынар кіпеў — зямля бацькоў
У ім загаварыла!
А потым зноў туга, віно,
«Службовыя» турботы,
Якія цешылі паноў
Карчомным умалотам.
Вахцёр «Свабоды» мог крычаць,
Адчуўшы небяспеку,
Паддаць нагой або з пляча
Ударыць чалавека.
Чаго ж скупіцца на штуршкі,
Калі за гэтым — янкі?
Што ім? Спярша свае грашкі,
А потым заляцанкі.
Той, хто законы ім пісаў,
Меў зуб на ўсё жывое...
Млынар, як вуж з-пад кола ў сад,
Ледзь вымкнуўся на волю.
Жыццё развеяла міраж,
Гарбом лягло на карак...
А з чым вярнуўся гэты «псяж» [2]
У родны свой фальварак?
Сам нехта Далес, а не ён,
Дык рэферэнт ягоны
Наслаў услед яму праклён,
А Поп... назваў «чырвоным»!

Бог літасцівы. У Нізку
Больш верылі камбеду.

---

[1] Шлэбы — выступкі *(дыялектн.)*.
[2] Псяж — сабакар *(польск.)*.

Там Млынара па галаску
Сёй-той з маленства ведаў.
Ды ён і сам, як на духу,
Пакаяўся на сходзе,
Што, як пацук у катуху,
За Эльбай калабродзіў.

Пабыў там некалі і Поп,
Цішком, без лішніх сведак.
Пан Стах хваліў яго ўзахлёб,
Відаць, аднекуль ведаў.
О, дух сяброўства!.. Поп тады
Адчуў сябе мурашкай,
Бо Стах яму прудзіў пруды
Пра белбурнацкіх уладык
У натаўскіх запражках,
Затым ля карты, як заўжды,
«Разбурыў» нашы гарады
І... задрамаў над пляшкай.
Поп ціха вылез з-за стала,
Прыбраў паперкі, карту
І з лютым страхам напалам
Гукнуў у нумар варту.
«Мне замінае гэты хлус,—
Сказаў ён па-нямецку.—
Шкада канапы... І абрус,
Анафема, запэцкаў!»

Аднак, вярнуўшыся дамоў,
Поп, склаўшы рубам лапы,
Дзень пачынаў з яго «прамоў»
І «радыётрактатаў».
Дзед Апанас і падлавіў
Тады Папа на гэтым.
Але... пра гуз на галаве
Не чыркнуў у газету.
Поп, кажа, хатняя бяда —
Кілу нарве ды сціхне.
Дзед выклікае на майдан
Гарыл з наймітам іхнім!

## 5

## МЮНХЕН. РАДЫЁ «СВАБОДА», ПАНАМ ПЕНТАГОНАЎЦАМ, ІХ ПАДГАЛОСКУ СТАНКЕВІЧУ СТАНІСЛАВУ

Скажу адкрыта: мой дэвіз —
Рэж праўду без прадмовы,
Паўпрэд без пашпарта і віз
У венчыку цярновым!
Матай на вус: і я грашыў,
Гнявіў людзей і бога,
Але з дубінай на шашы
Не абіраў нікога.
Ніхто не скажа, што мяне
І на каленях бачыў,
А ты наўзрыд на чужыне
Крычыш, што я лядачы.
Не тужся, пан, бо трэсне фрак.
Для нас ты — чужаніца.
Мне атэстацыя твая,
Што пеўню рукавіцы!
Хіба я вырадак ці кеп,
Каб ныць ля вашых весніц?
Сам зарабляў сабе на хлеб
Дзе мазалём, дзе песняй.
Я не прыкідваўся святым
Ні да вайны, ні потым,
Заўсёды памятаў аб тым,
Што я — мужык, галота,
Нашчадак тых, хто з веку ў век
Гібеў на панскіх гонях.
Лёс і мяне няшчадна сек
Да сівізны на скронях.
А як прыпрэ — па цаліку
Бягу пад тыя сосны,
Што мне, быламу батраку,
Цяпер калышуць вёсны.
Я дзеля іх над Нёмнам жыў
І буду жыць да скону,
Бо тут радня мая ляжыць
Яшчэ з часоў прыгону!
Ніхто яе не прызнаваў,
Жыла — свяціла целам,
Пакуль у князя галава

З плячэй не паляцела.
Няхай нямала мужыкоў
Тады пайшло на плаху —
Падмена ім спакон вякоў
Расла пад кожным дахам.
Ты гэта ведаеш, пан Стах,
Дык не ўзышчы, шаноўны,
Што для цябе наш людны шлях
Быў, як ралля, няроўны...
Такі ўжо твой сабачы лёс:
Прасі ў гарыл спагады.
Хіба ты нам палёгку нёс
Пад чорным сцягам здрады?
Пастаў хоць свечку, душагуб,
За тых, каго ты выдаў,
А потым скроб змакрэлы чуб:
«Такая ў нас планіда...»
Лухта! Ты загадзя сабе
Прыдбаў крывую стрэльбу
І да фашыстаў перабег.
Цяпер кукуй за Эльбай!
Мы толькі можам, пане Стах,
Паспачуваць «Свабодзе»,
Апошнім часам і ў чынах
Там рэнегаты ходзяць.
Відаць, прыспічыла, няма
Ахвотнікаў да здрады,
Калі адпетым брахунам
Твой шэф і хеўра рады.
Нас не сагнуць хлуснёй у крук.
Хана вам, зброд смярдзючы...
А ў мужыка мільёны рук,
І сам ён неўміручы!

*Літаратурны запіс са слоў Апанаса Ламана, партызана мінулай вайны.*

6

## СТРОГА ПА САКРЭТУ

Аўтарызуючы свой ліст,
Стары мяне затузаў.
Былы падпольшчык, камуніст
Даў бой і мне, і музам.

Пасля абцёрся ручніком
І строга па сакрэту
Сказаў, што мерыўся ў райком
Зайсці з паперай гэтай.
А каля пошты — нас туды
Сват на вазку падкінуў —
Стары ад спешнае язды
Загуў пра дамавіну.
Ліст адышоў на задні план.
Хай мне даруюць янкі,
Дзед мацюкнуў іх балаган,
Перш чымся злез з фурманкі.
Хіба ён духам аслабеў?
Дзень выдаўся нялёгкі...
Аднак ад немачы ў журбе
Дзед не шукаў палёгкі.
Нізок сустрэў нас без фанфар,
Будзённай мітуснёю,
А ён з вітрын не зводзіў «фар»
І ўголас планы строіў.
Маўляў, наперад не зірнеш,
Дык і не лезь у дамкі,
Бо сам сябе ў куток упрэш
На ўсе замкі і клямкі.
Спытайце ў Свата. Хіба ён
Сваёй планідзе рады?
Дзед з ім спрачаўся колькі дзён,
Пасля прагнаў з асады.
Сват, кажа, сослепу ў бяду
Яшчэ падлеткам трапіў.
І агрызаецца, злыдух!
Яго ж бо справа ў «шляпе».
Аднак далей сваіх варот
Нічога ён не бачыць,
Хоць у Нізку ёсць свой завод
І... клімат нелядачы.
Прынамсі, людзі з аганьком
Там супесь [1] абжывалі,
Пакуль Шмаргун з адным панком
Дурыў яго ў падвале.
Дзед Апанас тады хварэў,
Кляў увесь свет парою,

---

[1] Супесь — пясчанікі *(дыялектн.)*.

А з гэтай хеўрай на двару
Не гаварыў без зброі.
Я не здзіўлюся, калі ён
Падасца да бальніцы,
Дзед Апанас не маладзён
І не мастак дурыцца.
Бывала, нават на скаку
У варыўню па дровы,
Зірне на луг або раку —
І ён ужо здаровы.
А зараз трэба паляжаць,
Пакуль яшчэ не позна.
Хто ж будзе сеянае жаць
Ды выпраўляць баразны?
Усё мяняецца, цячэ,
На крок адстаў ці збочыў —
Згарыш датла, з людскіх вачэй
Зашыцца ў кут захочаш.
А дзед намечаны рубеж
З любога месца бачыць
І да чужынцаў на кулеш
Не ўляжа па-сабачы.
Але аб гэтым у Нізку
Ён не сказаў нікому.
Сват пяцярнёю кудлы скуб:
«Даклаўся б хоць райкому...»
Стары затросся, пабялеў,
Насоўкай выцер скроні:
«Ты дакладзешся за мяне,
Тады і пагамонім!..»
Крутым старога ў тыя дні
Я і ў райкоме бачыў.
Лёс дзеда з партыяй зрадніў
У час баёў гарачых.
Патомны кмет, грамадзянін
Савецкае дзяржавы,
Ён і пад віск фашысцкіх мін
Вяршыў зямныя справы.
«Клін трэба клінам выбіваць,—
Тлумачыў ён вяскоўцам.—
Не ўсім жа трэбнікі гартаць
Ды падпяваць талстоўцам;
Іх, як баптыстаў, люты страх
Перад калгасным ладам

Падняў з пярын на хутарах
І штурхае на здраду:
Пасля прымажуцца да нас,
Але спярша паглядзяць,
Што з нашых скрынь хоць напаказ
У куфрах іх асядзе...» —
«Не любіш ты, браток, людзей! —
Пярэчыў хтось панылa.—
Нам больш, як ім, перападзе.
Няхай прабуюць крылы...» —
«Дзе? На Кудыкавай гары?
Ці не п'яны ты, куме!
Яны ад нас свае двары
Пільнуюць каля гумен.
Пацёрся тут — ды будзь здароў!» —
«Дык я ж...» —
«Каціся з богам!
Я знаю, ты не з тых двароў,
Але балбочаш многа».
Дзед Апанас — такі ўжо ён,
Здаецца, ад прыроды —
Браў многіх шчырасцю ў палон,
Знаў, дзе падняць, дзе збавіць тон,
Гаворачы з народам.
Яму і ўдаласці на ўсё,
Як сокалу, хапала,
Дамоў па хлеб з блакадных сёл
Хадзіў без самапала.
Важак галоты мог сабе
На гэты жэст дазволіць —
Быць дзёрзкім, марыць аб сяўбе,
Жаніцьбе, дзецях, школе
Тады, як смерць штодзень вакол
Збірала плён крывавы...
На родных гонях нават кол —
Зачэпкай быў для справы,
І Апанас па іх кружыў
У грозную часіну,
Не выбіраючы сцяжын,
Як гаспадар краіны.
За ім сачылі. Нейкі чмут
Пасек у лозах лодку,
Ды бог, як кажуць, ад пакут
Забраў таго да продкаў.

Ваўкоў не гладзяць... Апанас
Там пастаяў хвіліну
І заспяшаўся, як бакас,
З ракі на лугавіну,—
Бліжэй да хлопцаў, без якіх
Ён не рабіў і кроку,
Калі меў вестку, што шпікі
Ці немцы недалёка.
Сват ля кароў нябось тады
Яшчэ ў абозе бегаў,
А ён усе ўжо знаў хады
Да патайных начлегаў,
Чуў, як аб ім вакол гулі,
Што без пары загіне,
Ды ўсё ж дазнаўся, хто, калі
І як служыў Радзіме.
А пры абставінах такіх
Не грэх было парою
І пасядзець каля ракі
Для лепшага настрою.
Хто ж гэта дужы, малады,
Спазнаўшы смак свабоды,
Бяздумна сунецца на дым
Пад... кулі з агародаў?
Усе прасёлкі на вачах
Былі тады ў фашыстаў.
Хто мог — шукаў на іх біча
(Чытай — вінтоўкі, станкача),
Выкурваў з вёсак і вянчаў
Крыжамі ў полі чыстым.
Смерць там прыбіла іх крылом
У палыне ды плюшчы,
Але зацішку не было
Ні над ракой, ні ў пушчы.

Ажыў разбураны Нізок...
Поп з хеўрай кляў галоту,
Сват — рыхтаваў яму вазок,
Дамоў на хутар лётаў:
«Дзе ж бацька. Рускія ідуць!
Мо Ламан дасць даведку.
А не, дык... стукнем на хаду.
Ён — камуніст, бог сведка!»
А бацька — дурасць падвяла,

Гуў потым Сват папыла —
Падняў пудовы свой кулак
І трэснуў сыну ў рыла.
Сын — я пра Свата гавару —
Зжахнуўся ад здзіўлення.
Стары «спусціў» з яго кару
І заспяшаўся ў сені:
«Даведку трэба заслужыць,
А ты... Вось ліха! Фрыцы!
Ідзі папраў на іх гужы,—
Не шэнціць чужаніцам!
Перастараліся ў разгар
Татальпай ліхаманкі.
Дык сёння нават шкіпінар
Пілі з адной бляшанкі.
А Поп... Халера з ім!
Маўчу.
Пастаў на месца вілы!
Шкада, што Ламан нас не чуў,
Ты б і не шкпуў тут, мілы.
Для тых, хто з ім, ён Апанас,
Таварыш па рабоце.
А для такіх, як ты, пралаз —
Звер у людскім лахмоцці...»
Сват агаліў ад чуба лоб,
Памыў у цэбры рукі:
«Ну годзе!
Нас ён, гэты... хлоп,
Не возьме на парукі...»
Узяў! Семнаццаты гадок
Адскрэбвае ад бруду!
І за сектантаў ён хадок —
Штодзень чакае цуду.
Няма, казаў, такіх людзей,
З якімі нельга зжыцца,
Таму гатовы дзе-нідзе
За іх і з д'яблам біцца.
О, як ён цешыўся б, каб мог
Усіх назваць сынамі,
Пераступіць любы парог,
Хоць, кажучы між намі,
Ёсць тут нямала і такіх,
Хто дурыцца не ў меру.
Або, як кажуць знатакі,

Больш лапідухам[1] верыць.
А як назло, дык і аўца
Чхне спадцішка дуплетам,
Таму я дзеду абяцаў
Прыструніць іх за гэта,
Не называючы імён,—
Ім хопіць і мянушак.
Каму ж не кожны з іх відзён —
Няхай спытае птушак.

## 7

### БАРСУК-АДМІНІСТРАТАР

Далі пасаду Барсуку,
Хоць ведалі — заваліць.
Ды нехта ж дурня хваліць,
Бо ўжо сядзець на карчуку —
Кіруе выпасам. Свой штат,
Сваю кантору мае,
З кніг навылізвае цытат
І ўсім мараль чытае...
«Глядзі, каб воўк цябе не з'еў»,—
Крычыць з дупла Вавёрка.
Барсук ашчэрыўся, злуе,
Абнёс ламаччам горку —
Воўк не падступіцца.
                    І Лось —
Начальнік гэтай дзялкі —
На карчуках зганяе злосць.
Барсук, прамоўца палкі,
Лася на Зайца пацкаваў,
Пад нос шпурляе шышкі:
«Вось тут якая ў нас трава!»
Ды зноў гартае кніжкі —
Баброў выхоўвае. Бяда.
Адзін ссівеў за лета:
«От бог начальнічка нам даў!
Шанцуе прайдзісвету.
Зубры не чулі пра яго,
Мядзведзь на ладан дыша,

---

[1] Лапідух — тут шантун, зводнік *(польск.)*.

Алень рагамі на сасне
Лісты казулям піша...
А гэты чмут...» —
«Маўчы, кумок! —
Скрыпіць Бабру Сарока.—
Барсук дурны, бы той пянёк,
Ды ўжо залез высока...»

Не выйшла! Грымнуў звысака!
Ляснік прыехаў з пушчы,
Прывёз мне шапку з Барсука
І дзве біклагі тлушчу.

Мараль? Спытайце, што было,
Калі прыйшла газета.
Барсук вішчаў на ўсё сяло,
Што сапсуе мне лета.
Я ўжо навыцяжку стаяў
Перад адным чынушам,
Як быццам тут парадак я,
А не Барсук парушыў.
Мянушку гэтую змала
Ён па заслугах носіць,
Хоць з намі рос у пасталах
З трафейнага палосся;
Нат паджаброўваў колькі зім,
Цяжкім прыбіты лёсам,
А зараз — гэта пан з даўгім,
Нібы адкрутка, носам;
Зірнулі б, як ён у Нізок
Сігае сваім ходам,
Мужык, а хоць бы ён разок
Пагаварыў з народам,—
Ледзь што — павернецца спіной,
Злы і пагарды повен,—
Так заканторыўся ў адной
Зямельнай установе!
Дарэмна Лось яго журыў —
Барсук з панурым смехам
Сам дацінаў яму ў бары
І прагна слухаў рэха.
Ляснік пад гэту гаману
Цішком яго і «прыгарнуў»,
Як браканьера ў сані.

Хто ж мог паверыць ілгуну,
Што быў ён на гулянні.
Жыць чужаком сярод людзей —
Паршывая плаціда,
Але ж вы бачыце — гудзе,
І ў твар газету кідаў!
Дзед Ананас пачаў сушыць
Мне сухары ў запечку:
«Мы самі тут... А ты чашы
Да сваякоў за рэчку.
Барсук прыкінецца ягнём,
Пасля з Папом на пару
Цябе знячэўку, як агнём,
Даносамі ашпарыць».—
«Няхай! Іх справа»,— буркнуў я,
Збіраючы паперы.
Дзед засмяяўся:
«Акрыяў!..
Народ табе паверыў.
Аднак падтрымкі не чакай,
Калі пачнеш хістацца.
І я табе не губчэка,
Жыву па мірных святцах.
Во,— ён кіўнуў на агарод,—
Палоць цыбулю трэба.
Сам затыкай паршыўцам
рот,
Пагрозамі не грэбуй.
Дзе ж гэта ў іх свая рука?..
А-а, на раённай базе.
Барсук знайшоў там сваяка
Ды ў кожны кут залазіў.
Я ўжо аднойчы гаварыў:
Спярша шукай апору.
Пасля «на пуп» хапуг бяры
На базах ды ў канторах.
Наш сціплы край на гэты конт
Шмат лепшага жадае.
Тут пралягаў падпольны фронт,
Мо лепш яго збадаем?»

8

## АПАНТАНАСЦЬ

Зацвіў чабор. Праз дзень-другі
Пачнецца касавіца.
Ляснік з двухстволкай ля нагі
Стаіць каля крыніцы:
Заплесла, зеллем заплыла...
Нагнуўся — піць ахвота,
Адкінуў зелле — ажыла!
І не смярдзіць балотам.
Ламаччам пехта заваліў.
Яна ж мастоў не зносіць,
З такіх крынічак на Зямлі
Усё і пачалося.
Без іх і рэчак не было б,
А мы... Ляснік рашуча
Аднёс галлё, каб не гніло
Каля крыніцы ў кучах.
А дубальтоўка — на плячы.
Такая служба, значыць,
Ён шмат каго ўжо адвучыў
Каля крыніц лайдачыць.
Зямлі хапае. Чалавек
Павінен быць у руху,
Але ці варта па траве
Да скону поўзаць брухам?
Хемінгуэй па свой муштук
Акуле ў пашчу лазіў,
Аднак пяра не кінуў з рук
У баявым экстазе;
Культ загароднай цішыні
Яму не засціў зроку,—
Быў пад канём і на кані,
Ды не зашыўся ў покут...
У наш імклівы бурны век
Жар з кожнай шыхты пыша,
Ды хіба гэта ў галаве
Апосталам зацішна?
Хто ж катарынку завядзе
Пра «сухавеі» ў крамах,
За куст сачэўкі на градзе
Наробіць тарараму?

Так, час працуе не на іх,
Аднак жа... пнуцца ззаду.
Млынар Папа дручком «абстрыг»,
А гэтым хто дасць рады?

...— Паедзеш, значыцца, дамоў?
— Паеду! Трэба ехаць.
— Шкада, схадзілі б на самоў,—
Ляснік паставіў вехаць:
— Ад гэтай мецiны касіць
Быльнёг на падсціл будзем,
А я — пайду траву сушыць
На Жарабкоўскім грудзе.
Мой сябар тут, як Берандзей,
Усё папрыбірае.
Крануў — маўчыць. Далей ідзе,
Былое ўспамінае.
Дзе ён за век свой ні пабыў!
І ўсюды, кажа, хвэцка,
Хоць заработак быў слабы.
Затое, праўда, ў Клецку —
Там і жаніўся ён тады —
Хадзіў у брыгадзірах.
Ён і цяпер, як малады,
Калі ў сваім мундзіры
На рэчку выведзе каня
Паіць каля парома...
А сёння «ракаў паганяў»
І доўга тоўкся дома —
Насіў аднекуль кнігі ў кут:
Што сам прыдбаў, што — жонка.
І пра жыццё, напэўна, тут
Не раз ішла гамонка.
А я ўсё думаў, хто ёсць хто,
Як тут каму жылося,
На ўласных дзвюх (ёсць і аўто)
Блукаў па сенакосе...

Гудуць машыны. Шмат машын.
Іх у калгасе многа.
Куды ні глянь — сляды ад шын
Ля кожнага парога.
На дрэвах яблык — хоць змятай,
Каб не заспела сцюжа.

Пабагацеў лясны наш край.
І ўсе тут з песняй дружаць...

А вось і Сват. Загаварыў:
— Нам што, у нас ёсць сіла,
Ды вокал нас зямля гарыць,
І многім свет не мілы...
Выходзіць, ёсць аб чым і вам
Падумаць на Парнасе.
Хіба Лаос або В'етнам
Нячысцікі дубасяць?
А чуў, хто б'ецца на франтах
Алжыра ці ў Анголе?
Там злыдні з фінкамі ў зубах
Пад пальмамі сваволяць.
А след пятляе ў той прытон,
Дзе ў «найгуманных мэтах»
Звяругі ў модных паліто
На мір паклалі вета...
— Ты слухаў лекцыю?
— Ага.—
Сват выцер твар, смяецца.—
І карту вешаць памагаў...
Кеп, хто на Захад рвецца!
Няма там праўды! І закон
Стапталі ў Пентагоне
Ў закутку з вартай ля акон
Ды сцягам на балконе.
Вам гэта ясна?
— Дык сарві
З тых «дабрадзеяў» маску!
Ці хай валтузяцца ў крыві
Ва ўсім халуйскім бляску? —
Мяне амаль ужо трасло.
Які цынізм! А з твару
Не выглядае Сват аслом,
Хоць стаў збіраць... шклатару.
Калісьці выцвілы, худы,
Сват гнуўся, каб не ўпасці.
А зараз — з ног да барады
«Удаленькі вушасцік».
Усё бы ўлітае на ім
(Пакуль не вып'е брагі),
А мы, гадкі яго, стаім

У пыле, як бадзягі.
Ляснік, зірнуўшы на мяне,
Спусціў з пляча двухстволку.
Сват, ён жа Крот, пазеляцеў:
— Ты што? Не злуй без толку...
— Не бойся. Вось мая рука,—
Далёка пойдзеш, братка.
Але каго ты тут шукаў,
Такі бадзёры, гладкі?
— Я ж вам...
                — Не трэба. Нам пара,—
Ляснік паправіў шапку;
Яму ніхто не патураў,
На сэрцы — пуста, зябка,
Бо перад ім ужо не Сват
Ліслівa скаліў зубы,
А перабежчык, рэнегат,
Злы, як сабака, грубы.
Такога ў вугал не запрэш,
Гарлапіць будзе, погань.
Ляснік хвалюецца, упрэў,
Крычыць з надрывам, строга:
— Ідзі, рабі сваё... турнэ,
Цвіляк, скрыпун зіркаты!
Твой лектар там, на чужыне.
«Звяругі»... «вета»... «атам»...
Зямля — пяроўная, вярхом
На ўсе хрыбты не сядзеш.
І смерць пад кожным катухом
Туляецца ў засадзе...

## 9

### АСЕЧКА

Сто бочак дзёгцю! Быў званок:
Мядзведзь асіплым басам
Сказаў, што прагне з Лесніком
Пагаварыць сам-насам.
Хай не чапае барсукоў,
Бо паляціць з пасады!
Хіба ён сам, як быў малы,
Не лазіў з ім у грады?

Мядзведзь таксама не дабрак,
Але не любіць звягі.
Лепш, кажа, мёдам напаўняць
Парожнія біклагі.
Бор як шумеў, так і шуміць,
Ці варта біць трывогу?
Там можна нават воўкам выць
І не баяцца бога.
А гэты ўбачыў Барсука
І рынуўся ў атаку.
Яшчэ хоць добра, што сп'яна
Даў маху, разявака,—
Свайго сабаку ля ракі
Асвежаваў, здаецца.
Вось і мяркуйце, хто з каго
Цяпер цішком смяецца...

Паверыць цяжка, але факт:
Мы перабралі меру.
Лясцік, забыўшыся на такт,
Даў стракача за дзверы
І нават шапкі не надзеў.
З кім я дружыў, няшчасны?
Пяром, як пугай па вадзе,
У «Іглазвоне» ляснуў...
Мядзведзь у Мінск не па харчы
Прыпёрся з калатушай:
Рэдактар вохкае, бурчыць,
Мох на прыпаркі сушыць.
А сакратарка, як ліса:
«Стаміўся ён не ў меру...
На, палюбуйся, хто пісаў
Вось гэтую паперу!..»
Палюбаваўся, дык рука
Зноў па пяру сумуе.
Што Сват і Поп на Барсука,
Відаць, цішком працуе.
З такім памочнікам яму
І мора па калені:
Хоць праз дружкоў сяму-таму
Напэцкае ў пельмені...

## 10

### АДКРЫТЫ ЛІСТ БАРСУКА-АДМІНІСТРАТАРА ПУШЧАНСКІМ ЛІТАРАТАРАМ

Прычына?
Злосны выпад нейкага гора-натураліста,
Які нядаўна ноччу або ранкам
Па недагляду лапавухіх журналістаў
Уціснуўся ў іглазвонаўскую трасянку.
Доказ:
Яшчэ не распрадаены нумар гэтай газеты
З яго недаспелым памфлетам,
А дакладней — юрыдычнай падставай
Для наступнай заявы:

Я змалку корпаўся ў зямлі,
З гразі на сонца вылез,
А гэты хлюст за пяць хвілін
Прысуд мне страшны вынес:
Назваў нягоднікам, чумой,
Заядлым бюракратам,
Садраў з мяне кажух і лой
Прысвоіў, чорт лазаты!
Відаць адразу — браканьер
Зашыўся ў штат газеты,
Глуздуе там на свой манер
І ганарыцца гэтым.
Дзе ж вашы прынцыпы?
Дзе такт?
Куды глядзеў рэдактар?
Сам напрасіўся ў следчы акт,
Вось вам асноўны фактар:

1. Ёсць барсукі і сярод вас,
Ёсць і няхай не хлусяць,
Што носяць кветкі на Парнас,
Жывуць сумленна, ў скрусе.
Яны з Парнаса валакуць
Усё ў свае харомы,
Чорт знае, што яны пякуць,
А ходзяць у вядомых,
Прабачце, труцца каля іх,

Хто з дзёгцем, хто з алеем,
І вызначаюць якасць кніг
Ад суперу да ўклеек.
І не спрабуйце, як мяне,
Іх крытыкай расчуліць.
На гэтай хвалі лепш, спарней
Іх інтэлект працуе.
Ён іх і цягне ў стэп не той,
Хоць тужацца пярэчыць,
Ілгуць — і лезуць з калітой
Па хлеб з арцельнай печы.
Так і жывуць. Пакуль «багі»
Сядзяць ля жонак дома,
Літфонд пячэ ім пірагі,
Бюро — дае «вядомасць»...
Мае абсягі — лес, нара,
Кусты вакол Парнаса,
А ў гэтых рыцараў пяра
Уся краіна — каса.
Вось і мяркуйце, хто такі
Я, ваш слуга пакорны.
Мне напляваць на ярлыкі!
Не сплю ад крыўды чорнай...

2. Калі б не я ды не Мядзведзь —
Бор быў бы проста лесам,
Дзе вам ужо карцела б пець
Не гімн вясне, а месу.
Але без ежы і камар
Не пражыве ў чашчобах,
Таму людзям, як той Млынар,
Уеліся ў ваптробы.
А што рабіць, як на стале
Адных паперак груды?
З гадамі я яшчэ смялей
Падкручваць «гайкі» буду.
Выходзіць — выпасам кіруй
І не чапай нікога,
Сам на сабе пінжак цыруй,
Шануй Лася, як бога.
А чым ён лепшы за мяне?
Горб аб сасну пачэша
І нават вухам не кране,
Хоць корч на рогі вешай.

Хіба што сядзе авадзень
Ці воўк сцягно распора,
Тады лютуе цэлы дзень,
Каб на яго паморак!
З такім начальнікам бяды
Не абярэшся ў пушчы.
Там, дзе ласіныя сляды,
Не нагуляеш тлушчу.
Куды ні глянеш — лебяда
Ды пеньчукі без голля.
Я нават жонцы загадаў
Цягаць наедак з поля.
А дзеці — дождж заліў нару —
Жыруюць ля канторы.
Як на духу вам гавару:
З'ем і партфель свой скора.
Так, гэта праўда, я злаваў,
Ламаў лясны парадак,
Жыцця нікому не даваў,
Шпурляў Ласю пазадак,
Трава на выпасе гніла,
Затое кожны ведаў,
Пад кім тады зямля гула,
Хто фундаваў абеды
Такім прайдохам, як Мядзведзь
Ці, скажам, Дзік-бадзяга.
А каб з гары не загрымець —
Трымаў пад лавай шлягу.
Шкада, што ваш фельетаніст
Не падкі па спіртное.
Мы б тут яму зайгралі твіст
Для лепшага настрою.
Мы, барсукі, спакон вякоў —
Такая косць, закваска —
Спярша абчысцім землякоў,
А потым робім ласку:
Цішком нагадваем грахі,
Пляцём з пагудак былі.
Адно трывожыць: пастухі
Званок мне прычапілі.

3. Лес нешта большае за луг,
Што ля маёй святліцы.
Я каля сосен-векавух

Валяюся ў ігліцы.
Прыспічыць — лезу пад карчы,
Сярдую, шчэру зубы...
А перад вамі — далячынь,
Ёсць і занятак любы.
Я невялікі грамацей,
Але дакладна знаю,
Што вы ўжо выраслі з лапцей —
Музейная цана ім!
І сiганулі ў вышыню
З пацёмкаў ды галечы.
Каб і хацеў — не здаганю.
Тылы б хоць забяспечыць.
Зямля ў абдымках вашых рук
Для вас пахарашэла.
А мне хоць вешайся на крук —
Бярлог зарос падбелам;
І палыну хоць адбаўляй —
З-пад купін лезе ў вочы...
На Млынара набрыў: «Страляй!..»
Маўчыць — чапаць не хоча.
Агата, кажуць, ланцугом
Яго адлупцавала.
Стары, а з лесу джгаў бягом,
Бо на шматкі парвала б.
Зніміце шапкі! Ёсць рэзон
Паспачуваць сугнею.
Яго ні млын, ні гарнізон
Фашысцкі не нагрэе.
І тыя, як іх, змагары,
Што змыліся на Захад,
Даўно пры Сэмавым двары
Зышлі ўжо воўчым пахам.
Ні нашы гусі, ні буслы
Ратунку ў іх не просяць,
Хоць не ля кожнае сасны
Прывольна ў нас жылося...
Менш патурайце шаптунам
З гнілых лясных пасколін,
Ім ваша праўда, як панам,
Заўсёды вочы коле.
Паклаўшы лапу на жывот,
Скажу вам без падману:
Я не такі ўжо абармот,

Каб сыпаць соль на раны.
Аднак, падумаўшы, хачу
Звярнуць на іх увагу.
Вось толькі юркну за карчук,
Каб хто не трэснуў шлягай.
Так... А цяпер яшчэ зірнём,
З якога боку вецер,
Хто на кані, хто пад канём
Скрыпіць на белым свеце.
Мне звычка гэтая не раз
Давала перавагу,
Калі ў сачэўку на Парнас
Вадзіў сваю «ватагу».
Я ведаў, колькі там пляцоў,
Дзе песняры, дзе «суддзі»,
Хто за курынае яйцо
Калоціцца, як студзень,
Не ад бясхлебіцы, о, не,
Хутчэй ад дзікай прагі.
Такія «дачнікі» даўней
У нас насілі крагі [1]...
Хто з іх падняўся на крыло
Вышэй за тых сугнеяў,
Што лезлі ў «людзі» напралом,
Па-людску ж жыць не ўмелі?
Я не суддзя ім? Як сказаць.
Пасля такога лета
Я не магу саломкай гаць
Масціць прысоскам гэтым!
Але званок вісіць на мне,
Вось навалач якая...
Таму і я ўжо, як сугней,
Ад гаманы ўцякаю.
Спытайце ў дачніц. Гэта факт
З даўжэзнай барадою...
А я пакуль зраблю антракт:
Ляснік карову доіць.
Мо праліе дзе малако...
Двор у яго прасторны,
Дык я ў стадоле і яйко
Сцягну з гнязда праворна.

---

[1] Крагі — некалі адзін з самых распаўсюджаных атрыбутаў шляхецкага побыту.

Не пабяднее.
Сам казаў:
Мне не шкада нічога.
Але карову прывязаў
Да пеньчука ля стога.
Жыве без жонкі. Пачарнеў,
Злуе, не, больш сумуе.
Мо як і я, яшчэ не еў.
Сум тут з вясны пануе.
Жыць з гэтым горам
між людзей
Было б лягчэй, вядома.
Але скажу, як на судзе:
Ён тут жыве свядома.
Мо нават даў сабе зарок,
Што не кранецца з месца,
Хоць нечым дзецям хутарок
Свой адпісаў за бесцан...

Сакочуць куры. Ваўкалак
Вурчыць, паводзіць носам.
«Што, Барсука пачуў, лайдак»,—
Ляснік без шапкі, босы,
Зірнуў журботна на мяне
Ды зноў сабаку лае:
«Не злуй! Цябе ён не кране.
Твая тут хата з краю...»

Сцямнела. Можна адпачыць.
Даруйце за затрымку.
У нас тут шумна і ўначы,
Як на калгасным рынку.
А ўчора — дзе ж гэта было?
Забыў, падумаць трэба...—
За мною бегла ўсё сяло —
Хто з палкаю, хто з хлебам.
Ніхто не знаў, што «Іглазвон»
Зрабіў з мяне пачвару.
А я, як заяц ад варон,
Назад у пушчу шпарыў,
Хоць не дарос яшчэ да тых,
Каго я меў на ўвазе,
Калі па яйкі праз платы
На Вашы дачы лазіў.

...Прыехаў следчы. Пяты дзень
Адседжваюся ў доце
На дохлай рыбе ды вадзе.
А жонка — на рабоце;
Падмаладзілася крыху —
Аер цягае ў засек.
А потым зноў: «каху, каху...»
Таксама ўжо далася.
Зачэпіш — вохкае: «Пусці...» —
Натужліва, сярдзіта.
Што ёй на поўднік прынясці?
Чым накарміць дасыта?
Мне ўжо не верыцца, што ёсць
Зацішныя паляны.
«На!» — жонка кінула мне косць.
Памрэш з такім «прыданым».
Навокал столькі хараства,
Усё пяе, грукоча,
А мне яно ўжо, як жарства,
Да болю рэжа вочы.
Аж страх. Заўчора нават Сват
Прагнаў мяне з крыніцы.
Мы тут пасёмся, быў жа град,
А ён злуе, дурніца;
Відаць, ад шнапсу без цара
У галаве тут кружыць,
Псуе настрой Дзіку, тхарам,
Хоць сам ужо нядужы...
Мядзведзь сярдуе: «От дзівак!
Лес гулкі, як бандура,
Над Нёмнам зробіць што не так —
Слых дойдзе да Амура.
Сарокі хутка разнясуць
Аб ім благую славу.
Вылазь! Я збіў з кустоў расу,
Паспіш там, як пад лавай...»
Спаў, ды мярэжыцца нара,
Залітая вадою,
Закутак нечага двара,
Пах кветак, сырадою...
Залез у пуню — вунь яна
За мостам каля крамы,—
Злавіў там мыш, лізнуў віна
Ды ледзь дапоўз да брамы:

Віно ўскружыла галаву
І нейкай маладзіцы;
Скажыце дзякуй, што жыву,
Так адхлястала віцай.
З мянушкай «Злодзей» у журбе
Адтуль зматаў я вуды.
Вось, пэўна, толькі ад сябе
Век не ўцяку нікуды...
Я ж не пісьменнік, а Барсук,
Мяшок касцей і тлушчу,
Лаўлю вушамі кожны гук
І на лугах, і ў пушчы.
А зараз, бачыце, пішу,
Канцы з канцамі зводжу
І толькі ноччу на шашу
Шпацыраваць выходжу.

4. Мой мудры продак гаварыў:
«Не ўсё, што ў пунях, наша.
Ёсць зуб — з драчоў аброк бяры
Або жыруй на пашах...»
Нажыраваўся, маць вас так!
Вось адсяджуся ў доце,
Надзену жончын андарак
Ды зноў памкнуся псоціць [1].
Вунь нехта, скінуўшы халат,
Маіх малых ганяе?
Па мордзе бачу — гарлахват!
Мех у руках трымае:
«Вы пад машыну? А м-мы так...
За барсукоў не судзяць».
На крык мой выскачыў Шарак,
Не, не Шарак, а Пудзель.
Ахвяра дзікай моды. Франт,
Няхай і не ў сандалях;
Пад лупавокай пысай — бант
І ажно тры медалі!..
Такім усё сыходзіць з лап
Ледзь не з часоў Гамера.
Што б ён рабіў у царстве жаб,
Чым сёння павячэраў?
«Брысь!» — гнеўна крыкнуў гаспадар,

---

[1] Псоціць — блазнаваць *(польск.)*.

А бас, як у мядзведзя.
Не, ён не з байкі. Гэты твар
Я летась бачыў недзе.
Ды хіба мала кожны год
Бывае ў нас народу?
Тут і парэчкі. Тут і мёд.
І над ракой — выгода...
А людзям трэба адпачыць,
Не ўсё ж улегцы ходзяць.
А гэты, пэўна, і ўначы,
Як кажуць у народзе,
Поўсць на сабе ад злосці рве
З балячкамі і тлушчам,
Што не ў Амерыцы жыве,
А ў нашай «дзікай» пушчы.
Вось ён ужо ля бліндажа
Пад карчукамі шарыць...
Схапіла сэрца! Паляжаў,
Мясісты, круглатвары,
Нічога ў ім ад мужыка,
І пан з яго не спёкся...
Устаў, адліў ля карчука —
На рэчку паваloкся.
А «палавіна» з брахуном
Ужо ў машыну села.
Каб хто падскочыў з бізуном —
Пад Зыкіну запела б,
Што ім радней за ўсё зямля,
Яе палі і рэкі...
Лепш век хадзіць у бабылях —
Далей ад небяспекі,
Далей ад «радасці» такой,
Запудранай па вушы.
Яна ж і вербы над ракой
У банціках задушыць.
Я ў параўнанні з ёю — гном,
Герой дзіцячых казак.
Хто мне калі зрабіў дабро?
А я, дурны, ні разу
Вам не назваў сваіх сяброў.
І сам памру з мянушкай.
Хачу, каб менш было дуброў,
Дзе толькі мох ды птушкі.
І Лось, мой шэф, трасе сасну —

Злуецца на шляхотак,
Вясной ні разу не заснуў —
Тоўк іх платы з налёту.
На дачах рэпа аж гудзе,
А ён праз браканьераў
Па бруха ў багнішчы сядзеў,—
Жаваў лазу з аерам.
Ёсць і ў Мядзведзя злосны зуб
На гэтых супастатаў:
Зрабіў падкоп пад нечы зруб
І ледзь прыпоўз дахаты —
Дуплетам пальнулі з ружжа!
А хто — гадайце самі,
Бо і сканаем на нажах,
Палаяўшыся з вамі.
Прырода-маці нам дала
І кемлівасць і сілу,
Каб каля кожнага сяла
Жылі заможна ў вілах.
А калі шчыра гаварыць —
Мая ўжо песня спета.
Мяркуйце самі, як вам жыць
І верхаводзіць светам,
Сваім, пісьменніцкім, а ён
Павінен быць прыгожы,
З такой плеядаю імён,
Што горы зрушыць можа.
Я пакідаю гэты край,
Жывіце ўсе багата.
Мае вам з пэндзлікам,
гуд бай!
Барсук-адміністратар.

*Пушча, 196... год.*

11

## АД АЎТАРА ПАМФЛЕТА, ЯКІ БЫЎ АПРАТЭСТАВАНЫ БАРСУКОМ-АДМІНІСТРАТАРАМ

Я зноў адносна Барсука —
Мне перад ім няёмка.
Дарэмна я яго шукаў
У дотах ды варонках:

Як ветрам здзьмула.
І слядоў
Ні ў лесе, ні на лузе.
Мо дзе ў Нізку каля прудоў
Ён румзае на пузе.
Сват з Млынаром і на духу
Нічога нам не скажуць.
Хіба што Поп, ды ён... саху
Якімсьці ядам мажа.
Памкнуўся зранку абганяць
Каля царквы «багіню» [1],
А там — жукі! Ні даць ні ўзяць,
Увесь пасеў загіне...

Дзед Апанас зварыў панцак:
— Еш, набірайся сілы,
Адна паршывая аўца
Пагоды не зрабіла.
Наш Поп — трапло. Ён і жукоў
Наўрад ці пераплюне.
Мы тут жывём спакон вякоў,
А ён — смала на чунях.
Ты ж і не ведаеш, відаць,
Чаму ён круціць носам?..
Папу абрыдла наглядаць,
Як чэзне тое «проса»,
Што ён з амбона засяваў
Пад дудку пана Стаха.
Той з баек замкі будаваў,
А Поп — канаў ад жаху...

«Няхай,— падумаў я,— ніхто ж
Не здаўся на іх ласку.
Хіба што Сват надточыць нож,
Каб ён зубамі ляскаў!
Мне б толькі дроў не наламаць,—
Ваўкі не любяць шлеек...
А Сват з аглядкаю на «знаць»
Нямытую шалее».

Рака. Ляснік каля Прылук
Грабе траву на схэдзе.

---

[1] «Багіня» — гатунак бульбы.

Не чуе ўжо ні ног, ні рук,
Але дамоў не едзе.
Зрабіць абход карціць яму.
Маўляў, праверыць трэба,
З якой нагоды і чаму
Барсук у свет пашлэбаў.
— От дабрадзеі! — Гэта ўжо
Дзед нас заспеў на багне.—
Мо дзе схаваўся пад стажок,
А вас — у пушчу цягне.
Я так мяркую: схоча жыць —
Сам прыпаўзе дадому.
Нам ён на цяжкім рубяжы
Не падсцілаў саломы,
Усе б касцьмі тут паляглі.
Відаць, была прычына.
Лепш вы Агаце памаглі б
Вярнуць з Канады сына...

Ляснік не выцерпеў — падняў
Капу травы на плечы:
— Мне ён... далёкая радня.
Вячэра стыне ў печы...

А дома, скінуўшы капу,
Ляснік і сну не ведаў:
— Хоць ты ўдавіся... От лапух!
Уткнуў, пакрыўдзіў дзеда...
Так можна ўсё тут парашыць,
Пасеяць зло, варожасць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзве неўгамонныя душы...
Хто памірыць іх можа?
Без чаркі моцнага віна
Зацішку тут не будзе.
Та-ак, ім мінулая вайна
Яшчэ страляе ў грудзі.
Адно бясспрэчна — трэці тут
Пакуль бадай што лішні.
Ляснік ужо замкнуў свой кут —
Шчыпае дзеду вішні...

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

Прыстань, Юрка, да вербунку,
будзеш есці з маслам курку.

З народнага эпасу

## 1

### БАГІ ПРОСЯЦЬ СПАГАДЫ

**(Рэпартаж з «вольнага свету»
першай паловы сямідзесятых гадоў,
або Споведзь Барсука-адміністратара)**

Пакуль наловяць тых курэй
Ды падрыхтуюць ежу,
Я раскажу, як архірэй
У Шмаргуна начлежыў,
А потым выскачыў на двор
І зацягнуў «Кацюшу»,
Перш чым далей падацца ў бор
Па грахаводнай сушы.
Вы гэта чулі? Дай вам бог
Штогод па новай кнізе.
Я нават ручкі не збярог
І... атрымаў па мызе.
Хто пастараўся? Нехта з тых,
Каму няймецца шкодзіць.
Але няхай, я не святы,—
За хлеў пад вартай водзяць.
Бог даў нам хвацкіх леснікоў,
Што ні дзяцюк, то — порах:
За колькі пар аўцабыкоў
Усё збылі б за мора,—
Абы хутчэй абжыць Таймыр
Ці нейкі іншы закут.
А хто расплачваецца? Мы,
Паляўнікі на ракаў!
Маглі б канадцам на развод
Падкінуць браканьераў.
Я не вылазіў там з балот,
Малым і то не верыў —
Стараўся вырвацца назад
З чужой, нялюбай пушчы,
Праз Ніягарскі вадаспад

Ішоў, як невідушчы.
Бог пакараў мяне за ўсё
Курынай слепатою,
Звяр'ё — ад кошак да ласёў —
Палохаў на пастоях.
І эмігранты — нехта ж ім
Шапнуў, што я падпанак,—
Пры мне маўчалі колькі зім,
Баяліся падману.
Хіба я першы абіваў
Іх сціплыя парогі?
Бягляк для іх, што крапіва
Каля лясной дарогі.
Вось дзе я высах, пачарнеў
Ад невясёлых думак.
Не жыў, а тлеў на чужыне
Каля трафейных сумак.
Лёс без капейкі за душой
Мяне туды закінуў.
Залез пад зруб з адным ляўшом,
А вылез... ля Афінаў.
Там загуляў наш праваднік.
Збіў я замок — ды ў стромы;
Крычаў адтуль, ды гэты крык
Не даляцеў дадому.
Як на бяду, мне ўторыў лес
Няўходжаны, бясплодны,
З панурым замкам на скале.
Жыў нехта ў ім нягодны.
Дарогі з розных гарадоў
Бягуць туды і сёння.
Муры — ім тысячы гадоў —
Храм ад вятроў бароняць.
А двор падобны на музей,
Чаго там ні пабачыш!
Нявольнік з гірай на назе
Акамянеў, няйначай.
Кагосьці ўбачыў ён тады,
Але прайшлі стагоддзі,—
Па твары па яго худым
Чмялі ды восы бродзяць.
А вунь і Зеўсаў манумент
Аблезлы. Без кароны.
Затое з бронзы... Айн мамэнт!

«Уласнасць Пентагона...»
Хто ж гэта так пажартаваў?
Зеўс анямеў ад гневу.
Вакол яго — кусты, трава,
Два-тры старыя дрэвы.
Ніякай святасці на іх...
Затое колькі шрамаў!
Відаць, сп'яна якісьці псіх
Расстрэльваў пні з-за брамы.
Такіх драпежнікаў тут шмат.
Хто ім зрабіць што можа?
Зеўс змрочна слухае цыкад,
Успёршыся на вожах.
Хоць еш зямлю! Куст варухнеш —
І наляцяць жандары.
Хто ж ад сябе іх адштурхне?
Тут нават страшна марыць.
Таму, мяркую, і багам
Патрэбна перадышка,
Як мне прыстойны фрак, наган
І чэкавая кніжка.
Няўжо я ў прочках не дарос
Да халуёў «Свабоды»,
Але, не злазячы з калёс,
Не выб'ешся ў рапсоды.
Адзін мой сябар ашалеў
Ад роспачы і жаху,
Калі прыкмеціў на скале
Завэдзганую плаху
І труп якогасьці хлапца
Ў пацёртых нагавіцах.
І я, прызнацца, не мацак,
Карціць адгэтуль змыцца.
— Бялецкі?
— Слухаю.
— Вам ліст,—
Жандар палез у сумку,
Шапнуў, што ён не фалангіст,
І выцягнуўся ў струнку.—
Прашу! Здаецца, ад сяброў:
На сургучы — «Пагоня» [1].
Ды менш пільнуйцеся мураў,

[1] «Пагоня» — тут эмблема белбурнацаў.

Вас наш кароль бароніць.
Хто знае, дзе, калі і як
Мне суджана памерці,
А вы, хоць, праўда, і бягляк,
Тут згніяце, паверце.—
Шэпт перайшоў у сіплы бас:
Жандар ужо рагоча.—
Гані пяць долараў на квас,
Канец дзвюх душ замочым!..

Канец дзвюх душ... Вясёлы жарт.
Лёс звёў мяне з падонкам.
Тут наспех не даюць кукард,
А рвецца там, дзе тонка.
Апошнім часам, як відаць,
Мне ўжо ніхто не верыць.
Пачнеш парадкі праклінаць —
Ілбом адчыніш дзверы.
Мой «дабрачынец» азвярэў
Пасля чарговай п'янкі,
Паставіў плаху на дварэ
Ля Зеўсавай альтанкі.
Турысты хлынулі глядзець,
Што гэта можа значыць.
Звініць у сонным замку медзь —
Зеўс ад бяссілля плача!

Пранесла! Нейкі Генрых Бёль [1]
Мяне на пласе ўбачыў.
Ён і сказаў мне: «Ніхт кароль,
Я вам жадаў удачы,
Калі жандару аддаваў
Амаль цвай таўзэн марак.
Трухой набіта галава
У гэты недавярак».

Пярэчыць Бёлю я не мог.
Мы ў паддаўкі гулялі,
Пакуль жандар, як васьміног,
На грошы вочы пяліў.
Затое потым — гэты факт

---

[1] **Генрых Бёль** (Böll) — вядомы заходнегерманскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

Я зарубіў на носе —
Ён моўчкі выруліў на тракт
І хмура загундосіў:
— Свет на дабры і зле стаіць,
Гаворыць рымскі папа.
Адзью, сустрэнемся ў раі
Са свастыкамі ў лапах!..

Гарыць трава. Кусты гараць.
Спякота пнецца ў горы.
З усіх канцоў Элады знаць
Сядзіць з малымі ў моры.
А той, хто выкарміў яе,
Без сведак і пры сведках
Ад гора плача і пяе
На высахлых палетках.
Хто гэта бачыў? Ваш слуга
Барсук-адміністратар.
Для вас я «шкурнік», «пустальга»,
Для Бёля — «літаратар»,
«Змагар за праўду», «дысідэнт»,
Амаль што Салжаніцын,
Якому Захад даў патэнт
На званне чужаніцы.
Дзед Апанас сказаў бы: «Стоп,
Нам гэта не цікава».
А Поп насуне брыль на лоб,
Затрубіць басам: «Брава!»
І дасць нырца ў такі паклон,
Што гуз наб'е з размаху.
Поп толькі «зело удивлен»,
Што ўсё «летит к монахам».
Ён сеяў вецер, спакушаў
Парафіян на здраду,
Цяпер, прадажная душа,
Памрэ адпетым гадам.
Той, з кім пашлю я гэты ліст,
Папу, як бацьку, верыў,
Мярцвеў пры слове «камуніст»,
Глядзеў на рускіх зверам.
Вось хто, казаў, павалачэ
Нас у Сібір з баракаў...
А зараз з прыстані вачэй
Не зводзіць, небарака.

«Хоць не сутулься ты,— бурчу,—
Без нас хапае зломкаў...»
А ён сваё: «Брысь пад карчук!» —
І лыбіцца з пацёмкаў.
Агата плакала б наўзрыд,
Дачуўшыся пра гэта.
Яе сынок па горла сыт
І мной, і «вольным светам»,
Дзе, як «свяцейшы» Леў Гарох [1],
Чужое з собскім блытаў:
Сум па Радзіме перамог
У ім касмапаліта.
Ёсць нешта ў гэтым пачуцці
Мацней за страх і грошы.
Мо Петрык швэндаў па жыцці
Без бацькавай калошы?
Аднак, асіліўшы надлом,—
Не век жа злыдням верыць,—
І ён падняўся на крыло
Ў далёкім Ванкуверы,
Злы на Абрамчыкаву раць [2]
Звяглівых прайдзісветаў.
Меў нават гонар атрымаць
Па галаве за гэта.
Перамяшчэнцы — я пра тых,
Хто пасабляў фашыстам,—
Клялі хлапца да хрыпаты
На «збюрках» ля закрыстый [3]
Або цягнулі ў кабачок,
Дзе сам Барыс Рагуля [4]
Лавіў яго на свой кручок,
Пакуль не ўбачыў дулю...

[1] Леў Гарох, ён жа Гарошка — беларускі буржуазны нацыяналіст, былы «зверхнік» т. зв. Беларускай аўтакефальнай уніяцкай царквы ў краінах Заходняй Еўропы.

[2] Абрамчыкава раць — іранічная назва групы беларускіх буржуазных нацыяналістаў — прыхільнікаў паслугача фашысцкіх захопнікаў, «прэзідэнта» т. зв. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) Абрамчыка М. С.

[3] Закрыстыі — парадныя ўваходы ў касцёлах і уніяцкіх субожнях.

[4] Барыс Рагуля — былы камандзір батальёна т. зв. Беларускай краёвай, ці, як яе тады называлі, кулацкай абароны; пасля вайны — памагаты ЦРУ.

Прабачце, тут я саграшыў
І, мусіць, буду біты:
Рагуля еў там беляшы
Без халуёў і світы,
Але на Петрыка, бандзюк,
Усё ж знайшоў управу.
Адбілі нешта. Гнецца ў крук
Хлапец пасля расправы.
Чужына сцюжай абдала
І не такіх атлётаў [1],
Аб'едкі з ейнага стала
Не лезлі ў горла потым;
За кожным нехта назіраў
Не дзень, не два — гадамі.
І Петрык збег адтуль. Пара!
Відаць, душой ён з вамі,
Бо гэтым летам тыдняў пяць
На зборы ў госці ўходаў.
На жаль, на рэйдзе не відаць
Савецкіх параходаў.

Цыкады... Тысячы цыкад.
Адкуль іх столькі ў горах?
Мо павярнуць і мне назад
Чыгункай або морам?
Ёсць, што з насоўкай на штыку
За вольнасць «ваявалі»,
А зараз кнігі тут пякуць...
Дзе ж я падзеў сандалі?
Без іх не спусцішся з гары.
А пра ваяк тых — потым...
Той, хто мне ў прочках гаварыў
Пра гэтых «патрыётаў»,
Не хоча нават, каб Зямля
Пра іх імёны чула.
А сёння бачу — загуляў
Ды ўжо ў абдымкі з шулам
Храпе пад аркай ля чынар,
Э-э, не, што ні кажыце,
Стары, па прозвішчу Гусляр,
Далоняй губы выцер —
Вось-вось, здаецца, запяе

[1] **Атлёт** — зух, маладзец *(дыялектн.)*.

Літанію багінам,
Але адвагі не стае —
Салдаты ў афіцыне!
Мо нават тыя, што В'етнам
Або Лаос бамбілі.
Карчмар, падбегшы, шэпча нам:
— Тут шмат іх. Эскадрылля...
— Хайль янкі! — дурыцца Гусляр,
Спрабуючы падняцца.
А твар — змрачнее... Строгі твар.
Стары адвык смяяцца.

Імжыць настырны сеянец,
Ён сапсаваў нам вечар.
А янкі вунь каля сянец
Сп'яна адкрылі «веча».
П'юць гладышамі... духата...
Гермес стаіць ля пліткі.
Геракл з Антэем — сорам, жах! —
На баявых сваіх шчытах
Разносяць ім напіткі...
А нехта ж вэргаў, што Антэй
Даўным-даўно забіты.
Хто ж памірыў іх? Праметэй?
Не, мусіць, Афрадыта.
Геракл маўчыць. Свой шчыт пасек —
Не выдае нікога.
Мо ад спіртнога акасеў?
Віна ў Эладзе многа...
Карчмар — круты, вяртлявы тацъ —
Палез па кроп у градкі,
Злуе, што жонкі не відаць...
Гусляр сабраў манаткі;
Па звычках бачна: паляшук,
З тых, хто, па волі лёсу,
Не выпускае кульбы з рук
І вечна круціць носам:
Усё не так яму. А тут —
Казармы ды руіны...
Ля іх і дрэвы ад пакут
Ужо гарбацяць спіны.
Гусляр хвалюецца. Дамоў
Шляхі яму адцяты.
А тут — ні свата, ні кумоў,

Гаруе, як пракляты.
Калісьці дужы, малады,
Ён і не думаў, можа,
Што трапіць з гуслямі сюды,
Як цецярук на вожах.
Хоць не стагнаў бы ўжо, а ён...
Ды што казаць — ёсць рэчы,
Якіх не купіш за мільён,
Каб сум не горбіў плечы...
Не важна, як яго завуць,
Дзед сам сябе катуе,
Што выдаваў тут каламуць
За праўду, быль святую...
Мо хто з радні яшчэ жывы
І ўспамінае часам,—
Дажыў да лысай галавы,
А ходзіць пустапасам...
Няўжо і я тут, як Гусляр,
Жыць у нястачы буду?
«Дурны! — сказаў бы мне Млынар.—
Менш спачувай іудам...»

Сяк-так адправіўшы гасцей,
Карчмар бурчыць кабеце:
— Я не сляпы! Мой гнеў расце,
Хоць прыбяры ў клазеце...
Ёсць без цябе каму салдат
Галубіць пад стагамі.
Жыццё не здань, не маскарад
З антычнымі багамі.
Я не Анасіс [1], я — карчмар,
Рудая мыш без права
На лішні долар ці дзінар
З сябрамі выпіць кавы.
Ты зразумела?..
Цішыня.
Кабета — колас спелы! —
Стаіць, не можа гнеў суняць;
Нарэшце моўчкі села.
Яна без продыху змала
Расла тут, гаравала.
Заўжды пакорная была,

[1] Анасіс — грэчаскі мультымільянер.

Пакуль любіць не стала...
Хмель у вачах яе. Карчмар
Чарнеў ад думак, ахаў:
Цень ад разгалістых чынар —
Жыццё пад іхнім дахам...

2

## АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

У грэкаў ёсць кароль, казна,
Апекуны за морам.
Ды хіба я аб гэтым знаў?
Цяпер прызнацца сорам,
Што валачыўся з лесу ў лес —
Абы напоўніць бруха,
Палохаў тут, як воўк, гарэз,—
Іх віск мне лашчыў вуха...
Не верыў тым, хто гаварыў,
Што людзі робяць цуды,
Не знаў, што трэба сталь варыць
У хуткім тэмпе ўсюды.
Каму-каму, а нам яна
Яшчэ не раз прыдасца,
Пакуль «бяскроўная вайна»
Ідзе з фашысцкай трасцай...
Маўклівы, жорсткі тут народ,
Відаць, жывецца цяжка,
Бо ў полі робіць круглы год
І... падцягае спражку.
Не дапамог эладцам Зеўс —
Апора той брыдоты,
Што цяжкай гірай на назе
Матлялася ў галоты.
Зямля яшчэ на трох кітах
З нябыту выплывала,
А ён з дубцом залез пад дах
За высачэзным валам,
Стварыў парламент, світу, двор,
Раздаў сынам пасады
І загадаў спусціцца з гор,
Бо рваліся да ўлады.
О, як тады гула зямля!
Як смертныя крычалі,
Калі нябесных пасялян

Каля сяліб страчалі.
Хто меў дастатак — нёс ім хлеб,
Духмяны мёд, масліны.
Або цягнуў з дарог у склеп
На дарагія віны.
Афінцы храм адзін, другі
Гасцям пабудавалі.
Заганарыліся багі,
Людзей ашукваць сталі.
А на зямлі як на зямлі —
Спакуса на спакусе,
Дык і сварыцца пачалі...
Павар'яцелі, мусіць.
Зеўс іх дубасіў. Але як?
Гнеў нават бога старыць:
Абкручваў хмараю кулак,
Перш чым па-людску ўдарыць...
Такога бацьку ў нашы дні
Назвалі б лібералам.

. . . . . . . . . . . . .

Гудуць ля замка авадні.
Зеўс прыпадняў забрала.
Ад успамінаў на ілбе —
Глыбокія барозны.
І да чаго ж ён аслабеў!
Бог неўгамонны, грозны
Не можа нават карчмара
Турнуць з гары ў даліну.
А Дыяніс? Ці не пара
Зноў даць па шапцы сыну?
Зеўс чэша карак: спіўся сын,
Зашмат было раздолля,
Дык і з турыстамі касы
Галёкае, саколік.
Экс-бог крыўдуе на братоў.
Дзе іх удаласць, сіла?
Стаяць паныла ля платоў
На загарадных вілах,
Сёй-той у прочках. Апалон
Цілімкае на ліры.
Дальбог, не верыцца, што ён
Быў некалі кумірам.
Для дзевак — гэтак «посны» кус.

Бяда спасцігла грэкаў:
Бог — апякун іх слаўных муз
Сам трапіў пад апеку.
Яго цяпер і ў казіно
Не пусцяць без праверкі.
Дагодзіш хунце — пі віно,
Не хочаш? Мый талеркі!
Хто знае, дзе ён і калі
Тут сам сабою будзе.
Манашкі шмыгаюць паўз ім,
Насы уткнуўшы ў грудзі:
Былы вяльможа, прыгажун,
Рукой прыкрыўшы сорам,
У іх садку каля лагун
Кіруе жаб'ім хорам...

А час ідзе. Карчмар прастыў,
Але з гары не злазіць —
Сячэ на паліва кусты:
Тавар падмок на базе.
Турысты хлынулі назад —
Далей ад жывадзёраў,
Што, як сказаў адзін салдат,
Спіхнулі сонца ў мора.
На іх баку і Саваоф,
Бог-себялюб, фанатык,
У следчых камерах за трох
Дапамагае катам.
І не пярэч! І не грызі
Іх за работку тую!
Хрыстос, распяты на крыжы,
Іх ад бяды ратуе...

Вунь нейкі дохленькі інок —
Адзін каптур ды вушы —
Пабег з распяццем у шынок
Калечыць чэрні душы.
Цярпі, мацуйся, Чалавек,—
Дай волю цемрашалам!
Ты злёг? Трашчыць у галаве?
Кажы, што білі мала,
Пусці драпежнікаў пад дах,
Цалуй ім рукі, ногі...
Ты прагнеш волі? Не бяда,
На гэта ёсць астрогі.

Адтуль ужо не ў казіно,
А на пагост дарога.
Шыпіць пагрозліва інок
І пагражае богам.
А за інокам — зграя тых,
Хто без суда і панятых,
Дарваўшыся да ўлады,
Раскрыжаваў Эладу.
Хіба яны дазволяць вам
Мець свае планы, думку?
Падонкі хваляць іх бедлам —
І ты цягніся ў струнку.
Ды выкінь, дурань, з галавы,
Што бог табе паможа,
Калі на цынаўку з травы
Пад бізуны паложаць.
Зямныя пастыры — а іх
Тут, як суркоў, багата —
Па волі зверхнікаў сваіх
Пяюць асанну катам.
Вось і мяркуйце, Was ist das [1]
Жыць у разладзе з богам?..
Паны-палкоўнікі якраз
Святкуюць перамогу:
Свет капіталу іх прызнаў
І падкарміў валютай.
Яго крывавая казна —
Трамплін для гэтых спрутаў.
Іх эмісары ўжо сядзяць
Хто ў Боне, хто ў Мадрыдзе.
Шкада, што я ім не суддзя.
Не ўсе ж там — на карыдзе.
Мадрыд стаў Мекаю для тых,
Каму бліцкрыгі сняцца.
І напляваць ім на святых —
Жывуць па ўласных святцах,
Пакуль у хунты ёсць штыкі
І салдатня ў біваках;
Не эмісары, а ваўкі
Ў падшытых здрадай фраках.
На іх сумленні больш інтрыг,
Чым над Эладай зорак,

---

[1] Was ist das — Што гэта такое? *(ням.)*.

Ім і Анасіс чэкі стрыг,
Каб на яго паморак!
Стрыг на падкопы, на трацiл,
І нават на бардэлі,
Каб снобы ў поўні «творчых» сіл
Без справы не сядзелі.

Да д'ябла ў клець з такім жыццём!
На ўліку кожны шылінг...
Кароль і той ад іх уцёк,
Каб дзе не прыдушылі.
Паклічуць — вернецца. Яшчэ б,
Хіба ён вораг хунце?
А свет бурліць: пачаўся трэп
Аб «каралеўскім бунце».
Вось хто стараецца, маўляў,
Вярнуць свабоду грэкам...
Другія ганяць караля,
Для іх ён — недарэка,
Банкрут без войска і папер
На хісткі трон Элады;
Быў важнай шышкай, а цяпер
Хоць выстаўляй у грады.
Не дапамог яму і крыж
Адбіцца ад фашыстаў.

. . . . . . . . . . . . . .

Эгэ! На провадзе — Парыж.
Няўжо і там не чыста?
Фашызм не пройдзе! Я шкілет
Яго на сценах бачыў.
Але маўчу. Хай «вольны свет»
Па цемрашалах плача.
Ён, гэты свет, ім патураў,
Чакаў «вызвольных акцый»,
Не выпускаў з-пад «каптура»
Ніводнай «чорнай фракцыі».
Газеты, радыё гракоў
Паказвалі арламі,
А потым будуць мерцвякоў
Аплакваць у Нотр-Даме.
Парыж не Мюнхен і не Бон,
Дзе гвалт яшчэ ў пашане,
Але палкоўнікам і ён

Гнуў палазы на сані,
Пакуль сябры па НАТО ўрад
Трымалі на прыцэле...
Я не суддзя ім, але рад,
Што ў лапаць яны селі.
Фартуна злая моўчкі зад
«Сябрам» тым паказала,
Калі прыкмеціла салдат
Ля кожнага вакзала.
Дзеля каго ж рызыкаваць?
Ёй і самой ахвота
Пець «Марсельезу», танцаваць
З бунтарнаю галотай...
Парыж ачомаўся, ажыў,
Паслаў да д'ябла НАТО,
Вярнуў нямала з-за мяжы
Сваіх салдат дахаты,—
Бліжэй да роднае зямлі,
Да фабрык ды заводаў...
Гулі на рэйдах караблі
З няўрымслівым народам.
Фашыстам мову адняло,
Свярбела змыцца ў прочкі...
Іх верхаводы ўсім сялом
На «чэрнь» кацілі «бочкі».
Упершыню за шмат гадоў
Парламенцкай трасухі
Яна іх гнала з гарадоў
Без лішніх слоў і скрухі.
«Чэрнь» не збіралася чарнець
І паміраць ад гора,
Калі банкіры нават медзь
Вывозілі за мора.
Чаго ж трасціся? C'est la vie [1]
Медзь — справа нажыўная.
Парыж ад'еўся на крыві
Былых coulour [2] ускраін;
Не той, што ў прыцемках куе
Сабе вясну над Сенай,
А той, што зыркае на свет
Вачамі бізнесмена.

---

[1] C'est la vie — такое жыццё *(франц.)*.
[2] Coulour — каляровыя *(франц.)*.

І тут, у Грэцыі, заўжды
Ен, як факір, з імпэтам
Пускаў людзям у вочы дым
І нешта меў за гэта.
Я тут не раз і караля
Сярод банкіраў бачыў.
Але маўчу. Хто з ім гуляў,
Той хай па ім і плача...
Мне б толькі ціхенька сляды
Каля карчмы зацерці.
Але з яе ўжо валіць дым —
Прадвеснік нечай смерці.
Карчмар свой грэх на пастухоў
Або на жонку зверне.
Адсюль ad patres шмат шляхоў
Для непакорнай чэрні.
Хіба я вам не гаварыў,
Хто тут законы піша
І на антычныя муры
Плюе з астрожных вышак?
Багіня мудрасці, відаць,
Пакінула Эладу,
Кароль не мог двух слоў звязаць,
Да ног чужынцам падаў.
І ад палкоўнікаў нясе
Сабачаю пакорай.
Страх — незгаворлівы мусье —
Паўзе ў штабныя норы,
Благімі зводкамі штодня
Нягоднікаў трывожыць;
Страх іх навыцяжку падняць
І перад янкі можа.
Яны, як злыдні, і ў «гасцях»
За кожным пільна сочаць.
Іх паласата-зорны сцяг
З пагрозай тут лапоча.
Пад гэтым сцягам дзядзька Сэм
Курс на вайну трымае.
Дык не шукайце вострых тэм
На тых «франтах», што з краю
Паабрасталі ў гамакі
На ўлонні маляўнічым...
Няхай там сойкі ды гракі
Сукі на соснах лічаць!

3

**HAPPY END**[1]

Цьфу, чорт! Званок! Не паляжыш...
Зноў, мусіць, Бёль. О божа!
Я не збіраюся ў Парыж.
Які з мяне вяльможа?
Жандары цэглаю мой лаз
Прыкрылі за стадолай;
Хацеў падацца на Парнас,
Ды ён, як бубен, голы...
Хто гэта сунецца туды
Пасля такіх пагромаў?..
Але каб быў я малады
Ды больш, як кажуць, чомаў —
Увесь ланцуг парнаскіх гор
Ачысціў бы ад вышак...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Атэль «Персей». Бабы, кагор,—
Гусляр мне ў пысак дыша:
— А што Парнас? Плюсквамперфект!..
У Лету сплыў, галуба...
Не лепшы, браце мой, эфект
І ад зямных пенклубаў[2].
Ёсць сіла нейкая, што іх
Трымае ў «чорным целе»...
Дайшло? Дык выпі! Хвацкіх кніг
З праклёнаў не намелеш.
Бёль у Пенклубе — галава
З машною і даўбешкай,
А тут — «баварскі мылавар»,
«Хлус», «прахадная пешка»...
Ды хіба можна не любіць
Такога дабрадзея?
Бадзяг і пешкай можна біць.
Яго прыезд — падзея.
Бёль — гэта перш за ўсё пратэст,

---

[1] Happy end — шчаслівая развязка *(англ.)*.
[2] Пенклубы — міжнародныя аб'яднанні пісьменнікаў розных палітычных і мастацкіх напрамкаў, першае з якіх было створана ў 1921 г. у Англіі.

Ён «спачувае» грэкам
І... на манебры, як на фэст,
Папёрся, недарэка.
А можа, гэта маскарад?
Паглядзім. Час пакажа...
Ты што, не п'еш?..

Мне б печкура
На сонейку падсмажыць.
Але з атэля да ракі —
Вялікі кус дарогі
Паўз занядбаныя такі
Каля сяліб убогіх.
Сяляне ў горах на вузлах
Сядзяць, напэўна, злыя,—
Хто спіць, хто рэжацца ў «казла».
Сёй-той па зброі ные...
А навакол, як у вайну,
Сляды ад куль, лістоўкі...
Мо да зімы ці дацягну
Без імпартнай вінтоўкі...
Даруйце, мусіць, я хлушу,
Навошта мне вінтоўка?
Я д'ябла ўжо ў сабе нашу,
Прыкідваюся воўкам...
Але за Бёлевай спіной,
Як за трухлявай ражкай.
Мяне ўжо тут Гусляр і той
Нядаўна школіў спражкай,
Пасля, змахнуўшы са стала
Пустыя пляшкі, ежу,
Сказаў, што з горам напалам
Ён мне і марш «урэжа».
А я, надзьмуўшыся, чакаў,
Што метранпаж нам скажа.
Гусляр з папругай у руках
Яго вачамі пляжыў:
«Усе вы тут. Ну, мне пара!..»
Гнілы, як грыб, калючы,
Ён і сабе не патураў
На чужыне дрымучай.
Няўжо ён здрадзіў змагарам?
А я з сынамі Зеўса
Крычаў палкоўнікам «ура»,

Каб ён зямлі наеўся!
Жандары плакалі наўзрыд,
Дачуўшыся пра гэта,
Цяпер сярдуюць: «Паразіт!
Ты сапсаваў нам лета...»
Гусляр жартуе: «Так табе
І трэба, чалавеча!
Абрамчык грошыкі грабе,
А нам і крыць, брат, нечым.
Не Бёль, а ён цябе дурыў,
Прыкрыўшыся пенклубам.
А хто такія спадары —
Сам спацігнеш, галуба.

Спасціг! Аж млосна. Не ў «казла» ж
Гуляў у іх «гасподзе»,
Дзе мне па ўсіх законах зла
Айцец Гарошка шкодзіў.
Ішла праверка — з кім, чаго
Мяне ў Парыж прынесла.
Аднойчы нават ланцугом
Прывязвалі да крэсла.
Я спасылаўся на Папа,
Гарошка — на даносы,
Гару газет перакапаў,
Але астаўся з «носам».
Гусляр — дай бог яму дамоў
З павіннаю вярнуцца —
Сказаў айцу, каб без размоў...
Зашнураваў мне буцы.
А шапку я ўжо сам схапіў,
Перш чым рвануў на ганак
І бестурботна, як гіпіст,
Зірнуў на парыжанак.

Парыж. Нотр-Дам. Булонскі лес...
Гуляй, пакуль ёсць грошы!
А я ў даўгі па вушы ўлез,
Катомку апустошыў:
Што меў — усё прагандляваў,
Шукаючы прытулку.
Ёсць куст, ёсць мяккая трава,
Ды спаць, халера, мулка!
Сваіх хапае едакоў,

Злуюць, бастуюць, плачуць.
І сярод нашых беглякоў
Багатых я не бачыў.
Жыццё ў апошнія гады
Усім даецца ў знакі.
Бяднеюць людзі, гарады,
Бяда гняце баракі.
Не ўсе вярнуліся дамоў
З далёкіх даміньёнаў...
Тут можна здохнуць ад прамоў
І розных забабонаў.
А Петрык хомтае ў руках
Якуюсьці газету,
Увесь памяты, ў сіняках;
Цягну вячэраць — дзе там!
«Сам,— кажа,— еш.

Мне б адпачыць
Ды зноў на біржу працы.
Чуў, што рабілася ўначы?
Тут нас патруль намацаў».—
«Жартуеш».—
«Рад бы, але ёсць
Прычына біць трывогу.
Людзьмі сям-там кіруе злосць.
Кліч, калі ёсць, падмогу...» —
«Эх ты, ваяка! — буркнуў я,—
Пайшлі, Гусляр на строме.
Яму тут кожны слуп — сваяк,
З ім нас нідзе не зломяць».

Пасля Афін я крыху ўжо
Ачомаўся, здаецца.
Але гуляць хаджу з нажом,
На ўзроўні жыць няймецца.
Айцу Гарошку і няўцям,
Што я з ягонай вёскі,
Меў, як і ён, пяску трацяк,
Пацяты на палоскі,
Хадзіў на дыспуты ў Нізок,
Дзе Леў Папа «чыхвосціў»,
Пасля бачком, як ментузок,
Лез да шынкаркі ў госці.
Ужо тады, як Герастрат,

Ён быў на ўсё гатовы,
Гарой стаяў за панскі лад
І справамі, і словам.
«Далёка пойдзе, паразіт!» —
Гуў муж шынкаркі Іцкель.
За Львом стаяў мітрапаліт
Заплечных спраў Шаптыцкі [1],
А за Шаптыцкім — Ватыкан
З прапахлым воскам клерам,
Які быў схільны да шыкан [2]
І сквапны, як халера.
Ад іх і наш Гарошка Леў
Набраўся дзікай прагі,
Пературыў субожню ў хлеў,
Шалеючы ад брагі.
А потым, бачыце...
От гад,
Яго ж павесіць мала!
Шаптыцкі свой панціфікат
Закончыў цемрашалам.
І гадунцы яго ў крыві
Тапілі «чэрнь» няшчадна,
Леў з кос дзявочых пугі віў,
А тут — сядзіць у радных!
Спадар Абрамчык без яго
Не рыпаўся далёка.
Ксёндз — правакатар, эпігон —
Быў любы яго воку.

Абрамчык — мне яго ў кафэ
Пашанцавала ўбачыць,—
Тут, як той бош [3], у галіфэ
На вольны свет батрачыў.
«Глянь,— гуў мне Петрык,— гэты пан
Абалванеў у прочках,
Але, напяліўшы жупан,
Кудахтае, як квочка,
Перамяшчэнцам пра вайну.
Мір для яго — пакута.
Трафеі сніцца груганy,

[1] А. Шаптыцкі — колішні «галава» так званай украінскай уніяцкай царквы.
[2] Шыканы — падкопы *(польск.)*.
[3] Бош — немец *(франц.)*.

Кляне вас, грэшных, люта
Або над картай, як Керзон [1],
Пацее, недавярак.
Я не жартую. Ёсць рэзон
Вярнуць яму фальварак.
Няхай пакажацца радні,
Мо ашчаслівіць брата,
Якога змалку дзень пры дні
Стараўся выжыць з хаты...»

Керзон скерзоніўся! Паны
Заездзілі прахвоста:
Не паспяваў знімаць штаны
Пасля банкетных тостаў,
А потым — гыркаў на салдат
І троссяя за Антанту,
Калі ў Парыжы нейкі хват
Сарваў з яго фальбанты...
Керзон баяўся перамен,
Дык плёў са свецкім бляскам:
«Наш мір з Масквою — Happyend,
Шчаслівая развязка...»
Абрамчык гэтага не чуў —
Ён быў тады падлеткам,—
Але бурчыць, стары карчук,
Што ўсё змяце з палеткаў
У свой заморскі тарантас
І нам галовы зніме,
Калі дарвецца ў судны час
Да ўлады на радзіме.
Нябожчык Гітлер начыніў
Яго змагарным духам,
Пасля з нябеснай вышыні
Пацьвельваўся, псяюха:
Керзон вярнуўся ў свой бярлог
З пусценькім рыдыкюлем,
Затое бог яго збярог
Ад партызанскай кулі.
А пан Абрамчык па аўсе
Джгаў з хутара ад хлопаў.

---

[1] Керзон — колішні міністр замежных спраў Англіі, «стратэг» Антанты, аўтар плана падзелу Беларусі на ўсходнюю і заходнюю зоны.

І саграшыў: лухту нясе
Ледзь не на ўсю Еўропу.
Каму ён толькі не служыў,
Бунт трызніцца бандыту,
Усіх ён бачыць на крыжы
З часоў палеаліту...
Мо я не гэтак што сказаў
Або паблытаў факты?
Для белбурнацаў драбяза —
Чэх, рускі ці паляк ты.
Ім, гэтым выкапням, мілей
Іх собскія пячоры,
Каго ні ляпнеш па спіне —
Змала на пана хворы.
З такім народам трэба ўмець
Брахаць з ліста ў прытонах.
Хто ж алілуя «нашча» пець
Захоча Пентагону?
Духоўнай стравы спадарам
І дома не хапала,
А тут і ў байзель, як у храм,
З піўнушак валяць валам...
Спадар Абрамчык па чарзе
Карыў дружкоў за гэта.
А воз — ні з месца, балазе
І сам ён лынды б'е там;
Хай скажа, хто яго паслаў
Брахаць на вас з Парыжа.
Я не зайздрошчу тым аслам,
Хоць ён ім пяткі ліжа!..

Калісьці рвач на «айн мамэнт»,
Даносчык, завязь гада,
Цяпер Абрамчык — «прэзідэнт»
Легальнай рады здрады.
Пачатак свой яна ўзяла
Яшчэ пры царскім ладзе
З тых фальваркоўцаў і ваяк,
З якімі Кайзер ладзіў,
Пасля Пілсудскі спакваля
Нацкоўваў на галоту...
Гарэлі вёскі. І зямля
Траслася ад грымотаў,
Пад гул гармат яна панам

Давала плён багаты...
Сляпы ад слёз у палынах
Шукаў свайго араты.
«Хаця б ён лішняга не ўзяў
Ды не расправіў плечы...»
Хлоп не даваў жыццця князям
За здзекі, за галечу.
А рада — кол ёй пад рабро! —
Аб'едкі падбірала,
Але «спадпольнае» дабро
Ёй не прынесла славы.
Дарэмна «ейны» атаман
Тады сялянам каркаў:
«Калі з вас хто і зніме план,
Дык гэта я, Захарка [1]...»
А чэрнь гула днём і ўначы
З-пад шампалоў, з-пад пугі:
«Не змагары вы, а рвачы,
Рабаўнікі, звяругі...»

Няхай Абрамчык і не быў
У цэнтры гэтай былі,
Затое з бошамі гарбы
Сек «хамам» у экзылі.
Не шампаламі, а пяром,
Сваім плюгавым словам,
Пакуль і тут не грымнуў гром
Па здрадніцкіх «высновах»...
Не стала бошаў. Здох Петэн.
На карак селі янкі.
Ад рэдзькі моташна. І хрэн
Прыеўся без смятанкі...
«Беларутэнія» жыла
І будзе жыць! А рада...
Хіба збярэш яе ў кулак
Без розак і прынады?
Спадар Абрамчык — беларус
З душой калябаранта,
Лез і ў Дэголеву «нару»
Брахаць на эмігрантаў,
Прыкрыўшы ўласнае дасье
«Пакутамі» ў Саветах,

[1] В. Захарка — адзін з першых верхаводаў БНР.

Але і там на «шыла» сеў,
Як прывід з таго свету...
Няхай з Абрамчыка змагар,
Як з пацярухі куля,
Ён не кранецца нават з нар,
Калі алярм [1] пачуе.
Хто гэта кінецца за так
На колішняга макі [2]
Або да рускіх забіяк
Пасунецца ў бaракі?
Мо тыя хлюсцікі з газет
Ці, скажам, дысідэнты?
Яны паскудзяць «вольны свет»,
Сапселыя дашчэнту...
Пардон! Абрамчык не дурны,
Сам з-пад кантролю выйшаў...
А дысідэнты — пэцкуны,
Мяшкі трухі. Афіша!
Не могуць, цуцыкі, прыўзняць
Крыху вышэй галовы,
Чужынцам лыбяцца штодня,
А землякам — ні слова;
Іх трэба добра абчасаць,
Перш чым пусціць на волю.
Якая з гэтай дрэні знаць?
Выць у кулак — іх доля.

...Захарка, лежачы ў труне,
Крывіў з пагардай губы,
Калі адзін такі сугней
Трос над магілай чубам.
Не верыў выскачкам стары,
Хаваў ад іх паперы,
Злаваў, за хітрыкі карыў,
Мог і турнуць за дзверы.
Самога ж выгналі з двара.
Гвалт панаваў на свеце,
Таму Захарка прыбіраў
І ў собскай хаце «смецце»,—
Больш недаверу — менш бяды.
Быў лад ва ўсякім разе.

---

[1] Алярм — трывога *(польск.)*.
[2] Макі — антыфашыст, партызан *(франц.)*.

Не лапці ж плесці ён тады
Атабарыўся ў Празе.
А той, чубаты, прыскакаў
Ляпіць свой «блёк» у радзе,
З «развёрсткай» абвера ў руках
Пад шэрсць Захарку гладзіў.
Але агентаў не наскроб
Для вермахта без марак...
Хто гэта быў? Наш хітры Поп,
Пацеха для аўчарак.
На пражскіх вуліцах тады
Ён страх сціраў з залысін;
Плячысты, дужы, малады,
А ногі ледзь пляліся
Пасля зямных турбот у сад
Дыхнуць паветрам чыстым...
Поп-правакатар кляў свой сан,
Канарыса, фашыстаў —
Баяўся смерці. «Атаман»
Сам быў яшчэ рухавы,
Дурыў французаў, англічан
І з немцамі піў каву —
Карцела выехаць з цянёт
На іх вазах «у людзі»
Ды зноў вучыць «дурны народ»,
З кім трэба есці пудзінг.
А каб ніхто не абскакаў
Яго на ніве здрады,
Захарка выкрытым шпікам
Не шкадаваў і яду.
Так на чужой крыві і «рос»
Ён, прыкупіўшы ліха,
Пакуль самога на пагост
Не вынеслі пацiху.

4

## ПАД СУЗОР'ЕМ «СЯМІ НЯНЕК»

Спадар Абрамчык танцаваў
Ад радасці ў Парыжы.
Чыя б трашчала галава,
А ён не здаўся, выжыў;

Не выйшла дома — за мяжой
Падлапіўся на здрадзе.
Хто гаварыў, што на чужой
Зямлі ён макам сядзе?
Спадар Астроўскі? [1] Бог яму
Нідзе не дасць прытулку.
Такім ад думак пра турму
І ў мяккім крэсле мулка.
Дзе яго рада? Дзе мандат
На ўласны двор і світу?
Але Захарку гэты гад
Са свету зжыў — і квіта!..
Абрамчык трэсся, як кісель,
Калі яму шапнулі,
Што на Захаркавай дасе
Знайшлі сляды ад кулі.
Спадар Астроўскі не паспеў
Прыбраць яе ў свой ранец...
На словах гэта Рабесп'ер,
На справе — ашуканец;
Другі сядзеў бы, як пацук,
Пад собскім сцягам здрады,
А ён бунтуецца, бандзюк,—
«Прыбіты горам», «бляды»,
Працёпам лезе ў кожны кут
Змагарнага балота;
Не барацьбіт, а погань, спрут,
Памесь савы з янотам!
Спадар Абрамчык мае зуб
І на ягоных «нянек»,
Што палітычны гэты труп
Прыгрэлі на выгнанні...

---

[1] Астроўскі Радаслаў — беларускі буржуазны нацыяналіст, ваенны злачынца, «прэзідэнт» самазванага «урада» т. зв. Беларускай Цэнтральнай рады (БЦР). Пасля разгрому гітлераўскай Германіі стаў агентам амерыканскай і англійскай разведак. Адзін з верхаводаў антысавецкіх фашысцка-нацыяналістычных арганізацый у ЗША.

5

## VIVE RE MEMENTO! [1]

Пакуль пісаў я гэты ліст
Ды швэндаўся без працы,
«Ажыў» яшчэ адзін фашыст,
Надзея белбурнацаў.
Лёс, а мажліва, нават рок
Звёў нас у «вольным свеце».
Я даў ужо сабе зарок,
Што буду сеяць вецер...
Свет гэты ўсё ж паразумнеў,
Менш патурае босам.
З тае пары карціць і мне
Пакінуць янкі з «носам».
Шмаргун павесіцца, калі
Дачуецца пра гэта.
Хіба не ён мяне хваліў?
Скажу вам па сакрэту:
Дзве рады здрады свой «давер»
Мне выказаць гатовы,
Але спрабуйце напавер
З іх выціснуць хоць слова!..
Спадар Абрамчык,— бог яго
Усё ж прыбраў на неба,—
Не раз з машной і ланцугом
За мной як прывід шлэбаў:
«Ідзі да нас! Ты ж, гэта во,
Адтуль, а спіш з «наганам»...
Дай знак рукою ці брывом —
Клянуся, будзеш панам!
Не верыш? — Ён выпісваў чэк,—
Бяры! Тут, брат, нямала.
Але ад сумкі гэй авэк!
Перш паднімі забрала.
Вас, дысідэнтаў, тут няшмат,
Хоць не вурчы, як пудзель...
Ex his [2] я шчыра буду рад,
Што свет не абязлюдзеў,

---

[1] Vive re memento — Памятай аб жыцці! *(лац.)*.
[2] Ex his — на гэтай падставе *(лац.)*.

Ad propositum [1] сам сабе
Да ног схілюся, пане,
Калі змахлюеш, што прыбег
Да нас, як на гулянне...»

«Каб ты гуляў на жываце,
Фашысцкі ашчаропак!» —
Адрэзаў я і... наляцеў
На нейкага Цыклопа.
«Куды ж ты, жаба?! Мо туды? —
Ён паказаў на Сену.—
Шкада, што ў ёй цяпер вады
Вароне па калена...» —
«А калі я скажу, што не?» —
Хацеў я запярэчыць.
Але Цыклоп асатанеў:
Ён трос мяне за плечы,
Крычаў, што я, напэўна, з тых,
Каму і ў прочках цесна;
Пасля шапнуў: «Чашы ў кусты,
Бо па загрыўку трэсну!..»

О, гэта быў сапраўдны цуд.
Над Сенай ноч вісела,
А я не тросся... Ёсць і тут
Народ рашучы, смелы.
Карамба! Колькі ж трэба мець
Удаласці і спрыту,
Каб не загінуць у турме,
Нашкодзіўшы наймітам!..
Абрамчык спёкся. Пастарэў
І занямог Астроўскі.
А нас і ліха не бярэ
На іх «прасёлках» коўзкіх,—
Скрыпеў, сігаючы ў атэль
Якісьці пан зікраты.
Яму — што бар, што вар'ятэ —
Спяшаўся, як пракляты.
Станкевіч!.. Тысяча чарцей!..
Дзе той Цыклоп?.. Эй, пане!

Зіркаты буркнуў: «Я з гасцей,
Прэч з маіх воч, паганец! —

[1] Ad propositum — у залежнасці ад неабходнасці *(лац.)*.

Але куражыцца не стаў,
Абняў мяне.— Дай пысу!
Перад табой ізноў пан Стах,
Дух у людскіх абрысах...
Не верыш? Праўды захацеў?
Я ж — рэпарцёр «Свабоды».

. . . . . . . . . . . .

Запеў кафейнік на пліце,
Як сімвал поўнай згоды.
Стах не злачынца. Бачыць бог,
Час згвалціў чалавека.
Не кожны вываранень мог
Хлусіць на ўзроўні веку.
А Стах пад шыльдай «Liberty»
Каля гнілых вытокаў
Так матавіла раскруціў,
Што аж гуло навокал,—
Чарніў Радзіму, землякоў,
Любой зачэпцы рады,
Цяпер на стыку двух вякоў,
Сам стаў ахвярай здрады.
Стах шмат каго абуў, адзеў,
Карміў з уласнай місы.
А хто галоўны ў брэхбудзе!
Ашмотак белабрысы!
Кранеш — як бачыш данясе
Сваім «ласкавым» босам.
Выходзіць — нам на карак сеў
Кароль хлусні... Юрасаў.
Хто-хто, а гэты жываглот
Сваё здзярэ з любога,
Хіба што Стах, скрывіўшы рот,
Прыдушыць гэту погань.

У пана Стаха — хрыпата.
Відаць, прастыў, бо зранку
Таблеткі нейкія глытаў
І дакараў служанку:
— Паслухай, Надзя! Ты знарок
Дала мне віскі з лёдам...
Я не дурны! Спусці курок.
Бяда з такім народам.
Хто ж гэта мне ў шынку казаў:
«Кабета ёсць кабета,

То яна гнецца, як лаза,
То сыпле шкло ў катлеты...»
Служанка,— глянеш на яе,
І пазяхнуць ахвота,—
Спіць у пярэдняй, дрэнна есць,
Але шыпіць, здыхота:
— Не забывайся, пане Стах,
Кім я была калісьці.
Мой шэф на вас наводзіў жах,
А мне — пантофлі чысціў...
І не служанка я табе,
Пан гэтага не варты!..
— Даруй! Лепш трэсні па гарбе.
Ты ж ведаеш, я жартам...

Паелі прыхваткам. Пан Стах
Пабег званіць кудысьці.
А я цікую на Хрыста.
Які ж яго нячысцік
Хавае ў цёмныя куты,
Не зняўшы нават з крыжа,
Людзям не шэнціць на святых.
Бог для набожных — грыжа.
Ён, як туман з гнілой ракі,
З ног зваліць — не пачуеш...
Ці не таму ўсе слабакі
Мруць там, дзе страх начуе?..
— Эх ты, Спіноза! Пентагон
Нас голадам заморыць,
Калі не выб'ем для яго
З усіх зямлян пакоры,—
Падкінуў мне пан Стах з двара,
Трубою склаўшы рукі.—
Мы ім дадзім багоў, цара.
З нас ніц больш і не злупіш...
Завязвай гальштук! Землякі
Ідуць сюды аравай.
Як быццам я круцель такі,
Што жыць не маю права...
І Надзя з імі. От брыда!
Чуў, што яна казала?
Не баба, брат, а божы дар
З транзітнага вакзала!..
За карабок ландрын і хну

Я тут ад сноў лячыўся,
Страх як рукой з сябе змахнуў
І... атрымаў па пысе.
Ад канкурэнта. Хны, браток,
У Мюнхене хапала.
А я заняў чужы шасток
Без дзіды і забрала...
Цяпер мне сніцца Леў Гарох,
Наш брат і сябар верны,
Каб ён пасля малебнаў здох
Ля першае ж таверны!

Вось дык «сябры»! Няма на іх
Сырой глыбокай ямы...
Пан Стах з мяшком савецкіх кніг
Спыніўся ў «байзальмамы».
Дружкі,— Рыгор Казак, Бадзей,
Акула, Віцьбіч Юрка,—
Даўно адсталі ад падзей
На мюнхенскіх задворках.
Няхай чытаюць. І стыло
Стах мог бы ім даверыць.
А пані Надзя памялом
Падперла ў кухні дзверы,
Схапіла медны крыж з Хрыстом
Ды сіплым басам з сілай
У нас, бяздомкаў, за пастой
Сто марак папрасіла!
Пан Стах спярша атарапеў,
Пасля махнуў рукою:
— Бывай! Сустрэнемся ў кафэ
Каля аблезлых стоек.
Я на «прытычках» ля паноў,
А ты...— Ён плюнуў: — Божа!
Жывым не стане бервяно
І ў тысячы адзёжак!..
Пан Стах не хоча прызнаваць
Маральнае «паражкі».
Прыгоды нашы — трынь-трава
Для гэтага бадзяжкі.
Хіба пад Сэмавым крысом
Паднімешся на ногі?
Ён і радню сваю, як сом,
Пашле к чарцям на рогі,—

Далей ад жытніц векавых,
Рабочай сілы, пляжаў,
І ў час расплаты галавы
Галоце не пакажа.
Стах гэта знае. Ён такі
І «слёз» праліў нямала,
Пакуль «Свабода» вашых кніг
На «боны» не прыдбала:
«Чытай! Натрапіш на «блыху» —
Шэф скісне, дасць надбаўку...»
Пан Стах на кожную страху
Калісьці дома гаўкаў,
А тут і лыка з яго прэ,
Калі тых «блох» наловіць;
Пільчак ужо на ім сапрэў,
Затое ў кожным слове
І мёд, і дзёгаць, і труха
Змагарнай пазалоты,
Якую цягне гэты пан
З фашысцкага балота.
Купала, Колас, Крапіва...
На іх глядзіць ён скоса.
І Танка б Стах не выдаваў,
Злуецца, круціць носам;
На Куляшова кіне зрок —
Зноў хмурыцца, чарнее.
Як згаварыліся! Знарок
Псуюць настрой сугнею.
А ёсць жа, ёсць і гнілякі...
Пан Стах чакае цуду.
На кожным дрэве ёсць сукі,
Ды змогся ўжо, зануда:
«Ствалы» яму не па зубах,
А да «сукоў» — высока,
З крывой усмешкай на губах
Пра «крызіс» загалёкаў:
«Хоць ты загрудкі іх трасі,
Каб нам крыху падпелі.
Маўчаць іваны, петрусі,
Як быццам анямелі.
Савецкі лад усё ім даў —
Вось тут у чым прычына.
А я... Ды што казаць. Бяда!
Што ні фальянт, то — міна...»

## 6

## МАРЫ АДШЧАПЕНЦАЎ

А колькі б гэтых «мін» было
Ва ўсіх кнігарнях свету,
Калі б хто смелы наш «паром»
Спіхнуў нагой з планеты.
Каля «Свабоды» не чуваць
Ні песень, ні праклёнаў...
Я там нядаўна начаваў
Пад сукаватым клёнам.
Вартаўнікі,— ім тут, хоць вый,
Ніхто не спачувае,—
З тугой глядзяць на паплавы,
Радзіму ўспамінаюць...
А Стах — адпеты песіміст.
Яго тут «б'юць» няшчадна.
На дыспут зойдзе — крыкі, свіст,
Хоць і махлюе складна.
З такім у рай не забрыдзеш
І ў пекле будзеш лішні,
«Свінню», паршывец, падкладзе
І след затрэ увішна...
Але і я не мух лавіць
Прыпёр сюды з Парыжа.
Пакуль пан Стах у крэсле спіць,
Майструю будку з кніжак.
Маўляў, абыдземся без іх...
Ну, хіба я не бачу,
Што гэты дурань больш за ўсіх
Перад панамі скача.
Бяда прыспічыла. З мяшком
Сцярвятніка купілі,
Вось і мяркуйце, хто з «душком»
У гэтай камарыллі.
І на які, скажыце, ляд
Тут лес антэн і вышак?
Мо ён з вайны для ўсіх зямлян
Мір ці вясну калыша?
«Свабода» лыбіцца панам.
Я іх даўно заўважыў,
Здалёк кланяюся чынам
І лаз на волю ладжу.

Каб менш даносчыкаў было —
Уцёк бы хоць сягоння...
І рэпарцёраў тут — калом
За месяц не разгоніш.
Ёсць і пісьменнікі.
                    Чаму ж.
Але на іх сумленні
Мільёны вывернутых душ.
Як напаказ. З карэннем.
І спаняверапы В'етнам,
Жалобны крык Анголы...
Пісакі гэтыя і вам
Рыхтуюць яд з ментолам.
Па іх няпісанай шкале,
Усе грузды з «гнільцою»,
Лепш іх не бачыць пры стале,
Прынамсі, раніцою.
Хіба што чарка ёсць, тады
Пацягне з імі снедаць.
І той, хто трапіў у грузды,
Павінен гэта ведаць.
Жрацы «прыгожага» з цаўём
З'ядуць яго, і баста!
А жабу зробяць салаўём
Або драчом гарластым.
Спрабуйце потым даказаць,
Што птушкі маюць крылы.
А як на грэх, і страказа
Тут ім у тон завыла б...
Літаратура не футбол,
А вас клююць з налёту:
Што ні рэцэнзія, то гол
У нечыя вароты.
Гол — аплявуха, гол — штуршок
Ці нешта ў гэтым плане.
Вось міні-водгук, верш-штрышок
Аб іхнім «капітане»:
«У пана Стаха свой аршын
І свае крытэрыі.
Што ты, брат, ні напішы,
Ён аглобляй мерае...»

Але аглобля не пінцэт
У кіпціках эстэтаў,

З салонным глянцам на шчацэ
Скубуць яны паэтаў.
І на празаікаў у іх
Хапае «добрай» злосці,
Ледзь варухнецца хто ў страі —
Усіх падрад чыхвосцяць.
За што? За тое, што жывуць.
А белбурнацам трэба
Іх з галавою акунуць
У свой крытычны цэбар.
Там перамелюць, ператруць,
Навучаць пырскаць слінай,
Хваліць гнілую каламуць
Паэзіі буслінай —
Абы далей ад берагоў
Імклівай плыні часу.
Вы ж не пытаеце ў багоў,
Хто даканаў Пегаса!
Дзіравы цэбар без руля
Не карабель, а гора,
Плыве ў пацёмкі ад нуля
Па гулкіх калідорах.
А вось ды нехта падбрахне,
Пачне віляць, дурыцца,
Бліжэй да шэфа падпіхне,—
Чаго ж, маўляў, сварыцца?
Пан Рэдліх выцерпіць усё.
Не першы год, здаецца,
Мы акалесіцу нясём,
А ён адно — смяецца.
Удачы вашы не ў залік.
От, каб былі ў іх «мухі»,
Тады і гэты пан-кулік
Азваўся б з павітухі...

Дарэчы, гэта матэрыял
Для «строгіх маралістаў»,
Свая ў іх праўда, свой філіял
Для «чыстых» і «нячыстых»,
Не, не філіял, а цёмны кут
За крамай ля клазета,
Падсобны форум для прыблуд
І розных прайдзісветаў.
Зірніце, колькі там «арлоў»

Ледзь не ля кожнай урны.
Што ім да соек і буслоў
З вышынь літаратурных?
Пух і пяро скубуць з усіх
Адкрыта і падпольна.
І нехта ж моліцца на іх,
Калі жывуць прывольна.
Пан Стах і той гудзе: «Пара
Спытаць у іх на сходзе,
З чыёй басэтляй па дварах
Яны атарай бродзяць?..»
Апостал гэтых скрыпуноў
Сэр Энтоні Брэхісовіч,
Прабачце,— злое тут віно,—
Чытайце: Адамовіч,
Былы фашысцкі выдавец,
Як бот дурны, капрызны,
Але для янкі гэта — спец
Па «язвах» камунізма.
Пан Стах наслухаўся званоў,
А гэты — сам шманае,
З мяшком глабальных прапаноў
Курс на Парнас трымае.
Ці не замнога там імён?
Хто смеў да зор падняцца?
Дзе пахне змовамі — там ён
Павінен красавацца!
Плебеям хопіць і таго,
Што пастаяць ля брамы.
Хай там адзін на аднаго
Грызмоляць эпіграмы.
На кнігі ім не хопіць тэм,
Хоць дух вакол цалебны,
І не пісалі б хоць паэм,
Каму яны патрэбны?
Або вазьміце вы раман,
Ну хоць бы той, што ў модзе.
То ён «не лезе» ў чамадан,
То «вязне» ў ім на сподзе.
Век кібернетыкі, маўляў,
Як сухавей, як бура,
Ён адвучыў ужо зямлян
Чытаць літаратуру.
Хто гэта ведае — хутчэй

Мяняе накірунак.
Мікрафальянт — вось той ручэй,
Што нам нясе ратунак.
Не трэба толькі дагаджаць
«Артадаксальным» густам.
Лепш крапіву ў спапы вязаць
Ці паляжаць пад кустам.
Пісьменнік перш за ўсё прарок,
Прыслужнік муз, якія
Заўжды трымаюцца здалёк
Ад бытавой стыхіі.
Ім і палітыка да слёз
Псуе настрой заўсёды —
Цішком у засені бяроз
Ладкуюць карагоды.
Паверыць цяжка, але факт —
Апостал у трывозе.
Ён ледзьве выбраўся на тракт
У расхістаным возе.
На даляглядзе — фарысей
Са стажам «публіцыста».
Ён кулакамі не трасе,
Больш трэцца каля «чыстых»,
Пад іх дуду лухты натоўк
У ватыканскай ступе,
Цяпер — кусаецца, як воўк,
Калі на хвост наступяць.
Агацін сын яму казаў:
«Ты б хоць суняўся трошкі...»
І ледзь не з'еў, як ментуза,
Бо гэта быў Гарошка.
А як трымаўся ён тады!
Ну, рыхтык рымскі папа,
Але замуляны, руды,—
Мо дзе жаўтачку сцапаў.
Кранеш такога, ды глядзі,
Каб не схапіў за грудзі.
Хіба ў адной ён чарадзе
Таўчыся з намі будзе?
Народ мы шумны, завадны,
На працу ходзім цугам,
А наш душпастыр — выхадны,
Чакае змен за Бугам.
Пенклуб падкорміць, калі што,

Каб «не пароў гарачкі».
Бог прагны даў яму раток
На шчодрыя падачкі.
Ці не таму ўсе дружбакі —
Хто ўпотайкі, хто з брэхам —
З яго палат, як пацукі,
Рванулі ў прочкі пехам?
А Стах... Ён з Тарсісам цяпер
У нейкі хэдар ходзіць
І брэша з ім на свой манер
Пра вас на кожным сходзе;
Мастак падслухаць, запісаць,
Надаць гучанне слову,
Ён і калоды тасаваць
Умее адмыслова,—
Дзе трэба — тузам шастане
Або падсуне дамку,
Але асекся на мане
У нашым «мірным» замку.
Адсюль і хітрыя фінты
З аглядкай на блазноту.
Спрабуй, заткні людзям раты,
А махляваць ахвота...
Чаго ён лезе на ражон?
«Шмон» падпявалы зробяць.
Ёсць сярод іх якісьці Джон [1]
З даволі дзіўным хобі:
Нідзе глыбока не араў,
Нідзе дабра не сеяў,
Але, як кажуць, з-пад пяра
Шары пускаць умее —
Шукае ў лірыцы прыкмет
«Адзінага патоку».
Відаць, і ваш духоўны свет
Быў у яго на воку.
Калегі хмыкаюць: «Наш Джон
Ледзь не заўжды пад мухай,
Ды ўсіх палохае нажом,
Дык ацалеў, псяюха.
Адно што крыху пахудзеў,
Пнучыся на фарватэр.

[1] **Д ж о н** — насмешлівая мянушка белбурнацкага «летапісца» К. Акулы.

Цяпер для тых, хто «на вадзе»,
Ён — «неарэфарматар».
Дарэмна «класікі» злуюць,
Вяслуючы на прыстань,
Падонкі тон тут задаюць
Сваім звярыным свістам».
Па справах бачу — людзі ёсць,
І нават неблагія.
А хто ў нас самы часты госць?
Той, хто з маленства ные,
Каму карцела і карціць
Больш на сваім валяцца,
Але да спрэчак мае прыць
І ўмее выхваляцца.
І Кузняцоў тут стаў «арлом»,
Хоць пад маёй «апекай»
На ўсё змагарнае сяло
Тут пеўнем кукарэкаў.
І не заўсёды на дабро.
Вы чулі? Не заўсёды.
Душа — дзіравае вядро
І ў гэтага удода...
Але панам маім відней,
Што да чаго, і квіта.
Іх сцежкі сходзяцца на дне
Курынага карыта.
Бягляк з «Усходу» пачарнеў,
Шукае памагатых...
Пустыя пляшкі на стале —
Уцеха тарбахвата.
Сёй-той гатоў яго «прызнаць»,
Як цень, блукае следам,
Не раскусіў яшчэ, відаць,
Яго гнілога крэда.
Зніміце шапкі! Памянём
«Пакутнікаў» маўчаннем
І... па малюсенькай кульнём,
Каб хмель не скіс у чане.
Не ўсе прашчылкі да яго
Ў «Свабодзе» перакрыты.
Пан Стах крадком на самагон
Таўчэ ў знаёмых жыта.
Пяршак не «віскі», менш затрат,
А з ног, як шлягай валіць...

«Гарым! —
Астроўскі б'е ў набат.—
От, змагара прыдбалі!
Спадар Станкевіч трыццаць год
Не прасыхаў, псяюха,
А мы хацелі, каб народ
Яго гавэнды [1] слухаў!..
Але чаго я тут тарчу?
Стах нагадаў былое?
Далоў з-пад ног гнілы карчук!» —
«Маўчы! Знайшоў ізгоя,—
Бурчыць Астроўскаму пан Стах,
Скрывіўшы злосна губы.—
Нас напаткаў страшэнны крах,
Дык хоць не лайся груба.
Не трэба лаяцца. Ёсць план.
Нас тут на пальцах лічаць.
Ідзі на ўсё, як Талейран,
Пасля нараду склічам.
Назло абрамкаўцам. І тым,
Хто заадно з Гарохам:
З агнём дурэе наш святы,
Ён — шпік, як бога кохам!..
Але каму я гавару? —
Пан Стах смяецца ціха.—
З кім ты даняў, што я «гару»,
Калі не з гэтым мніхам?..
Маўчыш? Разлічваў на былых
Агентаў дэфензівы?
Табе...— Ён кіпцем чэша чмых.—
Збаў тон, баран чарвівы!
У кожным з нас — мільён заган.
Кеп, хто іх прэ ў афішы!..
Я ж гаварыў табе: ёсць план!
Сарвеш — на сметнік спішам.
І ў Пентагоне, пане мой,
Крыж на табе пастаўяць.
Дык не марудзь. Любой цаной
Шукай ратунку ў «каве»...»

— Аб чым вы гэта, пане Стах.—
«Трасуся» я ад страху.—

---
[1] **Г а в э н д а** — гутарка *(польск.)*.

Спадар Астроўскі, хітры птах,
Ён вас пашле на плаху...
— Пашле. Я ведаю. І сам
Згніе ў зямлі, дурніца,—
Мармыча Стах, ажно каса
Звініць на дравяніцы.
Такому «дачніку» не грэх
Даць спадцішка па носе.
Там, дзе пан Стах «свой» клін арэ —
Ні сцёбел, ні калосся...
Абмежавалі брахуна!
Гнеў запраданца душыць.
Куды ні сунецца — сцяна
Глухога раўнадушша.
І шэф злуецца на яго.
Стах, майстар спраў заплечных,
П'е... беладону, да ўсяго
Глухі, як склад аптэчны.
Аж пацішэла ў брэхбудзе,
Даруйце, у «Свабодзе».
Хто ж пана Стаха падсядзеў?
Хіба ён кеп ці злодзей?
Памерці можна! Маладняк
І той глядзіць на Стаха,
Як на стары, дзіравы гляк
З гнілым фашысцкім пахам...
Дарэмна шэф яго цягаў
На розныя кангрэсы.
Нікчэмнай гэты пустальга
Знаходкай быў для прэсы.
Сам містэр Далес — Стах тады
Меў нават свой шкумацік [1],—
Цішком награнуўшы сюды,
Начальства калашмаціў
За белбурнацаў, бо ад іх
Няшмат было карысці.
Стах на гадок-другі прыціх —
Гарляк і кіпці чысціў:
Нутром, напэўна, адчуваў,
Што час яго настане.
Дзе ястраб птушкам галава,

---

[1] Шкумат — друкаваны орган, газета *(нацыяналістычны жаргон).*

Там крумкачы ў пашане.
Хіба шчыглы ці салаўі
На сметніках жыруюць?
І ў Пентагоне песні іх
Наўрад ці хто пачуе.
На службе ў янкі я не быў,
Ды ўвесь жа свет гаворыць,
Што ў дзядзькі Сэма ястрабы
Ў мундзірах у фаворы.
А каб на іх у судны час
Не дзьмулася зямля ўся,
Тады і Далес сам не раз
Салоўкай заліваўся.
А белбурнацы, як гракі,
Збіраліся ў чароды
На «галубах» ламаць сукі
Пад шыльдаю — «Свабода».
Не ўмеюць каркаць, дык, маўляў,
Няхай і не варкуюць,
Бо як прыхільнікі Крамля,
На пустырах звякуюць...
Як сёння помню: нейкі чэх
Прыбег да нас галопам:
«Апроч «Свабоды» ёсць яшчэ
«Свабодная Еўропа»,—
Шапнуў ён Стаху і пачаў
Збіраць яго манаткі.
Але не шэнціць крумкачам,
Там строгія парадкі.
Дарэмна Стахаў павадыр
Кудысьці з сумкай бегаў,
«Мой» пан за горадам тады
Шукаў сабе начлегу...
А я маўчаў. Ёсць пракурор,
«Свабодны» суд, газеты...
Мы ў норы носім, а не з нор,
А смецце ў мех ды — ў Лету.
Інакш і дня не пражылі б
Без страху і трывогі.
А калі хто на чым і ўліп —
Падцісне хвост ды — ў ногі...
Горш, калі зловяць беглякі.
Яны заўжды ў «атацы»,
То зазвіняць, як пятакі,

То лындаюць без працы
І ўсё, на чым стаіць Зямля,
Што дарагое людзям,
Ганьбуюць, пнуцца апляваць
І растаптаць у брудзе.
Не шмат карысці і ад тых,
Хто захварэў на пана.
Такім — абы высокі «чынш» [1]
Ды свой зацішны ганак...

7

## ШТО КАЖУХ, ТО НЕ ВАТА...

Хай хто як хоча, а мяне
Дамоў на бульбу цягне.
Баварскі боб у чыгуне...
Лепш захлынуцца ў багне!
Змала чужыя між людзей,
Мо ўжо ці знойдзем працу.
Туга здароўе, час крадзе...
Ну, хто мы ёсць? Паяцы!
Нас толькі можна падлячыць
І напаказ пакінуць,
А дакладней — на муляжы
Ў музейныя вітрыны.
Мо хто прыпыніцца калі
Ды хоць малым пакажа.
Звяр'я такога на зямлі
Адразу нельга спляжыць.
Хай кожны помніць, што жыццё
Перш-наперш людзі робяць.
А мы, раздзьмухаўшы касцёр,
Сядзім паныла ў бобе.
Пан Стах —
хоць плот ім падпірай...
Чэх па фальварку плача.
Ён па дарозе ў гэты «рай»
Шмат палігонаў бачыў...
Пагарачыўся чалавек:
Пабыў у дысідэнтах,

[1] Чынш — рэнта, ганарар *(нацыяналістычны жаргон).*

Цяпер «астыў», даўно не еў,
А за душой ні цэнта...
Сам недзе гэпнуўся з «каня»
І стогне, недарэка...

. . . . . . . . . . . . . .

Бывайце! Стах папругу зняў...
Ну, будзь жа ч-чалавекам!..

## Ад аўтара

Барсук астаўся Барсуком.
Блукаючы па свеце,
Ён на карчы і пад карчом
Лавіў вушамі вецер —
Шукаў палёгкі для сябе,
Ды, мабыць, знаў замнога,
Бо Стах дарогу перабег...
Яго злавесны рогат
«Дайшоў» да шэфа ЦРУ.
Той даў яму надбаўку,
Каб, як бульдог, з чужых двароў
На нас заядла гаўкаў.
А вецер гушкаў гэты брэх
З антэны на антэну...
Маўчаць старому злыдню грэх.
Другім знайшлі замену,
А ён трымаецца яшчэ,
Хоць змыліўся дашчэнту.
Усё ж мяняецца, цячэ
І для таго, хто ўжо звячэў
На воўчых аліментах.
На палітычных мерцвякоў
Вар'яты робяць стаўку.
На іх руках — людская кроў,
Хто б што з папоў не цяўкаў.
Час рэнегатаў асудзіў
На страх і адзіноту.
Ён іх і ў лапаць пасадзіў
Як бітых жываглотаў.
Дарэмна спецы ад інтрыг

У фраках ды сутанах
Іх выдавалі за «святых»,
«Злым лёсам пакараных».
Хіба пан Стах не гаварыў:
«Мы — ворагі Саветаў».
А хто яго благаславіў
За Эльбаю на гэта?
Мо галаўлёўскія дзядзькі
Ці мы, чытач, з табою?
Чужынцы — «хросныя бацькі»
У гэтага «каўбоя».
Яны і вывелі яго
Як рэнегата ў «людзі».
А махляваў жа, што бягом
Дамоў спяшацца будзе...
Відаць, не сходзяцца канцы
У брахуна «Свабоды».
Не ў духу й тыя малайцы,
Што служаць там «народу».
А містэр Далес доўга жыць
Ім загадаў — планіда
Не калаўрот... А час бяжыць.
Ён з галавою выдаў
Апекуноў усіх «свабод»,
Што пад эгідай НАТО
Крывавы славяць умалот
Штабоў іх ды сенатаў.

*1981*

Памфлет

# СПОВЕДЗЬ
## (Пра самога сябе і пра іншых)

Спынішся на момант — на вярсту адстанеш.
Народная прымаўка

1

### НА КРУТЫМ ПАВАРОЦЕ

Люблю той час, хвіліну тую,
Калі, прачнуўшыся, адчую,
Што я не лішні на планеце,
Магу пісаць паэмы, вершы,
Паэтам быць, хай і не першым,
І ваяваць за мір на свеце.
Бацькі нам гэта наказалі,
Каб не жылі, як на вакзале,
У неспакойнай атмасферы,
А ўсім сялом без спрэчак, дружна
Сышлі з дарог сваіх акружных
На шлях байцоўскага даверу.
Зірніце, колькі нас сягоння!
І кожны з сэрцам на далоні
Гатоў служыць людзям, як Данка.
Ці нам, народжаным, змагацца,
Гары той Лысай пільнавацца
Ды ў «пульку» рэзацца ў альтанках?!
Пісьменнік — гэта звон эпохі,
А пулькачы ды выпівохі
Больш лынды б'юць на «сцежках грому».
Яны на дачных агародах
Угразлі ў змычцы з нейкім збродам,
Які пасецца ў іх харомах.
Ёсць, што жылі, як у дурмане.

Цяпер — злуюць, бо з рання ў ранне
Пытанне «быць або не быць»,
А не рыбалка ды грыбы
Стаяць у іх на першым плане...
Трымцяць ад страху і пралазы,
Калі без выкрутак, адразу
Бягуць на сходы спавядацца.
На выглыб выплылі ханыгі,
Кранеш — хаваюцца... за кнігі,
Каб наплаву хоць утрымацца.
Чаму? Высока ўжо лyталі,
А на дзяржаўнае — «свісталі»
Як на нялюбае, чужое...
Хоць мы не кожнай чутцы верым,
Скажу, што гэта не цяцеры,
А падкаваныя «героі»
Гнілой мяшчанскай паранойі.
Што ім наш край, турботы нашы
Без «собскіх» віл ды сытай «пашы»
Для ўсёй радні іх і нашчадкаў?!
Спытайце, хто з іх на «дурніцу»
Не пракаціўся б за граніцу
Да дзядзькі Сэма на аладкі.
Мараль халоднага разліку,
Як бараноў у рапс ці віку,
Такіх дзяляг на Захад цягне.
Недарма ж там калісьці здуру
Паны астроўскія, сядуры
З гайнёй адпетых самадураў
«Кусалі» нас, як п'яўкі ў багне.
Пакуль мы чухалі загрыўкі,
Яны паціху з кожнай «ніўкі»
Хоць па зярнятку, ды ўхапілі.
Гаворка йдзе пра нашы страты,
Імя якім самавыдаты
Царкоўна-свецкай камарыллі.
Неверагодна? Скіньце шапкі!
Сям-там усё ж падбілі бабкі,
І саматужныя пісакі
Даўно ўжо трапілі да пакі [1],
Падняўшы ўверх святыя лапкі.
Але каму цяпер ахвота

[1] Пакі — турма (*дыялектн.*), ад слова «запакаваць».

Трымаць там гэтых абармотаў?
Я б сам іх выштурхаў за дзверы.
Больш шкодзяць тыя, хто заўсёды
«Мацуе» сувязі з народам
Не ў гушчы мас, а на паперы
Ды ў цмяным марыве таршэраў.
Там гэта — «светлыя галовы»,
Якія «вараць» адмыслова
І ўсіх вяселяць пры нагодзе.
Але дамоў задамі ходзяць,
Бо на рабоце гэта — маскі,
Якіх не ўзрушыш без падмазкі
З прыважкам «ваша благароддзе».
Час іх заспеў на паказусе,
Таму адны размяклі, трусяць,
Канцы хаваюць дзелавіта,
Другія — зноў наперад лезуць
Лазу ваўкам на браднік рэзаць,
На ўсё гатовыя нібыта.
Ім, толькі ім бог даў адвагу
Пускаць у ход разак і шлягу
Ў час эпахальных паваротаў.
А гэта ўжо не фунт разынак,
А выклік, грозны напамінак
Пра апантанасць жываглотаў.
Яны ж, як чэрві у калодзе,
Дзе прызямляцца, там і шкодзяць,
Пакуль не зносяцца дашчэнту.
Па звычках гэта аферысты,
Памесь хапуг і скандалістаў
З аджыўшых век свой элементаў.
Раней нам проста не хапала
На гэтых «птахаў» самапалаў.
Хоць сярод іх былі і «грыфы».
Сваёй гадоўлі, зразумела.
І пераважна з тых, хто «белым»
Да нашых дзён дажыў пацiху.
Вайна для іх была надзеяй
На больш спрыяльныя падзеі,
А перамога над фашызмам —
Страшэннай драмай, катаклізмам.
Хай не для ўсіх, мы гэта знаем,
Таму знарок мастоў не палім,
Захочуць — будзем жыць у згодзе.

А як быць з тымі, хто нам шкодзіць?
Чакаць, пакуль не сцягнуць з печы
Ды спадцішка не абязвечаць?
Перада мной ляжаць газеты.
Яны крычаць: уся планета
«Вайною нерваў» перагрэта.
Гасіць яе святая справа.
А мы адно на словах брава,
Як плутакраты, паміж справай
Сваіх праціўнікаў дубасім
І важна бродзім па Парнасе,
Пакуль начальства не ўзарвецца.
Яно ж у нас, як мне здаецца,
Нібы агню, баіцца «грыфаў».
Дай бог, каб я схлусіў тут крыху,
Бо сам жа, сам не вельмі веру,
Што гэта праўда чыстай пробы.
А што, як «грыфы» для аздобы
Пасля абеду ці вячэры
Залезлі ў наш арцельны засек?
Хапіла б толькі грошай ў касе
На іх імпрэзы ды гулянні.
Тут не да жартаў. Ёсць пытанне.
Хто ж гэта будзе скаліць зубы,
Калі парнасцам свет нялюбы?!
У нас апошнім той смяецца,
Хто бескантрольна выдаецца
Ва ўсіх «парафіях» адразу.
Натое ж гэта і пралазы!
Жыццё для іх — заўсёды свята,
Хоць, як купцы, ідуць на страты,
Каб не пайшло ўсё дымам сінім.
А крытыкнеш — турнуць з трыбуны
Далей ад кніг, у тыя «дзюны»,
Дзе можна толькі пасвіць свінні.
Чаму? Бо мы не тыя людзі,
Якіх пад звон бакалаў судзяць,
Нібы аджыўшых век свой пэраў.
Жывём пісьменніцкай камунай
І замінаем гэтым... гунам
Бузіць у нашай штаб-кватэры.
Не ў крыўду кажучы, нам ясна,
Як ім свярбіць там пугай ляснуць
І наваліцца на персека.

Таму няхай астынуць крыху,
Бо ў нас ужо не будзе ціха
Перад такою небяспекай!..
Тым больш што нейкі дух нячысты
Даў волю ўжо і тым «артыстам»,
Што змрочна пнуцца ў адвакаты
Заморскіх «спецаў на ўсе рукі».
Яны, маўляў, дзеля навукі
Ўзялі там нават на парукі
Былых фашысцкіх памагатых.
Ёсць, што мірыць іх з намі хочуць,
Хоць разам лаюць нас за вочы
Як «безнадзейных рэтраградаў».
Лепш быць далей ад іх кагалу!
Навука новых «слуг» прыдбала
І... напаролася на здраду.
Аб гэтым сведчаць тыя «працы»,
Якія ў норах белбурнацаў
Згарбузавалі «людзі з боку».
За кожнай з іх з усмешкай «мілай»
Сядзіць свой Пайпс або Макмілін [1],
Гатовы нас кляваць знаскоку.
Не забягаючы наперад,
Хачу сказаць, што ў нейкай меры
Усе мы ў гэтым вінаваты...
Але не будзем біць трывогу,
Бо іншых спраў набегла многа.
І «грыфы» вылезлі са спратаў.
Скажыце ім, што ёсць пуцёўкі
Або свабодныя кватэры —
Каб не хацеў, завыеш воўкам
Ад іх прывычак і манераў...
Вядома, можна запярэчыць:
І не такіх жыццё ў нас лечыць,
Эліта ім не няньчыць дзетак.
Што ж, калі так, тады адзначу:
Народ яе нячаста бачыў
У простай вопратцы, без кветак...
І нам, як кажуць старажылы,
Яна «сем вёрст» не даслужыла,

---

[1] Маюцца на ўвазе Р. Пайпс (ЗША) і А. Макмілін (Англія) — платныя буржуазныя «беларусолагі», аўтары тэндэнцыйных псеўданавуковых падзелак на беларускія тэмы.

Хоць мо й не думала аб гэтым.
Наадварот, хтось так вёў справы,
Каб і «неправы» мог быць «правым»
Перад гісторыяй і намі,
Замест таго, каб разам смела,
Без перасцёбаў, зразумела,
Зусім расстацца з хапунамі.
Адкуль яны? Чаму заўсёды
Па нашых шарапь агародах?
І «грыфы», мапь іх сена ела,
Жуюць наш хлеб і ашалела
Гарланяць — рвуцца на свабоду.
Куды? Вядома ж, хто за Эльбу,
А хто і ў Рым па крыж ды стрэльбу.
Запахла «смажаным», напэўна,
Калі сёй-той знайшоў там «крэўных»
Па папуляцыі і духу.
Ён, гэты дух, на ўсіх этапах
За намі поўз на воўчых лапах
Як сімвал здрады, антыруху.
А можа, гэта мне здалося,
Мо на яго шляху калоссе
Шуміць асанну мірнай працы?
Дух здрады — гэта дух знішчэння,
Яго крывавы меч з карэннем
Сарваў даніну з многіх націй.
На тым з вайны стаяць і тыя,
Нібыта «чыстыя», «святыя»
Касцёльна-свецкія управы,
Дзе пад эгідай Ватыкана,
Былыя карнікі ў сутанах
Вяршаць «асветніцкія» справы.
Ды ўжо не столькі для касцёлаў,
Як для крывавых тых «анёлаў»,
Што растрыбушылі Грэнаду...
У царстве з доларавым крыжам
«Святая» рапь ім пяткі ліжа
І па-халуйску славіць гадаў.
Так, нібы кранутыя трошкі,
Айцы сіповічы й гарошкі,
З благаславення папы Пія,
Калі не палкаю, дык кіем
Найміцкі хлеб свой адраблялі.
Хоць мы па іх і не стралялі,

Змала «нягодныя» такія.
Але аб гэтым іншым разам,
А зараз мне пякучай фразай
Суняць тых кніжнікаў ахвота,
Хто на такіх святош цікуе
Як на біблейшчыну якую,
А не прадажную брыдоту.
Былыя згоднікі, фашысты
Звячэлі ў служках рэваншыстаў
Усіх парод і папуляцый.
Ім жаць нясеянае трэба,
Каб не аддаць канцоў без хлеба
Ў сваіх дагледжаных палацах.
Хай паства душыцца ў бараках,
А «псам царквы» [1] і ў «кадзілаках»
Кружыць паўз іх нясцерпна стала.
І папы «мускулы» пружыняць,
Каб дзе здабыць сабе й дружыне
Крыху «нікчэмнага металу».
Ім без яго ні да парога,
Таму не мілуюць нікога,
Падняўшы вэрхал на планеце.
Зірнеш на карту — лес зялёны! —
Усюды базы, палігоны
І... пакалечаныя дзеці.
«Князям» апостальскай сталіцы
Забойцы іх не чужаніцы,
Бо на іх блуд глядзяць скрозь прызму
Сваіх імперскіх інтарэсаў,
Імя якім, як трубіць прэса,
«Дактрына неаглабалізму».
Інакш ніхто б з духоўных сёння
За простым людам не шпіёніў
У праслаўтым «вольным свеце».
Не ўдаючыся ў спрэчкі з клерам,
Я там нямала вёрст адмераў,
А на душы, хоць... плюй на вецер.
Дзе лес сякуць, там трэсак многа.
І ўсё ж пара ўжо біць трывогу,
Даць бой злачынствам, фанатызму.
Хто ж, як не мы, падніме голас
За абязлюджаныя сёлы,

---

[1] Псы царквы — тут функцыянеры інквізіцыі.

За тых, па кім спраўляюць трызну
Псы-антыподы камунізму.
Мы за яго ў агні гарэлі;
Мяне заспеў ён ля Карэліч
Яшчэ тады, ў трыццаць дзевятым,
І апаліў ля роднай хаты...
Пасля ў акопах пад Смаленскам
Гасіў я полымя з сябрамі,
Каб абгарэлымі барамі
Цераз агонь прайшлі ўсяленскі,—
Бліжэй да роднай Беларусі.
Насустрач нам, ад страху, мусіць,
Ляцелі жоравы і гусі
Паўз вёскі, чорныя ад дыму.
Куды ні рынешся, бывала,—
Усюды полымя шугала,
Каб і хацеў, не пройдзеш міма.
А мы яшчэ і ў бой хадзілі.
І хоць бы раз дзе заблудзілі
Ці выйшлі на чужыя вешкі...
Не ўсім, вядома, шанцавала,
Аднак хто выжыў, на прывалах
Адпачываў без лішняй спешкі.
Вайна нас жорстка апаліла,
Свет нават часам быў нямілы,
Але зямля раднейшай стала.
У ёй — браты ляжалі нашы:
Літоўцы, рускія, чувашы...
Ў чым ёсць, як гільзы ў патранташы,
Пад здзірванелым пакрываламі.
Ды лепш такая «дамавіна»,
Чым век гібець, сагнуўшы спіну,
Або шукаць ратунку ў здрадзе.
Мы гэта чулі ў кожнай вёсцы,
Дзе на людскім цягле ды сошцы
Народ наш некалі ў асадзе
Сваё жыццё бясстрашна ладзіў.
А як тады ў агні і дыме
Старыя разам з маладымі
Усім народам на здзіўленне,
Нібы адлітыя са сталі,
З руін свінцом фашызм хлясталі,
Каб не памерці на каленях!
Дарэмна Гітлер пырскаў слінай,

У галаве яго аслінай
Мазгі зліпаліся ад страху.
Арыйскі «дух» ублюдку здрадзіў
І пад Масквой і ў Сталінградзе.
Хіба не там запахла крахам?
Пачаўся ж ён на тых шыротах
І каля тых вогневаротаў,
Дзе нават дзеці
ваявалі...
Там і цяпер народ рашуча
Гатоў любых звяруг прыжучыць,
Каб на чужое з кожнай кручы
Сваіх ратоў не разявалі.
Я ненамнога памылюся,
Калі скажу, што
ў Беларусі
І тым прахвостам цеснавата,
Хто заклікаў нас да пакоры,
Пасля кукарду прышпандорыў
І стаў фашысцкім памагатым.
Мы і ў цямне іх пазнавалі,
Таму, падняўшыся з завалін,
Яны хапаліся за зброю.
Сярод людзей відушчых, строгіх
Тады падкошваліся ногі
У гэтых ліпавых «герояў».
А як «упэўнена», «бадзёра»
Сігалі ў лес іх «камандзёры»,
Нутром адчуўшы небяспеку.
Калісьці проста псіхапаты
З сяліб звяглівых, хітраватых,
У дні вайны яны заўзята
Прапанавалі ўсім «апеку».
Зямля ад роспачы стагнала,
Як ад гранат ці аманалу,
Калі фашысты іх рукамі
Наш край з «няволі» вызвалялі...
Пасля вайны я на Урале
Страчаўся з гэтымі ваўкамі.

2

## НЕ ЖЫВУЦЬ, А ЦЬМЕЮЦЬ

Вясна яшчэ стаяла ў горах,
А мох ужо сухі, як порах,
На сцежках лез людзям пад ногі.
Любая іскарка з дарогі
Магла яго ўзарваць, як міну.
І нехта ўсё ж акурат кінуў!..
Ім аказаўся нейкі Церах.
Я моўчкі корпаўся ў паперах,
Прысеўшы з сябрам ля машыны,
А ён з якоюсьці жанчынай
На леснічоўку торыў сцежку.
Цяпер там толькі галавешкі
Пуду наводзяць на турыстаў.
А Церах, трапіўшы ў кутузку,
Кляне Маскву па-беларуску,
А заадно і камуністаў.
Вось хто, маўляў, яго затузаў.
І на мяне, як на француза,
Глядзеў ён з выглядам прыдурка.
Лепш не гуляць з такім у жмуркі.
Але... за сотні вёрст ад дому
Нялёгка быць бязгрэшным гномам.
Горш, калі кат застаўся катам
І ўпотай моліцца па атам,
Пакуль за Эльбай «навукоўцы»
Трымцяць, як бомкі на вяроўцы,
Калі мы ганім белбурнацаў.
А хто ж ахвярам іх раскажа,
Як пан Астроўскі з хеўрай пляжыў
Людзей сваёй і іншых нацый?!.
Час не спісаў ім ганьбы гэтай,
Хоць дзядзька Сэм цішком манетай
Падстрахаваў сваіх наймітаў.
Для нас яны падонкі, каты,
Для янкі — неа-«дэмакраты»,
«Тавар» хадовы, хоць і біты.
Я ж гаварыў: амаль усюды
У нас яны хадзілі ў юдах
Пад чорным сцягам «собскай» рады.
Чаго ж здзіўляцца, што ў народзе

Пра іх і сёння чуткі ходзяць
Як пра апосталаў разладу.
А «бомкі» трынькаюць сярдзіта...
Мы вельмі строгія нібыта
Да гэтых гора-беларусаў.
Сёй-той і ў нас за іх баіцца,
Ды кроў людская не вадзіца:
Народ адпомсціў чужаніцам
І на іх слуг не стаў маліцца
У час іх здрадніцкіх «аншлюсаў».
«Мы не жылі, а цьмелі, пане,—
Як з-пад карча, на развітанне
Сказаў мне Церах асцярожна.—
Я твой зямляк, дык, бачу, можна
Крыху расслабіцца, каб ведаў:
Як для мяне і бог — скарэда.
Інакш не вы, не камуністы,
А мы хадзілі б тут у «чыстых»...»

Хадзілі б, хіба я пярэчу,
Але ў «ваўках», сагнуўшы плечы,
Як ходзяць тыя «камандзёры»,
Што паўз Браслаўскія азёры
На Захад джгалі без аглядкі.
Але і там не ў кожных сенцах
Віталі з хлебам адшчапенцаў
Ды ў лес выводзілі на кладкі.
Ці не таму сам рымскі папа
Ім працягаў з трывогай лапы,
Каб не загрузлі дзе ў балотах.
Ёсць, што знайшлі ў яго работу,
Хоць некаторым з іх і ў Рыме
Псавалі кроў званы Хатыні,
Нібы пякельныя грымоты...

Прайшлі гады, а мне здаецца,
Што нехта зноў з пацёмкаў пнецца
Вучыць нас розуму па святцах
Былых фашысцкіх «крыжаносцаў».
Яны б цяпер у кожнай вёсцы
На дружбу сталі набівацца
Хто з пачкай долараў, хто з крыжам,
Як містэр Надсан з-пад Нясвіжа.
Цяпер ён, праўда, за Ла-Маншам,

Але ў навуку лезе нашу —
Пасля малебнаў у касцёле
З вайны нястомна бога моліць,
Каб павярнуў яе фасадам
Да беглых кніжнікаў ад здрады.
Былому карніку прыспела
Іх абяліць біблейскім мелам,
Хоць гэта подлая задача.
Ды ён і сам стаў «мірным» птахам
Пад маскай сціплага манаха,—
Па кожным з нас з надрывам «плача».

Але ці варта з тапарамі
Ганяцца нам за камарамі?
Ну, што дзе здарыцца, як часам
Былы кулак за куфлем квасу
Усіх і ўсё кляне з наскоку
Ад настальгіі па валоках,
Што сталі ўласнасцю калгаса?
От калі ён, як грак у просе,
Дзяўбе арцельнае калоссе,
Тады ў людскім многагалоссі
Сям-там цяпер і гэта — «сіла».
Каб не яна, дык нас не стала б.
І кулаччо ж, няхай і мала,
Але з фашызмам «ваявала».
Яно і нас «абараняла»,
А не пад карань з самапалаў,
Як ачмурэлае, касіла...
Калі і быў які нягоднік,
Дык ён на Захадзе сягоння
Век дажывае ў рэнегатах...
І не пярэчце, вас паправяць.
Кулак не дрэмле, ён — у славе,
Хоць наслядзіў ой як багата...
Яго «выключнасць», як вядома,
Даўно ўжо стала аксіёмай
Для некаторых летапісцаў.
Але народ у нас суровы,
Ледзь што — злуецца, хмурыць бровы,
Знаходзіць «брак» у кожнай кніжцы.
Інакш кулак на першым плане
І на Парнасе б ветэраніў
Сярод сапраўдных партызанаў.

Тут нагадаць не лішнім будзе,
Хто і каго ў нас трос за грудзі,
Пасля хадзіў у гарлапанах...
Кулак быў стрыжнем дэфензівы,
Найміцкіх рад усіх прызываў
І белбурнацкай «абароны».
Паноў яна абараняла,
Таму бясслаўна і зліняла
На смех сарокам ды варонам!

А мне гавораць, быццам гэта
«Будматэрыял» не для паэтаў,
А для «партыйных публіцыстаў».
Яны, маўляў, як верхалазы,
Усё бяруць на «пуп» адразу
І ўшчэнт разносяць асабіста.
А дзе ж, скажыце, тыя хваты,
Што ўсіх нас лаялі заўзята
За «рэтраградскія замашкі»?
Відаць, таксама нешта пішуць,
Пасля Пятрусь пахваліць Мішу,
А той распіўся, пахне бражкай,
Кранеш — мармыча вінавата:
«Маўчы, стары! Лепш будзь мне братам.
Пятрусь — інтруз, ля ўласных рызніц
Загруз па вушы ў бытавізме,
Зануда, вусень валасаты!
Так мы нікога не нагрэем...»

Нагрэблі б, толькі мы не ўмеем
Жыць без няшчырых памагатых!..
А час ідзе рашуча, ўладна,
На момант спынішся — ў парадным
І завякуеш з чамаданам,
Хоць, не змыкаючы павекаў,
Жыў і тварыў на ўзроўні веку,
Напрамак выбраўшы жаданы...
Ці, можа, мы не адставалі
І ўсе плылі на бурнай хвалі
Да ясна вызначанай мэты?
Мы і цяпер не столькі ў руху,
Як у «трудах» напаказуху,
Хоць час і «высек» нас за гэта.
Ёсць, што на вершыках гавеюць,

А нашы ворагі шалеюць
І... «дранг нах Остэн»
торацъ сцежкі.
Ім напляваць, што людзі ў гневе,
Пасля таго, як нейкі «певень»
Запеў асанну «галавешкам».
Яны яму і сёння сняцца,
Калі на дзень разоў па дваццаць
Кляне нас люта ў Белым доме...
А мне з сынамі на пароме
Карціць за Нёман перабрацца.
Няхай паглядзяць, як там сёння
Жыты на выпаленых гонях
У буйных росах каласяцца.
Не дагаджаць жа тым тупіцам,
Хто ўсіх нас бачыць у цямніцах
У спаняверанай краіне.
Маё ім з пэндзлікам! Клянуся,
Я і з магілы ў строй вярнуся,
Як не ўзарвуся дзе на міне.
Хіба на Захадзе не чулі,
Хто ўсе надзеі падагуліў
У незабыўным сорак пятым?!.
Мы не ў інпасе і сягоння,
Таму ўсе планы ў Пентагоне
Накіраваныя на атам.
У ім — адзіная надзея
Для вашынгтонскіх прахіндзеяў
Хоць на вяршок вышэй падняцца.
Адчулі, злыдні, што бяскарна
Не пагасіць ім дух бунтарны
У тых, што й смерці не баяцца!
Адно трывожыць: жыць нам бурна,
А ўсё яшчэ дымім ля урнаў,
Як ля свяшчэннага начыння.
Жыццё ж заспела нас на трасе,
Што вакол нас саміх вілася
На неабжытыя вышыні.
А для балакаў, гэта — страва,
Яны налева і направа
Разносяць чуткі-прыгаворкі;
Па іх разліках, мы прысталі
На непралазным перавале
І праклінаем лёс свой горкі...

Лухта! Мой дзед казаў калісьці:
«У кожным з нас сядзіць нячысцік.
Пачне будзіць — перахрысціся!
Мы нарадзіліся, мой пане,
Любіць людзей, а не тыраніць
Ці, скажам, біць, каб паддаліся».

А кім ён быў? Звычайным «хлопам»,
Хто ў час фашысцкага патопу
Прыкрыў сабой усю Еўропу,
Каб у няволі не сканала.
Дзед і пасля кіпеў ад гневу,
Калі які заморскі невук
Цкаваў яе на нас зухвала.
«Я не хачу нікога ганіць,
Але найбольш за ўсіх, мой пане,
Нам шкодзяць дэмахрысціяне,—
Бурчаў ён, злазячы з палацяў.—
Іх Адэнауэр — злы псяюха!
Бяры навушнікі ды слухай,
Як ён нам злом за добрасць
плаціць.
Тэўтон тэўтонам і сканае!
Вось крыж, душа ў яго гнілая,
Калі напару з рымскім папам
На камунізм ідзе нахрапам».—
«Чорт іх бяры,— казаў я дзеду,
Хоць, як і ён, нядрэнна ведаў,
Хто фору даў такім сатрапам.—
Мне надакучыла іх слухаць,—
Пасля, пачухаўшы за вухам,
Зноў затрымцеў, як гляк на плоце:
— Грымець над светам прагне кажан...
А што як гэта палец божы?
Наш лёс — змала ў слязах і поце
Гібець у атамным балоце.
Мы ўжо і так шмат награшылі».—
«Кінь жартаваць! Усіх адшыем,—
Адрэзаў дзед з такою сілай,
Што мне аж твар перакасіла.
Стары злаваў, бо праз хвіліну,
Нібы пятак на свечкі, кінуў:
— Відаць, у келлях Ватыкана
Ад рэваншысцкага дурману

Усе святошы азвярэлі...
А людзі ж верылі ім шчыра,
Хоць папства грэбавала мірам.
Яму, мой пане, гора мала,
Што смерць хаўруснікаў прыдбала
Сярод свяцціл яго канклава».

Тут дзед, прысеўшы, мацаў раны.
Увесь няшчадна пакрамсаны,
Ён мог і нам сказаць з дакорам:
«Дзе ж вашы крылы? Глупствы порам:
Саміх сябе ўжо збілі з рэек.
Хіба на Захадзе ўжо днее?
Там, пане мой, гайня сатрапаў
Усё прыбрала ў свае лапы,
Каб спадцішка й да нас дабрацца.
Лепш з гэтай поганню не знацца.
На ёй жа нават скура тлее,
Як на звяглівых тых балаках,
Што рвуцца ў бой... за хвігу з макам».

Эх, дзед, балакі — наш набытак.
Народ занудлівы, сярдзіты,
Яны скуголяць і на вецер.
Без іх было б нам, грэшным, сумна,
Як без гракоў, што каля гумнаў
Натхнёна кешкаюцца ў смецці.
Яны ж не дэмахрысціяне,
Якія ў нас і на аркане
Ля гумнаў доўга не ўсядзелі б.
Іх продкі з вострымі мячамі
Стаяць у нас перад вачамі
У акрываўленым адзенні...
І духавенства іх з запалам
Тады на папства шчыравала
У заняволеных краінах.
Так, так, яно пляло інтрыгі,
Паліла рукапісы, кнігі,
Пасля іх творцам пры лучынах
Крыжы выпальвала на спінах.
Хай гэта ўсё, нібы ў тумане.
Хай у сучасным Ватыкане
Менш крыважэрных цемрашалаў.
А сутнасць промыслу іх тая ж:

Прашляпіш — дымам завітаеш
У рай, да вечнага прычалу.
Там, як гавораць у народзе,
Бог басаною па кветках ходзіць,
Але панюхаць іх не можа.
Дым Бухенвальда і Хатыні
На іх яшчэ гаротна стыне
І тонкі нюх яго трывожыць.
Якая ж святасць у знішчэнні?
Але фашызм пусціў карэнні
Ледзь ні ва ўсіх краінах свету,
І дзядзька Сэм у хмары дымам
Пусціў яшчэ і Хірасіму
Рукамі платных прайдзісветаў.
Зямля... Спакус на ёй багата.
І ў божых слуг край непачаты
Спраў незавершаных усюды.
Вось толькі дыму мнагавата...
Але знайдзіце вінаватых,
Калі ў кумірах ходзяць каты
І палітычныя прыблуды.
Браты ў Хрысце іх разграшылі.
Яны ж «ератыкоў» душылі,
Хто бомбай атамнай, хто газам.
Былі між іх і хрысціяне,
Але іх душы ў Ватыкане
Не памянуў ніхто ні разу...
Бяздушны зброд!.. Іх «бамбардзіры»,
Хто з кінакамерай, хто з лірай
Нас прылучаюць да «культуры».
Нібы духоўныя аптэкі
Плывуць да нас іх дыскатэкі
Й мяшкі «святой» макулатуры.
А мы — нашчадкаў ёю дурым!
Не ўсё ж замежнае ад сэрца.
Эстрадны бум з біблейскім «перцам» —
Бальзам для жвавых крытыканаў
І адвакатаў Ватыкана.
Мо не яны бузяць у храмах
І пішуць свастыкі на брамах?
Яны! Аб гэтым у народзе
Даўным-даўно ўжо чуткі ходзяць,
Як аб якіх балотных цудах.
Хто быў у Мюнхене ці Боне,

Той, пэўна, бачыў, як там сёння
Ксяндзы выпяльваюцца ўсюды.
Між іх, нібы кляшчы ці блошкі,
Айцы сіповічы й гарошкі
І акачурыліся ў юдах...
А расказаць пра іх, хоць трэсні,
Няма каму ні ранкам веснім,
Ні ў дні «асенніх перасудаў».
У нас яны праходзяць бурна,
Але без выбрыкаў, культурна,
Каб не пакрыўдзіць бардаў слова.
Чаго ж, скажыце, мітусіцца,
Калі на ўсіх франтах як быццам
Запанаваў парадак новы?
І навізна яго не ў штатах,
Чыноў у нас і так багата,
А ў шчырай злосці па «праколы».
Есць, што на кожным скрыжаванні
І штаб-кватэру нашу ганяць
Пад гучны скрып арцельных колаў.
Для песімістаў гэта — «крама»,
«Заезджы дом з чыгуннай брамай»,
Дзе што ні клерк, то «хлус», «дзяляга»,
А самі — днююць каля касаў
І намперсека на кілбасах
«Сяброўскай» мілуюць увагай...
Але не больш, чым аптымісты
З гайні пад назвай «Гоп са свістам»,
Народжанай дваццатым векам.
Я не пра тых, хто служыць музам,
А пра нахлебнікаў Саюза,
Яны ўжо трызняць намперсекам.
А той з усмешкаю дзяжурнай
Як чалавек наменклатурны
Усю б іх хеўру акілбасіў,
Але ў наш час, хоць стой, хоць падай,
І языком фехтуй, як шпагай,
Лепш патрымаць яе на квасе.
І не ў Саюзе, а за брамай,
Каб сапраўды не стаў ён крамай
Пад шыльдай творчай установы.
Нам скасаваць «праколы» трэба,
А не народнай «маннай з неба»
Аплачваць іх у дні адновы.

Каму? Чыноўным дэмагогам,
Дзядзькам іх добрым, «педагогам» —
Усім, хто з імі «рухаў справу»,
Прасцей — ашукваў нас паціху
Па святцах блуднага Сізіфа,
Для шмат каго яшчэ яскравых...
Балбатунам не да адновы,
Яны старыя пастановы
Пераніцуюць — і на дачы.
Чаго ж гарбець у штаб-кватэры,
Калі мы ўсе набожна верым,
Што і ў «акопах» іх убачым?
Хіба такога не бывала?
А хто ж тады сваім запалам
Нас паднімаў «каваць жалеза»,
З «ног» на вяршыні ставіць горы?
Гаворка йдзе пра тыя творы,
Што ў кожны ранец лёгка лезуць.
Мо хто шпурнуў іх на паддашша?
Яны — наш скарб, багацце наша.
І не абы-якая зброя...
Але апосталы бравады
Пяюць халтуршчыкам рулады
І іх занудлівым «героям».
Вось хто, маўляў, арэ глыбока,
Хоць і лятае невысока,
Зусім адбіўшыся ад гурту.
Адзін з іх выгукнуў, каб чулі,
Што будзе ставіць на «хадулі»
Усіх, хто ўлезе ў яго «юрту».
На думку гэтага пісакі,
Усе мы скіснем, небаракі,
Празмерна хвалячы тых хватаў,
Што пралілі крыві багата
Ў баях за край свой, за Радзіму.
Не той герой, хто лез пад кулі,
А той, хто ў тыле зад намуляў
Сярод фашысцкіх паладзінаў.
Чаму? Ён думаў больш, калегі,
Пра азвярэлыя набегі
Нацысцкай нечысці на вёскі,
Пасля, вільнуўшы ад прачоскі,
Мог асцярожна выйсці з лесу
З дубцом ці, скажам, з дубальтоўкай.

Куды? На лёгкую харчоўку,
Каб перажыць вайну без стрэсаў.
Не ўсім жа кідацца на доты.
Ў нябыт — шырокія вароты,
А чалавек не гразь на ботах,
Яму перш-наперш жыць ахвота.
Адсюль і хітрыя курбеты
Спрактыкаваных «жыццялюбаў».
А мы, нягодныя, іх груба
Назад адпіхвалі за гэта
Як непраўных рэнегатаў,
Замест таго, каб пакланіцца
На злосць праклятым чужаніцам
Ды запрасіць ласкава ў хату.

3

### ЖЫВУЦЬ — МАДЗЕЮЦЬ, А ЛІХА ДЗЕЮЦЬ

Вярнуўся Церах. Ён таксама
Сам выбіраў сабе напрамак
У час ваеннай завірухі.
Зямля ўзрывалася да неба,
А ён спраўляў свае патрэбы
І не памёр ад галадухі...
Я запрашаў яго ў свяцёлку,
Ды ён сядзеў як на іголках,
Увесь ужо аблезлы, лысы,
Пасля сказаў паныла, глуха:
«Ваш лад гуманны: ёсць прадуха,
Але... няма бяздоннай місы».

На гэтым мы і разышліся.
Хто з галавой сядзіць у «місе»,
Не перадасць свайго нікому.
А пад сябе і ў д'ябла можа
Сцягнуць сядзібу з агароджай
І аблавушаным дамкомам...
Так, так, тут ёсць аб чым падумаць,
Каб не дайшло ад слоў да глуму
І валтузні гадоў на трыста.
Не праграміст я, але бачу,
Хто з чым ля нас на маршы скача

На бальшаках і ў полі чыстым
Адразу ў некалькіх асобах,
Пасля пішчом наперад лезе,
Каб на хаду ці на начлезе
Назваць «майстрамі» бракаробаў.
Няхай, гавораць, хоць для паху
У заграпічных апранахах
Сядзяць, як пайшчыкі, ў Саюзе.
Праз год-другі пра іх і ў друку
Дружкі пачнуць нястомна грукаць,
Пакуль усіх нам не нагрузяць.
З якою мэтай? Час пакажа.
Мне толькі хочацца заўважыць:
Бяда, дзе шмат такога люду.
Прайдохі нам спрыяць не будуць.
Яны, як тыя фарысеі,
Што духаборшчыну ў нас сеюць,
На выбракоўку ўсіх асудзяць.
Мы ж не такія «жыццялюбы»,
Без лішніх слоў давалі дуба,
Пад кулі лезучы з акопаў.
Я не здзіўлюся, калі скажуць,
Што чэрці ў пекле нас падсмажаць
І за адбітую Еўропу.
Для душ чуллівых, але шэрых,
І ў нашы дні бліжэй той бераг,
Дзе «ваяваў» з фашызмам Церах,
Які ўжо зубы з'еў на здрадзе.
Мажліва, гэта выпадкова,
Але і Надсан «добрым словам»
Пры поўным кляштарным парадзе
Іх як дружкоў сваіх пагладзіў,
Прабачце, выказаў надзею,
Што ўсе старанні іх — падзея
Ў укладзе нашым і культуры.
Дарэчы, ў нашым асяроддзі
Аб ім ужо легенды ходзяць
І як аб хабраўскім [1] рапсодзе,
Хоць і маўклівым па натуры.
Ўпікнеш — абступяць з кулакамі
Або шпурнуць пад ногі камень,
Каб і аб вечнасці падумаў.

[1] Хабраўскі рапсод — нацыяналістычны пясняр.

У нашых мінскіх «клерыкалаў»
На перамір'і часу мала —
З трыбун бічуюць «тугадумаў».
А як яны умеюць капаць
Персеку нашаму на лапаць,
Калі прыспічыць адбівацца!
І не без поспеху, вядома.
Таму, прызнацца, я свядома
Хацеў з нізоў да іх дабрацца.
А зараз, бачыце, як хворы,
Увесь свячуся ад пакоры.
І страх мяне якісьці мучыць.
Па справах бачна, нашы «грыфы»,
З сучаснай былі, а не з міфаў,
Зноў паднялі ў навуцы бучу.
Да нашай эры, як вядома,
Ніхто не бачыў іх на стромах,
Абжытых горнымі арламі.
Цяпер знайшліся верхагляды,
Якія гэтым «птахам» рады
І... разам глумяцца над намі.
Персек, вядома ж, круціць носам,
У думках ён, напэўна, босы
Залез па грудзі ў лён ці проса
Або кладзе траву ў пракосы
І праклінае антымістаў.
Вось хто даў «страву» песімістам!
На іх вачах, без хібаў, чыста,
Галоўны «грыф» стаў галасістым
Магістрам неа-«гуманістаў»,
Прапыр вяртлявых, ваяўнічых.
Абсяг іх дзейнасці таксама
Не прызнае ніякіх рамак,
А ён і нас, антыфашыстаў,
Цяпер ужо ламаць іх кліча!..
І гэта ўжо не «тары-бары»,
Яго дэвіз: «Шукайце твару
І чалавечнасці ў фашызме».
Усё ж бо ў нас не ад навукі,
А ад «татальнае прынукі»,
Што «залягае ў камунізме».
Спытайце ў Рэйгана ці Коля
Каго яны з чыноўным болем
Нядаўна ў Боне паміналі.

А мы пад ціскам «рэтраградаў»
Ва ўсіх фашыстах бачым гадаў
І памагатых іх не хвалім.
Жыццё без «ціску» — вось аснова,
Раздзьмутай «грыфамі» «адновы»
У нашым слаўным стольным Мінску.
Як быццам ён і не савецкі,
А з малку шпрэхаў на-нямецку
І ў нашы дні жыве па-свінску.
Чаму ж тады, скажыце, сёння
Аб ім з пашанаю гамоняць
Ледзь не ва ўсіх краінах свету?
Таму што, помсцячы фашыстам,
Ён стаў сапраўдным камуністам
Пад лямант іх апалагетаў!..
Паны астроўскія, рагулі
І нас у здраду не ўцягнулі,
Хоць аж вылазілі са скуры.
Бясслаўны лёс і іх нашчадкаў,
Калі гарбеюць без аглядкі
На падрыўныя агентуры...
Відаць, гісторыя нічому
Не навучыла тых, хто дома
Пляваў на ўласныя пялёнкі,
А за граніцай як наняты
У кожным пане бачыць «брата»,
Ліслівa шчэрачы каронкі.
Кураж? Хутчэй за ўсё патрэба
Капціць на ўсіх шыротах неба
У ролі антыкамуністаў.
У «вольным свеце» гэта ў модзе.
А мы — у сябе гніллё разводзім,
Даём патолю нігілістам.
Крыжы ля кожнае дарогі —
Вось ім прысуд няўмольны, строгі.
Час паказаў: жыцця не будзе,
Калі мы самі, зняўшы дзяжкі,
Не згонім з нашай калымажкі
Дзялкоў ад звад і словаблуддзя!

Сагналі... Бачу па абвестцы:
Быў з'езд, а воз стаіць на месцы.
І вазакі, надзея наша,
Зноў з крыкунамі вараць кашу.

Персек злуе, бо «край гасцінца»,
Каб нават быў ён Дацкім прынцам,
На луг не юркне без гамашаў.
Даю наводку: там, на ўлонні,
Не раз шчасліва ён філоніў,
Таму, спыніўшыся пад дубам,
Зноў ціха выціснуў скрозь зубы:
«А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
На духмяным пракосе
Недаспелай травы»,—
І заплакаў, міляга,
Усе ж ходзім пад богам,
А ў яго ні сяброў,
Ні стальной булавы...

А каб зірнуў у каляіну —
Сам ясна ўбачыў бы прычыну
Язды з прыпынкамі ў дарозе.
Я паглядзеў, там процьма «палак»,
Цвілых «шэдэўраў» з кніжных звалак
І прайдзісветаў рознай масці.
Цяпер — тапчуся на марозе,
Каб з рукзаком пад воз не ўпасці...
«Зарваўся,— кажуць,— небарака,
Па зводках браку — кот наплакаў
І воз усё ж заўсёды ў руху.
А ён — такая косць, закваска —
На вазакоў глядзеў з апаскай
І рассупоніўся, псяюха:
Дзе трэба шыць — заядла пора,
Пасля гудзе на іх з дакорам,
Маўляў, арлы, а палі духам».

У гэтых байках многа чаду.
Я сам сабе цяпер нярады —
Залез на Лысую гару,
Куру мультан і гавару:
— Так, гэта праўда, ёсць прычына
Адлупцаваць мяне ляйчынай
Пры ўсім пісьменніцкім народзе.
І не на дачах, а на сходзе,
Каб зарубіў сабе на носе:
Убачыў што — кажы здалося!..

Так па інерцыі завочна
Сёй-той у нас яшчэ балбоча.
Я не адкрыю вам сакрэта,
Калі скажу, што з «песняй» гэтай
Мы закажэнялі б ад бруду.
Але няхай, я не псіхолаг
І, калі нават хто з нас голы,
Сцярплю, маўчаць як рыба буду.
Пакуль наш воз шпарчэй памкнецца,
Дык і ваўкі нам зробяць гэцу [1].
Інакш у нашай штаб-кватэры
Не налягалі б на паперы,
Як самадуры, да знямогі
Пасля нялёгкае дарогі.
Небескарыснай, зразумела.
У багажы ж сярод падзелак —
Палотны душ рашучых, смелых,
Адданых партыі, народу,
А не гнілым заморскім модам.
Няхай даруюць мне «прарокі
Пераацэначнай марокі»,
Пераацэнка — акт свяшчэнны,
Таму не кожнаму прыемна,
Калі яго здзяйсняюць людзі,
Якія нам цішком паскудзяць.
Рафінавана, каб парнасцы
Не задыхнуліся ад трасцы,
Сарваўшы маскі з мiраедаў.
Я аднаго такога ведаў.
Падобны знешне да бізона,
Ён, незалежна ад сезона,
Хадзіў у «гжэчных забіяках»,
Пакуль не рынуўся ў атаку.
Краіна нешта святкавала,
А ён адкрыта, без забрала
Бадаў сваіх калег па фаху,
Каб не чапалі нігілістаў...
Я сам, тады яшчэ зялёны,
Чуў міраедскі рык ягоны
Са злым, як чад,
мастацкім свістам.
«Бізон» і дома бузацёрыў.

[1] **Гэца** — беспарадак, дэбош *(польск.)*.

Аб гэтым нават мышы ў норах
Пішчалі глуха на Парнасе.
Але ў Саюзе, як на рынку,
Дзве паэтэсы з катарынкай
Трымалі ўсіх у дзікім страсе.
«Бізон», змала на пана хворы,
Мог быць і прыкладам пакоры:
Давалі — браў, карылі — кляўся,
Што без намеру прыбядняўся.
Вайна, казаў, далася ў знакі,
Забыўся б — трызняцца баракі,
Бязлюдны Мінск з яўрэйскім гета
І акупанты ў драндулетах.
Зірнеш — ды ў кут, як перад шлюбам,
Хаця б не вылаяцца груба...

4

## СВАЯ БЯДА — СВАЕ ТУРБОТЫ

Ёсць сэнс адзначыць: для «Бізона»
Мінск быў «дазволенаю зонай»,
А «акупанты ў драндулетах» —
«Гаспадарамі ўсяго свету».
Іх воўчай міласцю ў руінах
Ляжала ўся наша краіна.
Але для выхадца з той «чэрні»,
Хто нос ад нас з пагардай верне,
Фашызм быў «ласкай», «божым дарам».
«Бізон» аб ім, напэўна, марыў,
Калі з падскокамі, зухвала
Па Мінску гойсаў з торбай сала,
А не з дубцом ці самапалам.
Да зброі ж сэрца не ляжала.
Дружкі яго ў чынах сядзелі,
А ён — на бацькавым надзеле,
Як «фрыц мясцовага пакрою»
За «трэці рэйх» стаяў гарою.
Ці не тады ён, грэшным чынам,
І шкодзіць нам знайшоў прычыну?
І не адзін, як людзі кажуць,
А з цэлай бандаю ватажак.
Сказаў бы хоць, хто біў тых гадаў,

Якім не раз да ног ён падаў...
Але няхай, навошта сёння
Чужое сэрца на далонях
На суд грамадскасці выносіць.
Мажліва, й гэта мне здалося.
«Маўчы»,— гулі мне аптымісты,
«Ну-ну»,— злавалі песімісты.
На іх вачах у стане нашым
Для круцялёў знайшлася «паша».
Карцела ж вырваць іх з пацёмкаў,
Цяпер — чмурэем, як ад бомкаў:
Далі патолю воўчым генам
І... напладзілі суперменаў,
Якім ужо на нашым «рынку»
Няма раўні й без катарынкі.
Я не ханжа, ёсць выключэнні,
Але слабыя ў іх карэнні,
Мажліва, нават і гнілыя...
Мы людзі простыя, зямныя,
Жывём без хітрых выкрутасаў,
А «былякі» аж вьюць часам,
Пнучыся з нашых «шэрых гоняў»
На дысідэнцкае улонне.
Старая прымаўка не брэша:
Хлус да пары гарбы нам чэша,
А, стаўшы модным прахіндзеем,
Адзін за трох нам ліха дзее,
Пасля рве кіпці за граніцу,
Як Кузняцоў ці Салжаніцын.
Адтуль пад сцягам адшчапенцаў
Ён памяне сваё гуменца,
Дубовы крыж за крок ад хаты
І назаве таго з нас братам,
Хто ўжо цішком арэ валокі
«Сябрам адзінага патоку».
За імі — будучыня наша,
Калі ніхто не плюне ў кашу,
Аджыўшым век свой белбурнацам.
Дарэмна нейкі Недасека
Ад іх імя ў Нью-Йорку мэкаў:
«Мы ўсе ў адным напрамку скачам,
Хоць і пад рознымі сцягамі».
Пан гэты будзе з пірагамі,
Бо чалавек ён злы, лядачы,

Разбіў сваіх праныр на пары
І кажа: «Гэта — санітары»,
А не ваўкі ў авечых шкурах.
Яны ж «працуюць» на культуру,
На думку пана Недасекі,
Цяпер усе ваўкі — умекі.
Час да народа іх наблізіў.
І сам пан Энтані Брэхпсовіч,
Хлушу, важак іх Адамовіч,
Вядомы нам як Недасека,
На старасць год стаў «чалавекам» —
Яго імя, няхай і ўнізе,
Даўно красуецца ў спецкнізе
У самым чорным Белым доме,
Там перад кожным шапкі ломяць,
Хто наслядзіў ля нашых сенцаў,
А потым стаў перасяленцам.
І рэваншыстам, зразумела,
Інакш сваціў бы голым целам
За акіянам без работы.
А недасекам жыць ахвота —
Зноў «дранг нах Остэн»
курс трымаюць.
Адно іх «дрэнчыць»: дні мінаюць,
А іх хаўрус і ў новай ролі
Не дачакаўся лепшай долі,
Хоць важакі яго ў фаворы.
А гэта шмат аб чым гаворыць!
Перада мной ляжаць іх справы,
Вялікі том былін крывавых
Пад назвай «Тайна «Беларусі» [1].
Хто адкапаў іх? Трэба, мусіць,
З асобным націскам адзначыць:
Не я, а той, хто й сам батрачыў
На Белы дом у ролі клерка.
Ён, гэты клерк, з уласнай меркай
І чэпкай хваткаю юрыста
Разлапушыў гняздо фашыстаў
На тым «няўдзячным» матэрыяле,
Які мы моцна занядбалі...
Не ў прыклад Рэйгану і хеўры,

[1] Тут маецца на ўвазе дывізія войск СС, створаная вермахтам у 1935 годзе з недабіткаў БКА.

Клерк зaглянуў «ваўкам» у зеўры[1]
Як верны сын свайго народа,
А не наёмны ваявода.
Джон Лофтус, аўтар гэтай працы,
Садраў «аўчыны» з белбурнацаў
Як з «саўдзельнікаў нацызму».
Не па шляху ім з камунізмам
У час сляпых наймiцкiх скокаў.
Нацызм і ў Штатах збіў іх з кроку
Каля кармушак Пентагона.
Іх шэф, няхай і без пагонаў,
Але хадзіў у «генералах»,
Хоць не цягнуў і на капрала...
Ён з Недасекам і прыдумаў
Аднапаточную хаду нам
На радасць неа-«гуманістам»;
«Воўк», а пад ногі слаўся лістам.
Хто гэта быў? «Крывавы Франак»[2],
Які і здох за акіянам
Перакапаным цемрашалам,
Якіх, на жаль, яшчэ нямала...
Але ад нас ён быў далёка
І... пад руку не раз галёкаў,
А Лофтус меў яго на воку
Як падстаўнога лжэпрарока,
Хоць сам не анёл і ў запале
Па ўсіх і ўсім з гарматаў паліць.
А ў нашым штабе год ад году
Усё рашалі справаводы,
Прабачце, неа-«гуманісты».
Яны з галёканнем ды свістам
З вайны ў прылазніках Саюза
Гурбой абельвалі інтрузаў.
Сёй-той на гэтым меў нажытак
І сам бялейшым стаў нібыта.
Жыццё іх з «сёдлаў» выбівала.
Ёсць, што ўзяліся за аралы,
А можа, проста надаела

---

[1] Зеўры — пашча *(дыялектн.)*.
[2] **«Крывавы Франак» — «жалнерская» мянушка былога «галоўнакамандуючага» БКА, затым чыноўнага эсэсаўца Францішка Кушаля; пасля вайны — платны «савтолаг», агент ЦРУ.**

Насіцца з пэндзлямі ды мелам.
Паспачуваць ім, мабыць, трэба
І пажадаць больш пэўнай глебы,
Каб менш стараліся на «грыфаў»,
Якія зноў нам дзеюць ліха.
Няма чаго граху таіць,
Пытанне гэтае стаіць
Больш, чым паўвека перад намі.
Не па шляху нам з хітрунамі!
Хто з іх калі быў з намі ў згодзе,
Хто на паверку ў строй выходзіў?..
У нас такога не бывала!
І на «багоў» надзеі мала,
Пакуль не спусцяцца з Парнаса
У растрывожаныя масы.
Хай нават хто кулак пакажа...
Саюз — нялёгкая паклажа,
А наш персек душой і целам
На ўсё глядзіць забранзавела.
Ён так заякаўся, галуба,
Што зачарсцвеў ад пят да чуба.
Вяртлявы хлус ты ці гарэза —
Ён ні гу-гу... «куе жалеза»,
Упёршы ў стол панылы вочы.
Відаць, адбыць павіннасць хоча.
Няма дурных у бойку лезці,
Калі жыццё зноў «грыфаў» песціць,
Не, не жыццё, а верхагляды,
Якія ім заўсёды рады.
Наадварот, персек вам скажа:
«Я шмат станоўчых з'яў заўважыў
На нашым творчым небасхіле.
Дарэмна мы па нервах пілім
Адзін другога, як вар'яты».

Дзе «балем правяць» з «крайняй хаты»,
Там і вуглы пяюць пра страты.
Але скажыце гэта совам,
А не чыноўным бардам слова!
Пры шчодрай спадчыне і смецце
Для шмат каго «яскрава» свеціць
І пад шумок «таварным» стане.
А мы яго баімся ганіць...
Мо гэта дробязь? Не, праблема!

Яна, як сверб або экзэма,
Без радыкальных «лекаў» — гора
Для тых, хто шые, а не пора.
Дзялкі ад крытыкі ў час весні
З любой падзелкі зробяць «песню».
А папракнеш — такое скажуць,
Што сам сябе здасі пад стражу
Як «парушальніка парадку».
Я ж гаварыў ужо аб гэтым.
Лепш ціха жыць па трафарэту
«Майстроў грымучай паказухі».
Яны, як кажуць, без сівухі
Умеюць ладзіць і з «ваўкамі».
А я іх скроб пад шэрсць рукамі,
Тады, як нейкі Фактар Часу
Іх параднiў у нас з Парнасам,
Пад бурным націскам той сілы,
Што «сальца» ўсім ваўкам насіла.
Не тым, што труцца ля кашараў,
А тым, што ў нашых душах шараць
Пад маскай «шчырых патрыётаў».
А як ім знішчыць нас ахвота
Або хоць выпэцкаць смалою!..
Як тут не ўспомніш пра былое,
Калі яно да нас і сёння
Без лішніх слоў і цырымоніі
З усіх шырот у вочы лезе!
Хтось нават трынькаў аб імпрэзе
З нагоды гэтага здарэння,
Нібы ў яго няма карэння.
І белбурнацкага ў тым ліку...
Хаўрусам лаянкі і крыку
Стаў сіндыкат
«культурных БАЗ-аў» [1].
Джон Лофтус, значыць, не прамазаў!
Не духі шкодзяць нам, а людзі,
Замацярэўшыя на блудзе.
Ды ў нашы дні і ў лютых катаў
Ёсць дружбакі і адвакаты...
Скажу вам шчыра, без іроніі,

---

[1] БАЗы — рэакцыйныя клерыкальна-нацыяналістычныя так званыя Беларуска-амерыканскія аб'яднанні, створаныя пасля вайны ў ЗША з недабіткаў БЦР, БНР і БКА.

Мы гэту тэму праваронілі;
Як памінальніцу з малебнамі,
Лічылі лішняй, непатрэбнаю.
Інакш усё гуло б навокал,
І наш персек, як шызы сокал,
Кружыў бы горда
над Парнасам.
І не фальцэцікам, а басам
Грымеў бы зверху на «путчыстаў»
З мясцовай хеўры брандахлыстаў.
Яны ўжо спеліся з «Бізонам».
Ён стаў аздобай іх «амбону»
Як «багаслоў» пераацэнак
І «член» ватагі «суперменаў».
Кур'ёз?
Хутчэй метамарфоза:
Хто быў пад возам,
той — на возе.
І не таму, што вырас хватам,
Такому б я і сам быў братам,
Хай нават быў бы ён рагаты,
Абы не з тых, хто можа многа,
Ды пнецца ўверх крывой дарогай,
Як Талейран або Вартыла,
Які ў святыя лез без мыла
І... стаў магістрам плутакратаў.
«Бізон» таксама ў цёмных спратах,
Нібы статуй, сядзець не будзе,
Бяздумна чухаючы грудзі.
Чаго ж хавацца ў тыя спраты?
Ў «Бізона» ёсць і мецэнаты.
Таму мы можам толькі марыць,
Што сам ён вернецца ў «кашары»
Пасля чарговага налёту
На «непісьменную блазноту».
Спытайце ў тых, каго ён тузаў,
Што засталося б ад Саюза,
Калі б такія «барды слова»
Былі ядром яго асновы.
Але «забітыя» не ўстануць,
А мы, як тыя уркаганы,
Баімся праўдзе ў вочы глянуць.
Хтось паднядзеліў яе дужа,
Калі і «грыфы» ў «славе» кружаць

Навокал нашага Парнаса,
Ледзь зазвініць гатоўка ў касах.
І ўсё было б, напэўна, хвэцка,
Калі б не бум той выдавецкі,
Што заваліў кнігарні «валам»
Іх духаборчых мадрыгалаў.
А запыніць яго — праблема,
Якая ўсім далася ў знакі,
Бо ўсё расце яшчэ, як накіп.
Чыны, дажыўшыя да лысін,
Без бою «грыфам» паддаліся,
Каб не «клявалі» іх на сходах
Як «цвердалобых слуг народа».
Сёй-той ужо смяецца горка:
«Галоўны грыф» воз кніг напоркаў
Як «спец па язвах нашай прозы».
«Бізон» ад гэтага «наркозу»
Стаў песняром «сапраўднай» былі.
Дружкі й «паэта» ў ім адкрылі.
Хто ж лепш апеў бы тыя лозы,
Дзе гэты «бард» хаваўся з возам,
Каб не гукнуў хто ў партызаны.
«Свяшчэнным» стаў той дух пагашы,
Што напіхаў яго на здраду;
«Бізон» як быццам і не падаў
Да ног фашысцкім акупантам —
Хутчэй за ўсіх з чырвоным бантам
Бег на бальшак насустрач нашым.
Пасля ля хутара на пашы
Асвежаваў бычка салдатам,
Хоць і не надта быў багаты.
А што чакаў ён іх, галуба,
У паграбку пад собскім зрубам,
Увесь напружаны ад страху —
Не шкнуў і вераб'ям на даху.
Такая ўжо ў «Бізона» хватка:
Ён і на Захад знойдзе кладку,
Як і ў фашысцкі стан калісьці,
Хоць быў сваё дасье падчысціў
І сам, магчыма, быў гатовы
Ступіць на шлях больш тупкі, новы.
Але, хапіўшы кашы шылам,
Зноў прамяняў кажух на мыла —
Пачаў збягаць з галоўнай трасы

Бліжэй да тых, хто дурыць масы...
Чым гэта скончыцца? Правалам!
І ў Польшчы контра шчыравала
На чорта лысага заўзята,
Пакуль не трапіла ў цянёты
Антыдзяржаўнага балота
Над «крыжаносным» сцягам НАТО.
Сёй-той, як кажуць у народзе,
І на свой страх паціху шкодзіў.
А ўсе ж хадзілі ў «патрыётах»
І на этапных паваротах
Працёнам лезлі на трыбуны,
Каб хто назад іх не адсунуў.
Але працоўная Варшава
Пазнала злыдняў па халявах
І пераблытала іх планы
Амаль на ўсіх мерыдыянах,
Пад дзікі лямант Вашынгтона,
Парыжа, Лондана і Бона...
Без карных акцый, зразумела,
Хоць контра ўжо і зброю мела.
Няхай у нас не тая глеба,
Ды мець на ўвазе гэта трэба.
А што каму на сэрца ляжа —
Жыццё далейшае пакажа!..

# БЛІЗКАЯ ДАЛЯЧЫНЬ

1947—1953

* * *

На мой народ вярнулі ўсе грахі:
Шыпелі з-за вуглоў, што беларус глухі,
Калі бяда здараецца з сябрамі.
А хто ж да іх працерабіў шляхі
З-пад разняволенай Кастрычнікам страхі?
Хто з году ў год вазіў засвет барамі
Сваім суседзям радасць на засеў
І назамен нічога не прасіў,
Хоць і не грэбаваў сяброўскімі дарамі?
Мо хто з былых магнатаў, ці паноў,
Або з тых белбурнацкіх скрыпуноў,
Што, акапаўшыся на Захадзе, гудуць
У рэваншысцка-крыжаносную дуду?
Сто бочак пораху! Яны б і сёння нас
У чорным целе, як бадзяг, трымалі,
Каб не вылазілі з пацёмкаў напаказ,
А моўчкі ў дыбах спакваля каналі.
Але ўсе сэрцы нельга пагасіць.
Не хопіць сіл: народ наш неўміручы!
І літасці ён не прывык прасіць
У тых, хто выбраў шлях крывы, смярдзючы...
Быў час — з кары пяклі мы пірагі,
Жылі ў глухіх барах, як у начы.
А Нёман рваў крутыя берагі
І клікаў нас з сабой у далячынь.
Няхай самім не соладка жылося —
Да слёз людскіх ніхто не быў глухі.
Аж да Берліна крочыць давялося...
Цяпер — з мячоў штукуем лемяхі,

Бо жыць без іх спакойна не маглі б,
Вярнуўшыся пасля вайны дадому.
І ўсё за мір, здаецца, аддалі б,
Каб зноў не трапіць на сцяжыны грому.
Спытайце ў нашых беларускіх матак,
Аб чым яны з тугой пяюць малым,
Пад ціхі стогн сваіх сясцёр-салдатак,
Што без мужоў садзяцца за сталы...
Без песні нам — ні ў госці, ні з гасцей,
Час зняў «грахі» з плячэй майго народа,
Хоць ворагі ўсіх рангаў і масцей
Яшчэ чапляюцца за край наш мімаходам.
Мы не адны. А гэта ўжо нямала.
Сябры ад нас не чулі пышных фраз.
Нам дружба жыць шчырэй дапамагала,
Яна навекі параднілa нас!

## ЛЕГЕНДА

Гналі дзяўчыну ў палон крыжаносцы
Пад строгім канвоем.
Вецер гуляў па разбуранай вёсцы
Над ціхай ракою.
Ой, каб рака разлілася да лесу
Або паглыбела,
Слухалі б каты вячэрнюю месу
У саванах белых.
Людзі каламі збівалі б іх з коней
У мутную завадзь.
Хто ж да чужынцаў падступіцца сёння,
Сарве іх «выправу»?..
Сонца ад дыму счарнела тым летам —
Гарэлі хаціны.
Горкая доля, як кажуць паэты,
Спасцігла дзяўчыну.
Скінула б путы, ды сіл ужо мала —
Нагайкамі білі,
Ноччу на крок ад калоны адстала —
«Савой» ахрысцілі.
Кнехты задумкаю гэтай хацелі
Магістра расчуліць.

Выпеклі крыж паланянцы на целе,
А крыку не чулі...
Маці, нябожчыца маці ў белым,
Шапнула ёй строга:
«Ты ж песень, дачушка, сваіх недапела,
Мацуйся, нябога!..»
«Добра, я ўстану»,— сказала дзяўчына.
І з ціхай журбою
Шуміць на Палессі ля кожнага тына
Блакітнай вярбою.

## БАЛАДА ПРА «ЯСТРАБКА»

### 1

Хто любіць песні — хай да нас
Хоць на дзянёк прыедзе.
Жывём мы сціпла, без прыкрас,
Гасцюемся ў суседзяў
І самі рады іх заўжды
Сустрэць паклонам нізкім.
Ад нас і ў лес не шмат хады.
Хто рос у ім з калыскі —
Здалёк пачуе, як цяпер
Пяюць над Нёмнам сосны...
Але знайшоўся ж люты звер,
Які знішчаў іх злосна.
Не шанаваў ён і людзей —
Стараўся ўсім нашкодзіць.
Сяляне, сведкі тых падзей,
Ужо з кійкамі ходзяць:
Пакуль наладжвалі жыццё —
Даліся, пастарэлі.
Ды час з іх памяці не сцёр
Гісторыю арцелі.
Вясна, шчабечуць салаўі,
А ім, старым, і сёння
Зямлянкі трызняцца ў гаі
На здзірванелых гонях.
І штаб аховы — свой, лясны,
Для ўсіх адкрыты насцеж.

У сорак пятым да вясны
І я там вокны засціў —
Стаяў на варце каля іх
У бацькавых апорках,
Чуў, як спяваюць салаўі,
І ўсміхаўся горка.
Зіма халодная была,
І голад даўся ў знакі.
А калі пуста на сталах —
Не ў галаве і птахі...
Хто падмяняў мяне? Хлапчук,
Якога звалі Стасем.
Аб ім і сёння шмат пачуць
Вы можаце ў калгасе.

2

Год сорак пяты — Стасеў год.
Вось ён насупіў бровы
І зарываецца ў сумёт
На ўскраіне дубровы.
Сіберны вецер паліць твар,
Сячэ няшчадна рукі.
Не дапамог і шкіпінар,
Нам прывязлі яго з Напар
Якіясьці манюкі.
Стась трэ пальчаткай вушы, нос,
Аб корч малоціць ботам;
Каля Варшавы ж недзе рос,
Там не зіма, а слота.
Была б адліга. А ў мароз
Не соладка хлапчыне,
Але без ласкі і слёз
Паста ён не пакіне.
Стась запісаўся ў «ястрабкі».
Ёсць і ў яго прычына
Таўчыся з намі ля ракі
За невысокім тынам:
Смерць распісалася на ім
Чаргою з аўтамата.
А ў нас — бярданка на дваіх
І ледзь жывая хата.
На хаце шыльда: «Сельсавет».
Хто быў у Лозках — знае:

На ёй сышоўся клінам свет
У кулака Чмыхрая;
Хай сам сабе цяпер ілжэ:
«Не бойцеся, рабята...»
Нам, «ястрабкам», ён беражэ
Па кулі ў лоб на брата.
Стась для яго — «бяздомны пшэк»,
Я — «бульбаед замошскі».
Здурнеў на старасць чалавек,
Адбіўшыся ад вёскі.

3

Сцямнела. Стась паволі сеў
І дрэмле на сумёце.
Не, зноў чупрынаю трасе —
Дрот скручвае на плоце.
Не хоча, жэўжык, марнаваць
На адпачынак часу.
Воўк перабег старую гаць,
Сустрэцца б з ім сам-насам.
Стась аж гарыць — ён ланцугом
Заб'е ваўчыну ў лозах.
Мо хоць пад шкураю яго
Схаваўся б ад марозу.
Падумаць страшна — цэлы год
Мы за парадкам сочым.
Чмыхрай абачлівы, як кот,
Ён ашукаць нас хоча.
Мне нават сальца абяцаў
Падкінуць на каляды,
Ды я — «паршывая аўца» —
Нішчымнай бульбе рады.
І Стась на запяткі не йдзе —
Малы, ды ранні сокал.
Чмыхрай абуў яго, адзеў,
А шкодзіць не ўмалёкаў.
Прамашку нейкую зрабіў.
Стась сярод ночы, голы,
Газоўкай лоб яму разбіў
Ды ўцёк да нас, у школу.
Вось вам і «пшэк»! Адзін сядзеў
Да раніцы на сходах...
Куды ж, скажыце, ксёндз глядзеў?

Стась і Езуса ўходаў —
Збіў яго з крыжа чапялой,
Уз'еўшыся на «пана».
Чмыхрай за божаю спіной
Быў для хлапца тыранам.
Не шмат дасталася і мне
Ад ласкі пана бога,
Лаўлю крупінкі ў чыгуне
І не віню нікога.
Зямлі, абпаленай вайной,
Плуг даражэй за слова,
З трафейнай стрэльбай за спіной
Ляпіў я зруб сасновы.
А маці моўчкі дацямна
На печ мясіла гліну,
Пасля ўздыхала ля гумна
Па клёкаце буслінымі.
Ці не таму і на мяне
Напала раптам скруха —
Вастрыў тапор на валуне
І прагна пушчу слухаў.
Жыццё скупілася тады
На мірныя напевы.
Вакол яшчэ курыўся дым
І ўсё кіпела гневам.
Але і песня спакваля
Дужэла ў кожнай вёсцы.
Ніхто ж і дня не прагуляў,
І я ў старой матросцы,
Галодны, босы, да крыві
Панаціраў далоні,
Але душою не крывіў,
Хоць часам і філоніў.
Спытайце ў Стася, колькі ў нас
Было тады запалу.
Няўжо Чмыхрай увесь калгас
Ператаўчэ памалу?
Вунь ён, прыгнуўшыся, пабег
З абрэзам да сіронка.
Пужнулі — пляснуўся на снег
І вые тонка-тонка.
У пастку трапіў, балабон,
А да «сваіх» — далёка...
Цяпер ад злосці трэсне ён

Ля сельсавецкіх вокан.
Чмыхрай спаліў сваё жытло,
На шлях разбою збочыў,
А тут назло яму святло
Блішчыць да позняй ночы.
Усё звячэе, а яно
Для «хлопаў» не пагасне!
Народ за ім, як за сцяной,
Адкіпе ўсе напасці.
Дарэмна тужыўся бандзюк —
Верх узяла «галота».
А ён ляжыць, бы той вяпрук,
Каля чужога плота.
З нагой у пастцы. І ніяк
Не пёратрэ вяровак.
А на падмогу нават грак
Не прыляціць з дубровы.
Яшчэ хвіліна — і Чмыхрай
Адчуе, што нас мала.
А Стась жартуе: — Не страляй!
Хто ж нам падкіне сала...

4

Ноч — вока выкалі. Мароз
Аж да касцей праймае.
Шумяць бярозы. Шмат бяроз.
Мы іх з маленства знаем,
Але ў пацёмках не відаць
Ні тых ствалоў, ні голля.
А за ракой агні гараць
І ў буданах, і ў школе.
Шкада, што хлопцы ўсе ў бары
На нарыхтоўках лесу.
Не турбаваць жа нам старых,
Іх і ў касцёл, на месу,
Цяпер не выпараш, бо снег
Пазасыпаў дарогі.
Хай пагавораць аб вясне,
Спусціўшы з печы ногі...
А з гэтым злыднем, Чмыхраём,
Мы пагамонім самі,
Калі папраўдзе заслуём
Ды менш баяцца станем.

Чмыхрай пры немцах, бы той князь.
Жыў у цаглянай хаце...
— Дай мне вінтоўку! — кажа Стась.
— А я?
— Ў цябе ёсць маці...
Трымцяць на плоце гарлачы —
Стась пералез у грады.
Падбег да свірна. Адпачыў.
Няма над ім улады.
— Вярніся, Стасік!..
Цішыня.
Злавесная. Пустая.
На ганак выбег старшыня.
— Хто тут крычаў? — пытае.
— Назад! Вяртайцеся назад! —
Гукаю што ёсць сілы,
А сам, як лось, сігаю ў сад.
Ноч там сваё зрабіла —
Чмыхрай ужо каля гумна
Туляецца ад Стася;
Нага без бота ў лахманах,
Лоб аб пляцень расквасіў.
— Здавайся! — крыкнуў старшыня.
Не, гэта нехта з Лозак
Бандыта ў полі пераняў,
Кулём зляцеўшы з воза.
Чмыхрай рвануў з пляча абрэз.
А стрэльнуў Стась ад страху,
Пасля адзін, без шапкі, ў лес
Паплёўся, як на плаху.
Карціць, напэўна, закрычаць,
Бо твар закрыў рукамі.
А слёз не трэба пазычаць,
Калі на сэрцы камень.
Што скажуць людзі? Хіба ён
Збіраўся жыць у Лозках?
За польскім войскам наўздагон
Хлапца цягнула з вёскі.
Адзін, без бацькі і братоў,
Ён трапіў на Палессе,
Кару на хлеб пад Пінай тоўк,
Шукаў прытулку ў лесе;
Адтуль і ў Лозкі заглядаў —
Прасіў запалак, солі...

І раптам — зноў прыйшла бяда.
А ён жа камсамолец...

Куды ж мы дзенем бандзюка?
Больш пан Чмыхрай не ўстане,
Бо ніц з абрэзам у руках
Ляжыць ён на паляне.
Стары пакрыў яго мяшком
І выцер рукі снегам.
Не жыў ён, кажа, а трушком,
Як воўк, за намі бегаў.
Начное неба, дрэвы, снег —
Усё ў дзівосным руху.
Гляджу на дзядзьку як у сне,
Скрозь ноч і завіруху.

Яшчэ нядаўна ён казаў:
«Мне б толькі вугал з дахам...»
А сёння з намі лёс звязаў
І не дрыжыць ад страху.
— Бяжы пагрэйся ў сельсавет! —
Гудзе стары сярдзіта.—
Ды менш хадзі на галаве.
Ад вас адзін убытак...
Пра Чмыхрая ні ён, ні я
Не ўспамінаем болей;
Хіба ён нам які сваяк?
Няхай ляжыць на полі.
Пусты патрон на цаліку
Мне нагадаў пра Стася.
Ды я ўжо ног не валаку,
Убачымся ў калгасе...

5

Шмат зім прайшло з тае пары,
І я ўжо не падлетак,
Сам у зачэпіцкім бары
Кірую сельсаветам.
А Стася бачыў толькі раз.
І не паверыў нават,
Што ён тады назад ад нас
Падаўся пад Варшаву.
Чмыхрай забіў у ім вясну

Сваёй сабачай смерцю,
Вачмі, як шабляй, паласнуў,
Перш чым ля ног памерці.
Стась толькі ў сталыя гады
Цяпер папраўдзе рады,
Што першы выстраліў тады
І звёў са свету гада.
Мы летась помнік «ястрабку»
Адкрылі ў школьным парку.
А Стась у родным гарадку
Наладжваў гаспадарку.

## НА НОВЫ ЛАД

Чацвёрты раз пайшоў па хаце ўкруг
Кісет з сярдзітым самасадам,
Але размове не відаць канца.
Ў разгары самым бурная нарада.
Пярэчыць моладзь: — Мала сто пудоў...
І дзед Тамаш загарачыўся: — Мала!
Трэ, кажа, так паднаравіць зямлі,
Каб па сто сорак на гектар давала.
— Не дасць, кажу,—
ўзарваўся нечы бас,—
Тут не Кубань — замнога, браце, хочаш...
— Пакінь, Макар,— зноў запярэчыў дзед,—
Ты вечна людзям галаву марочыш...
Чаму раней пшаніца не расла?
Хіба мы тут па-панску працавалі?
Расла б яна, давала б умалот,
Ды нашы межы ходу не давалі.
А ты, Макар, надумаўся пярэчыць:
«Тут не Кубань, благая глеба ў нас...»
А хто ж цябе самога ў людзі вывеў,
Жыць навучыў? Ну хто, скажы?
Калгас! — Бас загрымеў і змоўк,—
сход хорам заглушыў:
— Маўчы, Макар... Дзед праўду кажа...
Мала!
Мы можам так паднаравіць зямлі,
Каб і па дзвесце на гектар давала.

## СМАЛАКУР

У смалакура доўгі дзень,
І поччу ён на варце.
Час не спыняецца, ідзе;
Дзед алаўком на карце
Старыя вырубкі ў бары
«Азеляніў» садамі
З цаглянай хатай на гары,
Абвітай правадамі.

На правадах сядзяць стрыжы —
Рака, напэўна, блізка,
А смалакур на капяжы
Збірае дождж у міску.

На старасць, кажа, ламата
Няшчадна круціць ногі,
Але з пасцелі рана ўстаў:
Расклад у дзеда строгі.
Людзям патрэбен шкіпінар,
Ён ад хвароб ратуе,
І смалакурня ля Панар
Ніколі не пустуе.

Хай тая хата на гары
Каму другому сніцца,
Стары і сёння на зары
Грэў у катле жывіцу,
Каб не мінаў ніхто варот
Каля яго «палаца»...
Гара карчоў. Гара турбот,
Гара шчаслівай працы!

## А НАД ЛУГАМ КУЛІК

Сонца пражыць зямлю,
А над лугам кулік
Просіць, моліць касцоў,
Каб вады не пілі,
Каб вады не пілі

З тых крыніц і азёр,
Дзе сваволяць самы,
Наглытаўшыся зор,
Наглытаўшыся зор
І малых птушанят.
Зоркі выплывуць зноў.
Спадцішка неўпапад
Аж да самых калядз
Сом іх будзе лавіць,
Сом іх будзе лавіць
І шукаць куліка.
Мо таму з берагоў
І выходзіць рака,
І выходзіць рака
На лугі і палі,
Каб далей ад самоў
Птушкі гнёзды вілі,
Птушкі гнёзды вілі

І касцы ў сенакос
Не прасілі мяне,
Каб вады ім прынёс.

## КАХАННЕ

Смяецца Нарач — сёння зноў
Рыбак не там закінуў снасці —
Маторка з невадам яго
Ля берагоў шукае шчасця.
Ды хвалі ў ранішнім пяску
Зацерлі след юнацкай мары.
Дарэмна позіркам хлапец
Усю аколіцу абшарыў.
Дзяўчына клікала — не чуў:
Лускою хваль пакрыўся плёс,
І вецер лодку рыбака
На выглыб з песняю панёс.
Там надвячоркам маладзік
Закіне залатыя снасці...
Смяецца Нарач — зноў рыбак
Не ў тым баку шукае шчасця.

## НАПІЛАСЯ КУМА...

### (з народнага)

Напілася кума
На радзінах мёду.
Пайшла б з кумам за раку,
Ды не знойдзе броду.

Кум зірнуў на ваду
І прытупнуў ботам:
— Адступіся, рака,
Калі жыць ахвота!

Разляглася ў траве
Поперак дарогі.
Во і хмары нібы
Сцелюцца пад ногі.

А пад хмарамі што?
Пахмяліцца трэба,
Бо не ўцямлю, дальбог,
Дзе зямля, дзе неба.

Эх, было не было!
За ракой — пачлежка.
Лезь на плечы, кума,
Ды паказвай сцежку.

Я ж казаў, не пярэч,
Перабраўшы меру...
А як вылез кум з ракі —
Вачам не паверыў:

— Вось кума дык кума! —
Ён развёў рукамі.—
Браў на плечы ж цябе,
А прывалок камень!

# СУПРАЦЬСТАЯННЕ ЛЕТА

1968—1971

## Я ВЕК НІЧОГА НЕ СПАЛІЎ

Я шмат легенд пра Бёрнса чуў
І паўтарыць за ім хачу:
Агню ўсё роўна, дзе гарэць,
Каго і як паліць ці грэць,
Абы вадой не залілі...
Бёрнс век нічога не спаліў,
І я да гэтае пары
Гатоў у дружбе з кожным жыць,
Бо не прывык з агнём дурэць
Ні пад страхой, ні на двары...
А сам ужо не раз гарэў,
Гарэў і ад турботы чах.
А слёзы сохлі на вачах,
І рукі самі згарача
Шукалі побач станкача.
Зацішных не было часін.
Агонь я кулямі гасіў,
Каб вораг крыл не распасцёр,
Вайны раздзьмухаўшы касцёр.
Агню ўсё роўна, дзе гарэць...
Згарэў мой кут, згарэла клець,
А дуб ля весніц на сяле
Вясною зноў павесялеў.
Над мёртвым друзам, на касцях
Зямля ўзняла яго, як сцяг,
Каб я цераз усе агні
Прынёс хоць хвілю цішыні.

## ДА ТЫХ, ХТО АСТАЎСЯ ЖЫВЫ

Не стойце маўкліва пры нашых магілах!
Мы — песня, якой нават смерць не забіла,
Мы — памяць аб слаўным мінулым краіны,
Што крылы дала нам з размахам арліным,
Мы — дзень ваш сягонняшні, рупны, гарачы,
Якому пад сілу любыя задачы.
Зірніце, якое навокал прыволле!
Народ яго вырваў з крывавай няволі.
Ніхто, нават дзеці, не ведалі страху —
Паролі фашыстаў з-пад роднага даху.
На роднай зямлі, як былінныя воі,
За праўду сваю мы стаялі гарою.
Няхай не заўсёды вятры нам спрыялі.
Няхай не пазбеглі мы страшных баталій.—
Зноў сонца праз вокны глядзіць вам у хаты
І хлопцы падснежнікі носяць дзяўчатам.
Мы бачым і чуем — зямля не пустуе,
І пільна на ёй кожны колас вартуем.
Хто ў брацкай магіле, хто ў бронзе адліты
Стаіць на шляху з галавой непакрытай.
Такая ўжо наша салдацкая доля —
Пастоў гэтых мы не пакінем ніколі...
...Не стойце маўкліва пры нашых магілах,
Мы — песня, якой нават смерць не забіла.

## СУЛАДДЗЕ

Мой дзед на слых цымбалы ладзіў,
Пасля ў задуме струны гладзіў
І гаварыў, што ў іх суладдзі
Усё падпачалена спрадвеку
Зямным патрэбам чалавека.
І, калі ён, душою чысты,
У струнах чуйных, галасістых
Ратунак знойдзе ад журботы,
Зайграе так, што людзі потым
Дружней араць і сеяць будуць.
Хто заадно з працоўным людам —
Абы-чаго іграць не стане

Ні ў час бяды, ні на гулянні.
Бо песняй можна і параніць,
Калі дасі патолю гукам.
«Суладдзе, брат, такая штука!..» —
Дзед «браў» акорд і пільна слухаў,
Каб гук які не рэзаў вуха.
Дзед і ў жыцці любіў парадак,
Не парушаў у вёсцы ладу,
Пакуль паны яму за песні
Луг не абрэзалі да весніц.
І адсядзець яшчэ ж прыйшлося.
Вярнуўся дзед з турмы пад восень,
Узяў дубовы кій, цымбалы
І пацягнуўся ў свет памалу.
А следам — злая пагалоска:
«Дзед назаўжды пакінуў вёску...»
Калі ж яго назад вярнулі,
Дзед нават солтыса расчуліў,
Сказаў, што, хоць у панскім ладзе
Няма ні праўды, ні суладдзя,
Ён за цымбалы больш не сядзе.
Ды не паспеў той выйсці з хаты —
Дзед злез з палка ды зноў заўзята,
Але без лішняй спешкі, дбала
Так «падкруціў» свае цымбалы,
Каб на хрысцінах ці вяселлі
Вуглы і тыя ў хатах пелі,
Калі народ за стол пасядзе.
Ў суладдзі думак — спраў суладдзе.
І той, хто гэта разумее,
За трох рабіць і пець умее.

## ПРЫЗНАННЕ

*В. К.*

Не трэба слёз і слоў не трэба,
Жыццё мудрэйшае за нас.
Табе мілей чужое неба,
Хоць і кляла яго не раз.
Гарланяць чайкі над Гудзонам —
Жывыя сведкі тых хвілін.

Хіба заморскія газоны
Заменяць родныя палі?
А ты шукала там ратунку,
Лавіла прагна кожны гук
Пасля агорклых пачастункаў
З плюгавых і нялюбых рук.
Свет для цябе сышоўся клінам
На недабітых «змагарах» [1],
А дома гнешся чарацінай
Ледзь не ля кожнага двара.
Твае ж дружкі дзеля забавы
У агонь шпурлялі немаўлят,
Вадзілі з вёсак на расправу
Палескіх хлопцаў і дзяўчат.
І ты нам кветак не дарыла,
Ганяла з хутара, кляла,
Сама сабе магілу рыла,
Шлях да кахання адцяла.
Няхай не ўсё перагарэла
У разбітай, стомленай душы,
Ды ўсё ж не нам ты песні пела
У сваім заморскім шалашы.
Мараль халоднага разліку
Вяла да лёгкіх перамог...
Чаго ж заходзіцца ад крыку,
Пераступіўшы свой парог?
Хіба палі ў нас не ўзараны
Ці перасохла ўжо рака?
Дарэмна ты вярэдзіш раны,
Чакаеш позняга званка...

## ВАРШАВЯНКА

Эх ты, «сэндзя» мой строгі...
Не сярдуй, усміхніся.
Скінь з рахунку астрогі
Ды не плач, а маліся
На свой горад без свастык
І калючага дроту.

---

[1] Так называюць сябе беларускія буржуазныя нацыяналісты, што акапаліся на Захадзе.

Толькі сонца не засці
Сваім дзецям, Дарота.
Мне, прызнацца, карцела
Каля іх прыпыніцца,
Але ты наляцела
На мяне, як арліца:
«Не кажы ім, што мужа
Я сама пакарала...»
Ды не ластаўкі кружаць
Над магілай капрала.
І сама ты, сама
Прагаворышся дзецям.
Быў злы дух і няма —
Пацішэла на свеце.
Партызаны — ён смерць ім,
Запраданец, прарочыў —
З-пад канвою, як чэрці,
Разляцеліся ноччу...
Я патрон той збярог,
Каб ты ведала — веру,
Што ў абойму ён лёг
З самым чыстым намерам.
Ты не мужа забіла,
А падонка, фашыста.
Бо Варшаву любіла
Па-мазурску, агпіста.

* * *

Не падсякайце на шляхах бяроз,
Няхай калышуць золак новых дзён.
Хто змалку з імі ў шчырай дружбе рос,
Таму і шлях цяпер далей відзён.

* * *

Цягаў і я жывыя сосны ў клець,
Пакуль адна ў руках не застагнала.
«Не хоча ў печы, матухна, гарэць»,—
Сказаў мне бацька і зрабіў цымбалы.

Прайшлі гады,
клецъ аджыла свой век.
І на цымбалах шмат адмецін часу.
Пад іх напеў я акупантаў сек,
Хадзіў на спеўкі ў дальнія калгасы.
Сябры жартуюць: «Пасівеў ты, брат,
А струны рвеш, не ў прыклад, як малое...»
Рву, бо жыццю і новым песням рад
І не магу забыцца на былое.
А ўсё таму, што некалі вясною
Пачуў той стогн, абронены сасною.

## ВАСІЛЬКІ

Дзяўчына прагнаю рукой
З мяжы вясну сарвала
І з сінявокіх васількоў
Сабе букет звязала.
Хоць поіць іх вадой з ракі
Красуня маладая,
Пажоўклай кветкаю вясна
З букета ападае.
А за акном яна жыве,
Румяніцца на вішнях,
На тыне хмель вянком пляце,
Цвіце ля хаты пышна...
Вясна жыла і будзе жыць!
Рукой дзяўчына ўмелай
На палатно кладзе эцюд
Яе тугога цела.
Яшчэ узор адзін, другі —
Зайграюць светацені,
І затрапечацца жыццё
У шаўковых нітах жмені.
Вясна жывою гамай фарб
Дзяўчыне ў вочы гляне,
І не павянуць васількі
На вышытым дыване!

* * *

Лес для мяне быў бацькам у вайну,
Хаваў ад смерці, гадаваў, вучыў...
Ды час няўмольны і яго крануў.
Зірнеш на сосны, міма ідучы,
Пні ў медных латах, як званы, гудуць.
А на чубах з вясны, як на бяду,
Сухое суччa — шчоткаю да хмар.
Кранеш камель — ляціць igліца ў твар
З густых, шырокіх ды сухіх галін,
І мне баліць...

* * *

Стары цыган калісьці мне казаў:
«Мы, сокал, возім гора на вазах,
Таму нідзе прыстанку не знайшлі...»
Зямля мая! Хоць сонцам ашчасліў
Маіх сяброў, што пекалі ў лясах
Далі мне прагу да жыцця ў пасаг
І навучылі песняй даражыць.
Мне і цяпер цыганскія вазы
Начамі сняцца — выскачыш, глядзіш
На бацькаў плот, палеткі, маладзік,
Ідзеш зацішку ля ракі шукаць —
А гэта сосны ля дарог скрыпяць
Па грудзі ў жыце ці сухой раллі...
Яны і песню новую далі.

* * *

Нашто хлусіць: у плузе мой Пегас
На панскім полі да вайны звячэў.
Але са скрыпкаю яшчэ не раз,
Калі ў дарозе не самкну вачэй,
Прыйду, сябры, ў адведзіны да вас.

* * *

Дуб у бары не мірыцца з падлескам,
Вакол яго — адны карчы ды мох,
І маладняк бяскроўны, як на фрэсках...
А ўбачым дуб — і хілімся да ног.
Гатоў і я асілку пакланіцца,
Але спярша зірну на маладняк,
І там, дзе ён не можа ўверх прабіцца,
Падцераблю дубняк.

* * *

На кожным дрэве пад лісцём — сукі.
А мы за іх чапляемся, сярдуем
І ля камлёў з гарачае рукі
Спакон вякоў з сякерамі чаруем.
Дзе на сукі не прыпаслі сякер,
Камлі за ўсё ў адказе і цяпер...
А дрэва пела б. Дрэва будзе пець,
Калі адчуе, што на ім змала
Сякуць сукі, не ранячы ствала.

* * *

На скрыжаванні — чарада рабін.
І раптам — надпіс: «Сцеражыся мін!»
Няўжо вайна яшчэ збірае плён?
А хто ж тут сеяў канюшыну, лён?
Хто пасадзіў рабіны? Чалавек!
Вайна яму была не ў галаве —
Раўняў акопы, засяваў вясну,
Пакуль агонь у твар не паласнуў...

## ШЫШКА НА ПУСТЫМ МЕСЦЫ

Скажу па шчырасці: не веру я таму,
Хто нам з былога пыху прывалок.
Я аднаго такога закрануў,
Трымціць у крэсле, як пусты збанок,
Хоць добра знае, што не мае рацыі.
Але спрабуй паруш субардынацыю...

. . . . . . . . . . . . . . .

Я гэты верш хацеў аддаць у друк,
Ды раптам бацька сшытак вырваў з рук:
«Субардынацыя... А хто яго падняў!
Збанкі няхай красуюцца на плоце.
Для задавак і гэта вышыня,
Мы пра людзей мяркуем па рабоце...»

* * *

Сябры ёсць розныя:
І раннія і познія,
Як у тых цяпліцах агуркі.
Шапчу планідзе:
Позніх мне пакінь.

* * *

Няма паэм і баек для дзяцей?
Хай самі пішуць, калі маюць час.
Хто гэта будзе на малых пацець,
Калі на дачах летуе Парнас?
Сем пар лапцей стаптаў старэнькі Бай,
Пакуль сабраў паэтаў на нараду.
А сёння, кажуць, крыкнуў ім «гуд бай»
Ды корпаецца ў градах...

* * *

Усе мы любім мёд, але змала
Не любім, калі руплая пчала
Стамлёна сядзе на ячэйкі сот
Пакаштаваць сабраны ёю мёд.

# КАЛАСЫ І СКАЛЫ

1972—1974

## НА ВАРЦЕ РАДЗІМЫ

Мы ехалі ў горы па вузкай дарозе,
Што змейкай вілася паўз вёскі да неба.
Там недзе Яношык таміўся ў астрозе,
Па камеры ў дыбах з трывогаю шлэбаў.
Астрог той і сёння чарнее на кручы.
Як беркут, што выпусціў з кіпцяў ахвяру.
А мы на прывале ў чашчобе дрымучай
Гуляш па-славацку з бараніны варым.
Таёмнік акрэсу [1] — маўклівы ліптовец,
Зірнуўшы на кручу, кіўнуў на шафёра:
«Калісьці мы разам тут секлі ядловец
І ціха знімалі чужыя дазоры.
А потым мяне расстралялі фашысты —
Дзве кулі сядзяць пад рабром і сягоння.
Жывучыя, значыцца, мы, камуністы.
І мёртвыя строй свой на маршы дагонім...»
Дагналі —
хто у горах, хто у вёсках, хто ў лесе,
І ўсе, як салдаты, вартуюць краіну.
І я сваё сэрца ў Ліптоўскім акрэсе
Ля іх абеліскаў на памяць пакінуў.

---

[1] Таёмнік акрэсу — сакратар райкома *(славацк.)*.

## ВЫСОКІЯ ТАТРЫ

Поле — камяні, камяні — поле,
Кляні не кляні: касадрэвіна голлем
Абняла валуны — паспрабуй падступіся.
Мох вылазіць з-пад іх на парэпанай пысе.
Але нават і тут
                    след пралёг ад калёс,
І каменны вядзьмар каласамі аброс.
Цуд, дый годзе!
                    Гляджу і не веру вачам:
Зарунелі арлiныя высі!
Чалавек з іх агонь
                    па-збуйніцку [1] спляча
У краі гэтым крыламі высек...

## САМАСУД
### (абразок з мінулага)

Пасекліся кметы [2] за межы
                    няшчадна,
Валетам ляжаць ля старой дравяніцы.
Суддзя з панятымі, прыплёўшыся з Кладна,
Мядзведзем панура гудзе на паліцыю;
Фарар [3], яго толькі тут не хапала,—
З кадзілам, як прывід, стаіць над забітымі.
А побач яшчэ ж і цівун з самапалам —
Усе анямелі, як з медзі адлітыя,
Пустымі вачамі свідруюць галоту.
Каму гэта з ёю стагнаць тут ахвота?
Была б толькі ў пана
                    паўнейшай кішэня...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На шчасце, я ўсё гэта бачыў
                    на сцэне.

---

[1] З б у й н і к — партызан *(славацк.)*.
[2] К м е т ы — сяляне *(славацк.)*.
[3] Ф а р а р — ксёндз *(славацк.)*.

## І ШЭПЧУЦЬ ЦІКАЎНЫМ...

Дунай па дарозе у Чорнае мора
Не раз начаваў, прытаміўшыся,
ў горах.
А следам па свеце звінела навіна:
Дунай нагуляў у Славакіі сына.
Паплыў ён за бацькам,
разбойнік,
пустыня,
І зліўся навек з ім на дальняй чужыне.
А маці аб скалы ля Дзівіна б'ецца.
Маравай яе называюць, здаецца.
Дабегла да замка і стогне ад болю.
Навошта ёй тое чужое раздолле?
Дунай спакушае,
ды побач — граніца.
На ёй сустракаецца з ім маладзіца.
Магутныя букі вартуюць іх строга
І шэпчуць цікаўным: «Ідзіце вы з
богам!..»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Славацкія рэкі —
не рэкі, а цуда.
Я ўдзячны ім вечна
за шчодрасць іх буду.
А колькі пачуў я над імі гамонак
Пра мужнасць славакаў
і вернасць іх жонак!
Ды хто ж іх за гэта
адважыцца гудзіць?
Па рэках мяркуйце,
якія там людзі.

## МАРЫЦА

*М. М.*

Зноў абламалі хлопцы каліну —
Хіліцца долу жухлае голле.
Позна я трапіў на Букавіну,
Але ахвота горш за няволю.

Вось той фальварак з полем да лесу!
Вось тыя букі! Вось тое плеса [1],
Каля якога ў ноч на Купалле
Мы пераправы ў Татры шукалі.
«Русь, паддавайся!» — нудзіў дынамік
Потым за намі і перад намі
Плюхалі ў багну міны, як гусі.
Вада і тая гарэла, мусіць,
А мы сігалі па ёй да рання.
Твой брат, Марыца, нагу параніў,
Але не здаўся — рослы, прыгожы,—
Кінуў гранату ў акоп варожы,
Кінуў, бо ведаў — там кулямёты.
А ты злавала: «Жыць неахвота!»
Гнала з двара нас: «Не знаю, хто вы!..»
Гарэлі шчокі. Чорныя бровы
Звяла, як быццам хапіла джыцы [2].
Брат ледзь не плакаў: «Сціхні, Марыца!
Мы ненадоўга...» —
«То-та ж, каханы.
Ты б гэтай весткай пацешыў пана.
А я... Вось ліха! Ксёндз — плебан прэцца.
І паліцаі ўжо тут, здаецца.
Дай мне вінтоўку! Чуеш, Уладак.
Будзеш дурыцца — за стол не сяду!..»
Села. І брынзай нас частавала.
А паліцаі без самапалаў —
Мы ўжо сказалі, што дзень нясе ім,—
У дзве шарэнгі на пяткі селі,
Злосна сарвалі лычкі з мундзіраў
І праклiналі шэф-брыгадзіра.
Дзе ж яго ліха тады насіла,
Як ты «на чарку» іх запрасіла?
Шэф іх пакінуў на волю лёсу,
І сам скруціўся, астаўся з «носам» —
Трапіў у лесе пад нашы кулі.
Ды мы ўжо крыку яго не чулі —
Пнуліся ў горы, бліжэй да сонца,
Шляхам арліным, шляхам бясконцым,
Дзе толькі вецер біўся аб сосны.
А ты крычала з надрывам, злосна:

---

[1] П л е с а — возера *(славацк.)*.
[2] Д ж ы ц а — сыракваша з авечага малака *(славацк.)*

«Не адставайце, бо немцы блізка!..»
І я сарваўся: «Ладна, не пыскуй!» [1]
Але не схібіў, прыбавіў кроку,
Хоць ты была ўжо ад нас далёка.
Надзея стому з плячэй знімала,
Калі ты кветкай цвіла на скалах.
От каб такую
ды на Палессе,
Не закаціўся б за хмары месяц!..
Помню, на золку ты мне сказала:
«Божа, ну з кім я свой лёс звязала!
Хто вы і начо [2] прыйшлі ў Карпаты?
Глянь, як іх топча
вораг пракляты.
У кожнай вёсцы — яма, засада
І трупы, трупы нават у градах».—
«Ты украінка?» —
«Славачка, пане.
Ды ў нас таксама ўсюды паўстанне.
Жыла тут з братам пасля пажару...»

Аб чым я толькі тады не марыў!
Верыў — адчуеш: мы не фашысты,
Прыйшлі ў Карпаты з намерам чыстым.
Даў нават адрас: «Пішы, пабачыш,
Народ мы строгі, ды не лядачы.
Будзеш сястрою, калі падзеі
Нас назаўсёды зноў не развеюць».
А сёння, бачыш, сівы, вусаты,
У цяжкіх ботах стаю на голі [3].
Пад старасць трапіў
зноў у Карпаты
І не крыўдую на сваю долю.
На ўсіх шыротах цвітуць каліны,
І ты, напэўна, шчаслівай стала.
Знайшоў я дома сабе дзяўчыну.
А сэрцу цесна, а сэрцу — мала!

---

[1] Не пыскуй — не крычы *(славацк.)*.
[2] Начо — навошта, чаго *(славацк.)*.
[3] Голі — бязлесныя мясціны *(славацк.)*.

## ЗАПАВЕТНАЕ

Сем бочак атруты! Не мог я забыцца
На вас, мая радасць.
Гатоў я і Татрам да ног пакланіцца —
Зрабіць табе за́дасць [1].
Салдат яны нашых у спёку паілі
Халоднаю джыцай.
Ад куль ля сялібы тваёй засланілі,
Хоць смерць, як арліца,
Кружыла над намі ля кожнай сцяжыны,
Што пнулася ў горы.
Мы ведалі — край твой не быў нам
чужынай
І ў шчасці і ў горы.
Ад вёскі да вёскі ішлі мы з баямі,
А сэрца спявала.

Славакія нас называла сынамі.
А гэта не мала.
Таму і дадому прынеслі мы прагу
Да дружбы і міру.
Вітай ад мяне Брацілаву і Прагу
Сардэчна і шчыра.
У Мінску якраз пачынаецца восень,
А сонца — як летам...
Шкада, што не ўсё дарагое збылося,
Ды рад і за гэта.

## РАСА

З чым параўнаеш кропельку расы?
З аквамарынам? Крышталём? Агатам?
Я век не бачыў прыгажэй красы,
Чым росны луг на досвітку ў Карпатах.
Бушуе май у казачнай краіне
Магутных букаў і жывых крыніц.
Ці не яны наш вырай жураўліны
На поўдзень клічуць?
Тут, ля дравяніц,

---

[1] З а́ д а с ц ь — дабро, ласка *(дыялектн.)*.

Пастух вясну вартуе і зімою,
Трэмбітай будзіць горныя лясы
І мёрзлы хлеб гасцям валашкай[1] кроіць,
Як брату брат, як сябар ваш ці сын.
Каштуйце, кажа, рос ён на расе,
У ёй дужэў і наліваўся колас.

Славак свой хлеб з пашанаю нясе
На кожны шчыры чалавечы голас.

## У Ж'ЯРЫ НАД ГРОНАМ

Тут лес крыжоў ад пыхі аж зіхцеў
Над змрочным кодлам служкі Ватыкана.
О, як бы ён пацешыўся яшчэ,
Калі б убачыў ж'ярцаў «па калянах».
«Дзень год карміў у гэтым захалусці»,—
Тлумачыць гід, і ў замкавай цішы
Забыты бог ажно трымціць ад злосці —
Сплылі ў нябыт «святыя» барышы.
Пустыя сейфы — сведкі тых падзей —
Стаяць паныла ля распяцця ў нішы.
Ніхто да божых ног не прыпадзе,
Ніхто зямлі на кляштар не адпіша.
Ж'яр у мартэнах выплаўляе песню,
Грон у граніце анямеў, прыціх.
А кардынал яшчэ надзею песціць
Прыбраць яе да сквапных рук сваіх —
Шле з Ватыкана «нізкія паклоны»
Няўрымснай пастве, фарарам былым.
Манашкі пасціралі пыл з іконаў,
Страх перад богам — горш за кайданы,
Але маўчаць — няймецца кінуць вокам
На тое «пекла» з трубамі да хмар:
Бязбожны люд, а лётае высока.
У кожным хлопе — бунтаўшчык, Ікар!..

[1] Валашка — сякера з доўгім тапарышчам *(славацк.)*.

## ПАДЗЯКА

*Каралю Тамашчыку*

Жанчына — ёй пад трыццаць —
Вясну прынесла з поля.
А гаспадар святліцы,
Бы той хлапчук у школе,
Хавае ў покут вочы —
Даўно святла не бачыў.
Сказаць ён нешта хоча,
Ды маладзіца плача;
Прабачце, мне здалося,
Не плача, а жартуе...
З вайны так павялося:
Вясна ад слёз ратуе.
Былому партызану
Карціць зірнуць на кветкі.
Ён зноў ад шчасця п'яны
Блукае па палетках —
Шукае пабрацімаў.
Гуляюць недзе, чэрці!
А гэтую жанчыну
Ён ратаваў ад смерці,
Падняўшыся ў атаку
Ля роднага Ліптава...
А хто памог палякам?
І чэхі добрым словам
Не раз яго ў сялібах
Ціпіком успаміналі —
Як сына з торбай хлеба
Ў дарогу выпраўлялі...
Прайшлі гады. На голях —
Куды ні глянь — кашары.
Сядлякі [1] брынзу соляць,
Сякуць сушняк на тару.
Адтуль і кветкі носіць
У горад маладзіца.
Няхай шуміць калоссе
І лёгка п'ецца джыца.
Стары ваяка ўпотай
Збіраецца ў дарогу.
Спадае з воч маркота —
У Татрах кветак многа...

---

[1] **Сядлякі** — сяляне *(славацк.)*.

## НЕХ СА ПАЧЫ... [1]

«Які то ест красны час — есень» [2].
Песень прагне кожны з нас, песень.
Дрэвы меддзю аб шляхі звоняць.
Пояць статак пастухі ў Гроне.
У Карпатах выпаў снег, сцюжа,
Хлопцы з пашы на начлег — гужам.
А наш гудба [3] ў сярмячку плача,
Забаяўся за дачку бача [4].
У карчме — бітком народ, гоман,
Звёў дзяўчынку хлоп-гунцвод з дому.
Стогнуць гуслі:
«Хто ж то быў? Кторы?»
Пасівелі ад журбы горы.
Нехта п'яны зняў кабат — скача:
«Грай, цыган! Не жміся, брат...»
«Нех са пачы...»

## ЛЕСАРУБЫ

Эй, трубач, паслухай,
Букі звоняць лістам!
Набярыся духу —
Рэзні марш агністы.
І чардаш прыдаўся б
Хлопцам на дарогу.
А каб лепш удаўся —
Выпі куфель грогу.
Выпі цераз сілу...
Па вачах мяркую:
Свет табе не мілы
Ў непагадзь такую,
Восень не жартуе
У дрымучым лесе,
А мы тут «кукуем»
Ледзь не цэлы месяц.

---

[1] Нех са пачы — калі ласка *(славацк.)*.
[2] Есень — які гэта прыгожы час — восень *(славацк.)*.
[3] Гудба — музыка *(славацк.)*.
[4] Бача — пастух, стары *(славацк.)*.

Кожны хоча першы
Выканаць заданне,
Потым піша вершы
І пакуе ў ранец.
Дома лесарубаў
Стрэнуць маладзіцы,
Хто ім будзе любы —
Адпачне ў святліцы,
Адпачне ад зморы,
Але не ад песень,
Што прынесла ў горы
Славацкая «есень».

## СОН СТАРОГА ЗБУЙНІКА

«Чырвоны пас,
                    за пасам — бронь...»
А навакол раздолле.
Рве цішыню магутны бас:
«Чыя чарга сягоння?
Хто, пабрацімы, будзе пець?
Засумаваў наш бача...»
Звініць на сытых конях медзь —
Атрад у горы скача.
На кожным конніку — кабат,
Абшыты галунамі,
Чырвоны пас — краса Карпат,
Вякоў бунтарных памяць.
Пры боку — зброя.
                    Нават поп —
А што, хіба ён рыжы? —
Крыж за рамень, каптур на лоб,
За стрэльбу — і на лыжы.
Зірнеш — не поп, а сатана
На луг па гурбах прэцца...
Карчмар зарэзаў барана.
Ракой віно ліецца.
Усё, бы ў казцы. Пастухі
Трасуць за грудзі пана.
Поп адпусціў яму грахі.
Лісой на бачу глянуў:

«Баліць з пахмелля галава.
Мне б выпіць...»
Хлопцы ў рогат.
А бача жонку абнімаў,
Пацешыла старога —
Забрала стрэльбу у папа:
«Хай не псуе нам свята».
З арліцай гэтай на руках
Арлом і бача лятаў.
Паны ў палацах пра яго
Са страхам гаварылі.
Дунай выходзіў з берагоў,
Калі іх кметы білі.
А сёння бачу, хоць бяры
Ды прыкладай да раны:
Свой пас унукам падарыў,
Растуць, аж люба глянуць.
Стары прачнуўся:
«Годзе, досыць!..»
Глядзіць на горы хмура.
Над ім сягоння маладосць
Пранеслася віхурай.

## ЖЫВАЯ ПАМЯЦЬ

Славак, бы крэмень, слова
Не кіне без патрэбы.
Жыве ён адмыслова
На подступах да неба.
Днём сонца, ноччу — месяц
Вісіць над ім рагаты
На галяку ці ў лесе
Каля замшэлай хаты.
Пастух яго валашкай
Сячэ натхнёна ў горах
На аплікі і спражкі
Да выхадных убораў.
І маладзік і поўнік —
Усё ідзе ў работу...
А я гартаю слоўнік —
Пагаварыць ахвота.

Ёсць тэма, ёсць завязка,
Ды сам я, недарэка,
Ледзь не прагледзеў казку
З бунтарнай кнігі веку.
Жыву ў адных загадках,
А разгадаць іх цяжка,
Сваю радню нашчадак
Распазнае па спражках.
Славакі і на грыўнах
Гісторыю чаканяць.
І кожны рад. Аж дзіўна,
Як тут шануюць памяць...

## ЛІЦЭНЗІЯ НА АДСТРЭЛ АЛЕНЯЎ

У лесніка яшчэ трасуцца рукі,
Падбег да нас, злуецца: «Бандзюкі...»
Шумяць маркотна на паляне букі,
Пагас агонь, забыты ля ракі.
«Садзіся, брат,— гаворым асцярожна.—
Мы не бандыты. Ёсць мядоўка, плоў...»
Ляснік — сваё: «Прысеў бы, ды няможна,
Сягоння тут якраз пачаўся лоў.
Турысты б'юць аленяў для забавы,
Пасля ў карчму паедуць балявапь.
А мне хоць плач. Прыехаў сын з Аравы,
Яго не ўцешыш — будзе гараваць.
Каторы год жыве малы без маці.
Людзей баіцца. Лес не інтэрнат.
Мы, леснікі, на вас здароўе трацім,
Заб'ешся ў горы — і жыццю не рад.—
Ляснік прыгнуўся, аглядзеў паляну,
Спіхнуў з дарогі у быльнёг валун:
— За зверыну нам плацяць чыстаганам.
А гуслі ў хатах, як заўжды, без струн...»

## ПЕСНЯ

Гаварыла маці, гаварылі людзі:
«Адрачыся, дзеўка, ад свайго кахання...»
А яна пад кулі падстаўляла грудзі —
Паўз вартоўні бегла ў горы на спатканне.
Бегла яна рэчкай, бегла яна лугам,
З-пад рукі глядзела прагна на вяршыні.
Потым яе секлі ў драўляніцы пугай,
І вясна здалася мачыхай дзяўчыне.
Вецер яе косы растрапаў нядбала,
Калі паліцаі на цвінтар цягнулі.
Прыпазніўся хлопец.
Можа, дзе на шпалах
Ці ў бары загінуў ад варожай кулі.
Кажуць, тое поле зарасло травою,
Без акон вячэе ў лозах драўляніца,
Толькі нейкі газда [1] з белай галавою
Часта сустракае ля яе зарніцы.

## АДРАЧЭННЕ

Цябе атрутаю паілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся
М. Танк

Стаіць яна кволая ў чорным убранні,
Глядзіць на распяцце і плача.
А побач хлопцы, як дубы на паляне.
Няўжо іх дзяўчына не бачыць?
Старэйшы — яму дзевятнаццаць ад сілы —
Маліўся на стан яе гнуткі, прыгожы.
Чаго ж яна болей у бога прасіла?
Ніхто з пастухоў здагадацца не можа,
Хоць самі не раз каля гэтага крыжа
Шукалі ў малітвах збавення.
Хлапцы анямелі:
арліцаю хіжай
Дзяўчо паднялося з каленяў.

[1] **Газда** — гаспадар, селянін *(славацк.)*.

Кляштарныя шаты з плячэй яе белых
Ляцяць на касцёр ля пячоры...
І нехта ўжо струны кранае нясмела,
Прыбегшы са скрыпкай у горы.
А мо гэта вецер заблытаўся ў смрэках —
Хай шэпчуць аб дзіўным здарэнні:
Не лёгка святошам сагнуць чалавека,
Хоць ён і ў касцельным адзенні!

## А ХМЕЛЬ БУШАВАЎ...

«Вы з Мінска?
Каштуйце славацкае піва...»
Каштую.
Варыў яго нехта шчаслівы,
Бо стому з плячэй, як рукою знімае.
Мы піва такога не шмат яшчэ маем.

Мой куфель разбіўся, заліў палавіцы,
А хмель бушаваў у вачах маладзіцы.

## ЦЫГАНКА

Вось дзяўчына дык дзяўчына!
Можа, нават чараўніца.
Свет на ёй сышоўся б клінам,
Ды яшчэ бацькоў баіцца...
Прыпынілася ля ганка,
Вінаград рукой кранула,
Нездарма ў шафёра Франка
Аж нутро перавярнула.
«Я яе ля пошты бачыў,—
Уздыхнуў хлапец паныла.—
Як каза, на шпільках скача,
А кранув,— сіняк набіла...» —
«Не сіняк, а сімвал цноты,—
Кінуў я шафёру жартам.—
Для цябе — абы залёты,
А яна кароны варта!»

* * *

Трубіў алень, трубіў вясну,
Біў капытом на ўзлессі,
Каб май у горах не заснуў,
П'яны ад хмельных песень.
У паядынках за яго
Алень не ведаў страху,
Насіўся з ветрам наўздагон,
Лясных палохаў птахаў,
Пакуль насустрач браканьер
Не выпусціў маланку.
Палёг над рэчкаю аер,
Хаваючы падранка.
Свінец асілка не зваліў —
У лес ён сцежку торыў.
...Крывёю значыла палі
Вясна на касагоры.

## АДВАЖНЫ ЗАЯЦ
(жарт)

Прысніўся Зайцу сон:
Нібыта ён у лесе
З ваўкамі ва ўнісон
Дыскантам выў на месяц;
Пасля схапіў дручок
І загадаў латругам
За Грон у кабачок
Ісці слухмяна цугам.
«Мядовачкі на ўсіх!» —
Гукнуў ён зухавата.
«От разышоўся, псіх!» —
Зжахнуўся воўчы тата.
Касы яму на хвост
Крадком насыпаў солі,
Каб не бурчэў, прахвост,
На «рыцараў прыволля».
Няхай і на зайцоў
Менш нападае ў лесе.
А гэтых малайцоў

І без яго павесяць.
Але спярша няхай
Наліжуцца спіртнога,
Каб па дарозе ў рай
Не схрумсталі нікога.
«А ты не прастачок,—
Сказаў карчмар касому,—
Бяры, брат, свой driучок
Ды джгай хутчэй дадому.
Карпацкія ваўкі
Мядоўку п'юць, як чэрці.
Даверышся такім —
Памрэш бясслаўнай смерцю».
Касы кіўнуў на лес:
«Там у мяне гарматы!
Усё, што на стале,
Я забяру дахаты.
Хто не дапіў — смалы
Наліжацца за Гронам.
Я не такі малы,
Каб ціха жыць да скону».

Я чую гул з ракі:
Касы заўжды на ўзводзе.
Цяпер усе ваўкі
За ім па струнцы ходзяць.

* * *

Арляня з гнязда упала.
Тэма!
«Дзе ж яно?» — пытаю ў гіда.
«Нема...»
«Вы яго спіхнулі ў прорву?» —
«Што вы...
А навошта ў нашых горах
совы?»

## ВЯСНОВЫЯ ПЕРАГУДЫ

Прыйшла вясна. Пачаўся рух.
Стрыж круціць петлі — цырк!
Драч на шчыглоў — таксама ж зух! —
Скрыпіць у ядлаўцы:
— Цішэй вы! Будуць пець гракі.
— Ну што ж, няхай пяюць.
— А рад у вас, паны, які?
Яны ж мяне заб'юць,
Калі прыкмецяць у кустах
Хоць аднаго дразда.
І шпак для іх не пеўчы птах —
Выпорваюць з гнязда.
А вы — звычайныя шчыглы,
Лясная драбяза.
Гракі турнуць вас за вуглы.
Назад, кажу, назад!
— Эх ты, бяскрылая душа,—
Пачулася ў адказ.—
Хіба ў вароніх шалашах
Ты песню чуў хоць раз?
І сам, кумок, ты не дарос
Яшчэ да спевака,
Хоць шчыра ў засені бяроз
Падтакваеш гракам.
— Кар-р-рамба! — вылаяўся драч.—
Прэч з лесу, і канец!
Я — пачынаючы скрыпач,
А вы — на смех мяне?
Я век не знаюся з бядой...
— Дык грай, мы зробім круг,—
Шчыглы вясёлай чарадой
Памкнуліся на луг.
І песня з імі, хоць ты плач!
Гракі ад страху ў крык,
Не, гэта той сярдзіты драч
Прабуе ў лозах смык.

## НА КРУТОЙ ГАРЫ
(з народнага)

На крутой гары
Чорт грыбы варыў.
Навварыў чыгун —
Стогне: Не магу...»
Трэба ж пасаліць,
А гара, як ток.
Толькі дым курыць
З чортавых парток,
Бо на вугаль сеў,
Балабон стары.
А мы кажам: снег
Жухне на гары.

## ДЗЕНЬ ПРАЖЫЎ, А НА СЭРЦЫ — ТРЫВОГА...

Я — звычайны зямны чалавек.
І зямныя ў мяне патрэбы,
Як карэлыя сосны ў траве,
Як акраец хадзелага хлеба.
Сам жа ў працы яго здабываў,
Век не быў і не буду сугнеем,
Не цураюся песень, віна,
Але жыць за чужое не ўмею.
...Нехта збіў на іржышчы асот.
Для мяне гэта — радасць.
Надвячоркам ля родных варот
Не касцам, дык малым
зраблю радасць —
Запрашу іх у бацькаў садок,
Хай латошаць даспелыя слівы.
Цяжка выкінуць з песні радок,
Калі склаў яе нехта шчаслівы,
Калі чыстае неба вакол
І руплівае лета
Каля кожнай страхі частакол
Падпірае гірляндамі кветак.
Я маліўся б на іх прыгажосць

Перад самым маленькім газонам,
Каб жыццё хоць адну маладосць
У прыдачу яшчэ прынясло нам...
Ціха шэпчуцца сосны ў бары.
Ім расці ды расці, хоць ад стомы
Выступае смала на кары,
І старыя карэнні, як гномы,
З-пад іглiцы вылазяць, зірнеш —
Ім таксама хапае работы,
Кожны пнецца на новы рубеж,
Каб не смяглі камлі ад спякоты.
Але ёсць жа яшчэ і напалм
У злачынных руках цемрашалаў.
Кроў людская для іх — капітал.
Для трывог хіба гэтага мала?

З аўтаматам на ўпалых грудзях
Плужыць чэзлыя гоні ліванец,
У вачах яго — крыўда і жах:
Люты вораг радзіму тыраніць.

Абгарэлаю пальмай вясна
Сохне дзесьці і ў тропіках Чылі.
Марай стаў для аратых праснак.
Іх і з песняй ужо разлучылі.
У фашысцкіх засценках яна
Б'ецца ў страшных пакутах аб краты.
«Марсельезу» пяе Карвалан
І з пагардай цікуе на катаў.
Колькі іх на зямлі, легіён?
А пяюць гэту песню мільёны.
Хіба пойдуць яны на паклон
Да гарыл у армейскіх пагонах?
Віктар Хара, пазбаўлены рук,
Перамог іх звярыную сілу,
«Марсельезу», як бомбу, на брук
З пашчапанай гітараю кінуў...

Ціха шэпчуцца сосны ў бары.
Ім расці ды расці, хоць ад стомы
Выступае смала на кары
І вакол яшчэ шмат буралому.
Прычакаюць і пальмы вясны
На бунтарнай зямлі Карвалана,

І народ яго светлыя сны
Пранясе скрозь пакуты і раны.
«Марсельезу» палілі ў агні,
На расстрэл пад штыкамі вадзілі,
А яна між жывых дзень пры дні
За свабоду змагалася ў Чылі.
Шмат абпалін на крылах яе
І рубцоў, як на пальме той, многа.

...Я звычайны зямны чалавек,
Дзень пражыў, а на сэрцы — трывога...

* * *

*Р. К.*

З тае пары мінула процьма год,
Калі адколінай з разгалістага клёна,
Прастрэленае куляй навылёт,
Маё каханне ля тваіх варот
Апала ціха на мурог зялёны.

Адна адколіна — пясчынка ў моры страт...
Клён як стаяў, так і стаіць ля брамы.
Такіх асілкаў на Палессі шмат,
Што ні камель, то барацьбіт, салдат,
На кожным з іх — адколіны і шрамы.

А ты жывеш і снішся мне заўжды
То знічкаю, то ластаўкай крылатай,
Дазволь хоць выпіць конаўку вады,
Каля тваёй хаціны з лебяды
Стамлёнаму дарогамі салдату...

# ГОРКІЯ СМЯШЫНКІ

## ДУРНАЯ СІЛА

Стагнаў стары Ліптоўскі бор,
Калі ён з ровам бег з гары
Да карчмара па мёд ці здор
Або нару на зіму рыў.
А сёння, злы, на ланцугу
Ляжыць пад возам гэты звер.
Сабакі коней сцерагуць,
А ён сабак пасе цяпер...
Гудуць чмялі. Быльнёг
трымціць
У валунах тугім лісцём...
Мядзведзь лютуе. Адпусці —
Куп'ём закідае касцёр
І пашыбуе, як вар'ят,
Ламаць сасоннік у бары,
Не, мішка вернецца назад —
Цыган сівухі наварыў!..

## МЫШ У ЗВЯРЫНЦЫ
(жарт)

Мыш не раўня Слану? Ну, ну...
Ніхто у заапарку
Не наступіў яму на мазалі,
хоць смельчакі былі,
Бо хобатам як шыбане...
З яго слановым каркам

Дубы з карэннем можна вырываць.
А Мыш і за Слана дужэйшая, відаць,—
Залезла ў складку на яго назе,
Пішчыць, нягодніца, і за пяту грызе,
Каб не стаяў, каб тупнуў на Ката,
Бо той к Слану па справах
завітаў
І ледзь было не сцапаў дармаедку.
Але застаўся без наедку.
Слон азвярэў, жалезны плот зламаў.
Зірнеш — не Слон, а буралом, чума
Бушуе ў парку — паспрабуй суціш.
Вось што такое ў заапарку мыш...

## ПУГАЧ-ПАДКАЛОДНІК

Падстрэлены Арол упаў на Пугача,
Што нешта смачнае кляваў каля карча:
— Дапамажы, браток! Хачу яшчэ пажыць...
— Ты гэта тым, з кім сябраваў, скажы,—
Панурыўся Пугач і растапырыў крылы,
Гатовы паказаць Арлу свой гнеў і сілу
Ды клюнуць у каршэнь,
каб больш не ачуняў.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Для Пугача і сметнік вышыня,
Калі адчуе, што адным ударам
Ён можа даканаць сваю ахвяру.

## ЗАПАБЕЖЛІВЫ ПАДОНАК

Вы, пэўна, чулі казку пра арэх,
Які сябры няроўна падзялілі,
Адзін тады да лесніка забег:
«Давай, браток,
увесь арэшнік спілім!» —

«Ты звар'яцеў!» —
«Я дружбай даражу...»
Ляснік падумаў і гукнуў сабак:
«Ідзі, пакуль жывы!
Па шчырасці кажу.
Якая ж дружба, калі сам паўзняк!..»



# МІНІЯЦЮРЫ

## БРАХЛІВЫ ПАЦУК

Стары Пацук хваліўся драбязе,
Рассеўшыся на прызбе каля дому:
— На збожжы я Ката такога з'еў,
Што мне не верыцца самому.

## ДЖЭНТЛЬМЕН

Галодны Воўк шаптаў Аўцы:
— Зірні, як слаўна ў ядлоўцы!
А ты дрыжыш, краса мая...
Адной там боязна? А я?

## А ХМЕЛЬ СВАЁ

Хмель ад ляноты жухне на градзе,
Паныла пнецца з крапівы на тын,
Пакуль з віном у рот не пападзе,
Тады, браток, ужо не ён, а ты
Пачнеш ламаць суседскія платы.

## ВЫВАРАЦЕНЬ

Мараль усім чытае ён заўжды.
Як не чытаць калі жывуць няскладна.
Аж пачарнеў, бядак. Усё яму не ладна.
А дома бацьку не падасць вады.

## БОЖЫ МАЛАЦЬБІТ

Поп жонку вам аддасць, у лазні горб пачэша,
Навучыць пець псалмы,
на шыю крыжык вешаць,
Парадуе прасвіркамі з пшанічнае мукі,
А пятака не выпусціць з рукі.

## СЛЯЗЛІВАЯ ВЕКАВУХА

Хацеў Удод узяць Зязюлю замуж,
Ды беднавата, небарака, жыў.
Грак запрасіў яе ў свае вігвамы
І галаву, як кажуць, закружыў.
Па свеце лётае, дурніца, і кукуе,
Што ў адзіноце без дзяцей вякуе.

## ХІТРЫ ДРАЧ

Драч — хітры птах, рабіць не хоча.
Наровіць толькі кіраваць —
Скрыпіць людзям і днём і ноччу:
«Хутчэй касіце сенажаць...»

А сам, пачуўшы посвіст кос,
Расправіць крылы, ды ў кусты.
Ці не таму у сенакос
З іх асыпаюцца лісты?

## НЕ ДА РАЗВАГ...

Воўк, як панок у шэрым жупане,
Сабаку з'есць і вокам не міргне.
А жабу ўбачыць — веры не дасцё,—
Грызе траву, сухі быльнёг, трысцё,
Але яе і лапай не кране.

. . . . . . . . . . . . . . .

А бюракрат і жабу праглыне,
Калі захоча на сваім паставіць.
А папракнеш — на ўсё жыццё знясла віць.

## НЯШЧАСНАЯ САВА

Сядзіць Сава на карчуку і плача:
«Святло мне правялі,
дык і ўначы не бачу...»

## ПРАНЫРЛІВАЯ СУЧКА

Адсеклі Сучцы хвост і выгналі з двара,
Цяпер нідзе не знойдуць тапара.

## ГАСПАДАРЛІВЫ КРОТ

Пусці Крата пажыраваць на двор,
Дык і пад хатай накапае нор.

## СЕМ РАЗОЎ АДМЕР...

Пацук не пераборлівы на ежу,
А палыну на праснакі не рэжа.

## БЕЛАЯ КОСТКА

Чаму Янот пільнуецца нары?
Баіцца, каб не з'елі камары.

## РАШУЧЫ РАК

— Наперад, хто жывы.
Сом нас папомніць, гад! —
Крычаў сіляўкам Рак
І... адступаў назад.

## «ПАНІ НА ВЫДАННІ»

— Цудоўная пара —
калгаснае прадвесне! —
зарохкала Свіння,
разлёгшыся ля весніц.

## ПРАЦАВІТЫ ХАМЯК

— Хіба я труцень,
каб драмаць пад восень? —
сіпеў Хамяк,
сцінаючы калоссе.

## ДА ПАРЫ...

— У стайні рай! —
гуў Авадзень Асе,
пакуль Павук
на горб яму не сеў.

## МЯДЗВЕДЖАЯ ЛАСКА

— Я сябар твой,
надзейны назаўсёды! —
казаў Мядзведзь Пчале і...
злопаў разам з мёдам.

## ЗГАРА

Адна малітва ў Перапёлкі,
Залезе ў проса і крычыць:
«Што ж тут палоць? Не да
прраполкі,
Падайце піць!..»

## З НЕАПУБЛІКАВАНЫХ ПІСЕМ

*

Калі верыць Ваўку, дык яго капуста
Ў нашым лесе расце ля кожнага куста.
*Заяц*

*

Які з Грака спявак, але, згубіўшы сорам,
Ён кожную вясну кіруе нашым хорам.
*Сарока*

*

Пугач не Апалон, а я яго любіла,
А Вераб'ю — амін, сп'яна хвастом забіла.
*Сава*

# НА АДЫХОДНАЕ

За апошнія гады ў буржуазным друку з'явілася шмат публікацый, у якіх у той або іншай форме рабілася спроба «навукова» даказаць гістарычную неабходнасць больш памяркоўна гаварыць і пісаць пра фашызм ваеннай пары і яго сучасныя адгалінаванні, пачынаючы з саюза былых эсэсаўцаў і канчаючы нядаўна створаным «фронтам дзеяння нацыянал-сацыялістаў». Аб надзвычай шырокім размаху гэтай, з дазволу сказаць, навуковай кампаніі сведчыць той факт, што толькі ў ФРГ у ёй удзельнічае каля дваццаці выдавецтваў, не кажучы ўжо пра рэдакцыі газет і часопісаў розных старых і новых неанацысцкіх нямецкіх (і не толькі нямецкіх) арганізацый. Гэтай «святой» справай заняты зараз амаль усе буржуазныя радыёгаласы, дзе пасля разгрому фашысцкай Германіі знайшлі сабе прытулак і беларускія ашчаропкі колішняга крывавага гітлераўскага «новага парадку». Сярод гэтай прадажнай погані ёсць такія пярэваратні, якія яшчэ зусім нядаўна хаваліся пад рознымі прозвішчы і псеўданімы, а зараз падлабуньваюцца пад нашых землякоў на чужыне, выдаюць сябе за «вызваліцеляў Беларусі».

Непадалёку ад Нью-Йорка з'явіўся прыватны могільнік каля царквы Святой Ефрасінні, на якім красуецца манумент з надпісам па-англійску і па-беларуску: «Слава вызваліцелям Беларусі!» Пахаваны на гэтым могільніку не тыя, што змагаліся супраць фашызму: ваенны злачынец, былы «прэзідэнт» так званай Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) Радаслаў Астроўскі з немалой ужо зграяй сваіх хаўруснікаў па здрадзе.

Адпетымі адшчапенцамі папоўніліся могільнікі «вызваліцеляў Беларусі» ў ваколіцах Мюнхена, Парыжа, Лондана. Зараз там парыць зямлю амаль уся Абрамчыкава раць — зборышча звар'яцелых на антыкамунізме палітычных падпявал былога паслугача фашысцкіх захопнікаў, «прэзідэнта» т. зв. Беларускай Народнай

Рэспублікі (БНР) Абрамчыка М. С. Доўга жыць загадалі апошнія недабіткі гэтай банды палітыканаў, іх духоўныя пастыры, ваенныя злачынцы Уладзіслаў Рыж-Рыгскі, ён жа Рыжы, старакатолік, і уніят Леў Гарошка. Мяркуючы па тужлівых некралогах у нацыяналістычных газетках, ніхто з беларускіх квіслінгаўцаў так і не нажыў сабе палітычнага капіталу пад чорнымі сцягамі буржуазных разведак і органаў прапаганды; па іх не было каму на Захадзе нават лапцямі званіць. Тым больш што да прабацькоў адправіліся і колішнія лідэры іншаплямённых братоў па здрадзе — польскіх, украінскіх, літоўскіх буржуазных нацыяналістаў. Захірэў ад хранічнай псеўдапатрыятычнай худасочнасці рускі белагвардзейскі «Народна-працоўны саюз» («НПС»).

А на бязрыб'і і рак — рыба. Справа дайшла да таго, што на антысавецкай прапагандзе пачалі падрабляць нават састарэлыя «эмерыты» — пенсіянеры. Асабліва калі ў іх яшчэ не прытупілася чуццё на кан'юнктуру. Біяграфія аднаго з іх, хоць гэта і пазаштатны халуй амерыканскіх мілітарыстаў, на маю думку, з'яўляецца тыповай для шмат каго з гэтай нахабнай і драпежнай брацііі.

Пра гэта я напісаў невялікі вершаваны твор. Урывак з яго аддаю на суд чытачоў.

## НА ВУЗКАЙ КЛАДЦЫ

*Устаўка ў дасье містэра Кастуся Акулы,*
*платнага амерыканскага «вызваліцеля Беларусі».*

Знімі, панок, руку з майго пляча,
Глядзі, каб сам не паляцеў з маснічын.
Я не магу і не хачу маўчаць,
Калі сцярвятнік жураўлём курлыча!
Я гэты крык нашу ў сабе з вайны.
Ён як асколак пад рабром, як куля,
Каб не хацеў — наробіш гаманы,
Калі пачне старыя раны муляць.
Ты ж не лічыў нас, грэшных, за людзей,
На часткі рваўся — дагаджаў панам
І сам на «чэрнь» з пагардаю глядзеў,
Таму не ясна, з кім, калі і дзе
Ты падсабляў як «вызваліцель» нам.

А мог жа, мог падняцца на ўвесь рост,
Мог падсабіць сваёй радні, народу,
Ды ў стэп не той зноў перакінуў мост,
Як быццам хто прыстукнуў мімаходам.
Дабро і зло змясціліся ў табе,
Перараслі ў «святы нейтралітэт»,
Хоць дугі гнуў пан на чужым гарбе,
Як прыпсаваны здрадай прайдзісвет.
Недарма ж Рэдліх, чалавек-сава,
Шэф беларускіх халуёў «Свабоды»,
Казаў, што ты — ўсім злыдням галава
І шмат яшчэ наробіш людзям шкоды.
Калісьці проста «засцянковы грак»,
Атожылак вясковага інтруза [1],
Цяпер ты, як народзісты шуляк,
Вачэй не зводзіш з нашага Саюза.
Падумаць толькі — Беларусь жыве!
І хвацкіх песняроў у ёй багата...
А ў пана зноў інтрыгі ў галаве,
Клянеш усіх і... молішся на атам!
У «рамках поўнай згоды з ЦРУ».
Ты ж без яго — пустое месца, нуль!
Я гэтых слоў назад не забяру,
Кумір заморскіх Волек ды Гануль.
Мастак курлыкаць, ты яшчэ не раз,
Як правакатар з даўзенным стажам,
На ўсіх шыротах будзеш ганіць нас,
Хоць ім пра гэта ні гу-гу не скажаш.
Наадварот, зноў сцішышся крыху
Або пачнеш хавацца за даведкі.
Па іх ты, як відаць, і на духу
Пацягнешся з бальнічнае карэткі!
Пяро ж, маўляў, не стрэльба. Гэта раз.
А па другое, людзі не анёлы...
Прытармазі! Перада мной якраз
Ляжыць архіў адной наймiцкай школы.
Там сапраўды анёлаў не было,
А ты, як цвік, за партаю сядзеў.
І на свой пост хадзіў не з памялом,
А пры вучэбнай зброі і дудзе.
Як будучы архангел Гаўрыіл

[1] Інтруз — шантажыст, хапуга *(дыялектн.)*.

І «ахвіцэр» Кулацкай абароны [1].
Жыць без яе ўжо не хапала сіл,
Штодзень з дружкамі прымяраў пагоны.
Мой дзед Антось калісьці гаварыў:
«Даюць — бяры, але не з кепскіх рук».
А пан — фашыстам фімілм курыў
І лез пішчом у белбурнацкі друк,
Лез не з-пад палкі, пане мой, о не,
А як «змагар за собскія валокі».
Хоць больш сядзеў у бацькавым гумне
Ды стрыг вушамі па чужыя крокі.
Карцела выжыць, пераплюнуць страх
І «насаліць» няскоранай галоце.
Па собскіх святцах. З выхадам на шлях.
А боты з шапкай пакідаў на плоце...
Гарэлі вёскі, гінулі ў агні
Старыя людзі, маладзіцы, дзеці,
А ты — сваё: «Хаця б мой хлеб не
згніў»,—
І цікаваў на свой надзел з павеці.
А за гумном ужо віднеўся дот,
Прыкрыты па-ваеннаму аерам,
З якога ты, як «шчыры патрыёт»,
Не раз глядзеў на ўсю акругу зверам.
Хай перад гэтым нават быў палон,
Ды факт, васпане, застаецца фактам:
Ты рваўся ў свой, кулацкі гарнізон,
І не лясамі, а шырокім трактам
Як малады, ды ранні паслугач
Агіднага фашысцкага парадку.
Грак не арол. І нават не крумкач.
Ты б і да д'ябла змыўся б пры
выпадку,—
Абы далей хоць на вярсту ад тых,
Каго фашысты на расстрэл цягалі.
Так жыў твой бацька. Так жылі браты.
Так вы «квітнець» Радзіме памагалі!..
Але для янкі пан амаль святы,
Бо рад паслацца перад імі лістам.
Пастаў хоць свечку на ўспамін пра тых,
Каго ты выдаў некалі фашыстам.

---

[1] **Кулацкая абарона — іранічная назва Краёвай абароны.**

Жывуць іх дзеці, чуеш, пан? Жывуць!
Хто ж, як не ты, ім пра бацькоў
раскажа?
Пачнуць пытаць — вады не каламуць
Каля свайго «змагарнага алтажа».
Магільнай сцюжай ад яго нясе,
Хоць янкі не скупяцца на рэкламу.
Ты ж, пан Кастусь, не проста Фарысей,
А ветэран іх воўчага бедламу.
Дзярмом нясе і ад тваіх дружкоў
У падрыўных прэсцэнтрах Пентагона.
Жывуць — не злазяць з куфраў ды
мяшкоў,
Хоць пакляліся шкодзіць нам да скону...
Мажліва, я не гэтак што сказаў?
Ты ж сам стагнаў, што хочацца дахаты.
Каму ж прыемна на чужых вазах
Канчаць кар'еру панскім памагатым?
Даведка ёсць, што ты — антыфашыст,
Быў сувязным і нават партызаніў?
Я так і думаў!
Напішы хоць ліст
Сваім калегам па атрадзе, пане.
Хіба не ты іх ставіў на крыло,
Вучыў страляць па партызанах з дотаў?
І хоць бы што быллём там заплыло!..
А гэта — брак,
тапорная работа!
Хто з іх набраў такую вышыню,
Каб пан да пысы клюшняй не дастаў?
У бандзе тых зацюканых манюк
І сам ты болей поўзаў па кустах
Пад дзікі рогат п'яных рэнегатаў.
Пасля аж выў, як днём або ўначы
Хто-небудзь з іх і за табой сачыў,
Стаіўшыся ў засадзе з аўтаматам.
Худы, сутулы, ў ботах без халяў
«Грак» у фашызме шчурыўся на лес...
Я — пра цябе. Ты ж край наш
«вызваляў»,
А па загады да... германцаў лез!
Як правакатар, а не «сувязны»!
Як іх прыслужнік, а не «партызан»!..
Інакш за свет ад роднай баразны

Ты не сігаў бы ў страху, як Тарзан [1],
Па ненавіснай сушы ды вадзе,
З падвязаным пад пазухай наганам.
Ды што Тарзан, хіба ён знаў людзей?!
А ты ўжо «хайль» гарланіў... англічанам.
Зямля бацькоў гарэла пад табой,
Пан генерал ад собскай абароны!
І зараз ты ў цэйтноце, як каўбой,
Што расстраляў апошнія патроны.
Маліся богу — штосьці ў гэтым ёсць!
Мо ўжо ці ўзлезеш на Пегаса, пане?
Хто змарнаваў бясслаўна маладосць —
Без паганятых пад ружжо не стане...
Рул энд дзівайд [2] на звалках, пан хадэк [3],
Мо наскрабеш там грошай на асаду
Як недабітак «менскага» СД
І праславутай Радусёвай рады.

---

[1] Тарзан — герой аднайменнага амерыканскага прыгодніцкага фільма.
[2] Рул энд дзівайд — дзялі і пануй *(англ.)*.
[3] Хадэк (хрысціянскі дэмакрат) — тут згоднік, алшчапенец, псеўдахадэк.

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Паэт і празаік Аляксандр Цімафеевіч БАЖКО нарадзіўся 22 кастрычніка 1918 года ў вёсцы Даўгінава Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. Вучыўся ў пачатковай школе (1926—1929), у сямігодцы ў мястэчку Ярэмічы (1929—1932), у музычным інстытуце імя Станіслава Манюшкі ў Навагрудку (1936—1938), у кансерваторыі ў Варшаве (1938—1939). У 1955 годзе скончыў літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве.

У час Вялікай Айчыннай вайны Алесь Бажко служыў у радах Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на Заходнім фронце, потым, дэмабілізаваны па раненню, працаваў на абаронным будаўніцтве і — па камсамольскай лініі — сакратаром камітэта камсамола будаўнічага ўчастка, актыўна ўдзельнічаў у стварэнні першых адзінак Войска Польскага на тэрыторыі СССР у якасці генеральнага інструктара прапаганды Валагодскага акружнога ўпраўлення Саюза польскіх патрыётаў (СПП).

З чэрвеня 1945 года Алесь Бажко — інструктар прапаганды Баранавіцкага абкома камсамола, першы сакратар Дзятлаўскага РК ЛКСМБ, а пасля — з 1946 па 1962 год — супрацоўнік Баранавіцкай і Маладзечанскай абласных газет, рэспубліканскіх газет «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы», затым з 1962 па 1970 год загадваў рэдакцыяй мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», быў намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва» (1970—1973), дырэктарам літаратурнага музея Янкі Купалы (1973—1975). Перад выхадам на пенсію пісьменнік працаваў намеснікам начальніка Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР і галоўным рэдактарам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі гэтага ўпраўлення (1975—1978).

Творчую дзейнасць Алесь Бажко пачаў у 1947 годзе з вершаў і нарысаў. У 1957 ён напісаў аповесць «Перад вераснем» аб жыцці працоўнага сялянства былой Заходняй Беларусі. У 1961 годзе Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала другую кнігу пісьменніка — паэму «Карвіга пакідае хутар», а ў 1963 — аповесць «Позняе ворыва», прысвечаную калектывізацыі заходніх абласцей Беларусі і бескампраміснай барацьбе з недабіткамі былога крывавага гітлераўскага «новага парадку».

Прыхільна сустрэты чытачом паэмы Алеся Бажко «Татры» (1964), «Блакітныя вербы» (1973), «Лясныя крушні» (1981), зборнікі вершаў «Суладдзе» і публіцыстычна-мастацкіх памфлетаў «Татальнае банкруцтва» пра варожыя прошукі служак Ватыкана і беларускіх буржуазных нацыяналістаў, што пасля разгрому фашысцкай Германіі акапаліся на Захадзе.

Алесь Бажко выступае і як перакладчык.

## ЗМЕСТ

**ГОРКІЯ СМЯШЫНКІ**



**МІНІЯЦЮРЫ**



**НА АДЫХОДНАЕ**

**Бажко А.**

Б 16 Выбраныя творы: Паэмы. Вершы/Прадм. А. Лойкі.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 343 с., 1 л. партр.

Вядомы беларускі паэт, заслужаны работнік культуры Беларускай ССР Алесь (Аляксандр Цімафеевіч) Бажко ў друку выступае з 1947 года з вершамі, аповесцямі, памфлетамі, нарысамі. Выдаў каля дваццаці сваіх кніг. Цяпер прапаноўвае чытачам зборнік выбраных твораў.

Змест кнігі складаюць паэмы «Татры», «Карвіга пакідае хутар», «Блакітныя вербы», «Лясныя крушні», «Споведзь», а таксама лірыка паэта.

Б $\frac{4702120200-121}{М\ 302(03)-87}$ —103—87 ББК 84 Бел 7

АЛЕСЬ БАЖКО

(Александр Тимофеевич Бажко)

**ИЗБРАННЫЕ ПРОИЗВЕДЕНИЯ**

Поэмы. Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *П. З. Шаўцоў.* Мастак *Н. У. Сустава.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна.* Карэктар *Я. Ф. Харко.*

ІБ № 2704

Здадзена ў набор 03.12.86. Падп. да друку 15.07.87. АТ 07656. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,06+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 18,32. Ул.-выд. арк. 19,85. Тыраж 4500 экз. Зак. 3094. Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня «Победа», зак. 1778, 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.